№ 3

# ЖЫРАНДОЛЯ

Літаратурны альманах

Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў



ААТ «Брэсцкая друкарня»
2010

Як віхор, імчыць час. І заснаваны, выпеставаны Нінаю Мацяш літаратурны альманах Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў " ЖЫРАНДОЛЯ " вось ужо другі раз без Яе " з болем аб Беларусі пяе ".

Ні на кроплю не парушана традыцыя, закладзеная ў пабудову "Жырандолі" слыннай паэткаю з Белаазёрска. Да раздзелаў "Памяць", "Нашы юбіляры", "Мы", "З намі", "Пад небам адзіным", "Для дзетак–малалетак", "Нашы аўтары" дабаўлены раздзел "Яшчэ не выплаканы слёзы" – пра творчасць пісьменнікаў, чыя маладосць была апалена вайной.

І трэці нумар альманаха рыхтаваўся як з думкаю пра першага на Берасцейшчыне пісьменніцкага гуртавога і вадара, нашага мудрага настаўніка і выхаваўцу Уладзіміра Андрэевіча КАЛЕСНІКА, так і пра Ніну Язэпаўну МАЦЯШ, якая падхапіла паходню з рук "Плытагона" і ў апошнія гады свайго жыцця мужна захінала полымя "Берасцейскага вогнішча" ад скразнякоў часу.

" ЖЫРАНДОЛЯ " №3 выйшла напярэдадні 30–годдзя ўтварэння Берасцейскага аддзялення Саюза пісьменнікаў краіны.

# ЦЯРНІСТЫМІ ШЛЯХАМІ ПІСЬМЕННІЦКАЙ СЯБРЫНЫ

У студзені дзве тысячы адзінаццатага – трыццаціґоддзе Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Працэс утварэння абласной суполкі прафесійных пісьменнікаў не раптоўны, складаны. Вытокі яе сягаюць у пасляваенныя пяцідзесятыя.

Пачаткам, першаасновай гэтай падзеі з’явілася ўзнаўленне дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі ў вобласці адразу пасля вызвалення Беларусі ад фашысцкай акупацыі. Менавіта тады ў рэдакцыі газет прыйшлі найбольш адукаваныя, творча адораныя кадры. Яны добра разумелі, што, апроч інфармавання “заходнікаў”, пачэсны абавязак прэсы весці культурнае і духоўнае выхаванне люду паспалітага. У вырашэнні гэтай цяжкай праблемы ідэалагічныя службы і рэдакцыі газет абапіраліся на “соль грамадства” – настаўнікаў, увогуле інтэлігенцыю, творча адораныя “нізы”.

Нярэдка ў саміх рэдакцыйных супрацоўнікаў у той час не хапала ведаў, эстэтычнай выхаванасці. Таму выяўляліся і прыцягваліся да супрацоўніцтва ў першую чаргу асобы адукаваныя, кемлівыя, адораныя Божай іскрынкай.

Пры большасці раёнак гуртаваліся мясцовыя сялькоры, юнкоры, утвараліся гурткі, дзе праходзілі творчы лікбез будучыя майстры слова.

У абласной “Зары”, якая пачала друкавацца пад водбліскі партызанскага вогнішча ў закійскіх барах, вучылі, гартавалі пачаткоўцаў вядомы яшчэ за польскіх часоў паэт–змагар з Пружаншчыны Мікола Засім і закінуты з “вялікай зямлі” журналіст Аляксандр Прыпатнеў. Пад іхнім доглядам многія адолелі тэхніку вершаскладання, навучыліся “габляваць” творы да годных кандыцый.

Усё большую ролю ў творчым выхаванні моладзі пачалі адыгрываць школы, педвучылішчы, Брэсцкі педагагічны інстытут, куды кіраваліся ўсе, хто адчуваў у сабе жарынку натхнення. У кабінетах і аўдыторыях грызлі граніт навукі

дзесяткі хлопцаў і дзяўчат з вёсак, хутароў, паселішчаў Прыбужжа і Прыпрыпяцця, якім не даваў супакою творчы сверб.

У педагагічным інстытуце нам пашчасціла трапіць пад крыло выключна адоранага чалавека, таленавітага педагога, апантанага творчымі ідэямі вучонага–літаратуразнаўцы Уладзіміра Андрэевіча Калесніка, які стаў для многіх, у першую чаргу для прадстаўнікоў “філалагічнага пакалення” берасцейскіх літаратараў, настаўнікам, дарадцай, натхняльнікам, прыкладам у працы і жыцці. Нездарма вобразна называлі яго: “гуртавым і вадаром” – Ніна Мацяш, “плытагонам” – Міхась Рудкоўскі, “лесаводам берасцейскага паэтычнага падлеску” – Аляксей Філатаў.

Уладзімір Андрэевіч трымаў пастаянную жывую сувязь з творчымі людзьмі вобласці, вёў літаратурныя “вечы” пры “Зары”, арганізоўваў выезды і сустрэчы ў працоўных і вучнёўскіх калектывах. Ён запрашаў да студэнтаў вядомых пісьменнікаў Беларусі, Украіны, Расіі, Польшчы, спрыяў удасканаленню прафесійнага майстэрства найбольш здольных паэтаў і празаікаў, стаў многім з іх “хросным бацькам” – рэдагуючы першыя кніжкі, вёў у вялікую літаратуру. Пад руплівым доглядам паважанага апекуна шліфавалі свой творчы почырк ужо вядомыя на той час Аляксандр Авечкін, Мікалай Цялічка, Аляксей Бакуменка, Аркадзь Сурскі і яго жонка Вера, Святлана Курылёва, распраўлялі крылы таленавітыя “дзеці вайны” з розных куткоў Палесся: Міхась Рудкоўскі, Мікола Купрэеў, Анатоль Гарай, Васіль Жуковіч, Іван Арабейка, Васіль Праскураў, Яўгенія Янішчыц, Ніна Мацяш, Ніна Загорская, Алесь Разанаў. Усё часцей іх творы пачалі прабівацца ў друк, атрымліваць станоўчыя водгукі крытыкаў і літаратуразнаўцаў. На агеньчык зляталася творчая моладзь з раёнаў: Іван Кірэйчык, Віктар Гардзей, Уладзімір Марук, Алесь Каско – з Ганцавіч, Алесь Бібіцкі, Зіновій Вагер – з Пінска, Аляксей Каўко, Валянціна Кукса – з Іванава, Яраслаў Пархута, Сцяпан Крываль, Аляксей Майсейчык – з Івацэвіч, Васіль Сахарчук, Расціслаў Бензярук – з Жабінкі, Аляксей

Філатаў, Сямён Кавенька – з  Маларыты, Мікола Пракаповіч, Дзмітрый Васільеў, Кастусь Жмінько, Іван Мельнічук – з–пад Брэста.

А колькі збіралася на літаратурныя "серады" і "чацвяргі" проста тых, хто цікавіўся літаратурай, прыносіў на суд свае першыя рыфмаваныя радкі! Выказванні Уладзіміра Андрэевіча пра эстэтычнае і культурнае развіццё асобы, пра літаратурнае майстэрства і густ дапамагалі прысутным глыбей разумець творчы працэс, расці духоўна.

Павялічыліся выдаткі на культуру, на дзейнасць творчых саюзаў з боку дзяржавы.

Менавіта ў тыя гады ўбачылі свет кнігі Міхася Рудкоўскага "Першыя вёрсты" (1963) і "Сінія брады" (1967), Васіля Праскурава "Святая сівізна" (1966), Міколы Купрэева "Непазбежнасць" (1967), Уладзіміра Стальмашука "Шумят ели» (1966), Ніны Мацяш "Агонь" (1970) і "Удзячнасць" (1973), Яраслава Пархуты "Казка зялёнай дубровы" (1960), Алеся Разанава "Адраджэнне" (1970), Івана Арабейкі "Услед за сонцам" (1972), Васіля Жуковіча "Паклон" (1972) і іншыя.

Вядома, што крылы дужэюць у палёце. Няўхільна раслі творчыя набыткі маладых, паступова павялічвалася сям'я тых, каго прынялі ў пісьменніцкі саюз. У студзені 1981 года, дзякуючы клопатам У.А. Калесніка, атрымала права на існаванне і абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў. На чале яго стаў сам Настаўнік. Невялічкай была ў той час пісьменніцкая сябрына вобласці.  У яе ўваходзілі Іван Арабейка, Віктар Гардзей, Святлана Курылёва, Ніна Мацяш, Мікола Пракаповіч, Міхась Рудкоўскі,  сам кіраўнік ды некалькі кандыдатаў.

Згодна са статутам асноўнымі напрамкамі дзейнасці  аддзялення былі "актывізацыя творчага жыцця, прапаганда беларускай кнігі, выхаванне маладых талентаў". І пры жыцці У.А. Калесніка і пасля таго, як яго не стала ў 1994 годзе, пастаўленыя перад пісьменніцкай сябрынай задачы выконваліся лепшым чынам. Мяняліся кіраўнікі аддзялення: у 1984 годзе яго ўзначаліў Мікола Пракаповіч, у 1990 – Алесь

Каско, у 2006 – Ніна Мацяш.

Мяняўся і колькасны склад прафесійных літаратараў. Калі на завяршэнне першага дзесяцігоддзя ў аддзяленне ўваходзіла 11 пісьменнікаў, дык цяпер іх 31. Асобныя літаратары былі запрошаны ў сталічныя выдавецтвы і рэдакцыі, некаторыя перайшлі на працу ў іншыя рэгіёны, тым не менш агульны лік творцаў з часам павялічваецца.

Не гледзячы на рознага роду грамадскія катаклізмы, няўхільна папаўняўся духоўны скарб, створаны нашымі майстрамі пяра, узрастаў іх уклад у культурную і духоўную спадчыну свайго народа. Вось толькі некаторыя выразныя штрыхі: дзесяць грунтоўных кніжак у скарбонцы светлай памяці Міхася Рудкоўскага, па шэсць у Міколы Пракаповіча, Алеся Каско і Івана Мельнічука, па восем у Лявона Валасюка, Аляксея Філатава, Алеся Корнева... Практычна ў кожнага сябра нашага аддзялення па некалькі кніжак паэзіі ці прозы.

Назаўжды ўславіла сваёй творчасцю не толькі любімую Бярозаўшчыну, але і ўсю радзіму–Беларусь пісьменніца высокай духоўнай культуры, выключнага таленту і ў той жа час складанага жыццёвага лёсу Ніна Язэпаўна МАЦЯШ.

Далёка не кожны чытач можа назваць кнігі, выдадзеныя Нінай Язэпаўнай. А гэта пятнаццаць вершаваных зборнікаў, сем кніжак для дзяцей, 15 кніг перакладаў з французскай, нямецкай, польскай, украінскай ды іншых моў свету.

З любоўю і павагай хілілася Яе сэрца да сяброў па творчасці. Ім Яна заўсёды гатова была прыйсці на дапамогу, не шкадуючы ўласнага часу, рэдагавала кніжкі. Толькі за два гады, дзякуючы клопатам і падтрымцы Ніны Язэпаўны, дзесятак вартых творцаў былі прыняты ў пісьменніцкі саюз. Гэта, у прыватнасці, Іван Лагвіновіч, Аляксей Белы і Алесь Корнеў з Баранавіч, Аляксей Галаскок з Ганцавіч, Вадзім Жылко і Мікола Ільючык з Лунінеччыны, Мікола Папека з Пружаншчыны, а з Брэста – Лявон Валасюк, Кастусь Жмінько, Уладзімір Лебедзеў і Мікалай Цялічка...

Нямала сілы і часу аддала яна, каб на працягу трох месяцаў

сабраць, скампанаваць, адрэдагаваць і выдаць першы за паўвеку ў вобласці літаратурны альманах “ЖЫРАНДОЛЯ”, у якім змешчаны творы больш чым пяцідзесяці нашых аўтараў.

Працягваючы добрыя справы Уладзіміра Калесніка, Ніны Мацяш ды іншых слынных пісьменнікаў–землякоў, сябрына берасцейскіх літаратараў і сёння жыве актыўным творчым жыццём, у не лепшых для творчасці ўмовах множыць духоўнае багацце роднага краю.

Нельга не сказаць пра тое, што ў апошнія гады ў рэспубліцы назіраецца спроба палітызаваць творчы працэс, падзяліць дзеячоў мастацтва і культуры на годных і нягодных, разбіць на рознага кшталту групоўкі і плыні. Не лепшым чынам гэта ўплывае на творчы працэс, адмоўна адбіваецца на якасць ствараемага, не спрыяе еднасці грамадства, не дазваляе належным чынам нарошчваць духоўныя, культурныя каштоўнасці рэгіёнаў і краіны ў цэлым.

Але, нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды, беларускія пісьменнікі ўносяць, як і раней, значны ўклад у скарбонку нацыянальнага духоўнага і культурнага багацця. У іх шэрагу годна выглядаюць пісьменнікі–берасцейцы. Створанае імі знаходзіла і будзе знаходзіць заўжды вартую ацэнку прыхільнікаў прыгожага пісьменства, усіх, хто дбае не толькі пра хлеб надзённы, але і пра духоўны стан грамадства, пра будучыню Беларусі.

Іван Мельнічук,
старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення
грамадскага аб’яднання “Саюз беларускіх пісьменнікаў”

# ПАМЯЦЬ



## *Ніна МАЦЯШ*

### СЯБРЫНЕ

Не знадзейвайся. Перажыві.
Хоць якая, ды ёсць патоля:
Намарозіць радня па крыві –
Адагрэе радня па долі.

Скруха – зашмаргай... Перарві.
Ёсць лагода на боль, на скруху:
Адрачэцца радня па крыві –
Паратуе радня па духу.

Праўду гэту – як ёсць – прымі
Да сцяжыны далейшага руху.
Будзь здарова, радня па крыві.
Будзь бяссмертна радня па духу!

# У ВЯНОК

*Уладзімір ДАНІЛЮК*

## АПОШНІ ШЛЯХ

Вянкі ўшыркі, журба наўсцяж,
І смутак цісне грудзі.
На ростань з Нінаю Мацяш
Ідуць сумлення людзі.

Ідуць, каб побач пастаяць
Ў нямым, жалобным стрэсе, –
Даніну памяці аддаць
Вялікай Паэтэсе.

Яе душа ляціць, ляціць
З анёламі ў прасторы...
Труна на покуці стаіць.
А на Палессі – гора .

І сум, і слёзы на вачах.
На свечкі воск нанізаны...
Ў апошні бласлаўляе шлях
Апошні верш напісаны.

*Кастусь ЖМІНЬКО*

## Памяці Ніны МАЦЯШ

Святы наш анёле, ляці,
У цемрадзі чорнай свяці.
Ляці – над табой вышыня,
Пад белым крылом – цішыня.

Ляці, наш анёле, ляці!

За згубленым пёркам – у шлях.
Адолеем стому ў нагах.
Кранёмся падмурка таго,
З якога наш вырасце Дом.

Ляці, наш анёле, ляці!

Дарогі інакшай няма,
А мы?.. Мы чародкі ягнят,
Гурты немаўлятаў сівых,
Разбітых на "тых" і "не тых".

Ляці, наш анёле, ляці!

І ўночы, і ў сонечны дзень
Прашу: не зракайся й мяне.
За болем ісці і ісці…

Ляці, наш анёле, ляці.

*Мікола ІЛЬЮЧЫК*

## Ніне МАЦЯШ

Адлятае душа – трапяткая і лёгкая птушка.
Дзверы неба анёлы ўжо для яе расчынілі.
Не княгіняй была ты, хутчэй папялушкай,
Працаўніца руплівая, мілая, добрая Ніна...

У жыцці ты не стала пяшчотнай матуляй,
Але ёю для ўсіх, хто быў побач, была.
І гады, што табе накувала зязюля,
Ты прысвечвала людзям, для іх і жыла.

Растае мокры снег на вясковай дарозе,
Развітальныя словы, пясок па труне – нібы гром.
І не сорам скупыя мужчынскія слёзы,
Нават неба заплакала сёння сцюдзёным дажджом.

20.12.2008 г.

*Не было зборніка паэзіі Ніны Мацяш, на які б не адгукнуўся добрым словам яе Настаўнік. Аддаючы даніну павагі першаму кіраўніку нашай творчай суполкі У.А. Калесніку і заснавальніку альманаха "Жырандоля" Ніне Мацяш, мы змяшчаем артыкул, які быў напісаны Уладзімірам Андрэевічам да юбілею слынна й паэткі (надрукаваны ў абласной газеце "Народная трыбуна" 18 верасня 1993 года).*



# *Уладзімір КАЛЕСНІК* *( 1922 – 1994 )*

*Нарадзіўся 17.09.1922г. у в.Сіняўская Слабада Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Скончыў філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага ( 1949 ), аспірантуру пры гэтым інстытуце ( 1952 ). З 1952 – загадчык кафедры беларускай літаратуры Бабруйскага настаўніцкага інстытута, з 1956 – загадчык кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута, узначальваў Брэсцкае абласное*

*літаратурнае аб’яднанне ( 1956 – 1970 ), быў сакратаром аддзялення СП БССР ( 1981 – 1983 ). Член СП СССР з 1960 года. У друку з літаратурна–крытычнымі, літаратуразнаўчымі і дакументальнымі творамі выступаў з 1953 года. Выдаў кнігі “Паэзія змагання: Максім Танк і заходнебеларуская літаратура” (1959), “Час і песні” (1962), “Зорны спеў” (1975), “Ветразі Адысея: Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі” (1977), “Максім Танк: Нарыс жыцця і творчасці” (1981), “Лёсам пазнанае: Выбраныя літаратурныя партрэты” (1982), “Тварэнне легенды” (1987), “Янка Брыль: Нарыс жыцця і творчасці” (1990). Адзін з аўтараў “Гісторыі беларускай літаратуры” (1964), «Истории советской многонациональной литературы» (1971), «Истории белорусской советской литературы (1977). Напісаў дакументальныя творы “Аповесць пра Таўлая” ( часопіс “Полымя”, 1964 – 1965 ), “Пасланец Праметэя” (1984), сумесна з А. Адамовічам і Я. Брылём кнігу “Я з вогненнай вёскі...” (1975). Склаў зборнікі паэзіі Заходняй Беларусі “Сцягі і паходні” (1965) і “Ростані волі” (1990). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа ( 1980 ) за ўдзел у напісанні двухтомнай “Истории белорусской советской литературы”. Жыў і пахаваны ў Берасці.*

## ДАРУНАК МУДРАСЦІ

Надзеяй, сацыяльным зрухам у спакон бедным краі стаў у 70–я гады дружны выхад з палескай глушы маладых талентаў. Сярод тых здольных і здатных аказаліся сыны і дочкі мнагадзетнай сям’і Іосіфа Мацяша з вёскі Нівы, што ля Белага возера на Бярозаўшчыне. Шмат бацькоўскіх надзей несла шчупленькае дзеўчанё, Ніна, падобная да той, з песні, што прыйшлася даспадобы самому каралю. Шваграм, якія ўзялі яе сясцёр, кароль растлумачыў свой выбар так: “Чорная зямелька ўрадлівая, а маладая пчолка мядлівая”.

Яна вучылася на трэцім курсе мінскага педагагічнага

інстытута замежных моў, спецыялізавалася па французскай мове, літаратуры, культуры, марыла паехаць у Парыж, пабачыць культурную сталіцу свету. І раптам грымнуў над лёсам яе страшны гром. Немач скавала ёй ногі. Апынуўшыся перад абвалам лёсу, дзяўчо, аднак, не разгубілася, душа была моцная, поўная ідэй і імкненняў. Чулыя рукі медыкаў дапамаглі хворай утрымацца на хвалі, хоць даводзілася змагацца да сёмага поту, каб устаць з ложка, самой дайсці да пісьмовага стала, пісаць і друкаваць на машынцы, самой абслугоўваць сябе. Быў і востры клопат аб тым, каб не страціць інтэлектуальнай формы. Вялікім напружаннем волі яна адольвала перашкоды, экстэрнам скончыла інстытут і адчула ў сабе патрэбу самапазнання і самавыяўлення ў слове.

Друкавалася Ніна Мацяш спаважна, роўна, не падганяючы сябе, выдавала спакваля кожную новую кніжку праз тры гады: “Агонь” – 1970, “Удзячнасць” – 1973, “Ралля суровая” – 1976, “Прыручэнне вясны” – 1979, “Поўны келіх” – 1982, “Жнівень” – 1985. Толькі зборнік “Шчаслівай долю назаві” збіўся з рытму і выйшаў у 1990 годзе, пяцігадовы інтэрвал у гэтым выпадку адзначыў не спад, а колькасны і якасны рост. Кніга мае чатыры друкаваныя аркушы, замест двух, як было раней, ды і па зместу засведчыла пору эпагея, самабытнасць, пра якую раней можна было толькі здагадвацца па лепшых творах, такіх як “Я вас люблю”, “Калыханка маме”, “Тры дубкі”, “Балада мары”, “Лёс мой, лёс мой – цяжкі колас…”.

Ужо ў першай кніжцы значыліся матывы паэзіі, якія вылучылі Ніну Мацяш сярод беларускіх паэтак філалагічнага пакалення, дачок адліжных часоў, як песнярку дабра і чалавечнасці. Лучнасць паміж людзьмі – наканаванне і загад самога быцця. Ціхая весталка дабрыні запальвае ў акенцы “Скупы агеньчык, добры гном начэй” і запрашае:

Шыбуй сюды зняверaны і стомлены!
Тут рук сяброўскіх шчырае цяпло.

Але ніколі не прымае яна банальных суцяшэнняў, маўляў, час – наймудрэйшы лекар, будзе высмейваць святыя падманы, называючы іх “надзеяй, якую прывялі за рукаў”.
Другою каштоўнасцю, якую прыняла паэтка і назвала апорай жыцця, з’яўляецца мудрасць, здольнасць этычна ацэньваць увесь свет  як бяздонны акіян міжчалавечых імкненняў, зносін любові і нянавісці: “А я тужу па акіяне мудрым – рукой прылашчыць бы хацела лоб…”. Самай бяспечнаю формай лучнасці душ ёй здаецца дружба: “І як замову, паўтараю зноў: без дружбы мне – як без вады і хлеба”.

Знайсці сваё бачанне жыцця, зразумець яго супярэчнасці, антыномы і парадоксы, якія адкрылі людзям яшчэ стваральнікі Бібліі ды ведыйскіх гімнаў, нібы ўключаючыся ў загадкавасць тых першых твораў чалавецтва, якія сталі вечнымі, яна пытае:

Чаму заўсёды ходзяць разам,
Заўсёды разам – боль і радасць?

Ад зборніка да зборніка, ад твора да твора ідзе назапашванне жыццёвай праніклівасці, узбагачаецца палітра вобразаў–тропаў, якія замыкаюць у сабе не выпадковыя кавалкі жыцця, а яго сутнасныя рысы. Даходзіць чарга і да трагічнага:

І ён прыйшоў, мой час круты, калі
Уласны цень і той мяне пакінуў.

Супярэчлівасць жыццёвага працэсу, дзе нярэдка благое выходзіць на добрае і наадварот, цікавіць яе не проста як дыялектычная эквілібрыстыка, матэрыял для сафізмаў, а як магічная сіла, што напаўняе і азарае душу шчасцем, наталяе свабодай і мудрасцю:

О, якое гэта шчасце,
Што жыве на свеце хтось,
Каб хоць зрэдку, час ад часу,

Выбаўляць цябе з палону
Незалежнасці тваёй.
Каб вярнуць табе самой
Існую цябе, такую –
Рассмяяную слабую,
Безразважную…

У гладка складзеных, поўных зычлівай удзячнасці людзям за дабрыню ранніх вершах прыхавана трагедыя лёсу паэткі, якой без віны выпала доля райскай птушкі ў вечнай клетцы. А клетка з чатырох сцен вісела ў другой клетцы, якую называлі жыццём. Згоды на клеткі, хоць бы і залатыя, не было: спакваля, але нешта дзеялася, ішло ціхае змаганне за паўнацэнны ўдзел у жыцці. Яна білася, гэтым жыла паміж дзёрзкасцю і сумнівам, прагай свабоды, змястоўнага жыцця і немаччу. Яна трывала, і спакваля перамагала трывучасць.

Вылучаліся вершы Ніны Мацяш еўрапейскай яснасцю думкі, маналог часта выходзіў на афарыстычныя тропы, а змест яго – на абагульненне сэнсу жыцця: “Была такой вясёлкаваю птушка – скуль на далоні чорнае пяро?” (“Балада мары”). “О, Божа, дай мне сілы не змяняць таго, чаго змяніць не ў сіле я” (“Калі б на небе меўся Бог…”). Тут пераклічка з гегелеўскаю перакананасцю ў сіле розуму і спроба дыялогу асветніцкага еўрапеізму з хрысціянскім дэтэрмінізмам.

Пошукі суладнасці і гармоніі ў свеце абвастраюць бачанне, паднімаюць амплітуду трывогі, душа шукае паратунку ў рабоце, якая вяртае раўнавагу душы, але ці зменіць свет, – сказаць цяжка: “Твайго палону прагну я, – не пакідай мяне, работа”. Мудрасць паэтычных афарызмаў не адмаўляе дзівоснае ў жыцці, паэтка прымае нават немажлівае як мяцежны асколак жывой красы: “А я схілюся да рачной вады, і ў ёй не мой, а твой адбітак бачу” – гэта пра негарманічную гармонію, якая пахіснула табуізаванасць інтыму, блакаду падсвядомага, якой поўніўся першы, так бы мовіць, паслушніцкі зборнік, абсталяваны замком запавету: “Нават думаць, чуеш ты – няможна,

нават думаць пра каханне мне”.

Жыццё аказалася мацнейшым за самыя грозныя запаветы, яно ўмела ціха праходзіць над імі: “Усё звычайнае ў гэтым свеце: і першы ўсхліп, і ўздых апошні”, “У цвярозасці чабору страсна пяе званок няспраўджанага сну майго”. Выхад на цвярозасць не задавальняе, бо з ёю ў пары ходзіць будзёншчына, нават нудота і руціна. Але якая мера ў любові?

Думаю, не будзе нацяжкай сказаць, што любоўная лірыка Ніны Мацяш – гэта вобраз кахання, хараша прасветленага этычным і эстэтычным пачуццём. У прынцыпе гэта паэтычная філасофія кахання, як загадкавага стану, дзе вітальная сіла скрыжоўваецца з сакральнай запаветнасцю. Мэта яе – азоранасць сэнсам тварэння жыцця.

Кіруючыся тым, што “к далёкаму любасць ад роднага йдзе”, Ніна Мацяш ідзе да зарубежнай паэзіі – славянскай і франкамоўнай. Перакладае. Часам па заказах, часцей па ўласнаму выбару. Да ліку твораў, выбраных па душы, адносяцца “Маленькі прынц” Сент–Экзюперы, нізка французскіх паэтаў; са славянскіх – раман у вершах украінскай паэткі Ліны Кастэнка “Маруся Чурай” і кніга вершаў польскай паэткі Віславы Шымборскай “Свет варты вяртання”.

Ніна Мацяш праходзіць фенаменальны жыццёвы і творчы шлях. У любові знаходзіць заканамернае апраўданне пакут цялесных. Пакута – частка жыцця, другі бок таго самага жыцця, якое мучыць, каб пакутнік па–сапраўднаму ацаніў цуд кахання, шчасце кахання. Гэтыя запаветы мы мелі ў Багдановіча, у яго вершах пра каханне і смерць, яны былі і ў Жылкі, але выказаныя інакш. Шчасце духоўнага азарэння, палёты над светам у тайны бязмежжа – вось прывілея адораных душ.





# *Сцяпан КРЫВАЛЬ (1935 – 1996)*

*Сцяпан заўсёды праўду гаварыў.*
*“Аднойчы летам” кніжку раздарыў...*
*( Ул. Данілюк )*

*Радзіма Сцяпана Антонавіча – невялічкая вёска Гутка поблізу Івацэвічаў. Бацькі празаіка – простыя сяляне – вялікай граматы не мелі, аднак аказалі значны ўплыў на сына, спрыялі фарміраванню яго творчай асобы.*

*Настаўнік, журналіст, чыгуначнік – асноўныя прафесіі Крываля, але ён, як творчы чалавек, шмат пісаў і друкаваўся ў часопісах “Полымя”, “Маладосць”, “Беларусь”, “Вожык”, газеце “ЛіМ”. Яго творы публікаваліся ў калектыўных зборніках “Першацвет”, “Асёл на імянінах”, у “Дні паэзіі”, гучалі на радыё, інсцэніраваліся на тэлебачанні.*

*Свае апавяданні, навэлы, гумарэскі Крываль аб’яднаў у два зборнікі – “Аднойчы летам” і “Чмяліная вясна”. Першы выйшаў у 1990 годзе, другога аўтар, на жаль, не ўбачыў надрукаваным: трагічна загінуў.*

## СЕНЬКА–ІНВАЛІД

Звычайна ён з’яўляўся на базары праз паўгадзіны пасля адкрыцця “ўстаноў” з гарачымі напоямі. Правае вока перавязана анучкай, паўвуха – чырвонае, як жарына.

– Сенька ў суме–жалобе жыццё сваё бавіць.

– Сенька Берлін прастагнаў на шпітальным ложку... Сябе не шкадаваў! Рукі–ногі фрыц пасек! А медалёў камандзіры

пашкадавалі! І без іх абыдуся...

І Сенька здатна выкідваў наперад сваю дзеравяшку–нагу, абходзіў усе прылаўкі, вывіжоўваў, дзе што лепшае.

Людзі, намардаваныя за вайну кожны сваім горам, да інвалідаў адносіліся з павагай, нават калі тыя і тварылі часам такое, за што іншаму каму ніякага даравання не было б.

– Сеньку да Гітлера міна не падпусціла, у шпіталь загнала, а то б... Сенька за ўсіх вас яму б адпомсціў...

Вакол Сенькі збіраўся люд: кожны хацеў ведаць, як гэта Сенька за ўсіх іх адпомсціў бы Гітлеру?

– Сенька б яму адпомсціў! – крычаў ужо зусім ахмялелы. Стары шынель – завялікі, шапка адным вухам звісала з левага боку галавы, правае ж вуха, як запэўніваў сам Сеня, яму адкусіў нямецкі генерал, калі ён, Сеня, браў гэтага генерала ў палон.

– Ну проста генерал табе адкусіў вуха? – не верылі людзі.

– Сеньку не верыш? Дакуменцік патрабуецца? – І ён лез за крысо шыняля па той нібыта “дакуменцік”, у якім чорным па белым было напісана, што менавіта Сеньку вуха адгрыз генерал, да таго ж яшчэ – залатымі зубамі.

– А чаму ж таго не можа быць? Хіба генералы не ўмеюць кусацца? – падахвочваў Сеньку яго хаўруснік па чарцы Мікіта Сук, для якога ён паспеў ужо стаць сваім чалавекам.

– А ба–але–е–ела! – удакладняў Сенька. – Лепш штык яфрэйтарскі перанёс бы, чым тыя генеральскія зубы...

Сенька тым часам браў з прылаўка ўсё, што яму трапляла на вочы: агурок, памідор, галоўку–другую часнаку, а пароюі кавалак вяндліны ці сала. Такім чынам, закусіўшы пасля буфетнай чаркі, ужо разыходзіўся не на жарт:

– Прывёў таго нямецкага генерала і асабіста перадаў нашаму генералу: ордэна не далі, а чарку, поўную як вока, з саміх генеральскіх рук шмаргануў...

– Ось гэта да–а! – зноў перабіваў Сенькаву гаворку хтось з натоўпу.

– А як жа: на вайне чарка – першая зброя! Там не шкадавалі гэтага дабра...

– Было, было так! – зноў сведчыць Мікіта Сук, як быццам сам

ён быў на той вайне.
– А цяпер? – пытаецца Сенька.
– Яно і тое праўда, – выціралі хусцінамі вочы кабеты. – Чалавек, можна сказаць, усяго сябе за нас аддаў, а мы яму і чарку шкадуем...

І пускалася шапка па крузе.

Праз момант Сенька шкандыбаў у буфет, дзе высыпаў на прылавак сабраныя грошы, якія лічыла буфетчыца і налівала яму гарэлкі. У буфеце ён не закусваў – хопіць гэтага дабра і на базары! Зараз восень – закусак у людзей сто восем!

Пасля другога “вялікага паходу” ў буфет Сенька на агуркі ды памідоры не звяртаў увагі. Цяпер ён мог сеё–тое і рэквізаваць, калі бачыў, што прадае тавар прадавец, у якога авечы розум у галаве і блышыная сіла ў плячах.

Гарадок быў ціхі, міліцыя на базар не завітвала, таму Сенька і заявіўся тут немаведама з якой часткі свету і на якой кабыле. Дзе ён начаваў – ніхто толкам не ведаў. Ды летам, як гаворыцца, кожны кусцік пераначаваць пусціць! А зіма? Ну, зімой Сенька пойдзе шукаць лепшыя мясціны!

Пасля трэцяй вандроўкі ў буфет ён абмінаў прылаўкі з гароднінай і накіроўваўся да мясных закусак.
– Я за вас вуха і вока аддаў, пад Варшавай нагу пахаваў, а вы тут раскашавалі... Тлушч нагульвалі! Сенька ведае ўсё! Сенька з нямецкім генералам у абдымку прыйшоў да нашага генерала! Ордэн за кемлівасць начапілі, ды згубіў. А дублікатаў ордэнаў не выдаюць: ідзі, кажуць, новы зарабі, калі хочаш, каб твае грудзі золатам гарэлі! А куды зараз пойдзеш у атаку – правы фланг не выстаіць...
– Ну ты, барадачанька! – звярнуўся ён да пажылога мужчыны, які ўпершыню тут гандляваў крыху салам, крыху каўбасамі. Таму яго, як і Сеньку, ніхто не ведаў, адкуль ён.

Мужчына падправіў на прылаўку каўбасу, падсунуўшы бліжэй да сябе.
– Дзе бараду, як памяло, адгадаваў, можа, скажаш, што ў акопе пад Гдыняй ці Прагай? Дык у акопе не дазваляецца яе гадаваць, каб гатэлем для палявой вошы не стала! У жонкі пад спадніцай, вось дзе добра яна расце! Ха–ха!

Сенька ўжо зусім захмялеў, наваліўся ўсім целам на прылавак, за якім стаяў барадач, аберуч ухапіў каўбасу і згроб на зямлю. Да Сенькі тут паспелі прывыкнуць, таму на яго выкрунтасы ніхто вялікай увагі пад канец дня і не звяртаў.

– Ах ты, шкурнік! – закрычаў барадач. Выхапіў з–пад прылаўка ўласную кульбу і пачаў ёю дубасіць "героя". Збегліся людзі. Яны здзіўлена пазіралі, войкалі за кожным разам, калі барадач, ухапіўшы за руку Сеньку, "хрысціў" яго кульбай.

– Перастаньце біць інваліда! – крычалі спалоханыя жанкі на барадача.

– Інваліда? – разышоўся барадач. – Ды ён таго пораху і не нюхаў! Зараз я вам пакажу, які ён інвалід...

І толькі адпусціў барадач рукаў Сенькі, як той куляй ірвануў да варот, згубіўшы сваю драўляную нагу, якой удагонку яму запусціў дзядзька.

– Ды я яго ведаю як аблупленага! – крычаў ён. – Гэта ж з суседняй вёскі бусайла, прыстасаваўся да народнага гора! Бачыце, ды ў яго і ногі ёсць, і вочы! А вуха яму, п'янаму, сабака на Каляды на сметніку адкусіў!

– Ату яго, ату! – закрычалі пад агульны рогат людзі.

– З зямлянкі хутчэй хочацца вылезці, вось і прывёз сеё–тое сюды, каб крыху прадаць... А ён, шэльма, не пазнаў: ці то з п'яных воч, ці, можа, мяне і зусім не ведае... А я яго і бацьку добра ведаў – з–пад ката яйкі выграбаў ды прапіваў... Дык сынок пачаў працягваць яго заняткі! Адкляпаў на бутэльцы язык, як чэшскую касу–дзявятку, ды ўсіх напавал і косіць... На спачуванні народным барышуе, шэльма!

Нехта падняў павязку Сеневага вока.

– Ад сораму людскога адгароджваўся, – сказаў барадач. – Адно вока ў сабакі пазычыў, а другое – анучай заткнуў... Так лацвей смярдзючую душу супакойваць...

Больш Сені на базары не бачылі. Перабраўся ў іншую мясціну. Дзеравяшку знойдзе, вока чым–небудзь заткне, як выбітую шыбіну ў акне, каб у душу не прасочваўся сорам...



## *Віктар СУХАРУКАЎ*
## *( 1928 – 1982 )*

*Нарадзіўся Віктар Міхайлавіч ў г. Мікалаеве ва Ўкраіне. Скончыў тэхнічнае вучылішча, авіяцыйную школу. Лёс кідаў яго па неабсяжным Саюзе ад Калінінграда да Мурманска, ад Масквы да Брэста.*

*Працаваў брыгадзірам меднікаў, майстрам на суднабудаўнічым заводзе, прарабам на будоўлях, кінамеханікам. Адслужыў у войску, атрымаў званне малодшага тэхніка–лейтэнанта.*

*У 1970 годзе скончыў Маскоўскі Ўсесаюзны інстытут кінематаграфіі па спецыяльнасці "Кінадраматургія".*

*У Прыбужжы 1 лютага 1965–га года быў залічаны на пасаду старшага рэдактара Брэсцкай студыі тэлебачання. Звольнены, як запісана ў асабовай справе, з прычыны смерці ў 1982 годзе.*

*Друкаваўся ў газетах і часопісах. Як рускамоўны празаік часцей за ўсё ў "Нёмане".*

### БОГИНЯ БЕЗ НИМБА
Рассказ

У Женьки вместо сердца – кактус! Получилось совсем не так, как я представляла. Он "ограничился рукопожатием". Его сверхскромность начинает меня бесить.

Долго я ждала письма от Женьки. Мама меня успокаивала, говорила, что он обдумывает, не осмеливается. По–моему, в таких делах нужно быть смелее.

Однажды я пришла от Люськи, где мы с её друзьями слушали новейшие пластинки. Сияющая мама подала мне письмо. Это было очень толстое письмо. Я даже удивилась, что его не сочли за бандероль. Мама удобно расположилась в кресле напротив и приготовилась слушать. Но она ничего не услышала. Она вообще никогда больше не увидела его. Это письмо, в котором Женька так неожиданно признался в любви, я оставила и читаю, когда мне нужно решить какой–нибудь вопрос.

Там обо всем написано. Начиналось оно так:

“Дорогая Наташа!

Всё, что я здесь пишу, я мог бы сказать тебе, но опасался, что ты неправильно истолкуешь и не дослушаешь меня до конца. Письмо, какое бы оно ни было тяжелое, ты прочтёшь. Я знаю. Случилось что–то такое, о чем нельзя сказать в двух словах, и в то же время я чувствую жгучую потребность разобраться во всём.”

Что–то горячее залило мне лицо, и, видно, оно здорово изменилось, потому что мама не улыбалась. Она испуганно смотрела на меня. Её руки судорожно впились в кресло.

Ошеломленная, я, не вникая в смысл, пробежала несколько строк:

“... Ты была моим другом со школьной скамьи, другом, доставлявшим мне иногда немало горьких минут, но почему–то именно это мне в тебе нравилось. Мне казалось, что я очень хорошо знаю тебя и, ослепленный, слишком бережно относился к твоим причудам.

Но однажды – это было на вечере у Люси – я увидел тебя совсем иную. Помнишь, кто–то принес коробку конфет, и мы их ели. Я сказал, что поставлю свою любимую пластинку, и нашел ее в том отделении тумбочки, где, как говорила Люся, хранится “старье”. Вы все были ошеломлены контрастом “Орленка” с предыдущими “мамбами”, “джунглями” и ещё чёрт знает чем. Ты была шокирована и, желая загладить мой “промах”, с фальшивым смехом заявила, что под эту музыку хорошо есть шоколадные конфеты...

Я не позволил вам паясничать и снял пластинку.

Если ты помнишь, я тогда долго смотрел на вас, так долго, что Зинин недоучившийся эскулап поставил мне диагноз: “столбняк”, и сам жутко захохотал. В ту минуту я почему–то вспомнил о нашем классе, о комсомольской организации. Да, да, о собраниях, поручениях... Где же всё это? Ведь не может быть, чтобы всё превратилось в пепел и унеслось в никуда! Это наша жизнь! Проза?

Я подумал о наших одноклассниках. Помнишь? Мы провожали их на целину. Кстати, Сергей Демин награжден орденом за самоотверженный труд.

Но в тот вечер я услышал еще одну фразу. Все или почти все прохвосты очень общительны. Этот “медик” очаровал вас галантностью. Даже я, глядя, как он танцует, завидовал ему. Разговор перешел с конфет на математику, и как–то само собой мы заговорили о спутниках, полётах в космос. Этот тип с малолитражным умом заявил, что нужно вначале на Земле создать условия... Я спросил: “Для кого?” “Медик” презрительно посмотрел, лениво достал из коробки последнюю конфету и, потягивая из бокала вино, сказал:

– Дорогие, спутников мы не видим, а конфеты едим.

Его фраза удивительно органично переплелась с твоей, образуя синтез цинизма и невежества.

Ну почему ты говоришь, думаешь, как он? Почему именно ты явилась жертвой морали примитива?

Эта мысль и сейчас не оставляет меня. Почему? Потому, что я люблю тебя.

Во всем, что случилось, прямо или косвенно виновен и я. Поэтому считаю необходимым написать тебе только правду.

Ты очень изменилась, богиня. Вернее, всё изменилось, а ты осталась. Будь я рядом – этого могло не произойти. Но я далеко, а ты любишь все сверкающее.

Я все думаю, на каком полустанке ты сошла на минутку, заметив из окна что–то блестящее, а осталась на годы. Понимаешь, скорый ушел, а ты осталась...”

Дальше было написано такое, что лучше его не приводить. Приятного для меня там было очень мало. Это был Женька, мой соученик и друг в натуральном виде. Я его узнала. Он тоже не изменился. И что самое обидное, все написанное в письме – почти правда.

Конечно, дочитать письмо в ту минуту я не смогла: как назло, капали слёзы, а буквы прыгали и кувыркались, словно маленькие злые гномы. Я закрылась в спальне.

Обычно, я делилась всеми своими радостями и горестями с мамой. Но тогда, несмотря на её просьбы, я не отвечала.

Когда за дверью послышался спокойный голос отца, я почувствовала облегчение. Мы долго сидели и разговаривали. Я шмыгала носом. Собственно, мы даже не разговаривали: просто папа сказал несколько тёплых, хороших слов... Совсем немного, и мне стало лучше. Я и раньше догадывалась, что у меня добрый, умный отец, а по–настоящему поняла это в тот день.

О Женьке он, улыбаясь, сказал:

– С такими не пропадёшь! Хорошие растут парни...

Вечером я дочитывала письмо. В ту минуту мне очень хотелось улететь в космос...

Снег больше не падает, а тот, что на тротуарах и на крышах, тает. Его с каждым днем всё меньше и меньше. Иногда я достаю из своего тайника то самое письмо и перечитываю.

Мама говорит, что у меня душевная травма и я изменилась. Когда я в шутку спрашиваю, к лучшему это или к худшему, она молчит и думает что–то своё.

Но даже мама не знает, что со мной. Просто... Я еще больше люблю Женьку.

Сейчас я работаю и готовлюсь к экзаменам, по–настоящему. Первое время мама донимала меня замечаниями:

– Наташенька, ты изводишь себя... Иди на воздух. Люся звонила.

Но однажды я сделала то, чего никто, никогда не делал в нашей семье – накричала на маму. “Я хочу быть как Женька...

как папа!”

Мама покачала головой и ушла. Она всё еще думает, что я маленькая, а мне уже столько, сколько было ей, когда они с папой поженились.

А встреча с Женькой будет самой обыкновенной. Никакой суеты и приготовлений. Пусть все будет как есть. Женька – друг, он поймёт, что о прошлом не стоит вспоминать. И всё же в день его приезда я, пожалуй, одену туфли на самом высоком каблуке и белое капроновое платье.





## *Аляксей КАПАЦКЕВІЧ*
## *( 1942 – 2010 )*

*Нарадзіўся ў в.Сычы Брэсцкага раёна. Пісаць пачаў у юнацтве. Першы верш “Мая зямля” быў надрукаваны на пачатку 80–х гадоў у “раёнцы” “Зара над Бугам”. Творы аўтара часта змяшчаліся ў рэспубліканскім друку, гучалі ў эфіры абласнога і рэспубліканскага радыё. У 17–гадовым узросце Аляксей пасля цяжкай траўмы страціў зрок. Кніга “Водар сонца” стала ўвасабленнем яго галоўнай мары ў жыцці. Доўгія гады жыў у Вельямовічах.*

### ПРАДЧУВАННЕ

Яшчэ ўначы мароз рыпіць,
А ўдзень ён сілы ўжо не мае.
Зямля пад снегам ціха спіць
І ў снах глыбокіх трызніць маем.

Завейнай грываю зіма
Яшчэ трасе, як конь шалёны,
Ды раптам ціхі сум яна
Пяшчотна мне сыпне ў далоні.

Але я сэрцам чую ўжо,
Як недзе там, за небакраем,
Вясна на струнах капяжоў
І на дудзе зялёнай грае.

## ПЕРШЫ СНЕГ

Першы снег незямной чысціні
З паднябеснай упаў вышыні,
Каб мы ў мары ўзняліся вышэй
І душою заззялі ярчэй.

Снег так ціхенька лёг уначы.

## ПАХІ ЛЕТА

Лета мне прарочыць шчасце
Шэраю зязюляй,
Песціць сонейка і лашчыць,
Як дзяцей матуля.

Пахам дзіўным чабаровым
Сны мае палоняць,
Ліпы водарам мядовым,
Нібы хмелем, пояць.

Пахне лета нівай спелай,
Свежым караваем.
Дарагою Руссю Белай,
Любым сэрцу краем.





# *Яраслаў ПАРХУТА*
# *( 1930 – 1996 )*

*Дзяцінства і юнацтва Яраслава Пархуты прайшлі ў вёсцы Мілейкі Івацэвіцкага раёна і ў мястэчку Ружаны на Берасцейшчыне. Скончыў дзесяцігодку, служыў у войску.*

*Працуючы ў газетах і часопісах ( “Вожык”, “Родная прырода”), працягваў вучыцца на аддзяленні журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.*

*Журналісцкая дарога правяла Яраслава Сільвестравіча па шматлікіх куточках Беларусі. І пісаў ён з вялікай любоўю і клопатам пра чалавека, пра зямлю і прыроду. Побач з публіцыстыкай друкаваў мастацкія творы. Выпусціў амаль паўтара дзесятка кніг, а за кнігу “Зямля бацькоў нашых” быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Кастуся Каліноўскага. Шматлікія эцюды, эсэ, нарысы пісьменніка прысвечаны Палессю.*

*У адну з яго апошніх кніг – “Жальба жытняга коласа” – уключана аповесць “Адзінец”, якую даследчыкі літаратуры лічаць “вяршыняй, да каторай пісьменнік прыйшоў праз дзесяткі і сотні сустрэч з землякамі, праз многія вёрсты вандровак”.*

## СТАРЫЯ БЛІНДАЖЫ

Іх некалькі было на пагорку за вёскаю. Калі, бывала, падыдзеш да канцавой хаты і кінеш вокам на выган, то здавалася, што гэта зусім і не бліндажы, а вялізныя, счарнелыя ад часу чарапы. Горш за ўсё яны заміналі нашым трактарыстам. І та-

лакой рашыла сяло знішчыць іх.

Узрыўчатку выпрасілі ў леспрамгасе, а кіраваць усёй “аперацыяй” даручылі дзядзьку Антосю.

– Гэта мы мігам, – ажывіўся ён. – Як карова языком зліжа... На фронце не такое рабілі!

І праўда. Толькі варта падкласці куды трэба толу, адбегчыся і скамандаваць: “Ла–а–жысь!”, а нам упасці жыватамі ў пясок, як глуха вухала і скаланалася зямля. Ад бліндажа, сапраўды, заставаўся адзін успамін.

Потым зноў дзядзька браў свае прычындалы і клыпаў на “новы рубеж”. Ды на гэты раз ён выйшаў з бліндажа і не кінуўся подбегам у наш бок, а пачаў спакойна ўзірацца ў блакітнае неба.

– І чаго б гэта?

– Мы сыпанулі туды. Глядзім: — укленчыў дзядзька і паклаў на далонь… птушаня:

– Та–ак...

І дадаў, паказваючы на бліндаж:

– А гэты... Няхай пастаіць!..

## БЫЦЬ ПАГОДЗЕ!

Нешта не спіцца сёння. За шыбамі – ажно буяе ў садку вясна. Водар яе прасочваецца ў хату і ап’яняе. І паспрабуй, не расчыні акно!

Як бамбавозы, гудуць хрушчы. Адзін разагнаўся і звонка бразнуўся ў шыбіну.

– Быццам куля, – гаворыць маці.

Ёй таксама не спіцца. Праўда, і яна думае пра вясну...

– Заўтра дзевятае мая...

– Дзевятае...

І зноў маўчым. Ужо за акном паснулі вішні. Задрамала, здаецца, і старая яблыня...

Я ведаю: хоць і засне яна, ды ненадоўга. І неспакойны, тры-

вожны сон у яе. І часта скрыпіць і стогне ўначы. Гэта – калі падкрадаецца непагадзь. Бо смыляць, нясцерпна ныюць старыя, ад асколкаў, раны.
– Быць пагодзе! – раптам гаворыць маці.
Я слухаю ноч. Сапраўды, яблыня маўчала.

## СУСЕДКА

Яна заўсёды сустракае мяне ля веснічак:
– А сёння чым павязуць сонейка?
– Пэўна, зноў самазвалам, – адказваю і абяцаю: — Вось адпачну крыху і пойдзем, паглядзім...
... І вось мы крочым у сквер. У маёй далоні ляжыць яе маленькае, цёплае і трапяткое ручаня, і нам абаім надзвычай добра... Знаёмая лавачка. Садзімся і ўглядаемся туды, дзе ў прасвеце паміж прысад белым бокам паблісквае гарбаты мост.
Зачараваная, глядзіць Ганька, як паволі апускаецца долу стомленае за дзень сонца, як у чаканні машыны прымошчваецца яно на парэнчы таго гарбатага моста...
А праз мост няспынна шыбуюць вёрткія “Запарожцы”, паспешлівыя “Масквічы”, самавітыя “Волгі”, паважныя аўтобусы. Нарэшце, цяжка дыхаючы, на мост падымаецца працаўнік–самазвал. У гэтую хвіліну бачыць Ганька: сонца спускаецца з парэнчаў проста ў кузаў машыны...
– Павёз! – гаворыць суседка і ўсміхаецца.
А потым, калі машына згубіцца за паваротам, ідзём дадому. У маёй далоні зноў ляжыць цёплае Ганьчына ручаня. Ля веснічак дзяўчынка хоча яшчэ раз пераканацца ў сваім меркаванні і пытае:
– Самазвал харошы? Праўда? Ён заўтра прывязе сонейка? Праўда?..
– Як жа без сонца? – сур’ёзна адказваю суседцы. – Прывязе. Абавязкова прывязе, Ганька!..

# КАМЕНЬ

Цэлы век ляжаў ён тут, у вёсцы. І сцены хаты надзейна абапіраліся на яго плечы. А ён знаходзіў сілы, каб не рассыпацца пад гэтым цяжарам, каб захаваць мірны спакой жыхароў. І ці не таму на яго плячах з'явіліся сінія падцёкі мазалёў, а цела пранізала вузлаватае сухажылле?

Але нядаўна гаспадар прывёў незнаёмых людзей, і тыя разбурылі старую хату, а каменю сказалі:

– Саступі месца бетону!

Адчапілі яго тросам і трактарам зацягнулі на выган:

– Ляжы!

І лёг ён у маўклівай крыўдзе. Ад нялёгкіх старэчых думак яшчэ больш выступіла маршчын... Ды аднойчы бяссоннай ноччу пачаў ён кроплю за кропляй збіраць празрыстую, як сляза, расу. І калі на світанні прыляцела сюды белагрудая весялуха–пліска, моўчкі аддаў ён дарагое пітво...

І каменю здалося, што ён усё–такі шчаслівы.



# *Міхась ФЕДАРУК*
# *( 1938 – 2010 )*

*Нарадзіўся пад Дывінам на Кобрыншчыне. Скончыў школу, Пінскае вучылішча механізацыі, атрымаў спецыяльнасць экскаватаршчыка. Распачаў працоўны шлях меліяратарам Палесся. З вучнёўскіх часоў вабілі няўрымслівага юнака аловак і папера. Пісаў вершы і зацемкі, нарысы, дасылаў у газеты і часопісы. Неўпрыкмет і сам стаў журналістам. У 1964 годзе паступіў у Брэсцкі педінстытут. "З лейкай і блакнотам" абышоў Берасцейшчыну, Міншчыну, працаваў у шматлікіх "раёнках", на абласным радыё, друкаваўся ў "Маладосці", "Вожыку", "ЛіМе", "Звяздзе". Падрыхтаваў зборнік лірыкі.*

## РЭЧКА ЗВІНІЦЬ

Рэчка звініць–звініць,
Поўная медзякоў,
Што шчыраю добрай рукой
Сыпле і сыпле зеніт.
Рэчка звініць–звініць
Ветрам прыбужскіх ніў,
Лісцем бяроз і дубоў,
Золатам жоўтых пяскоў.
Рэчка звініць–звініць...
А дзесьці ўдалечыні
Шастаюць чараты,
А можа сцяжынкаю
Бяжыш сюды берагам ты
Паслухаць, як рэчка звініць,
А можа толькі ўдалечыні
Шастаюць чараты?

## АБЛОКІ

Зблякнуў пажар аблокаў.
Сонца сышло за яры.
Аблокі – нібы абломкі
Вясною раскрышаных крыг.
І згоды няма ў аблоках.
Усё неба ў плыні згрызот.
Аблокі вакол абложна
Кладуцца на гарызонт.
Ды толькі лясы, як песню,
Слухаюць вышыню,
Дзе спеюць так спорна і пенна
Аблокі з вады і агню.

## ГУКІ

Гукаў строй скалынецца
У густой сіняве,
І мелодыю вецер
Панясе па траве.
Раскідае па росах,
Па тугіх туманах,
Па блакітных ільнах.
Ды калі ўваскрэснуць
Яны зноў з даўніны,
Значыць, то была песня,
А не гукі адны.



# ЯШЧЭ НЕ ВЫПЛАКАНЫ СЛЁЗЫ



## *Аляксей БАКУМЕНКА*

*Не магу не нарадавацца, не здзівіцца той узнёсла–чыстай, гаючай сціпласці, якой нязменна адорваў наша маладое брацтва – “Берасцейскае вогнішча” – надзвычай прыгожы і душою, і выяваю сын “крэпака” з Палтаўшчыны Аляксей Піменавіч Бакуменка.*

*Можа, нашы “сямейнікі” і скрывяць крыху губу, але больш за ўсіх любіў слухаць наш “Плытагон” – Калеснік (і нават даваў пазачарговае слова) тых, хто хлебануў з ваеннай біклажкі і закусіў з франтавога кацялка, і асабліва Бакуменку, які апавядаў заўсёды ад шчырага хахляцкага сэрца і з нязменным гумаркам.*

*У сямнаццаць гадоў пайшоў Алёша бараніць родны “Майдан”. Імкнуўся ў бой. Шалела ў грудзях ягонае рамантычнае сэрца, затуманенае ружовым прывідам усеагульнай свабоды і братэрства. Але, напэўна, на самай справе бароніць усемагутны Пан–Бог добрыя сэрцы на зямлі. Не склаў сваю чубатую галаваньку Бакуменка, як тысячы тысяч ягоных равеснікаў ні пад Сталінградам, ні пад Кіевам, Кёнігсбергам, Берлінам і Прагаю. Зберaглі парубка разумныя, чуйныя людзі – накіравалі ў вучэбны полк.*

*Мудрымі былі і Алёшаў 19–гадовы камбат, і батальённы старшына, і аднаакопнікі з бязмежнай краіны, якіх не забывае ні на імгненне мастак і паэт шматколернага, гнуткага таленту Бакуменка. Які аніяк не аддзячыць ім за тое, што ўратавалі яго ад смерці цаною ўласнага жыцця!*

*Узнёсла–суровая, чулліва–сардэчная “ваенная” лірыка Аляксея Піменавіча. У яго вершах б’юць у званы тыя былінныя сціпласць і моц, веліч чалавечага духу, якія разрываюць па начах сэрцы ветэранаў, крывавяць надуманай віною, што ў зямельку родную і чужую не яны, а пабрацімы любыя заўчасна так ляглі...*

За невернувшихся солдат
Ещё не выплаканы слёзы.
И бьют по памяти в набат
Войною пахнущие грозы.

… Всю жизнь идут погибшие ровесники со мной,
Чтобы казнить и миловать меня.

*Неяк падспудна падказала сэрца пачаць знаёміць чытача з усёвырашальнай лірыкай Бакуменкі вершам “Помню я холодок осенний”.*

*Чысцютка–празрыста, з самое крынічкі цнатлівага сэрца, якое любіць і прагне любові, сказаў у ім паэт, за што змагаўся салдат на той вайне, што надавала яму сілы выжыць пад смерці завыванне – пра веру і надзею, якія перамаглі галоўную гнюснасць людскую – здраду.*

*Няма на свеце шчаслівейшага імгнення, як зірнуць чалавеку “прямо” сумленнымі вачыма ў сумленныя вочы, пранёсшы годнасць чалавечую праз нечалавечыя выпрабаванні...*

*Аляксей Філатаў*

***

Помню я холодок осенний
И тоску твою у плетня.
Закрывала ты мною сени,
Жаром сыпала на меня.

Кроме ветра, никто за плечи
Одинокой не обнимал.
И тепла твоего в тот вечер
Я ни капли себе не взял.

Зна, женою была ты верной

И примерною для других.
Он к тебе не вернулся, верно.
И в тот вечер не был в живых.

Но твердил я себе упрямо,
Повторял я тогда: нельзя!
Потому смотрю сейчас прямо
И тебе и другим в глаза.

## СНЕГ ВОЙНЫ

Я помню черный снег войны:
Разрыва черные заплаты
На снежном поле, где солдаты
В снегах навек погребены.

Я помню серый снег войны:
Он даже с неба падал старым,
Гнал ветер вдоль дорог пожары
И пряди пепла–седины.

Я помню алый снег войны:
Незабинтованное поле,
Среди морозной тишины
Сугробы без тепла и боли...

И белизна и чистота
С землей смешались.
С пеплом,
С кровью...
Я помню снега все цвета.
И только белого не помню.

## РОВЕСНИКАМ

Быть может, правда, время лечит раны,

Его живые в сердце бьют ключи,
Но боль о тех, кто пал на поле брани,
Оно не в силах все же излечить.
И сердце разрывается от боли:
Встают перед глазами вновь бои,
И падают на белом снежном поле
Ровесники, товарищи мои.

Я вижу их живыми, не во мраке,
И не могу поверить до конца,
Я слышу их дыхание в атаке
И чувствую, как бьются их сердца.

Иду за ними будто за стеною,
На перекрестке жаркого огня...
... Всю жизнь идут ровесники со мною,
Чтобы казнить и миловать меня.

## ОДНОПОЛЧАНЕ

На встречах ветеранов год от года
Редеет строй друзей–однополчан.
Одних за сердце держит непогода,
Другим не пересилить старых ран.

А третьи... Что ж, помянем их по–братски.
Немало нами прожито годов,
Любой из нас в плену судьбы солдатской
Был сотни раз уйти туда готов.

А сколько их, шагавших вместе с нами
До дня победы так и не дошли.
... Высокими шумящими лесами
Да травами просторы проросли.

Пускай и наши души прорастают
В березках белых, в зелени травы,

И пусть не меркнет дружба фронтовая –
Святой союз оставшихся в живых.

***

Всё правда, правда, да не вся.
Не всю ее землей зарыто.
Войны железная коса
Не всю скосила, словно жито.

Всю правду, правду до конца
Еще война не огласила,
Легко ранимые сердца
Не всеми болями убила.

За невернувшихся солдат
Еще не выплаканы слезы,
И бьют по памяти в набат
Войною пахнущие грозы.

Ослепли окна старых хат,
Своих хозяев не дождавшись,
Им никогда уж не узнать
О судьбах без вести пропавших.

Еще не найден каждый след
И не полны в архивах списки,
И на полях еще не всем
Стоят по праву обелиски.



# *Дзмітрый ВАСІЛЬЕЎ*

*Дзмітрый ВАСІЛЬЕЎ (нарадзіўся ў 1926 годзе ў Маскве ў сям'і рабочага) вабіў людзей невыказнай адкрытасцю сваёй шчырай рускай душы, што нязменна свяцілася ва ўсмешцы ягонага па–юнацку ўзнёсла–наіўнага твару. І блакіт вачэй, і золата жнівеньскага колеру валасоў, і густы тэмбр гамонкі на "о", і шчыры рогат выказвалі ў ім прастору і моц вялікай Русі.*

*Бараніў родную зямлю ў Другую сусветную, якую закончыў пад Кёнігсбергам з ордэнам Айчыннай вайны і пяцццю медалямі на салдацкай гімнасцёрцы; славіў у пасляваенны перыяд вершамі і песнямі, бо, акрамя паэтычнага, быў надзелены Богам кампазітарскім талентам. Сціплы, без фанабэрства і выкрунтасаў, просты, як сувораўскі штык, верш заўчасна памерлага паэта кранае празрыстасцю і чысцінёю, любоўю да жыцця, падзякаю тым, хто ваяваў і гінуў за людское шчасце.*

## ПОБЕДА

Час пробил.
Возмездие свершилось.
Над рейхстагом
Флаг взметнул зарю...
Вся Европа
В ноги поклонилась
Русскому бойцу–богатырю.
Он стоит с мечом
На пьедестале,
Прижимая к сердцу малыша,
И чтобы люди
Всей планеты знали –
Вот какая русская душа!

## КУРГАН

Ты сходи на курган,
Когда солнце садится.

Ты сходи на курган,
Если ночью не спится.
Ты постой на кургане
Минуту в молчанье
И услышишь, как шепчутся
Однополчане.
Ты услышишь, как танки
В атаках рычали,
Как солдаты по–руски
Их грудью встречали...

## МЕДСЁСТРЫ

Разве забудешь,
Как дули ветра
И зубы плясали от холода,
Как под разрывами мин
Медсестра
По снегу тянула молодость.
Не забудешь привал у костра,
Где сосны застыли мохнатые,
В промёрзлой землянке
Поёт медсестра
О Родине песню с солдатами.
Вот и сегодня она с утра
Спешит по январьскому холоду,
Славная, милая медсестра
Воюет за чью–то молодость.

## ВЕСНА

Весна рвет почки тополей,
Курлычет песней журавлей.
Своей лазурью небосвод
Упал, дробясь, в водоворот.



# *Мікола ЗАСІМ*
# *( 1908 – 1957 )*

## З ЖАЛЕЗА

*( з двух сшыткаў вершаў Міколы Засіма часу вайны )*

*Доўга і скрупулёзна корпаўся ў “масавай па духу лірыцы сына “Пружанскай зямліцы” – Міколы Засіма, у якой ён выразіў масавыя імкненні, масавыя пачуцці заходнебеларускага працоўнага сялянства” ( У.А. Калеснік ) і, далібог, як ніколі шчыра ўзрадаваўся, уражаны, ускалыхнуўся, сустрэўся з душою “напаказ расхрыстанага паэта–партызана” ( зноў У.А. Калеснік ).*

*Яшчэ не топчуць фашысты нашых ніваў і гоняў, не руйнуюць гарады і вёскі, шчыра будуе краіна маладую камуну, і просіцца з душы паэта:*

Ці хто зрабіў ключы да сэрца?
Такі мудрэц яшчэ не жыў.
І носіць, беднае, да смерці,
Што лёс сабраў і палажыў.
Не скажа нават смерці лютай
Пра скарбы тайнікоў сваіх.
Таму на ўсё надзенеш путы,
Адно няма на сэрцы іх.

*А вось ужо крочыць бот фашыстоўскі па зямлі, а ўжо спяшаецца 1941 год і росным чэрвеньскім ранкам прыносіць ад мора да мора ярмо і путы, гвалт і здзек, нечуваныя ад стварэння зверствы і лютую смерць у родную старонку. І*

*адразу напаўняецца паэзія Засіма "тэмаю велічнага, узнёслага і трагічнага". Увачавідкі перараджаецца лірачны герой, звіняць трагічныя матывы, і адразу моцна збітая натура змагара ўзнімаецца на змаганне, кліча за сабою люд паспаліты, бо верыць яму, бо ведае ягоную моц.*

## ЗАКЛІК

Кліча нас зямля святая,
Кліча родны наш прастор.
Кліча ніва залатая
Помсціць немцу за тэрор.

Біць без літасці і спуску,
Біць па–руску і па–беларуску
Зграю катаў і пачвар –
Не забудзе грозны наш удар.

Бо кулак наш як жалеза,
Грудзь шырокая, што печ.
Дый пад бокам Белавежа, –
Можна ўдарыць, можна ўцеч.

Так "уцеч", каб снілась кату,
Што бяжыш ты ўслед за ім,
Каб ён сам падмазаў пяты,
Страхам выгнаны сваім.

А ачухаецца – зноўку
Наляцім з усіх бакоў
З мінай, з бомбаю, з вінтоўкай
Смерць – за смерць, а кроў – за кроў!

*Радкі гэтыя пішуцца "кемлівым, дасціпным мужыком–паэтам Засімам арыгінальна, з самабытнай вымоўнасцю" ў*

*апошнія дні першага года вайны, адразу разлятаюцца, як і Купалавы “Партызаны”, па тылах і франтах і, галоўнае, – помняцца людам да 65–й гадавіны Перамогі няскоранага народа.*

*Але, але... Распухла зямліца // Ад людскіх магіл, // Сонцу дзівіцца // Праз дым няма сіл.*

*Гінуць паэтавы бацькі, сябры па змаганні, нішчаць гітлераўцы масы нявінных людзей, вывозяць моладзь, у тым ліку і родную сястру Засіма, у Германію – і вершы паэта складаюцца ў даволі грунтоўны стос, у адзіны цыкл, своеасаблівы рэпартаж трагічнага болю і смутку, але з непахіснай верай аўтара ў перамогу.*

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ БАЦЬКОЎ

Не застрашыце нас, каты,
Ні расстрэлам, ні пятлёю.
За кроў маткі, за кроў таты
Сваю помсту я ўтрою.

Вобраз роднага татулі
І ў маршчынах маткі твар
Трапнай зробяць маю кулю
І распаляць помсты жар.

А калі загіну ў бойцы,
Дык такі я не адзін.
Будзе помсціць вам, забойцы,
Друг мой – іншай маці сын.
1943г.

*Не мінуў воін і галоўнай тэмы ваеннай лірыкі песняроў той вайны, што так пранікнёна прагучала ў творах асабістага сябра Засіма А.П. Бакуменкі, тэмы “Яшчэ не выплаканы слёзы”.*

# ЗЕМЛЯКУ–САЛДАТУ

Ляжыш ты, мой дружа,
У магіле ляжыш,
А мне ўсё здаецца,
Што ў вочы глядзіш.
Глядзіш і пытаеш:
Ці хутка, дружок,
Мы вернемся з фронту
У родны куток?

Ці хутка мазолі
З абмуленых ног
Залечыць нам родных
Аколіц мурог?
На беразе Шпрэі,
Упаўшы на жвір,
Слова не ўчуўшы
Жаданага “Мір”!

Дарма недзе думалі
Жонка з сынком:
“А можа, памылку
Зрабіў ваенком?”
Ляжыш ты, мой дружа,
Каторы гадок.
Эх, каб жа з зямелькі
Падняцца ты мог!

Ужо не дыміцца
Твая Беларусь,
У школу ўжо ходзіць
Сынок твой Пятрусь.

1947г.

*Мяне асабіста, як ўратаванага ў тую выклятую вайну сірату, усхваляваў верш Мікалая Арцёмавіча “Не пытай”. Вось яна – святая праўда пра душу нашага народа:*

Не пытай, дзіця, дзе бацька –
Згінуў на вайне.
Не пытай, дзіця, дзе матка –
Згніла ў турме.
Не пытай, дзіця, дзе брат твой –
Немчура забіў.
І цябе было, унучак,–
Кат той куляю прабіў.
Партызан цябе, дзіцятка,
Падабраў, збярог.
У яго знайшоў ты хатку,
Бацькаўскі парог.
Не пытай сваіх – не ўстануць
З ямаў, не пытай.
За табою – сіратою –
Беларускі родны край.

*І якую ж прыгожую, якую светлую, якую да болю, да слязы шчасную, шчымліва–праўдзівую кропку ставіць сялянскі сын–паэт Мікола Засім на той жудаснай вайне!..*

## СУСТРЭЧА

Уся вёска ў адзін мах
Збеглася к Якіму,
Бо прыехаў у ардэнах
Сын Іван з Берліна.
Тут і дзед стары Лукаш,
Сябры Грыц, Тадорка.
Паміж іх салдацік наш
Як на небе зорка.

І абуты і адзет,
Выбрыты, умыты.
– Знаць, набіў, – заўважыў дзед, –
Шмат, унук, бандытаў?
Не дарма ж у ардэнах
Твае, малец, грудзі!
На якіх пабыў франтах,
Раскажы ты людзям.
І з запалам маладым
Дзед глядзіць на “мальца”,
Шэпча ціха ўслед за ім
І кладзе на пальцах:
– Ленінградскі, Сталінградскі,
Кіеўскі, Адэскі...
Адмыслова, ваяваў
Сыне наш палескі.
– Усюды немцаў біла хвацка
Баявое наша брацтва.
Гэты ордэн за Маскву,
Гэты – за Варшаву.
А за Курскую Дугу
Бачыш, дзеду, –
Дзвюх ступеняў
Ордэн Славы!..

1945г., Пружаны





# *Уладзімір СТАЛЬМАШУК* *( 1922 – 1966 )*

*Уладзіміру Іванавічу Стальмашуку, былому падпольшчыку, партызану, франтавіку, афіцэру міліцыі і берасцейскаму пісьменніку, напрыканцы 60–х гадоў Брэст не паскупіўся на два аршыны зямлі на пачэсным Гарнізонным могільніку. Ды па волі самога Уладзіміра Іванавіча паклалі яго ў родную зямлю на Камяніца–Жыровіцкіх кладах побач з роднымі па крыві людзьмі.*

*Слотным асеннім днём маладой тады яшчэ літаратурнай, роднай яму па духу, сям'ёю стаялі мы над магілаю Стальмашука. Сцішана гаварыў Уладзімір Андрэевіч Калеснік: "Здарылася надзвычай вялікая недарэчнасць, смерць забрала чалавека ў росквіце таленту, забрала жорстка і крыўдна. Не дала нават магчымасці зірнуць на асноўны свой жыццёвы набытак – кнігу "Шумяць яліны": не дажыў да яе выхаду трох дзён. У яе ён уклаў увесь жар свайго гарачага сэрца, бязмежную любоў да роднае Прыбужскае зямлі, рыцарскі склад душы. "Шумяць яліны" – гэта сумленна выбудаваны помнік ягоным сябрам па зброі. Няхай ён не паўсюль ззяе люстраным колерам, няхай месцамі прыкметны на ім сляды няхітрага струманту і нават хваляванне рукі, але ад гэтага праца здаецца нам яшчэ больш замілаванай, бо скрозь дробныя хібы рамяства лепш бачыцца высакароднае імкненне чалавека праўдзіва раскрыць веліч легенд брэсцкіх лясоў, перакласці шум партызанскіх ялін на мову слоў і вобразаў..."*

# ШУМЯТ ЕЛИ
( рассказ )*

– Якуб, о чём задумался? – командир отряда Сергей Сергеевич Шиканов положил руку на плечо сидевшего у развесистой ели партизана.
– Слушаю… – закрыл глаза Якуб.

Стараясь заглушить басовитую гитару, задорно тренькала балалайка. То затухая, то с новой силой дышал смолистым запахом, шумел бор.
– И лес шумит дружней, когда деревьев много, — вздохнул Якуб:

Радзіма Літва! Як здароўе, так ты, дарагая.
Як шмат цябе трэба цаніць, толькі той і спазнае,
Хто страціў цябе, — вполголоса продолжал Якуб…

Адам Мицкевич, “Пад Тадеуш”, исповедь изгнанника…

Рядом в блиндаже громко шутили: “Раззлювався Иван, тай кажэ: поцэлуй мэнэ, гитлеровска морда, ось сюды, бо я мэд йив”.
– Вас, вас? – по–нашему: що, що? – пытае хофрыць.
– Ага. Нас, нас: мэнэ и моего кума.
– Вот–вот–вот! – из глубины леса поддакивал удод.
– Врри–врри! – ворковал дикий голубь.

Ещё не затих дружный смех, как вытянулся перед Шикановым разведчик Карп Горчарук:
– Разрешите доложить?! На опушку старосельского леса связные привели сорок немецких легионеров, вроде как сдаваться пришли.

Шиканов задумался. “Вот уже месяц через связных в деревнях Закий и Пугачёво велась работа по вовлечению в партизаны моболизованных немцами поляков. Можно ли допустить их в отряд? Не предадут ли? Разоружать их нельзя. Это насторожит, вызовет недовольство у поляков, а ошибка дорого нам обойдётся”. – Отбросил на лоб русые пряди, поднял го-

лову командир.
– Якуб, ты здорово владеешь немецким языком. А у нас есть трофейная форма майора СД. Надо проверить братьев–славян.
– Раз надо – проверим.
… Рядом плясали, озорно драли глотки под коленце балалайки:

Барыня с горки катилась,
За сук юбкой зацепилась…

– И – эх!
– Ну давай, давай, наяривай…
И разом всё смолкло.
– Строиться! – скомандовал Шиканов.
Захлебнулась балалайка. Раскаты смеха ударились о деревья, рассыпались дробью по лесу и эхом покатились по тропинкам, просекам, заросшим дорогам. На бегу одергивая ремни и поправляя подсумки, партизаны становились в строй.
Шиканов рассказал подчиненным об агентурной работе среди подразделения немецкого легиона. Сообщил о переходе к партизанам группы военных в гитлеровской форме. Поставил отряду задачу: "Окружить полицейский гарнизон в Озятах. Якуб поведёт в гарнизон сдавшихся. В случае обмана ни один не должен уйти! Уничтожить и "бобиков"!
Лица партизан посуровели. Три недели назад над могилой погибшего в неравном бою командира разведки Михаила Никитовича Чернака они поклялись отомстить озятскому гарнизону.
Из палатки вышел Якуб. Высокий, в немецком мундире и фуражке.
– Смотри, Карпо, наш Яшка — настоящий дойч!
– Дойч не дойч, а поляк настоящий, — ответил Карпо.
– Довидзэння, панове! – Якуб приложил два пальца к козырьку, улыбнулся.
– Держись там, братуха! Мы будем рядом.
Шиканов и Якуб скупо обменялись приветствиями с груп-

пой на опушке. Ощупывая взглядом каждого, Шиканов будто хотел заглянуть под их немецкие мундиры, проникнуть в сердца, отгадать их мысли. Насторожены были и прибывшие, их грызла тревога: простят ли партизаны службу у врага?

Шиканов говорил кратко:

– Не буду заострять внимание на той ошибке, которую вы совершили, надев на себя фашистские мундиры. Раз вы к нам пришли, значит осознали. Эта форма должна послужить нашему общему делу. Под видом немецкого подразделения вы пройдете в полицейский гарнизон и уничтожите его. После этого мы будем считать вас партизанами. Вашим командиром будет наш человек. – Командир отряда указал на Якуба.

В строю облегченно вздохнули. Поляки с любопытством смотрели на “гестаповского” майора.

– Смирно! – скомандовал Якуб по–немецки. – Нах рест! Нах линке! (направо, налево).

– Выполняют четко. Усволи подлецы, — отметил Шиканов – Ну, ну.

“Гестаповец” вскинул вперёд руку, гаркнул:

– Хайль Гитлер!

Группа замерла. Послышался ропот. Брякнуло оружие.

– Не в ладах с Гитлером? – улыбнулся Якуб.

Услышав из уст “фрица” русскую речь, в строю оживились.

– Посылайте в дело. Мы так хайлькнем, что им тошно станет!

Шиканов подозвал командира партизанского взвода казаха Хамита Смагулова и разведчика Клима Селивоника.

– Пойдёте с ними. Смотреть в оба! Переоденьтесь.

Смагулов поправил на ремне гранаты, уронил скороговоркой:

– Котелок замарал – вычистил. Честь замарал – не отмоешься. Хамит с волками пойдёт на шакалов.

… Показались дома.

В окнах появлялись и вмиг исчезали растерянные лица.

Вот оно, осиное гнездо, обнесенное колючей проволокой. На крыше штандар со свастикой и орлом. Трепыхало по-

лотнище, стервятник, казалось, будто пытался сорваться и улететь. Смагулов чуть отстал. Незаметно другим выдернул кольцо гранаты, опустил руку в карман. Второе кольцо выдернул зубами, замкнул строй с руками в карманах.

Двое полицейских поспешно открывали ворота.

– Нах рэхст марш – скомандовал Якуб, и группа, чётко выбивая шаг, повернула в открытые ворота.

– Хальт!

Замерли шаги. Заскрежетали петли ворот.

“Неужели догадались и передавят, как в мышеловке? Может, предали эти?

А может Клим допустил оплошность?” – беспокойно пронеслось в сознании. Якуб взглянул на Смагулова. Тот, руки в карманах, невозмутимо стоял в конце колонны и своею беспечностью будто бросал вызов опасности.

Из бойниц дзотов зловеще торчали стволы пулеметов. С автоматом наперевес навстречу бежал полицай. Подбежав, отсалютовал, вытянулся в струнку.

– Зінд аллес лёйтэ хіер? – спросил Якуб.

– Не понимаю, нихт ферштейн, господин майор.

– Швайн! – недовольно бросил Якуб.

От этого хорошо знакомого оклика полицай виновато переступил с ноги  на ногу.

– Доложи, где полицаи?

– А–а! – парламентёр стукнул каблуками и, приложив руку к пилотке, отрапортовал:

– Господин майор! Гарнизон собран, ожидает вас в помещении. Комендант, как назло, заболел, находится дома. Докладывает его заместитель…

Не дождавшись окончания рапорта, Якуб сделал жест солдатам и широкими уверенными шагами направился за встречавшим. Часть солдат присоединилась к нему, остальные рассыпались по двору, поближе к часовым и дзотам. Заместитель коменданта гарнизона распахнул дверь, гаркнул:

– Ах – ту – унг!

Опрокидывая стулья, полицаи вскакивали с мест, стояли “смирно”, по–собачьи преданно “ели” глазами “начальство”.
– По предателям огонь! – скомандовал Якуб и выстрелил в помощника коменданта.

Затрещали автоматы. Как скошенные, валились полицаи. Запахло гарью. Синий дым тянулся в разбитое окно. Ни один “бобик” не успел схватиться за оружие. На улице также раздавались очереди. С группой партизан вбежал Сергей Сергеевич, обращаясь к новичкам, отдал честь:
– Спасибо, товарищи!
– Служим Советскому Союзу! – горячо ответили в немецких мундирах поляки – с этой минуты белорусские партизаны.

Хамит Смагулов вынул из карманов руки со взведенными гранатами, одну за другой бросил в дзот. Обратился к новичкам:
– Думал, обманывать будэш, ловушка будэш, тогда в воздух вместэ надо будэт. А типер прихади мой палатка вместэ баран кушат…

… Трубные голоса невидимых журавлей будили Щебринский бор. Могучие вечнозелёные ели слышали их и в ответ глухо, тревожно шумели.

Начало 50–х, 20–й век.

* Друкуецца ў скарачэнні





# *Мыкола ТЭЛЫЧКА*

***

Ты  вибрав молитву і жінку,
до щастя всього тобі крок.
А вибрала доля стежинку,
яку замітае пісок.

Є вдача другої дороги.
На неї ступив би… і все ж
свої набуття і тривоги
стежинкою долі несеш.

Здається, сприймаєш  охоче
обов’язок свій, ідучи.
І щастя тобі вже тріпоче,
як прапор, як вогник свічі.

***

Мій дід поліг у Ленінграді
Не без зусиль війни. Не без…
Отам і зірка тьоті Наді
тоді скотилася з небес.
Тепер, колі забулась друга
війна шалена світова,
над ними зливи Петербурга,
його тумани  і трава.
Ні слова рідного, ні гуку,

ні сліз далекої рідні…
Тож родову сімей сполуку
закінчить доля на мені.

***

Ти будеш жити. Знаю, будеш жити
не лиш у мене в серці і душі.
Тебе вберуть у себе ніжні квіти,
шовкові трави і мої вірші.
Іще в рядки прийдуть слова єдині,
які знайду в житті лише тобі.
Вони, як співи в нашій Україні,
у роздумах, бажаннях і журбі.
Ти будеш жити. Знаю, будеш жити
в моєму світі, в творчому труді,
бо біля мене рідні наші діти,
онуки і онучки молоді.

## СІЛЬЦЕ

В сільці поліськім, в хутірці,
всього три хати, три левади.
Стоїш на цім чи тім кінці –
ніде не стріне зір завади.

Під тином всілися діди
на три обтесані колоди.
Зітхають, мабуть, від нудьги,
регочуть, мабуть, від пригоди.

Враз несподівано в сільці
дідів веселість охопила.
А я на другому кінці
убачив з квіткою стропила.

Старі в тіньку, а молоді –
хто на городі, хто на річці.
Відчули рибу і тоді
взялись рибалити по звичці.

На все дивлюся як на рай.
Про що писати вибираю.
А ти, сільце, не вимирай –
чудовий кутик цього краю.

Але все менше хуторців
і хуторян, і хуторянок,
надійних, мудрих фахівців
обслуги поля і ділянок.

Щезають жниці й косарі –
сільська найкраща в праці сила.
І все ж як райдуга вгорі,
на зрубі з квіткою стропила!

***

Батьківський край – з дитинства
любый край.
Нам іншого на все життя не треба.
Яку дорогу в нім не обирай –
Осяє всюди теплий промінь неба.
І непомітно денно і вночі
у домі і за щаблями порога –
над нами вогник вічної свічі,
як охоронець кожному від Бога.

# НАШЫ ЮБІЛЯРЫ



## *Віктар ВАБІШЧЭВІЧ*

### БЫЦЬ ЧАЛАВЕКАМ

Цябе збівалі дзіды лёсу,
Лілася кроў, і ўсё балела.
Над галавой свісталі косы.
А ты быў смелы.

Бясконца вылі завірухі,
І свет ад роспачы хістаўся.
Усе былі ў палоне ў скрусі.
А ты трымаўся.

Усё ад цемрыва дзічэла,
Жывых труціў паволі стронцый.
Святло ад болю анямела.
А ты быў сонцам.

І ўсё таму, што ў свеце гэтым
Ты жыць хацеў не ценем нейкім.
Хацеў ты быць патрэбным свету.
Быць чалавекам.

### З МОВАЮ ПА ЖЫЦЦІ

Я за Мову Сваёй Зямлі
Неаднойчы атрымліваў здзекі.
І пагрозы, і кпіны былі.

Колькі злосці жыве ў чалавеку?

Ды ўсё роўна за Мову боль
Пранясу праз бясконцасць веку –
Праз навалы і душаў золь.
Колькі сілы жыве ў чалавеку!

Да Любові, зіхоткай, жывой
Нас імчаць ручаі і рэкі.
І святлеюць жаданні ў рабоў.
Колькі веры жыве ў чалавеку!

Слова – шчасце, і крыж, і лёс.
Ахвяруем сябе патроху.
Нам усім паказаў Хрыстос:
Шлях да Мэты ляжыць праз Галгофу.

## ПАДАННІ ПРА КРЫЖ

Ля ціхай рэчкі на пагорку
Здаўна стаіць каменны крыж.
Людскую чуе ён гаворку
Пра Тураў стольны і Нясвіж.

І моўчкі слухае легенды,
Якія творыць грэшны люд,
Пра тыя ж грэцкія календы,
Пра тое, што бывала тут.

Тут паўтараюць слова ў слова
Прыгожы выдуманы сказ.
У ім геройская аснова,
Відочна – кніжная якраз.

Даўно забылі пра здарэнне –
Такіх на свеце не злічыць.
І не відаць вякоў тых ценю,
А крыж – пазнака іх – маўчыць.

Разгадваць будзем да магілы

Сівой мінуўшчыны сляды,
А крыж ёсць сімвал Божай Сілы –
Пра гэта памятай заўжды.

## НА БЕРАЗЕ ПІНЫ

Каля Піны высокія лозы,
Разрастаецца спорна чарот.
Тут не раз праліваліся слёзы,
Тут бывалі і мор, і няўрод.

На раку апусцілася восень:
Сумны змрок і бясконцы туман.
У балотнага птаха мы просім,
Каб прынёс цеплыні акіян.

Ды пры чым тут людскія жаданні –
Мы не хочам прыроду пачуць –
Нараджаем свае прадказанні
І памкненняў сваіх каламуць.

Што было і што будзе на Піне,
Называецца проста – жыццё...
Яно вечна ў сваёй каляіне –
Відавочнага вам адкрыццё.





# *Алесь КОРНЕЎ*

* * *

Мае гады – тамы бібліятэкі.
Выданні перачытваю старыя,
Ды хутка іх закрыю, як павекі…
Няўжо хто–небудзь іх калі адкрые?
А не… Ну што ж… Не запярэчу долі
І ў іншым свеце з тымі, што ўжо зніклі,
Пры цьмяным ззянні зорнай жырандолі
Перачытаю зноў тамы рэліквій.

* * *

Пад воблакі буслы ўзляталі,
Вадзілі карагод з аглядкай.
А ўнізе – горада кварталы,
Бы акуратненькія градкі.

На іх – дамы (кубічныя абрысы),
З рукою правадырскай – краны
І купал рынка, велічны ды лысы,
Бы той гарбуз шчэ непрыбраны.

У тым каменным агародзе,
У тых дамах – людзей, што зерня!..
Важак буслоў за лес адводзіў
З надзеяй, што вясною верне.

* * *

Маці з храма дамоў ледзь датупала,
На партрэт дарагі паглядзела.

Божа мой! З–пад царкоўнага купала
Мужыкова душа прыляцела!
Во! Фіранка нібы скалыхнулася.
Быццам рыпнула злёгку масніца.
Гаспадыня ажно схамянулася,
Стала ў спешцы шаптаць і маліцца.

Захапілася прывіднай з’яваю:
Родны вобраз ажылы і яркі!
Хутка стол упрыгожыла стравою
І напоўніла моўчкі дзве чаркі;

Ды адна з іх стаіць некранутая,
А ў другой – вечных бед павалока:
У спагадзе трымціць і пакутуе,
Бы шкляное слязістае вока.

Як узяць яе пальцамі кволымі?
Лекі там і вадзіца святая…
Свечка выйсце знайшла ў зыркім полымі,
Праз яго ў іншы свет адлятае.

* * *

Памяць – гэта паэтычны сшытак,
Што ў шуфлядзе роздуму старэе.
Колькі жарсці! Колькі дзён пражытых!
Разгарну, дык проста – эпапея!

То ўяўлю пушчанскія шыроты,
То павольных рэк мерыдыяны.
Вунь Дняпро, а там за паваротам –
Ліпа каля хатачкі драўлянай.

Безбярэжная ў зямлі Няміга…
Неабсяжны бераг нарачанскі.
Па–братэрску сустракаў Чарнігаў,
Сваяком крывіцкім быў у Бранску.

Узыходзіў на хрыбет Урала,
Разважаў пра лёс ля маўзалея,
Ды раптоўна кветку шчасця ўкрала

Белая жанчына, як лілея.
Белая жанчына з ночы белай…
А цяпер вось ночка–негрыцянка
Да мяне на ложак ціха села,
І мы з ёю зладжана да ранку

Перагортваем цішком старонкі
Памяці маёй. Бы пыльны сшытак…
То мігцяць рабінавыя гронкі,
То за рэчкай – залатое жыта.





# *Іван ЛАГВІНОВІЧ*

## КАНЦОНА

На нейкі час аціхлі ў свеце войны,
Загоіліся раны на зямлі,
А хрысціянскіх храмаў перазвоны
Да будучага свята адплылі.

Напевам старадаўняга раманса
Мяне на белы танец запрасі,
Пад зорным небам дзіўнай ночы майскай
У вальсе закружы і… спакусі!

Змяніўся свет, і мы ўжо пастарэлі,
Ды поўнач тыя зоркі зберагла,
Што так натхнёна некалі гарэлі
Над песеннай ваколіцай сяла.

Ад Малькавіч да Ганцавіч дарога
Схавала каляіны пад асфальт,
А наша запаветная бяроза
Не страціла былога хараства.

Напевам старадаўняга раманса
На танец маладосці запрасі,
Пад зорным небам дзіўнай ночы майскай
Зноў зачаруй мяне і… спакусі!

## РАМАНСАВЫ САНЕТ

Лятучая ладдзя інтымнай асалоды
Далёка занясла… Ад нас за паўвярсты
Да айсбергавых гор, да мора прахалоды
З экватара цячэ пад параю Гальфстрым.

І ёдзісты туман прылашчыў цвердзь і воды,
Заблыталіся ў ім салёныя вятры.
Аголеных грудзей мускатна–вінны водар
Свядомасць ап’яніў, пачуцці абвастрыў.

Як быццам трапіў я ў палон галюцынацый
І з рэчаіснасцю стасункі разарваў.
Такою цяжкаю здаецца галава,

Што не магу прыўстаць, перажагнацца.
А сон ужо самкнуў павекі–аканіцы
Суцешлівых вачэй сяброўкі–чараўніцы.

## ТРЫЯЛЕТ

Я па табе засумаваў…
І тройчы паўтараю гэта
Ў васьмірадкоўі трыялета:
Я па табе засумаваў…

Даруй, што кветак не нарваў.
Хай будзе трыялет букетам.
Я па табе засумаваў…
І тройчы паўтараю гэта.

# МЫ



## *Мікалай АЛЯКСАНДРАЎ*

### ВЕЧЕР В БРЕСТ–ЛИТОВСКЕ

Встретимся в Брест–Литовске
В саду городском, где клены
Роняют стрекозьи крылья
На клумбы петуний и роз.
Там бегает мальчик в матроске,
И метранпаж влюбленный
Арию Эскамильо
Насвистывает под нос.

– Ах, Александр Абрамыч! –
Слышно в окне буфета, –
Равенство ваше и братство –
Средство для простаков
Вместо клистира на ночь.
– Эка хватили, Федя!
Напрасно вы так, напрасно…
Ну–с, за паденье оков!..

Пальцы крошат лениво
Табак на льняную скатерть.
Мягкие перезвоны

Пробует Симеон.
Над непрочтенной“Нівой”
Вьется дымок“Дуката”.
Медленные вороны
Кружатся между крон.

Со стороны вокзала
Зов паровоза ровно
Тянется, отправляя
Пульмановский состав
В путь. А по небу ало
Заря разметалась, словно
Решив доплеснуть до Можая
Жаркий цыганский рукав.

Дробно по Миллионной
Пляшет копытный цокот –
Скрылся за поворотом
Легкой пролетки верх.
А метранпаж влюбленный
Вспомнит лишь узкий локоть
Да вспыхнувший Камелотом
Взгляда лукавый свет.

Вот и фонарщик рыжий,
Скаля веселые зубы,
Мотеле окликает
С лестничных эмпирей.
Мгла укрывает крыши,
Арки, афишные тумбы,
И мотыльки мигают
В горенках фонарей.

– А не пора ли, Федя,
Бросить все эти бредни

Да на десерт отведать
Сарвера синема?
Нынче блистает фея,
Сказывали намедни,
Сущая дива – эта
Мигом сведет с ума!..

Сад отдыхает в бусах
Бледной росы вечерней.
Чу! – соловей прибрежный
Соло ведет впотьмах.
Камнем застынь – любуйся
Жемчугом звездной зерни,
Высыпанной небрежно
В облачных закромах.

В окнах – покой и дрема.
Пыльные мостовые
Медленно остывают
После подошв и колес.
Все у нас нынче дома.
Покуда еще живые.
Покуда еще не знают,
Куда их поток унес…

17–18 сентября 2010





# *Іван АРАБЕЙКА*

## ЖАБІНКА

*Васілю Гарошку*

Дзень добры, мілая спадарыня!
Я, мабыць, некага здзіўлю,
Калі скажу без каментарыяў,
Без лішніх слоў: “Я вас люблю…”

Цябе не песцілі, не цацкалі.
Даруй, што нейкі самадур
Зляпіў такое заліхвацкае,
На лад заходні – Квакенбург.

Красою свету перапоўнены,
К табе й па сёння не астыў.
Ты – павадырка для паломнікаў
У знакаміты манастыр.

Калі мой край злавеснай раніцай
Бамбілі Гітлера сыны,
Ты многім збеглым схоў–прыстанішча
Дала у першы дзень вайны.

Дзялілася апошняй лустаю.
Жыла, як на калу ў віры.
Цябе ж я помню захалусную,
У звоне жаб і дзетвары,

І сквер, і статую з галубкаю,
І лозунг “Выканаем план!”,
Дзе прад вакзальчыкам аблупленым
Пампезна высіўся тыран.

Сваёй уладай задаволены,
Глядзеў сурова звысака
На люд галодны, зацухмолены,
На гвалт ля хлебнага ларка.

Я тую дзікую канкрэціну,
Відаць, да скону зберагу:
Бачок з вадой на табурэціне
І кварта – скарб! – на ланцугу.

Цяпер падпёрты сцены “маздамі”.
На ўсім адзнака чысціні.
І сам вакзал  – куфэрак казачны, –
Хоць стаў яго на далані.

З табой, як з еўрапейскай дзеўкаю,
Гатоў і Лондан падружыць.
Нібы ў элітным Перадзелкіне,
Паэтам тут утульна жыць.

Была жабоцькай, недарэкаю,
Ды ўраз царэўнай расцвіла.
Усе гарады раслі над рэкамі,
А ты да рэек прырасла.

Бягуць саставы мнагатонныя,
І ты, ускінуўшы руку,
Стаіш руплівая нястомная
На магістральным скразняку.

***

Жывуць жукі, жуюць жукі
Ў Пажэжыне у Жоры.
Жуюць, аж жах, як жабракі,
Інжыр, жамерыны, ражкі,
Жывіцу з жэрдзя, піражкі,
Зляжалы жвір і жарсцвякі,
Жэньшэнь жаруць абжоры.
З іржой жалеза, ланцужкі
Нажамі рэжуць удаўжкі.
Для жаб жукі не дружбакі,
Бо жлукцяць жур ружовы
І з лужын, і з зажоры.
Абжорства, кажуць, – крыж цяжкі.
Ляжаць на ложках, як бажкі,
Ды, жэўжыкі маржовы,
Жадаюць жыць, як мужыкі:
Заможна і ў мажоры.

***

Кутузаў, Ганібал і сам Цыклоп
Былі з кагорты аднавокіх.
Ды быў у кожнага высокі лоб,
Пры тым яшчэ і зрок далёкі.

***

Гісторыю штудзіруючы ўпарта,
У рэшце рэшт – адно, што я скумекаў:
Ад Каіна – Батыі, Банапарты,
Ад Авеля – Францыскі і Дамейкі.

## У ВЯНОК КЛАСІКУ

Між многіх форм літаратуры
Мне наймілей мініяцюры.
Паклон сардэчны Вам, Брыль Янка,
За жменю сонечных брыльянтаў.

## МІКОЛУ ПРАКАПОВІЧУ

Скажу не вельмі сакавіта:
Я – за кароценькія тосты.
У мёртвых – літары на плітах,
А у Міколы – на літоўцы.

## АЛЯКСЕЮ ФІЛАТАВУ

Каб быў бы лепшым белы свет,
А ў душах – мір і свята,
Нягодных правіць Філарэт,
А графаманаў–недарэк,
Вядомых, класікаў – Філатаў.

## АЛЕСЮ КАСКО

Ёсць тры паэты – тры на “К”:
Купала, Колас, Куляшоў.
Ды бракавала ім Каска, –
І вось Алесь прыйшоў.





# *Аляксандр АНЦІКЯН*

## АФГАНСКИЙ ОБЛОМ

Наверное, у каждого человека, а тем более носящего погоны, возникает время от времени настроение поменять обстановку и круто перестроить свою жизнь. То же случилось и со мной “на почве интернационализма”.

Недолго думая, придя утром на службу, я взял лист бумаги и стал писать рапорт на имя начальника Белорусского УВД на транспорте о направлении меня для дальнейшего прохождения службы в Афганистан.

Текст рапорта я помню как сегодня.

“Прошу направить меня в Демократическую Республику Афганистан для оказания помощи братскому афганскому народу по защите социалистических завоеваний.

Я, как гражданин и офицер, воспитанный родной Коммунистической партией и Советским правительством в духе интернационализма, не могу оставаться в стороне от этих событий и, если потребуется, готов не жалеть своей крови и самой жизни для выполнения поставленных задач. Прошу в моей просьбе не отказать”.

Только я закончил писать, как в кабинет вошёл мой сослуживец Толя Ш. и, увидев на столе рапорт, спросил:

– Александр, что это ты написал?

Я ответил, что хочу уехать в Афганистан.

Сняв с головы фуражку и бросив её на стол, Ш. выругался и сказал, что ему тоже всё надоело и он поедет вместе со мной.

Мы с рапортами в руках пошли к замполиту, который уди-

вился тому обстоятельству, что к нему пришли сразу два сотрудника розыска.
– Что случилось? – недоумевал он.
Мы молча протянули два рапорта. Замполит поочерёдно читал их, у него постепенно менялось выражение лица, и он удивлённо и растерянно смотрел то на одного, то на другого. Повертев наши“опусы”, главный идеолог отдела попросил нас возвратиться в свой кабинет, а сам стал накручивать телефон.
Минут через сорок он позвонил и попросил нас обоих зайти. Взяв себя в руки, мы с волнением и надеждой на отъезд предстали пред очами замполита и стали ждать, что он скажет. Посмотрев вначале на меня, он поинтересовался:
– По какой причине ты собрался ехать в Афганистан?
Я ответил, что причина указана в рапорте.
– А ты зачем хочешь ехать? – был вопрос к Ш.
– А не за что даже холодильник купить, – не найдя ничего лучшего, буркнул тот себе под нос.
– Что, что? Тебе не за что холодильник купить?
– Так точно, товарищ майор! Вы же мне его не купите?
И тут замполит произнёс замечательную фразу:
– Вот будет тебе пятьдесят лет, как и мне, и у тебя будет холодильник.
– А зачем мне в пятьдесят лет холодильник?
– Всё, хватит! – перешёл на крик замполит. – Сейчас ты скажешь, что у тебя и мебель разваливается. Никуда вы не поедете! Я не позволю оголять уголовный розыск! Сегодня одним захотелось в Афганистан, завтра другим в Эфиопию, послезавтра кому–то в Зимбабве!.. А кому работать?!
Выйдя от замполита, мы никак не могли придти в себя, а по отделу ещё долго ходили разговоры о том, как я хотел ехать в Афганистан исполнять интернациональный долг, а Толя Ш. – за холодильником.



# *Аляксей БЕЛЫ*

***

Замежны пазайздросціў бы мастак
Таму, што ў нас такі дзівосны край.
Тут і раней было амаль што так,
Пажарка, хвойкі, “Галубы Дунай”.

Было ў народа шмат цікавых спраў,
Трапалі лён і шылі з зрэб’я світкі.
А ў пажарцы бацька працаваў –
Тушылі бровар – вымак там да ніткі.

Быў кожны грыбніком і рыбаком.
Палессе... Тут балота больш, чым поля.
Заходзілі ў “Дунай” мы з сябруком
І кралі хлеб. Паўбохана, не болей.

Бацькі жылі няблага, ад зямлі,
У кубле сала, смачны мед у сотах.
Не скажаш, што галоднымі былі,
Але ж… Пасляваенная басота.

Так шмат было тады ў нас патрэб,
Хто з фінкаю хадзіў, а хто з кастэтам.
Таму і смачным быў нам гэты хлеб,
Пасля заняткаў скрадзены з буфета.

Усё было. У канавах – шчупакі,
У ашчадных касах – новенькія  грошы.
У навальніцу ў сёлах мужыкі
Разеткі “апраналі” ў галёшы!

О Божа ж мой, які няўмольны час,
Ссівела і злысела галава.
Даўно ніхто не пазнае тут нас,
Наш першы выпуск школы нумар два.

Я тут гадоў як сорак не жыву,
Усё перарабляюць тут старанна.
Даўно спалілі, знішчылі царкву,
У якую я хадзіў з бабуляй Ганнай.

Такое не асіліць аднаму,
Ды БССР была савецкай філіяй.
Вось і касцёл загналі ў турму,
Загарадзілі, быццам пасадзілі.

Другога выйсця, пэўна, не было,
Каб адсадзіць каталікоў ад храма.
Вось і забралі Богава жытло,
І нацягнулі дрот наўкол старанна.

Няма касцёла,  Божанькі няма?
І трэба, пэўна, іншым пакланяцца…
Цяпер там “зона”, там цяпер турма,
Далі ёй назву “УЖ пяць дроб пятнаццаць”.

…Ах родны горад, лёгкі крок і ўздых,
Адсюль вядзе ізноў кагосьці шлях.
А лепшы шлягер тут у маладых
Цяпер “Такая осень в лагерях…”.

***

Якое ўсё–ткі  рознае жыццё,
І па ахвоце ці не па ахвоце,
А адплываюць людзі ў небыццё,
Хто на лафеце, хто на эшафоце.
Але і ў гэтым, праўда, ёсць і спрэчнасць,
Бо на лафеце – не заўсёды ў Вечнасць.

***

Ад выспаў мы далёка адграблі,
За намі ўжо зачынены вароты…
Хто штормы сустракаў на караблі,
Той не баіцца кропкі незвароту.

***

Жнівеньскія страты...
Пакуль што не сонцам ахоплены ганак,
А месяц ад хаты наўзбоч.
Прачнешся ў чатыры – яшчэ не світанак,
Але ўжо, бадай, і не ноч.

На досвітку вецер спакой твой парушыць,
І ў свеце ты ўжо не адзін…
І лічыш, і лічыш, як падаюць грушы,
Пяць–шэсць за пятнаццаць хвілін.

І стук гэты – быццам  бы грому раскаты.
Няма ім ніякай цаны.
Вядома, такія вялікія страты,
Бо ўжо не даспеюць яны!

І трошачкі стане і сумна, і горка,
З чаго тут, скажы, баляваць…
А дзён так праз дзесяць пасыплюцца зоркі.
Ці будзе іх хто шкадаваць?



# *Лявон ВАЛАСЮК*

## СТАРЭЙШЫ БРАТ

Я даўно старэйшы
За свайго старэйшага брата.

Лепей бы ўсё
Заставалася назаўжды
На сваіх былых месцах:
Старэйшы брат і малодшы брат.

Я цяпер старэйшы за ўсіх,
Бо я адзін, бо жыву
Пасля бацькоў
І старэйшага брата.

Уся адказнасць
За лёсы блізкіх
Ляжыць на мне,
На маім сумленні.

Ды толькі ўжо ніколі
Я не стану такім,
Якім быў старэйшы брат:
У мяне не было і не будзе
Малодшага брата.

# КАЛЫСКА

Калыска
Падвешана бацькамі да бэлькі.
Плеценая з лазы,
З каранёў ядлаўцу,
Яна трымае пахі поля і лесу.

У калысцы мяне гадавала маці,
Старэйшы брат, дзед з бабуляю
І зрэдку бацька,
Калі прыязджаў
На выхадны дзень з горада.

Тою калыскаю, калі ўжо падрос,
Калі яна стала непатрэбнаю
Для калыхання,
Лавіў рыбу ў ставах і равах на балоце...

Пазней, калі прыахвоціўся
Да алоўкаў і фарбаў,
Маляваў яе неаднойчы
З цікавасцю і каб захаваць.

Даўно няма каго калыхаць
У той калысцы.
Хіба толькі глядзець на яе
І ўспамінаць маленства,
Сваіх бацькоў і дзядоў.

Глядзець на малюнак.

## АБЯРЭГ

Крыж моцна збіты,
Фарбаваны
Блакітам неба і вады,
Праменнем сонечным абліты,
Вартуе хаты і сады.

У час апошняе адлігі
Час пакаяння за грахі
Пад гэтым знакам настае...

А думкі кволыя мае
Плывуць, чапляюцца, бы крыгі,
За веснавыя берагі...

Ці абярэг мне дапаможа
У чорным покрыве ракі,
Магутны Божа?!

## КАМЕНЬ–ВАЛУН

Грэе мне памяць
Камень–валун
На ўскрайку балота...

Яго шырокая,
Цёплая “спіна”
Добразычліва
Прымала мяне,
Басаногага,
На сваю шурпатую
Паверхню.

Камень заўжды
Служыў для людзей
Маяком, абярэгам
І суцяшальнікам...

Асушылі балота.
Не стала і каменя–валуна.
Мусіць, яго закапалі
Там, дзе ляжаў.

Іначай чаму ж так прыцягвае
Гэта мясціна?

## ЧОРНЫ ТРОХКУТНІК

Чорны трохкутнік
Суправаджае мяне
Па жыцці з маленства...

Чорны трохкутнік
Нясе мне радасць і пакуты,
Смутак і трывогу...

Чорны трохкутнік
Болей значны
За чорны квадрат...

У чорным трохкутніку
Адчуваеш сябе
Больш трывожна і адказна...

Чорны трохкутнік –
Дарога ўначы
Ад парога да небакраю...



## *Кастусь ЖМІНЬКО*

### ПЯЕ САЛАВЕЙКА

Прыжмуру павекі:
Ад веку да веку
Пяе салавейка
Свой лёс чалавеку.

Паслухаю песню –
І з ім засумую,
І радасці весняй
Я покліч пачую.

Пяе салавейка
Пра лёс і пра долю.
Спявае пра тое,
Як добра быць вольным.

У царстве птушыным
Высокага чыну
Сваёй салавейцы
Пяе пра Айчыну.

### РАКА

Баюся – высахне да дна,
Ў апошніх сутаргах заб’ецца,

І нават птушка не нап’ецца
На чэрані гарачай дня.

Хто хуткі бег яе спыніў?..
Замест глыбіняў – твань гнілая.
Пястун, залатаносны жвір,
Аслізлай коўдрай пакрывае.

Не б’е пярун у цвіль–брады,
Жыццё ледзь цепліцца пад глеем...
Ратуйма рэчку, бо знямее
Зямля без чыстае вады!

## НА ЭЦЮДАХ

Кветка белая на цёмным...
Ад здзіўлення не стрымацца.
Свой урок мастак паўторна
Дасць увішнаму падмайстру.

Супакоіць добрым словам:
– Пажыві з маё на свеце!
На прыпынку каляровым
Дамалюе жоўты вецер…

Лес і лёс – усюды фарбы.
Палатно гучыць нібыта.
Мастакі – таксама барды,
Хоць за іх пяе палітра.

## ІРАНІЧНАЕ

У каго гарачы ранак
Здыме тры дзесяткі год,
Дык ацэняць за “стараннасць”

Чаркай–шкваркаю таго.
А другому вока ў вока
(Крыўдна ўсё ж такі, сябры,)
“Племя Евіна” з папрокам:
“Памаўчы, бо ўжо стары!”

Ох, і мы вадзілі ў жыта,
Канюшыну і гарох!
Што цяпер? Скажу адкрыта:
“Так, ні кудла ні бульдог”.

## ВЫЙСЦЕ З КРЫЗІСУ

Што нам крызісу баяцца!
Не журыся вельмі, браце.
Дулю мы яму пакажам:
Штонікі шчыльней падвяжам,

Набяром мяшок мякіны,
Накапаем добрай гліны,
Шчэ таго–сяго далучым –
Атрымаем кіт ліпучы.
Шчыліны заканапацім –
Будзем жыць
Кратамі ў хаце.





## *Вадзім ЖЫЛКО*

* * *

Сохранила судьба лишь фрагменты минувшего лета,
Словно бусинки рос на просторах зелёной травы.
Остальное уплыло, исчезло, развеялось где–то
В пересудах и спорах, в пустых лабиринтах молвы.
Да, известны давно нам обоим всё те же узоры…
То вперёд, то назад – разве можно куда–то свернуть?
Почему же опять перед мысленным взором,
Как кассета, проходит всё тот же изученный путь?
Это замкнутый круг? Но зовут к горизонту зарницы,
Насмехаясь над мирным теченьем размеренных дней,
И мы видим: всё те же, до боли знакомые, лица,
Неподвластные времени, стали милей и родней…

* * *

Повстречались – уже  чужими.
Разминулись – с  небрежным“здрасьте”.
Не назвали друг друга по имени –
Отголоску былого счастья.
Юридически и фактически
Всё окончено – хватит, баста!
И зачем срывать“героически”
С заживающей раны пластырь?
Ведь судьба всё сама решила –
Так какой же спрос с индивида?

В общем, глупо растрачивать силы
И лелеять всё ту же обиду...
По ступенькам, к чьему–то призыву,
Поднялась ты поступью прежней,
Оставаясь такой же красивой,
Равнодушной и безмятежной.
Позабыты любви“пароли”...
Остаётся стоять, как ребёнку,
Собирая остатки воли,
Чтоб не глянуть тебе вдогонку...
Повстречались – уже чужими.
Не друзья, не враги – пешеходы.
Не назвали друг друга по имени —
Проявленье ненужной свободы...

* * *

А финиш – всё ближе,
А берег – всё дальше
(Не тот, что последний,
А тот, что без фальши).
Погоня за счастьем?
О чём разговоры!
Сменились молчаньем
Бесплодные споры...
Рискнёшь продолжая?
Захлопнешь тетрадку?
Всё те же слова
Разместишь по порядку?
Опять марафон
Расстилает дорогу...
Вот только узнать бы –
К какому порогу?
Расплывчатость чувств –
И эмоций конкретность...

Вчерашний кумир?
Пустота, неприметность!
А планка всё выше,
И берег – заметней
(Не тот, что без фальши,
А тот, что последний).

* * *

Перрон переполнен опять,
Как чаша, судьбы терпением...
Попробуй вас, женщин, понять,
Составить верное мнение!
О лете я слышу рассказ –
Романтика горных склонов...
Но тенью скользнуло меж нас
Дыханье иных сезонов.
О доме с улыбкой слова –
Свеча и город вечерний...
И ты, безусловно, права,
Что смех тебе ближе дочерний.
Дежурно беседа течёт,
Вокруг багажа переноска.
От ветра тебе почёт –
Опять разметал он причёску.
Хорошее видишь во всем?
Усталость? А может быть, старость?
Шучу – запрещённый приём! –
Нам пару минут лишь осталось...
Ты – белая птица судьбы
(Под стать цветовой своей гамме).
Не будет борьбы и мольбы...
Твой поезд – финал по программе.

* * *

Безоттеночный мир,
Чёрно–белые грани...
Твой вчерашний кумир
Не оценит стараний.
В путь по лаку доски
Отправляются пешки,
Но в душе игроки
Затаили  усмешки...
Нет, не радостно им
В серых дебрях расчёта,
Их бесстрастность – как  грим,
Как спасенье – работа...
Им придётся играть
День и ночь, без обеда.
Только станет опять
Пораженьем – победа.





# *Алесь КАСКО*

## СПАДЧЫННЫ САД

Падаюць яблыкі. Яблыкапад:
сіла зямлі пакідае мой сад.
Скочваннем звілістым ці стрымгалоў
яблык за яблыкам – з голля далоў.
Горкі, падгнілы або сакаўны –
паданак падае ў пыл, палыны…

Атарапеласцю – смутак двара:
яблыкам падаць яшчэ не пара;
ім налівацца было б самы раз –
не ля варот яшчэ яблычны спас.
Гнуцца галіны ў суседніх садах,
моцны, крамяны, мядовы там пах,
рала з антонамі цяжкімі прут
гордым атлантам трымае. А тут
падаюць яблыкі. Яблыкапад
губіць адзіны радзінны мой сад.

Вось–вось пачне шорстка падаць лісцё,
ліст абляціць – і застыне жыццё
не на зіму, ды і не на гады:
саду майму не вярнуцца сюды,
як не вярнуліся продкі мае…
Сад мой бязлюдны, час наш настае!

Голля, бы рук, не заломвае сад,
свеціць з паўзмроку ягоны пагляд
зрэнкамі яблык з–пад веяў–лісця:
жаль у ім ёсць, ды няма страхацця.
Зведаў пад бурамі ён, што і ў дрэў –
час толькі свой, хоць знянацку заспеў.
Дык і сыходзіць (і я разам з ім)
яблык за яблыкам – крокам глухім.
Ціхі, без ляманту яблыкапад…
Дзякуй за еднасць, мой спадчынны сад.

## НЕДАЖЫН

Як бы доўга ні жыць – не дажыць
да канца… Зноў і зноў паўстае перад намі
грыўка спелых жытоў – недажын,
што асыплецца ветрам, прыб'ецца дажджамі.

От бы ўсё – ад зярнят да расы –
зберагчы і напоўніцу ўсім наталіцца!
Дакахаць, дапісаць… Папрасіць
даравання ва ўсіх, з паміраннем змірыцца.

Зручны быў бы няношаны ўбор,
і пачулі б анёлы, схілёныя нізка,
што гучыць літасціва не хор
адпявальны – то маці пяе над калыскай.

О, каб гэтак! Але да мяжы
часу меней нашмат, чым да зжатага жыта.
Можна загадзя ўпасці, не жыць…
Ды з таго і жывем, што жывем недажынам.

# ЗАБЫТЫ ВУЛЕЙ

*Міколу Папеку*

Скочваецца лета спелымі яблыкамі
па даху вулля, такога ж поўнага,
бы яблыкі, бы зямля гэтым летам, –
і цёплая ў меру, і ў меру вільготная.
Соты акругліліся, набухлі мёдам,
вось–вось рамкі свае разамкнуць,
вось–вось дашак, бы вечка, сарвуць
і расцякуцца залацістым цестам.

Мёду ўсё больш; ратунку ўсё менш для пчолаў,
народжаных не спыняцца ў працы,
падахвочаных ненаежным чалавекам.
Забыты вулей чакае яго, непамятлівага,
рызыкуе лопнуць распёртаю дзежкай…

І спаўзаюцца трутні, наталяюцца мёдам,
кладуцца ў пасцелі свае мядовыя
і чухаюць лапкамі поўныя чэравы,
каб зноў спахапіцца ды ўзяцца за ежу.
Не менее мёду між тым, і няма паратунку:
зацятыя пчолы не могуць спыніцца,
не могуць абярнуцца ў трутняў.

Збіраецца ўрэшце пчалінае веча,
гудзе і гудзе да позняга вечара,
а ўранку ўвесь рой (нават трутняў лянівых)
каралева матка збірае на пошукі
новага, пакуль што не занятага вулля.

## КРАЯВІД

Чужы для бязлюднага краявіду,
пазіраю на попельнае поле,
дзе вугольчыкамі
тлеюць забытыя бульбінкі,
дзе стырчакі сланечніку
спрабуюць падвысіць смугу,
нібы ўсё яшчэ шукаюць
сонца… Яно
ўжо даўно пад імі –
зжоўклымі скарынкамі гарбузоў,
лісцем голых кустоў і яблыняў.
Чужы для бязлюднага краявіду,
заўважаю, як многа
пакінутых тут “крыжоў” –
маркотных агародных пудзілаў, –
і нясмела, бы ўлетку,
над імі кружляюць вароны.
Хоць бяры ды і сам
шырока растапырвай рукі –
дапасоўвайся
да бязлюднага краявіду.

## АПАТЫЯ

Сягне радок у сон твой душны
і змусіць сэрца затрымцець,
і ўзбудзіць кроў, і горла здушыць,
але – не дужа, не насмерць.

Для заваконня ён – не ў знаку:
там час глухі, ці плач, ці спеў…
З душы сарвеш яго, вужаку,
каб без надзеі не шчымеў.

Не ўважыш, што ён схоў, ахова,
што, бы акраец жабраку,
шанц акрыяць дарue мова
ў табой адпрэчаным радку.

Ён скурчыцца, спадзе бязгучна
па той бок чыстага ліста –
тады спаўе і стане мучыць
паўзучым гадам пустата.

Дарма пачнеш вышукваць словы,
душу і розум тармасіць:
верш незалежны, выпадковы
сябе не дасць уваскрасіць.

## З КУТКА НЯМЕЧЧЫНЫ

Тут, у Нямеччыне,
у цесным кутку Гельмштэта,
я дыхаў свабодаю;
бяру я адсюль па жменьцы
паветра і сонечных промняў,
усмешак і слоў –
каб там, куды вяртаюся,
відушчай зірнулася
і сказалася годна: годзе –
годзе жыць з перакручаным горлам
там, на радзіме,
адкуль у вандроўку не ўзяў
свабоды ні жменькі.

# УСХОДНІЯ СУСЕДЗІ

1

Яны выйшлі з варагаў,
перамяшаліся з чынгісханамі,
спарадзілі жахлівых, ермакоў, пугачовых.
У ботах пятроўскіх,
папыхваючы каўказскаю піпкаю,
прайшлі паўшара Зямнога.
Што край мой на іхняй карце?
Абшару малюсенькі ўскраек.
Яшчэ не ўтаптаны ў дарогу хлеба акраец.

2

Далятаюць весткі –
зноў яны ў паходзе,
спадкаемцы неўтаймоўных ваяроў, –
гэтак часта,
што бянтэжымся: на ўсходзе
ці зара,
ці зноўку зарыва і кроў?





# *Валянціна КУКСА*

## ПРА АЙЧЫННУЮ ВАЙНУ, І НЕ ТОЛЬКІ

Наша хата стаяла ў лагчыне паміж Днепра–Бугскім каналам і ручаінай, якая выцякала з балота, агінала жытло і ўпадала ў канал. Увесну разлівалася так, што ўсё навокал было пад вадою. Як у хаце яе не было – не ведаю. А можа, не помню, бо ратаваліся ад холаду на маленечкай печы, куды нам мама падавала лусту чорнага самапечанага хлеба, злёгку пасыпанага цукрам. Цяпер цукру такога няма. Сёння ён называецца пясок, і такі дробны, мала што ад мукі адрозніваецца, а тады пясчынкі былі буйныя і саладзейшыя.

Калі ж спадала вада, мы злучаліся з вёскай. Там і школа, і магазін, і пошта, і клуб, і паўразбураная царква, а кіламетраў за тры – амбулаторыя. Дзіўна зараз думаць–гадаць: і чаго не ў самой вёсцы, дзе двароў за дзвесце, а там, дзе жыло сямей з пятнаццаць? А ўсё таму, што на маляўнічым беразе канала доктару пабудавалі ладную хату, а пры ёй – амбулаторыю. Бывала, з навакольных вёсак папрыходзяць людзі, а хворыя ды старыя пасядуць у калідоры і чакаюць. Выйдзе медсястра, дасць кожнаму тэрмометр і скажа:”Пастаўце пад мышку і чакайце” – і за дзверы. Неяк адна бабуля з далёкай вёскі за той тэрмометр, пад руку і – дадому. Праз колькі дзён прыйшла зноў у амбулаторыю, дачакалася медсястры, аддае ёй тэрмометр і нейкі ласунак, загорнуты ў латачку: ” Ох, дохторко, дзякуй табе за лякарство, любая, дапамагло, акрыяла і так добра мне цяперака, ніц не баліць”.

Медсёстры хадзілі па навакольных вёсках і рабілі прышчэпкі дзецям ад воспы, туберкулёзу і давалі маленечкія салодкія таблетачкі ад зобу. Ад туберкулёзу многія паўміралі на маёй памяці, а што такое зоб – ніхто не ведаў. Людзі з нашае вёскі

на яго не хварэлі. Зараз я ведаю, чаго так грукаталі самалёты над пастбіскам, здавалася, разваліцца зямля. Гэта за Пінскам стаялі ракетныя ўстаноўкі. А нам за радасць знайсці на пастбіску рульку фальгі, якую скідвалі з самалётаў, за радасць з'есці салодкую таблетачку… З фальгі мы рабілі сабе "залатыя зубы". Адрывалі ад рулькі кавалачак, прыціскалі да пярэдніх зубоў і прысмоктвалі. Так прыгожа было.
І прасілі яшчэ адну таблетачку, але нам не давалі. Доза – адна таблетка.

Многае памятаецца як у нямым кіно. Відаць, памяць зрокавая мацнейшая за слыхавую, бо больш слухалі, чулі, ды не разумелі. Сёння гавораць пра былое, гэта пра Савецкі Саюз. А тады за сталом – пра вайну, пра Сталіна ды Хрушчова. Я чамусьці памятаю дзень, калі памёр Сталін, адчуванне трывогі, страху, схаванай тайны і ціхай скупой радасці, што панавала паміж людзьмі. Так ужо павялося, што збіраліся людзі ў хаце майго дзеда, потым – у бацькавай. Усё гэта таму, што род мой здатны да любога таленту. У іх і музычныя інструменты, і кузня, і рукі да любое працы, і галава не на вошы, як любіла паўтараць мама, вось хата і не пуставала. Для мяне гаворка–роспавед тых людзей – дык лепшыя кніжкі.

Першае пра вайну, ад чаго спалохалася, я пачула ад мамы. Ішлі мы з ёю на Залессе, на хутар, дзе засталася вялізная хата маёй бабы Альбіты, а тады жыў дзядзька Мікалай. У гэтай хаце я і нарадзілася на пятым годзе пасля той страшнай вайны. Ішлі мы жытнім полем, па дарозе, паміж хмызнякоў. Дарога абмінала сажалку і тры таўшчэзныя таполі, непадалёку ў жыце завіднеўся крыжык, а на ім фартушок і невялічкая птушачка.

– Мамо, што гэта за могілкі?

– Тут хата была. Жыла сям'я. Тут і поле іхняе было. У вайну прыйшлі немцы ў хату і пастралялі ўсіх. І дзетак, і маму іхнюю, яна за кроснамі сядзела, ткала. Дык родзічы і заспелі іх у хаце пасля расстрэлу: дзеці на падлозе, мама іхняя за кроснамі. Тут не могілкі, а толькі магілка.

– Чыё ж цяпер поле?

– Калгаснае. Абворваюць магілку.

Я не ўзлюбіла немцаў, нейкіх злых людзей, якія прыехалі забіваць людзей.

– За што яны іх пастралялі?

– Маленькая ты яшчэ, партызанаў шукалі, вось і пастралялі.

– А хто такія партызаны?

– Адчапіся… Расці во, і каб вайны болей не было.

Мне так занудзіла тады недзе пад грудзьмі, так страшна было, здавалася, што зараз з лесу выйдуць пачварныя немцы і пастраляюць нас з мамай.

Над полем захлынаўся жаваранак, і яго песня супакойвала.

Пазней я гэтай дарогай хадзіла ў школу–дзесяцігодку ў суседнюю вёску, але магілкі ўжо не было. Крыжык спрах, а поле засеялі скрозь. І па магілцы.

– Мам, а там, дзе магілка была — збажына расце? — неяк сказала я маме, прыйшоўшы са школы.

– Каб усе магілы з вайны зберагчы, то і сеяць месца не будзе. Гэтулькі пастраляных ды папаленых і хутароў, і цэлых вёсак.

Ды ў мяне ўжо не было нянавісці да слова “немцы”. Праўда, у школе на ўроках гісторыі нас вучылі цвёрда разумець, што ёсць белае і чорнае, а на вайне – свае і ворагі. Свае – гэта ўся мая краіна, а чужыя, ворагі – немцы. Усё яшчэ – немцы.

Суседзямі нашымі былі людзі, якіх называлі “адзіналічнікі”. У вёсцы іх было дзве сям’і. Яны так і не запісаліся ў калгас. Поле дзеда Сцяпана з бабай Оксэнькай было адгароджана ад нас моцным плотам: тоўстыя слупы, а на іх нацягнуты калючы дрот у шэсць пасаў. Багаты садок, гумно, хлявы, авечкі ды гусі – усяго ўдосталь. Яшчэ з–за таго часу, да калектывізацыі. І было ў іх дзве дачкі, а сын загінуў у вайну на фронце. Баба Оксэнька выплакала вочы, нажыла слепату, але вязала рукавіцы і шкарпэткі з воўны, якую сама напрадала па памяці. Я любіла бегаць да яе праз густы бульбоўнік, які хаваў мяне з галавой. Бабуля адчувала, што я прыйшла, па лаве, на якую я ўскоквала, каб сесці, і тады пачынала расказваць пра Бога і пра тое, як яны былі ў бежанцах яшчэ ў “тую вайну” і як жылі ў гэтую.

– Немцы ў сяло прыйшлі, чутка па людзях, што сёлы папалілі, пастралялі, страшна, а тут дзверы з сяней адчыняюцца, я дзевак сваіх – на печ і пазакідала кажухамі. Сядзіце, кажу, і не шыкайце! А тут і немец на парог з ружжом. Пералякалася так, што слова вымавіць не магу. А ён такі знебарачаны, паказвае на печ і махае рукамі, а я нічагусенькі не цямлю, але страх бы астаўляе мяне. Вымае немец з кішэні шакаладку, дае мне і паказвае на печ. Я азіраюся, – дзеўкі мае цікуюць за намі. Як зашваргоча той немец нешта, потым чатыры пальцы паказвае, і чую ўсё “фір кіндэр, фір кіндэр”, і плача, і паказвае рукою кудысь туды, туды… Потым закінуў ружжо глыбей за

плечы, нешта зноў замахаў рукамі і пытае: “ Алес кіндэр? ” А што я магу яму адказаць? Што сына паклалі на вайне? За што? І чаго гэты немец сюды прыйшоў? Каб сына майго забіць? За што? За што? Але, думаю, чаго ён плача? Адважылася і запытала па–польску:”Пан мае дзяток?”, і ён радасна заківаў галавой: “ Так, так! Я хцэ з поўротэм…”

– От, дзіцятка, мае быць не трэба і яму сюды хадзіць вайной, але куды ж ты, не паслухае, то і яго застрэляць… Я ж не магла не пусціць свайго сыночка на вайну, хто мяне слухаць будзе? Доля яго такая, забітым быць, альбо на вайне, альбо свае, як непаслушніка. От і выгадавала на смерць, такога маладзенькага… А хто з вайны прыйшоў – то без рукі, то без нагі, то душой хворы – усе калекі.

Праз гады я і ўспомніла бабулін роспавед пра вайну і немца і зрабіла для сябе яшчэ не зусім ясны вывад: не, не немцы вінаватыя, што адбылася вайна, у якой загінула столькі людзей.

А – ХТО?

Адказ прыйшоў ой як няхутка.

***

На Днепра–Бугскім канале быў паром. Вельмі неабходны пад час сенакосу. З–пад рэчкі Піны, дзе быў багаты поплаў і куды не пускалі да пакосу пасвіцца статак, вывозілі сена вазамі і перапраўлялі цераз канал паромам. Летам канал мялеў, і паром не даходзіў да берага, станавіўся на мель. Таму коней пераправўлялі ўплаў, а вазы з сенам – паромам. Мы, малыя з усяго хутара, садалі верхам на каня і плылі на другі бераг. І я разам з усімі. Помню, конь такі высокі, што не дастаць рукамі да яго спіны. Дзядзька падсаджвае мяне, дае лейцы, і я кірую да вады. Мужчыны крычаць на дзядзьку:”Куды ты яе садзіш?! Конь малады, неаб’езджаны… Скіне, холера б цябе!” – але я не баюся. Саскочу з каня яшчэ ў вадзе, а дзед Даніла, паромшчык, забярэ яго і вывядзе на сушу. Калі ж выплылі на сярэдзіну вады, я азірнулася і бачу, што ідзе параход і цягне гружоную баржу. Здаецца, вось–вось дагоніць і змеле мяне вінтом разам з канём. Нехта крычыць:”А ты яго бакі нагамі сцісні!”. Я сціскаю нагамі каню бакі, і ён разам са мною хаваецца пад вадой. Дастае да самага дна, штурхае моцнымі нагамі дно і выскоквае з вады ледзь не да самага пуза. Я забываюся ад страху на лейцы, і конь ідзе самапла-

вам уздоўж канала. Ну, думаю, канец. Але ж нацягваю мокрыя лейцы, і конь скіроўвае да берага. Усё ж з перапуду я забываю саскочыць з яго ў ваду і выбіраюся на бераг. Божа! Так высока! І іншыя коні падыходзяць блізка, выскерваюць жоўтыя доўгія зубы, здаецца, вось–вось заглынуць мяне ўсю. Але падыходзіць дзед Даніла, сплёўвае праз маленькую і мокрую дзірачку замест рота, нешта шапялявіць і бярэ мяне на рукі, здымае з каня. Рот у паромшчыка дзеда Данілы такі ад ранення разрыўной куляй у сківіцу. З правага боку яна як вузельчык, на фронце ў палявым шпіталі яму пазашывалі, што маглі, пакінулі вось гэтую дзірачку, і дзед жывы застаўся.

Бывала, сядзяць дзядзькі ў нашай хаце за сталом у святы, ці тады, калі паром стаіць на прыколе, дзед Даніла ўвальє ў тую дзірачку гарэлкі, увапхне кавалачак мякіша і жуе–лямае. Мужчыны неяк і папыталі, як ён атрымаў раненне.

– А што ж я? Палягло колькі! От, як жыта жнуць і снапы на полі, вось так і салдатаў,– пачаў стары. Маладыя, што там – па сямнаццаць–васямнаццаць гадоў! Перад боем па сто грамаў спірту, відаць, каб не так страшна было і “Вперёд! За Родину! За Сталина!”. Божухна, такі страх, кулі толькі “жвіў–жвіў” каля вуха. Галавы не падняць, здаецца, у зямлю закапацца – і то застрэляць. Асабліва жудасна было, калі немцы з самалётаў скідвалі нейкія бочкі. Гуло так, што неба і зямля зліваліся ў адзін гук. Сэрца не выносіла, і некаторыя не вытрымлівалі і беглі назад. А там з аўтаматамі ланцуг ваенных і “тра–та–та”! Расстрэльвалі. Вот і бяжыш уперад. Альбо – пан, альбо – прапаў. Там мяне і злавіла куля. Пехацінцам я быў. Ну і слава Богу, хоць жывы застаўся.

– За раненне і знявечанасць – “дзякуй Богу”?– думала я пасля, ужо падлеткам.

Дык пры чым тут немцы? Назва гэтаму – фашызм. А фашызм дзе заўгодна нараджаецца. Асабліва там, дзе не могуць падзяліць ні зямлю, ні яе нетры. Ці выпрабаванне зброі: хто першы прыдумае такое, каб найбольш людзей знішчыць. Альбо клятая ідэалогія: мы – мацнейшыя, значыць, мы – лепшыя.

Прайшло шмат гадоў, многа перачытана пра вайну і мастацкай літаратуры, і навуковай, і той, якая лічылася забароненай і строга сакрэтнай, і мне хочацца зноў звярнуцца да прыкладаў жывых сведкаў.

Неяк на дзень Перамогі запрасілі мяне на сустрэчу з

ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны. І чую, як адна жанчына шэпча другой:

– Ідзі, раскажы пра свой медаль “За адвагу”.

А тая, другая, адпіраецца, не хоча і сарамліва хаваецца за спіны іншых.

– Ну, што ты! Такая сціплая, ідзі…Вось, Манечка раскажа пра свой медаль. Ідзі!

І жанчына пачала расказваць… Доўга ў маёй памяці стаяў пагляд яе стомленай душы. Не! Не гонар свяціўся ў яе вачах! І геройскай радасці не было. Было нешта іншае. І вось што я пачула.

Кухарка роце кашу раздавала. Чарга вілася змейкаю. Сярод усіх стаяў хлапчына ў нашым шынялі, у пілотцы з зорачкай чырвонай. Ён позіркам вачэй галодных сачыў за порцыяй чарговай, трымаў свой кацялок знясіленай рукою. Маўчаў. Кухарка падазрона акінула ўсю постаць юнака, пагрозліва сказала:

– А ты – не наш! Ты – чый?

– Ты хто?

– Чаго маўчыш?! – і іншыя заштурхалі ў бакі хлопца.

– Іхь вілле эссэн, – шапнуў юнак, а — прагучала громам! Пачулі слова, стала ясна – вораг! Нядоўга думала кухарка: па галаве – хрась чарпаком!

ГАЛОДНАГА. ЧУЖОГА.

У салдата падкасіліся ногі. З рук выпаў пусты кацялок. З ілба спаўзла пілотка, адкрыла юны твар і жылку сінюю на скроні, якая знерухомела ад болю…

– Адкуль ён тут? І ў нашай форме…

– Напэўна, ён разведчык.

– А можа, дэзерцір? – запознена адгадвалі салдаты.

– Але ж малады, як мой сыночак…

– І ў мяне быў брат, таксама малады. Мы з ім у чэрвені, якраз перад вайной, касілі… Можа й іх даўно пабілі?.. – душой скрываўленай крычалі людзі ледзь чутна, для сябе, а голас драў нутро, ірваў ім грудзі: ВАЙНА НЕ НАМ!!! Ды і чужы салдат сюды прыйшоў не сам – такі загад ён атрымаў. А перад загадамі вар’ятаў мы ўсе без волі – такая доля!

Ды на вайне яшчэ адзін загад, гуманны да вар’яцтва: кухарку – ці то яна сястра, ці маці – узнагародзіць трэба за смеласць ЗАБІВАЦЬ! І ўсё астатняе жыццё ёй тое трэба памятаць. І памятае! Цяпер яна – і маці, і сястра, — нясе свой грэх, нявыка-

заную скаргу – медаль з вайны… Медаль той – “За адвагу!”
…Аказваецца, першая навагодняя ёлка была законна – рашэннем Саўнаркома –пастаўлена ў Крамлі. Тым самым і астатні люд мог ставіць ёлку ў сваіх дамах. Помню і я чароўныя вечары пад Каляды. Мы сядзелі за сталом са старэйшай сястрой і клеілі ланцужкі з паперы, газет, вокладак са сшыткаў альбо фарбавалі лісточкі каляровымі алоўкамі, рэзалі на палоскі і склейвалі колцамі. Атрымоўваліся ланцужкі. Імі ж і ўпрыгожвалі ёлку. А яшчэ мама пякла пышкі. Іх мацавалі доўгімі ніткамі і вешалі на галінкі. Пышкі былі прэсныя, але пахнелі цёплым духам. З ёлкі пышкі дзялілі тады, калі ўжо разбіралі. Сачылі адзін за адным, каб хто не зняў хоць адну раней. Прыходзілі і суседскія дзеці. І Мікола, суседаў сын, затрымаўся дапазна, а на раніцу ўгледзелі, што адной пышкі няма. Доўга вялі следства паміж сабой (а нас было пяцёра дзяцей) – хто ўкраў пышку.

А яшчэ ў краму прывозілі шкляныя цацкі і кардонныя, абклееныя фальгой. Здавалася, што цацкі царскія. Са шкляных памятаюцца шарыкі, шышкі, хаткі і ліхтарыкі. А на кожным баку ліхтарыка – літары. Некаторыя з іх я ведала, але прачытаць яшчэ не ўмела. Дапамагла сястра.

– Тут напісана “ПЕКІН”,– гаварыла яна з націскам на КІН.

– А што такое ПЕ–кін? – пытала я з націскам на ПЕ.

– Пекін – гэта сталіца рэспублікі Кітай.

Так і пачаліся мае веды аб геаграфіі, цікаўнасць да іншых людзей і свету, а цяпер думаю яшчэ вось пра што. Палітызацыя і ідэалагізацыя – скафандр, у які заціскалі змалку: недзе далёкі Пекін, недзе ворагі сацыялізма, недзе немцы, якія распачалі вайну і забівалі нашых людзей, а тут, блізка, ёлка, на якой палічаныя пышкі…

Даводзіцца чытаць лекцыі на тэму выхавання нацыянальнай самасвядомасці. Не падабаецца мне такая тэма. Чаму? Бо за семдзесят гадоў давыхаваліся да таго, што нацыянальны гонар свядома ці падсвядома ператварыўся ў нацыянальную варожасць, антынацыянальную годнасць, якая параджае войны. Праўда, пры дапамозе яшчэ аднаго паняцця – інтэрнацыяналізм. Мы – найлепшыя, мы – найразумнейшыя, мы – … Ды ўсе людзі аднолькава і разумныя, і добрыя, і …

Колькі б вякоў ні прайшло аж з тых, што былі да н.э., і сёння, і пасля нашых і нянашых эр ЧАЛАВЕК хоча цяпла,

зычлівасці, кахання, хоча быць сытым… І не важна, якой ён нацыі. Іншая справа, што людзі, якія жывуць на пэўнай тэрыторыі, маюць свае звычкі, традыцыі, багацце і на зямлі, і пад зямлёй.

У прадмове да кніжкі французскага пісьменніка Эдуарда Шюрэ “Великие посвящённые” ёсць вельмі цікавая думка: характар кожнага народа адпавядае рэльефу таго месца, дзе ён паселены. Калі гэтаму верыць, то сапраўды, хіба вінаватыя мы, беларусы, у тым, што нам надаецца характар талерантных, цярплівых. А людзі, якія жывуць на поўначы – яшчэ спакайнейшыя за нас. Тады, чым далей на поўдзень, дзе спёка і гарысты рэльеф, і людзі –“гарачыя”. Адсюль і манера жыцця і традыцыі. Вось каб навучыцца паважаць адзін аднаго, шанаваць звычкі кожнага. Але перш за ўсё трэба навучыцца шанаваць сваё, тады і чужое умецьмеш паважаць. Тады б стварылі людзі такую ПРАСТОРУ ЛЮБОВІ, дзе б не было ворагаў, зайздроснікаў, фашызму, войнаў, грэхападзення. Калі б людзі навучыліся любіць бліжняга, як самога сябе, – такая ПРАСТОРА ЛЮБОВІ стварылася б сама па сабе. Тады б адпала і патрэба спрачацца аж да бойкі – дзе ставіць помнікі і каму.





# *Уладзімір ЛЕБЕДЗЕЎ*

## ПЕСНЯ ДЛЯ СЯБЕ

Зіма. Адліга. Гастраном амаль у цэнтры горада. У калідоры і ўсцяж на лесвіцы, якая вядзе на другі паверх, лужыны бруднай вады.

Прыбіральшчыца, жанчына сярэдніх гадоў, збірае ваду шырокай анучай у памыйнае вядро і напявае сама сабе, як гэта звычайна робяць пры добрым настроі. Калі прыслухацца, то можна ўлавіць знаёмую мелодыю: ” Мільён пунсовых ружаў”. Паэтычныя пунсовыя ружы – і шэрая ануча, снежна–пясчана–вадзяная жыжка, якая ўвесь час хлюпае пад нагамі пакупнікоў… Многія з іх запавольваюць крокі, некаторыя спыняюцца, здзіўлена касавурацца на спявачку. Яна, аднак, ні на кога не звяртае асаблівай увагі, па–ранейшаму рытмічнымі рухамі збірае халодную ваду швабрай, адціскае рукамі важкую анучу ў вядро і пацiху агучвае мелодыю песні, якая так палюбілася ёй.

На душы ў жанчыны нейкая, невядомая іншым, радасць, сваё сапраўднае свята. Песня гучыць зусім не так, як гэта часам бывае, калі чалавеку няма чым заняцца. Яна – як выяўленне таго душэўнага стану, калі пачуцці нельга стрымаць і яны самі вырываюцца з сэрца. Гэтаму зусім не замінаюць ні брыдкая зімовая адліга, якая нарабіла столькі клопатаў, ні брудная ануча з амаль ледзяной вадой, ні здзіўленыя позіркі наведвальнікаў–пакупнікоў гандлёвай установы на ажыўленай гарадской вуліцы.

19.12.2009

## ДОЖДЖ У ПАРУ – ШТО ЗОЛАТА

Касцы час ад часу пазіралі на неба, якое паступова пачынала

хмурыцца, цямнець, гарбаціцца хмарамі. Пакрысе зацярушыў лагодны, дробны дожджык.
– Які ні дажджышка – ды ўсе–такі аддышка, – гарэзліва выгукнуў малады хлопец Хведар і сам весела засмяяўся.
– Не кажы так у касавіцу. Даўно вядома, дождж прайшоў – расу зрабіў, касі каса – пакуль раса, – аспрэчыў яго Віталь–брыгадзір.
– Дождж часцей ідзе не там, дзе ждуць і просяць, а там, дзе жнуць і косяць, – прыгадаў народнае назіранне дзед Васіль.
Мужчыны адзін за адным пацягнуліся да маладога, з густой шапкай лістоты дубка, які рос непадалёку на ўзлессі. Яны паволі закурылі і прадоўжылі распачатую гаворку пра дождж.
– Адно пагана, што адзежыну там пакінулі, дзе касіць пачыналі. Цяпер яна там мокне, а мы тут, – незадаволена сіпеў нізенькі і тоўсты Даніла.
– Ды не перажывай ты так. Што намочыць, тое і высушыць, – глянуўшы на неба, заўважыў яго сябар Рыгор.
– Хай ідзе. Летам дождж лішнім ніколі не бывае. Каму дождж спрыяе, той ураджай добры мае, – зазначыў былы калгасны аграном Стахван.
– Якая хмара, такі і дождж. З гэтай хмары ён доўга ісці не будзе, – упэўнена сказаў Міхась, лепшы касец у вёсцы.
– Ды і з вялікай хмары не заўсёды дождж добры бывае. Часам хмара больш людзей з поля гоніць, чым зямлю поіць, – пераконана акрэсліў сваю пазіцыю разважлівы Мікалай.
– Бач, як разгаварыўся! Ну, а тваё дзе выслоўе пра дождж? – звярнуўся брыгадзір да Максіма, падлетка–школьніка.
– Па–мойму, трэба так прыходзіць, каб нікому не нашкодзіць, – амаль адразу адказаў той.
– Ты гэта пра каго: пра дождж ці пра чалавека? – захацеў удакладніць Стахван.
– Якая розніца, мо нешта пачуў, а штосьці дадаў. Прымаўкі тады людзі складаюць, як за жыццём назіраюць, – як даўно прадуманае, выдаў дзед Васіль.
– Яно так, – умяшаўся ў гаворку Кузьма, якога ўсе ў вёсцы звалі рахункаводам, – калі ўсё запісаць, што было складзена за стагоддзі і што зараз гучыць, то паперы не злічыць.
– У працы і ў гурце спрыт чалавека праяўляецца і правяраецца. Хто смак у працы чуе, той і слова добрае адчуе, – прагаварыў Рыгор.
– Сонца дажджом абмылася і зноў з’явілася, – агледзеўся навокал Міхась. – Зараз і касіць любата.

Надвячоркам касцы няспешліва ішлі па лугавой сцяжынцы ў вёску. Над блізкай рэчкай дзе–нідзе бялеўся рэдкі туман.
– Сонца за хмару заходзіць, дождж ноччу прыходзіць, – паказаў на чырвоны захад Мікалай.
– Нічога, пад дождж смачна спіцца, – засмяяўся Максім. – Люблю праз сон слухаць, як ён барабаніць па сценах, па шыбінах. А як са страхі вада цурчыць, то нібы музыка гучыць.
– Зноў сам прыдумаў? – азваўся Стахван.
– І няхай, – падтрымаў хлопца брыгадзір. – Прымаўкі розныя, казкі ды песні хіба не такія кемныя напрыдумвалі?..
Кожны з касцоў браў кірунак да свайго жытла. У вёсцы зрэдку гахалі сякеры на дрывотнях, рыпелі вароты, стукалі весніцы, чуліся галасы – гаспадары сустракалі скаціну з пашы і парадкаваліся да начлегу.
Хмара ўжо паглынула сонца, шырака напаўзала на прыціхлае неба. Прыцемкі паволі выпаўзалі з прырэчных кустоў, вылазілі з–за прысядзібных будынкаў і садоў. Толькі дзе–нідзе каля хат рассыпаўся вясёлы і бесклапотны смех юнакоў і дзяўчат.

21.10.09





# *Іван МЕЛЬНІЧУК*

## БЕГ В МЕШКАХ

Резвясь, мы в детстве бегали в мешках.
Неискушённым приходилось плохо:
Они валились под задорный хохот,
А то и оставались в синяках.

Как те мешки, теперь у нас грешки.
Влезаем в них беспечно, как мальчишки,
И набиваем безоглядно шишки
Под колкие и едкие смешки.

***

Хочу того иль не хочу,
За всё без продыху плачу:
За кров плачу,
За хлеб плачу,
За экзекуции плачу
Врачу.
Плачу за то,
Что Бог даёт –
За воду, ягодку,
За мёд.
Дуреют цены, –
Я ропщу,
Хоть чуть не плачу,
А плачу.
Одна осталась
Благодать –
Бесплатным воздухом
Дышать.

***

Не бывает шрамов от обид.
От обиды тело не болит,
Но сбивает с жизненных орбит
Каждая из подленьких обид.

От обид как будто не убит,
Лишь душа страдает и болит.
Может и рвануть, как динамит…
Бог избавь вас, люди, от обид.

***

Несём свой крест,
Порой едва дыша,
Не ждём, что будет
За мученья плата.
Терпи, терпи,
Страдалица–душа,
Пока ещё
Злодейски не распята.

## *ПОБАСЁНКИ*

### НАХЛЕБНИЦА

К осинке, что на отшибе росла,
Прилипла, что пиявка, омела
И сок пила, пока не извела,
Не иссушила, бедную, до нитки.

Бессовестно шикуют паразитки,
Коль нет преграды на пути у зла.

### ТЕТЕРЯ

Тетёрка как–то потеряла перья,
«Невосполнимая, – заквохкала, – потеря.
Убита прямо горечком теперь я, –

Где раздобуду на замену перья…”
Чтобы не охать
И не хныкать о потере,
Не будь тетерей.

## ШЕВЕЛИ МОЗГАМИ

Лисица, – активистка и спортсменка
И в некотором роде бизнесменка, –
Фигурою медведя ослепила,
Когда к нему в контору поступила.
Жену–медведицу отбила
(Твердила, что безумно полюбила),
И косолапенького, называя милым,
В ЗАГС довела, а позже – до могилы.

Встречаются не раз такие лиски
Среди знакомых, даже среди близких.
И чтоб под монастырь не подвели,
Мозгами шевели.





# *Мікола МІШЧАНЧУК*

## *ПРАЗ ГАДЫ*

### ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА “ЗАСТОЙНАГА” ЧАСУ

Званок з парткама маладому намесніку дэкана быў строгі, голас начальніцы камандзірскі, інфармацыя падавалася ў форме загаду:

– Вы абавязаны заўтра забяспечыць наведванне ўрачыстага мерапрыемства ў Доме афіцэраў. Прыдзіце забярыце запрашальныя білеты. Вашыя нумары… Хто будзе, а павінны быць усе, хай называюць чалавеку пры ўваходзе арганізацыю і свой нумар. Будуць адзначаць прысутнасць.

– Тэлефаную ветэранам. Прашу прабачэння, што, можа, парушаю іх планы. Згаджаюцца выканаць маю просьбу, а не парткамаўскі загад. І вось назаўтра, як выбух бомбы, званок з парткама і рэзкі, вядомы да болю ўсё той жа камандзірскі голас:

– Ваш нумар… адсутнічаў на ўчарашнім урачыстым мерапрыемстве! Разбярыцеся і далажыце, калі не хочаце непрыемнасцяў!

– Ды я… Ды былі ж нашыя ветэраны… Няўжо?

– Вось і разбірайцеся са сваімі ветэранамі!

І ўсё. Слухаўка пакладзена. Голас знік. А сэрца ў трывозе: “Ну як жа так! Ды не можа гэтага быць! Яны ж усе мне сказалі, што былі!” Пераадольваючы сорам і трывогу, тэлефаную:

– Андрэй Іванавіч! У парткаме нервуюцца, тузаюць мяне: ці былі вы на тым “пранумараваным мерапрыемстве”?

– Мікалай Іванавіч! Канешне ж быў, нашто мне маніць. Я ж вас ніколі не падводзіў!

– Я ведаю. Даруйце, але ці назвалі вы свой нумар чалавеку пры дзвярах і ці на сваім месцы сядзелі?

– Ах, вось у чым справа! Не, забыўся адзначыцца. І сядзеў не там, дзе трэба было…

Што гаварыць – сістэма. Закон і парадак для паддоследных. Як шкада, што сярод іх былі і тыя, хто бараніў для нас і для той, з камандзірскім голасам, партыйнай чыноўнай асобы сіняе неба!

Андрэй Іванавіч з тыдзень хадзіў па вышэйшых інстанцыях, каб абараніць сваю праўду, сваё імя, сваё права сядзець на ўрачыстым мерапрыемстве не на сваім месцы, а там, дзе зручней, дзе лепш для яго абпаленых вайной цела і душы.

***

На Першамайскай дэманстрацыі. Радасна, весела. Песні і маршы пра вечную маладосць. Цяжкія агітацыйныя ўстаноўкі на колах. Група моцных хлопцаў ледзь кіруе адной, велізарнай. Тым, хто ад прадпрыемстваў, лягчэй: машыны даўно ўжо цягаюць няўклюдныя “бандуры”. Мы – уручную. А трэба ж трымаць строй, паспяваць за калонай! Высільваюцца хлопцы. Многія – вясковыя. Дома чакаюць іх маці–ўдовы – бульбу садзіць. Коцяць хлопцы аграмадзіны, клянуць…

З горкі “агітацыя на колах” рванулася ўніз. Невядома што было б, каб не рукі, здольныя не толькі канспекты пісаць, але і зямлю араць, скірдаваць і калодзежы капаць…

Дзякуй , хлопцы, за дужыя рукі, за светлыя сэрцы…

***

Рыхтуемся да новага Першамая. Наглядная агітацыя (усё тыя ж канструкцыі) наперадзе. Парад прымае высокае райкамаўскае начальства. Ходзіць, як афіцэр перад строем.

– Гэту пакінем. Гэтую – таксама. Тут дамаляваць партрэт. У гэтай падправіць молат. А гэта што? Яе не браць: не нясе інфармацыі!

“Не зацвердзілі” на парад якраз нашу, філфакаўскую, наглядную агітацыю: светлыя кветкі, зялёныя галінкі на фоне ўсмешлівага і радаснага зямнога шарыка. Самы інфармацыйны

першамайскі плакат, які берагліцсцераглі, ухутвалі ноччу ад дажджу… Даруйце, веснавыя кветкі! Не кранулі вы тады “палымяныя” сэрцы партыйнага начальства, “не засведчылі” сваю сувязь з вясной, з шчырым працоўным чалавечым клопатам. Тая установка і сёння захавалася ў маёй памяці – сонечная, радасная, бездапаможная перад чыноўніцкай слепатой.

## МАЯ ЦАЛІНА

Роўненька–стройненька стаяць студэнты–філолагі. Побач з імі – выкладчыкі, кіраўніцтва факультэта. У іх ліку – і я, малады выкладчык, функцыянер–пачатковец. Абмяркоўваецца вылучаная на Ленінскую прэмію трылогія першай асобы вялікай дзяржавы “Малая зямля”, “Адраджэнне”, “Цаліна”. Штатныя аратары, сярод якіх і аўтар гэтых радкоў. Шукаем “іскрынкі таленавітасці” ў творы (“дакладна, праўдзіва, узнёсла”!), хвалім. Прымаем рашэнне: “Твор выдатны, заслугоўвае вышэйшай дзяржаўнай узнагароды”. Гэта пазней адкрыецца, хто, як і з якой мэтай яго пісаў, а тады, як кажуць, усё было “пакрыта змрокам”. Праз гады параўноўваю свае ўражанні ад цаліны з уражаннямі дзяржаўнай асобы. Маё ўспрыманне не грунтавалася на лічбах удзельнікаў эпапеі, скарыстанай тэхнікі…

Вось мы грузім копы саломы на прыстасаваны для гэтых мэтаў ЗІС–5 з даволі нягеглым маторам, ды затое вопытным “рулявым”. Жора В. – каля 120 кг вагі – топча ўгары, я завіхаюся нанізе, беручы адразу паўкапы віламі. Працую за сябе і таварыша – няўдаліцу, які – гарадскі! – не здольны на падобны гераічны ўчынак, але за пагрузку саломы трымаецца рукамі і зубамі – плацяць па 70 рублёў у дзень! Ён трымаецца, а нам з Жорам?.. І як ад такога пазбавішся?..

Зорнае неба. Ток проста на зямлі. Бурты, бурты пшаніцы. Шэраг новых машын – ЗІЛаў – з доўгімі кузавамі. Згружаем зерне шуфлямі. Спачатку ўсё ідзе лёгка. Праз гадзін пяць – баляць рукі, спіну не разагнуць. Яшчэ праз дзве – чакаем не дачакаемся змены. Вольныя, збольшага паснедаўшы макаронамі з баранінай па–флоцку, кідаемся на нары ў вагончыку – нашым гатэлі. Рамантыка! Прымай, юнацтва, у рукі шуфель і вілы ад гераічнай эпохі! “Ствары, выдумляй, спрабуй!” – як сказаў паэт–трыбун…

Капаем калодзеж. Цвёрдая, як камень, стагоддзямі ўтрамбаваная зямля. Так–сяк паддаецца. Дзён пяць працуем утрох, зацята, радасна–ўсхвалявана: вось–вось пырсне струменьчык чыстай халоднай вадзіцы, якая ў студнях мясцовых жыхароў пад замком. Стомлены сарака–саракапяціградуснай спякотай спадарожнік на пытанне "Су бар?" пачуе тут нязменнае – "Су йок" ("Вада ёсць?" – "Вады няма"). Людзей можна зразумець (вада – "прывазная"), але як апраўдаць абыякавасць да лёсу чалавека, які, можа, дзякуючы глытку жывой вільгаці ўратуецца ад смерці?! Да вады не дакапаліся – на нашым шляху паўстала гранітная скала, якую хіба што трацілам можна было ўзарваць. За незакончаную працу атрымалі вельмі няшмат…

Многае было не так, як бачылі ў кабінетах, уверсе… Прарослая ў буртах пад адкрытым небам пшаніца (не хапала элеватараў). Пакінутыя на ўскраінах палёў–клетак горы тэхнікі – машын, трактараў, камбайнаў. П'яныя шафёры, што гойсаюць без дарогі па стэпе на злом галавы. Начныя і дзённыя вогнішчы па ўсёй неабсяжнай стэпавай прасторы (усю салому звозіць не хапала сіл, ды і не было патрэбы: кашар не будавалі, на корм авечкам не ішла)… Мая цаліна… Не кабінетная. Не прыдуманая. Настолькі цяжкая, што пасля разрывалася галава ад павышанага ціску. Не мог ехаць у інстытут трамваем. Галасы лектараў і сяброў гучалі як выбухі снарадаў. Аднойчы ледзь не страціў розум. Сябры расказвалі: уцёк з заняткаў, бегаў вакол клумбы ля "параднага пад'езда", махаў рукамі і нешта мармытаў сабе пад нос… Давялося ледзь не месяц лячыцца ў бабруйскім санаторыі… Сустрэў неяк, ужо пасля заканчэння ВНУ, напарніка па пагрузцы саломы. Таго, што па тры сцяблінкі на вілах падаваў на машыну. Свая кватэра. На хлебнай камсамольскай рабоце. Папраўляе здароўе ў санаторыях штогод. Заікнуўся, было, пра свой бескватэрны лёс, пра садок для сына. Усміхнуўся, як усё роўна не пачуў…

Мая цаліна… Мае сінія рэйкі, мае зорныя стэпавыя ночы. Усё гэта са мною. Назаўжды.





# *Валянціна ОСІПАВА*

*ЛИКИ СЕРЕБРЯНОГО ВЕКА*

## АННА АХМАТОВА

Певица печали, любви певица,
Сладкоголосая, томная птица…

В смутное время пал жребий родиться.
Знала, что выпадет бед вереница,
Но не отвергла юдоли темницы.

Не лавром душистым, а терном венчали
Любови певицу, певицу печали.
С молчаньем повенчанная палачами,
От слёз и бессонниц пустыми очами
В кровавую темень смотрела ночами.

Та, что врагов заставляла дивиться
(то ли монахиня, то ли блудница?),

В крепом затянутых стенах светлицы,
Действо эпохи трагической в лицах
Тайно чертала на серых страницах.

Многострадальная вещая птица:
Счастья и горя людского певица.

## АЛЕКСАНДР БЛОК

Он знал…
Он достоверно знал
Начала и концы.
Он стансы
Слагал.
И страшный час настал,
Русь закружив в кровоточащем танце.

Повергнутый средой кумир,
Вменяя праведность возмездью,
Бесстрастно,
без прикрас,
без лести
Воспел хаосом смятый мир.

Он знал неотвратимость драмы:
Стреляй!
Души!
Круши!
Дави!
Он стал кирпичиком для храма,
Воздвигнутого на крови.

## ОСИП МАНДЕЛЬШТАМ

Чеканный шаг.
Непринуждённость рифмы.
Маг или укротитель ритмов?
Шаман.
Маэстро.
Виртуоз,
Созвучий чинной вязью
Из кожи выбивающий мороз.
Трибун?
Аполитичный человек,
Меж тем кровавый век
Презреньем заклеймил, затылком чуя сап расплаты.
Со спесью фата

Шагал по жизни в прорезиненном пальто,
С безмерным чувством превосходства
Отгородив себя от хищной стаи.
Чудак?
Гордец.
Порою грубиян,
Костящий невежество очкариков–мещан.
Бедняк?
Должник?
Гурман.
Эстет.
На грош последний – не котлет,
А поздних хризантем букет.

В ответ тому, кто хрупкий дар поэта
Отдал удаву властолюбья на потребу,
Сам предсказал посмертный отклик неба
Литым, торжественным стихам
С пометкой“Осип Мандельштам”.

## БОРИС ПАСТЕРНАК

Куда там ровным, чинным шагом –
Под мышкой с февралём
По кочкам, рытвинам, оврагам
Бегом,
бегом,
бегом!
Смешать дожди, бураны, вьюги
В один коловорот!
Легко,
играясь,
без натуги
Расширить горизонт!
Метафоры – на ярус ярус!
Галопом ритмы – пыль столбом!
От революций и от кляуз –
Бегом,
бегом,
бегом!
Устав от бега, взять бумагу,

С отвагою достать чернил
И мысли, что когда–то скрыл,
Доверить доктору Живаго.

## МАРИНА ЦВЕТАЕВА

Марина…
Несравненная Марина!

Дар, данный свыше, как святую ношу,
Пронёсшая, вжав в зубы складку рта,
Не осквернив строки осклизлой ложью,
Борясь с голодным спазмом живота.

Взрывной волною мчась по гребням строф,
Сметая правил косных полномочья,
Условности растерзывая в клочья,
Бросала пыл к подножиям голгоф.

Бродил в крови неукротимый норов:
Горячность скифов, дерзкой шляхты гонор;
Не признающую ни полумер, ни мер, ни вер
С безмерной чаши жизнь поила горем.

Но – парадокс! – как раз сгубила вера
В страну, кромсающую дух и души
По знаку оспою изъеденного зверя.

С неотвратимостью – зубами в губы,
Затем и в жилу, кончив с миром лживым! –
Сама вбежала в Дом, при жизни любый…

Искавшей тщетно в Родине опору,
Обычный гвоздь как раз пришёлся впору.





## *Аляксей ФІЛАТАЎ*

# КНІГАЎЧЫН ЛЁС

Шчыра скажу, Валя, Валянціна Міхайлаўна, Кукса была першай з усіх берасцейскіх пісьменніц, у якую я паверыў з першай сустрэчы, з першых яе твораў. Падкуплялі прастата, шчырасць, жаноцкая абаяльнасць, ужыванне ў размове і на пісьме роднага, валынскага слова, дзіцячая непасрэднасць паводзін і ўспрымання жыцця, такое ж тужліва–радасна–пачуццёвае адлюстраванне рэчаіснасці ў абразках і апавяданнях. Разам з тым уражвалі цвярозасць думкі, разваг, рэдкі дар знайсці патрэбны накірунак дыспуту, трапныя аргументы ў літаратурна–публіцыстычных спрэчках.

Зазвычай доўга маўчыць – маўляў, спрачайцеся, ламайце дзіды, хлопчыкі, а як я скажу, так і зробіце, так яно і будзе. Тая яно і было. Мы, старэйшыя, дзіву даваліся, калі Валя ў тыя, амаль ужо забытыя дні нашага беларускага апошняга Адраджэння магла збэсціць пракамуністычнага гарлапана, асадзіць самаўпэўненага ў сваёй моцы таварыша ў шэра–цывільным.

Падкупляла багацце зместу, веданне жыцця. Пісала толькі пра тое, што ведала, што перажыла. А ведала больш за ўсё яна дзяцей і перажыванні іхнія і свае вакол іх клала сардэчным словам на паперу. Выносіла спачатку на суд сваіх выхаванцаў у дзіцячым садку, дзе век адпрацавала. І калі яе гадаванцы, слухаючы сваю выхавацельку, глядзелі на яе ва ўсе вочкі, сапучы ў дзве дзірачкі, а потым узрываліся рогатам ці заходзіліся плачам, дазваляла сабе пусціць твор у друк.

Шаснаццаць гадоў таму, светлай памяці, галоўны рэдактар малога дзяржаўнага прадпрыемства“Брэстдрук” Уладзімір Іванавіч Захарэвіч выпусціў у свет невялічкую кніжачку берасцейскіх пісьменнікаў “Чый бэз?” з анатацыяй“у дапамогу настаўнікам пачатковых класаў і выхавацелям дзіцячых

садоў”. Гэты калектыўны зборнік адкрывалі дзве навелы Валянціна Куксы“Сцяжынка” і “Дудка”.

І калі астатнія аўтары дасылалі нам свае творы па ўласнай ініцыятыве, то Валянціну я доўга ўгаворваў, спрачаўся, даводзіў, нарэшце пераканаў, паколькі быў укладальнікам і рэдактарам кніжкі. А пасля выхаду яе атрымаў ад Куксы… прачуханца.

“Во, усунуў сваю лыжку дзёгцю ў мой каўдабец мёду, выправіў, называецца, – зморшчыла невялічкі носік, прыжмурыла вочы, рэзка кінула ад грудзей руку. – Нянечцы нашай чытала, дык старая вясковая кабета і тая адразу ўхапіла. Во, кажа, Валечка, ці тое ты пысала, а тое – той сывы дід” (бачыла мяне праз акно, бо і ў двары пры беларускамоўным яе садку вялі мы з Куксай двубоі).

І вось цяпер, праз паўтара дзесятка гадоў, перачытаў святую, пакутную праўду жыцця ў“Сцяжынцы” і“Дудцы”, дзе мала слоў, а думак, а пачуцця – акіян. І сэрца маё сціснулася болем, і на душы маёй“цёпла–цёпла стала”. З гэтай першай яе справаздачы, споведзі перад людам сваім, які яна бязмежна любіць, забілі крыніцы, вытокі, джарэлы яе мінорнага слова пра долю людскую, долю беларускую,“долюшку женскую”, долю кнігаўкі–маці.

Сцяжынка” – нібы пралог, падалося мне, аповесці“І верыла ў цуд…”, а“Дудка” – яе эпілог, у якіх, як і ў аповесці, спрасаваліся матчыны пачуцці ў такое звышцвёрдае рэчыва, з якога, чуў некалі, утвораны неадкрытыя пакуль планеты ў касмічнай прасторы, грам якіх на нашай Зямлі зацягне на цэлы касмічны карабель разам з ракетамі–носьбітамі. І якія, нягледзячы ні на што, клічуць нас не ў цемрадзь смерці, а да Сонца–Жыцця.

Як Купрэеў, Рудкоўскі, Сахарчук, Гадулька, Сыс, Мацяш, Янішчыц (вершы каторых так любіла Ганначка і клала іх на ноты, нараджаючы спеў у чулай душы), каб стаць Паэтам, паклалі на алтар Музы свае жыцці, так і Валіна жытка згарэла за паўгоду ў Богам наканаваных ёй выпрабаваннях, але ж усёісны Бог падараваў ёй таксама сілу і талент выплакаць–выспяваць сваю песню–стогн на душэўныя пакуты і радасць тых, хто пачуе яе.

Ні фабулы, ні вобразаў, ні зместу аповесці пераказваць няма патрэбы. Пачуйце некалькі выразаў з матчынай найшчырэйшай у свеце споведзі – і вы ўсё зразумееце.

“Божа! Нават у горы ёсць шчаслівае і няшчаснае гора. Ужо

другі месяц я сплю на падлозе каля канапы, падкінуўшы пад бок кажух. Стагнала ад рыку ў горле: так намагалася не крычаць, каб не пачула Ганначка. Ад песні дачушкі тужлівая радасць вылушчвае слёзы. Казалі, што тады накрапваў дожджык, а я помню – сонца.

А мне перахацелася ўсміхацца. Нешта страшнае варушылася ў душы, аж дыхаць замінала. І так баліць, што аж не адчуваю таго болю. Вочы яе свецяцца!!! І радасць такая даўняя, амаль забытая, шчырая радасць запоўніла мяне. Я чула, як у маю скроню пульсуе жылка, што на шыйцы, да якой я прытулілася…”

А вось яшчэ адзін не менш пакутны матчын боль, надзвычай трапна выказаны. Меншанькая, што падоўжыць яе жыццё пасля адыходу старэйшай дачкі, тату свайго, духам слабога, шчыра любіць, а маці недаўмённа зайздросціць:“Яму, не мне, Жэнька сказала – Пап!.. Цыцка расце ці што?” (ніводзін мужчына такога не адчуў бы, не выказаў бы).

У аповесць уплятаецца і другі неадчэпны, неад'емны ад чалавечага жыцця матыў, назавем яго грамадска–палітычным (мо і не патрэбны надта, але і яго аўтарка вызначае, характарызуе коратка і вобразна:“А ў бочцы даўно брадзіла. Не дай, Божа, спудзіцца каню. І мы выходзілі на міжнародны гандаль па каханні. Эх! Жыццё! Як яно дзярэцца, калі няма гаспадара! Скручвалася душа ад абраз і прыніжэння…”

Скручвалася душа, чытаючы Валіну споведзь, радавалася сэрца поспеху чалавека, нішчачкам нават зайздросцячы сябру і мо крышачку вучаніцы маёй па пяру. Прыходзіла на думку выснова Богам абранага народа. У нас так: талент як розум – калі ёсць, дык ужо ёсць, а калі няма – выбачайце, калі ласка. У нашым, паляшуцкім, выпадку ёсць і розум, ёсць і талент убачыць, пачуць, адчуць, перажыць, аздобіць красою ўласнай душы і вырваць з расхлістаных грудзей людзям на ўцеху сваё палымянае мастацкае слова і“думы яе думы”.

Хоць і не хочацца, але мімаходзь адзначу, што Валянціна Міхайлаўна паўжыцця вучылася: школа, педвучылішча, інстытут, аспірантура, дарэчы, перш чым паступіць у вучылішча, яна ўладкавалася ў Брэсце на працу. Бы руплівіца–пчала, Валя, Бог ведама дзе, знайшла ў сабе патрэбу, сілы і час, акрамя грунтоўнае прозы, зрабіць важкі ўнёсак у справу выхавання беларускае будучыні. Падрыхтавала, надрукавала з тузін навукова–метадычных прац у дапамогу настаўнікам і выхавацелям дзіцячых садкоў.

… Подаўну, вясною 2005 года, пачынаў я свой сказ пра творчасць Куксы, гэтага духам дужага, сэрцам чулага чалавека, і пачынаў так:“Карціць напісаць пра кніжку прозы з назваю“Кнігаўка”, пра яе аўтарку і пра саму птушку, з плачу якой за акном роднае хаты я і пачуў, напэўна, свядома свет. Не пачуць яго было немагчыма. На маёй новай Радзіме, на Палессі, у якое з Паддзвіння, дзе я ўбачыў, свядома, белы свет, шпурнула немаўля вайна, кнігавак было, як і балот, – мора, цьма.

Сустракаліся па адной, парамі, табункамі, а калі трапляў у іхняе царства вораг, асабліва двуногі, чорная хмара засцілала неба і паратунку ворагу не было. Кожны паляшук ведае, што дзетак сваіх кнігаўка ўмее ратаваць часам і цаною ўласнага жыцця. На шапку, на рулю дубальтоўкі сядаюць, цэляць дзюбаю ў вока, абы жыло тое кволае, у стракатым пер'ечку, чубаценькае стварэнне, абы доўжыўся кнігаўчын род.

Адкуль прыйшло натхненне, моц думкі, пачуцця, нечалавечае вытрымкі, каб чалавечая маці–кнігаўка падоўжыла, зрабіла неўміручым заўчасна спаленае стронцыем даччыно жыццё? Не трэба пытанняў. Трэба чытаць і плакаць над доляю матчынай, трэба дзякаваць ёй за сярмяжную праўду, за крывёю аблітае сэрца, з якім клаліся на паперу, ішлі ў свет, у жыццё Валіны радкі. Нават крышку скрабе душу маю думка: нельга так шчыра на свет белы матчына сэрца адкрываць. Розныя людзі ёсць на белым свеце.

Аб чым сведчыць лёс таго экзэмпляра“Кнігаўкі”, які падпісала мне аўтар…”

І так шчыміць, і так баліць, – працягваю я сёння. – Ад таго, што над ім, над гэтым экзэмплярам, над бясцэннай кніжкай ейнай з апраметна–балючым здымкам на вокладцы… наздзекваліся… дзеці. Дзеці вёскі, у якой амаль кожная сям'я – веруючыя, няхай не нашай, праваслаўнай, ды сапраўднай веры ў Хрыста, якую не менш паважаю я за сваю.

І так наздзекваліся, што, шчыра дзякуючы Табе, Валя, за подзвіг матчын і грамадзянскі Твой, раскажу аб гэтым толькі Табе, сам–насам, толькі ў вочы… А вось пра апавяданні з“Кнігаўкі”, пра душэўную сваю радасць–пакуту ад чытання іх выплачу колькі шчырых радкоў крыху потым, пасля гэтага апошняга паклону нашай Ніначцы.

19 снежня 2008 года

## ДУША ДА ДУШЫ

На світанні дапісваю даўно задуманае слова пра Валю Куксу –“Кнігаўкі лёс”, і ўсё нешта муляе, непакоіць, усё пакутую, не выкіну з галавы думку, што сярод пералічаных мною паэтаў, якіх любіла і часам клала іхнія вершы на ноты Валіна заўчасна памерлая дачка Ганначка, адна Ніна Мацяш – жывая. Нават закрэсліць збіраўся, ды чамусьці пакінуў.

Паставіў кропку, забыўся на хвілю на канапцы, накрыўшыся кажухам… Лякае тэлефонны званок. Валя Кукса:

– Бяда, Лявонка, бяда – Ніначка Мацяш сярэдначы раптоўна да Ганначкі маёй адышла!..

Так, бяда, бяда для нашага“вогнішча”, найцяжэйшая пасля смерці Уладзіміра Андрэевіча Калесніка. Вось і не вер цяпер, што, як сказала вялікая Дачка“з палескай той раўніны” Ніна,“душа да душы” прамаўляе.





# *Сяргей ЦЫПЛЮК*

## АЛБАНКА ЛЕЦИ

( Отрывок из рассказа“ТАНГО” )

– Её звали Леци. Страна, в которой она жила, — маленькая, народ – гордый, красивый, добрый. В молодые годы судьба забросила меня туда в составе экипажа военного корабля, что прибыл на её родину с дружеским визитом. Служил я офицером связи. По прибытию в портовой город нас тепло встретили, а вечером пригласили на бал.

Михаил Васильевич вздохнул и глянул на меня чуть повлажневшими глазами. После официальных речей и тостов было шумно и весело.

Но вот из боковой двери в зал вошла хрупкая девушка среднего роста. Черное изящное платье облегало её фигуру, длинные волосы спадали на плечи, голубые глаза в тёмных ресницах были печальны, губы алели словно лепестки роз. Слева на груди приколота роза.

Двое в штатском прошли вслед за девушкой и стали у косяков двери. Дирижер объвил:

– Танго любви! Танцует прекрасная Леци!

Девушка прошла мимо офицеров, вдруг остановилась, чуть склонив голову, пригласила к великому моему изумлению меня. Так же неожиданно запела. Хотя слов не понимал, в них было столько молодости, тоски и печали, ожидания несбыточной мечты, прощания с неизъяснимо дорогим, что слушали её затаив дыхание. Пела вполголоса. Лёгкость, с которой танцевала, ритмичность движений, обаяние, молодость, близость её пъянили. Забыв обо всём на свете, думал, мечтал только о том, чтобы это танго не кончалось никогда.

– Как тебя зовут? – осмелился спросить.

– Леци. А тебя?
– Миша.
– Мишель, — повторила, вздохнула глубоко, глубоко безнадёжно. – Мишель, это последний мой танец. Прощай, Миша!

Красные брызги солнечных лучей озарили мрачные скалы. Их, шестнадцать политзаключённых, в это раннее, ещё не начавшееся утро, последнее утро ихней жизни, привели на расстрел, поставили на краю обрыва.

Леци стояла последней. Шёлковое платье облегало хрупкую фигурку. Девушку бил озноб, губы дрожали, но она старалась справиться с собою, гордо вскинула голову. Полуобнажённая грудь поражала своей нежностью и белизной. Офицер, обходя приговоренных, не мог отвести глаз от Леци. Потом резко отвернулся, отдал команду.  Взорвал окрестность залп. Леци упала с обрыва в море…

"Мишелю" не стоило большого труда выловить и перенести её в шлюпку и во всю силу молодого тела грести в сторону своего корабля. Вахтенный матрос помог перенести в один из боцманских трюмов и надёжно укрыть её там.

… Эскадра военных кораблей была далеко за пределами родины Леци. Михаил Снежко не думал и не хотел думать о том, что ожидало его впереди: он твёрдо знал и верил, что никто и никогда не разлучит его с любимой, даже смерть.

Утренний ветер не щадил его седые волосы, освежал лицо, бодрил душу. Начался новый день. Для него – светлый и прекрасный день, в который, как всегда, бывший моряк почтил ту единственную, которую любил всю свою жизнь. Так уже повелось, что в такой день в поселковом клубе Михаил заказывает танго и танцует с самой приятной ему девушкой. После танца дарит ей розы и уходит. Вначале его поступок казался смешным, постепенно привыкли. В конце концов с нетерпением ждали, кто же станет его избранницей –"Дамой – Красная Роза" на сей раз?

В то время наш студотряд из Беларуси заканчивал строительство нового клуба в северном посёлке Усть–Хазким. Мы, безусловно, не оставили без внимания последний вечер танцев в клубе, который завтра пойдёт на снос.

Зал переполнила молодёжь, в основном  наш брат – студенты. Играл эстрадный ансамбль. В разгар вечера в зал, не привлекая особого внимания, вошёл человек среднего роста,

с седыми волосами до плеч, в костюме тёмно–синего цвета, который красиво сидел на его ладно сбитой фигуре. По залу покатился шумок:“Михаил Васильевич, Снежко, Мишель, Мишель! Кто? Кто же будет Она?”

Седовласый степенно поклонился юной девушке–узбечке, и они слаженно, будто не в первый раз, пошли в такт музыке. Невзначай девушка запела. Вначале робко, а затем гордо и смело. Танго вышло на славу и закончилось под аплодисменты. Михаил Васильевич подвёл свою даму к её месту, мягко и нежно произнёс:“Искренне благодарен, примите в честь гордой дочери Балкан – Леци”, — и вручил избраннице букет красных роз. Незаметно покинул клуб. Затем долго стоял на берегу быстрой реки, покорно и терпеливо. О чём думал человек, никто не знал, как не знали люди его душу и сердце…

Летело время. И вот по магаданской трассе спешит рейсовый автобус. На вершине подъёма остановился. Водитель объявил остановку на полчаса. Меня потянуло в сторону леса, и в метрах полтораста от трассы я наткнулся на ухоженную могилу, убранную опять–таки красными розами. На скамейке сидела, задумавшись, женщина в чёрном, со смуглым лицом, но белокурыми волосами. Потихоньку подошёл ближе, прочитал на табличке:“Снежко Михаил Васильевич…”. И что–то вдруг кольнуло в сердце неожиданно для самого себя.

– Вы Леци? – вырвалось из уст.

Она повернулась, и я понял, что угадал, не ошибся.

– Вот и встретилась со своим суженым. Только он там, – опустила большой палец правой руки к земле, – а я здесь, – подняла глаза к небу. – Господи, прими душу этого человека. Человека чистого, непорочного, доброго и всеми любимого.

Я поцеловал руку Леци.

– Прощайте! – прослезилась она.

– Кто эта особа? – интересовались в автобусе.

– Русская женщина, — почему–то вырвалось у меня, – хотя по национальности албанка. Да, настоящая русская женщина, каких не так уж и много осталось на Руси…

Рейсовый автобус из последних силёнок запылил по колымской дороге…



# З НАМІ



## *Юлька АЛЕЛЬКАВІЧ*

### ФРЫНАС НЕПРАЧЫТАНАЙ БІБЛІІ

Я стаю на самай верхняй палічцы тваёй бібліятэкі, моцна сьціснутая таўшчэзнымі энцыкляпэдычнымі слоўнікамі і атласамі. Імі шмат гадоў ніхто не карыстаецца, не бярэ да рук, не гартае старонкі, нават дзеля малюнкаў. Іх пакрывае тоўсты слой пылу. Без чалавечага цяпла яны стаяць мёртвыя, скамянелыя. Мне няма чым дыхаць. Я нястомна чакаю, калі ты зьвернешся да мяне.

Навошта ты купіў мяне, чалавеча? Навошта заплаціў за мяне тысячу рублёў? Навошта нёс мяне ў сваёй тэчцы праз увесь горад?

Ты жыў сваім звычайным жыцьцём. Хадзіў на працу, нешта пісаў у хаце за сталом, бавіўся з сынам. Сябры зьбіраліся ў цябе за кубкам віна, спрачаліся і сьмяяліся. Аднойчы размова пайшла пра стварэньне сьвету, і ты захацеў штосьці спраўдзіць. Сэрца моцна забілася ў грудзёх. Я, узрушаная, наколькі магла пасунулася наперад. Але твой позірк бясспынна слізгнуў па вокладках кніг зьверху ўніз, і ты ў роспачы сказаў:

– Я не памятаю, куды я яе паставіў.

Сьвет сьцямнеў у вачох і абрынуўся на мяне сваім цяжарам. Няўжо ты ніколі не сагрээш мяне цяплом сваіх рук, не па-

кладзеш на свой начны столік, каб пагартаць перад сном, ня будзеш разважаць разам са мной за працоўным сталом, не прачытаеш улюбёнае месца свайму дзіцяці.

Навошта ты купіў мяне, чалавеча? Навошта заплаціў за мяне тысячу рублёў? Навошта нёс мяне ў сваёй тэчцы праз увесь горад?

Надзея вярнулася да мяне, калі ў цябе сьмяротна захварэў сын. Я чакала: ты зьвернешся да мяне. Будзеш шукаць адказ на найскладанейшыя пытаньні, пакутліва блукаць у цемры несправядлівага сьвету. Чаму памірае нявіннае дзіця, а грэшнік цягне бязглуздае існаваньне? Ты стаяў перад вакном уначы, утаропіўшыся ў змрочную бездань, якая нараджала пачвар. Я адчувала твой боль кожным аркушам, кожнай літарай свайго цела, я адгукалася на твой сьцішаны крык, а ты ня здолеў пачуць мой ціхі голас. І душа твая не падказала шлях.

Навошта ты купіў мяне, чалавеча? Навошта заплаціў за мяне тысячу рублёў? Навошта нёс мяне ў сваёй тэчцы праз ўвесь горад?

Потым у цябе памерла жонка. Жыцьцё страціла свой сэнс. Ты ўжо не хадзіў на працу, не працаваў за сталом. Усё часцей заставаўся сам у хаце, ўсё радзей выбіраўся ў горад. Ты сядзеў у сваім фатэлі бяздумна, нерухома, не запальваў сьвятло, не зьвяртаў увагі а ні на што вакол. Надзея зьнікла для мяне. Усё больш захінала цябе цемра, і надышоў твой час. Зьявіліся нашчадкі, маладыя і невядомыя. Разбіралі твой скарб і адшукалі мяне. І той, хто знайшоў мяне, сказаў:

– Глядзі! У твайго дядзькі была Біблія! Ён быў праведным чалавекам. Бяры з яго прыклад.





# *Мікола АЛЯХНОВІЧ*

## ЗОЛАТА

Вінавачу сябе: святынямі
я не тымі, відаць, даражыў,
што на золаце слова–імені
сёння бачу налёт іржы.

Кожны збоку, а нехта наперадзе.
І не ў цэнтры, а быццам паўсюд.
Так і будзем пры сённяшнім верадзе
ўсведамляць беларусаў як люд.

Станьма разам у стройныя шэрагі,
рукі сціснем, далонь у далонь.
І яшчэ над абрывістым берагам
падтрымаем світання агонь.

Ды чаму ж мы растрацілі золата,
што трымала нас праз вякі?
Наша слова – не перамолата,
наша слова мацней за золата –
падымае ўверх кулакі!

## ДАРОГА ДА ЛЕТА

Вясна. На цяпло, здаецца,
Даўно павярнуцца трэба.
Ды вецер, халодны вецер,
Зусюль – і з зямлі, і з неба.

Стараемся затуліцца,
Каўнер настаўляем вышай.
Так хочаца не памыліцца –
На горшае каб не выйшла.

Не цепліць, не грэе слова,
Дашчэнту прамерзлі душы…
А веры – былой ці новай –
Няма…
            Ад нявер'я – душна.

Вясна над палескім краем –
Ад холаду–зла – адкаснуся!
З вясновым птушыным граем –
Вясна над маёй Беларуссю!

## ПОСТАЦІ

Шлях стагоддзяў мільёнамі мосціцца.
Праз вякі на вякі – наш мост.
А радзіма крыжамі пагосціцца –
Не падняцца на поўны рост.

Нашай спадчыны мы ці вартыя,
Калі слова не зберагчы?
Хто якою пільнуе нас вартаю,
Што паўсюдна, заўсёдна маўчым?

Талерантныя, памяркоўныя..
Мёд атрутны лагодзіць слых.
У краіне сваёй бязмоўныя –
Ад каго ж такі ўдар пад дых?!

Так няпроста, нялёгка наўпрост ісці,
Свой цярэбячы шлях і след.
Аглядаюся – мудрыя постаці.
Углядаюся – запавет.



# *Сяргей АМЯЛЬЧУК*

## ЯК АДЗІН МУЖЫК ТРОХ ЖОНАК НА СМЕРЦЬ ЗАКАЗЫТАЎ

Аднойчы вясковая суседка баба Воля, якая кожны надвячорак прыходзіла да нас на тэлевізар, на маю настойлівую просьбу ўспомніць што–небудзь цікавае з далёкага мінулага, пачала расказваць.

– Гэто було даўно, – баба Воля расцягвала словы, – нэ за нашою памэтьтю, але чула ад людэй, шчо ў неком сэле одін мужык трох своіх жонок заджылгітаў на смэрть.

– А як гэто “трох жонок заджылгітаў”? – адразу ж умяшаўся я ў расказ бабы Волі, каб унесці яснасць наконт незразумелых, але бачна што крымінальных дзеянняў таго мужыка.

– Ну як–як? – баба Воля паспрабавала адшукаць у сваёй памяці больш–менш зразумелае мне слова і, відаць так і не знайшоўшы патрэбнага, працягвала далей: – Вот жэніўса вон на пэршой. Тут, значыт, як і трэба – шлюбная ноч... А ранком – вона ўжэ нэжывая.

– А чого? – само сабою вырвалася ў мяне.

– Чого, чого! – пачала злаваць суседка. — Ну, ты як малы чогокаеш. І зноў, ужо падвысіўшы голас, працяжна, вымаўляючы амаль па складах: – То–му, шчо вон за–джыл–гі–таў сво–ю жон–ку.

– А шчо такэе“джылгітаті”?

– Ну, гэто, як тыбе сказаті… – запаволена пачала баба Воля, і раптам яе твар пасвятлеў усмешкай. – Ну, гэто як под рукамі шкрабаті, – бабуля паказала на сабе.

– А – а – а! – урэшце і я сцяміў.

– Вон своіх жонок джылгітаў, а воны і ўміралі, – закончыла свой расказ баба Воля.

Даўно ўжо няма на гэтым свеце бабы Волі. Услед за ёю

пайшла на неба і яе апусцелая хата. Адно толькі па краях пляцу засталіся густыя зараслі слівы ды вішні. Ды гэты расказ, які таксама я некалі буду пераказваць, пачынаючы:

– Гэто було даўно, – нэ за нашою памэтьтю…

## НЕ ГАСПАДАР!

А ў адной маладой пары, што чакае аўтобус на канцавым прыпынку, на павадку – велізарны сабака. Ну такі ўжо велізарны, што я, буду шчырым, раней нават і не дапускаў думкі, быццам бы такія ўвогуле могуць існаваць на свеце. Нібыта конь: здаецца, бяры запрагай і паганяй лейцамі. І плуг пацягне, можа, толькі напачатку пярэднія і заднія лапы трохі прабуксуюць, але пацягне – адно паспявай бегчы за плугам.

І ён, псіна, прысеўшы заднімі лапамі на гарачы асфальт, час ад часу круціць галавой, як і многія з тых, хто доўга і марна чакае свой аўтобус і ў глыбіні душы – а то і ўголас, з уздыхам – адпускае праклёны вадзіцелям. І кожны раз, як сабака крутане галавой, з яго пашчы веерам разлятаюцца буйныя пыркі сліны. О божухна, як гэта непрыгожа і непрыемна!

Спякота. Аўтобусаў усё няма і няма. Ніводнага маршруту! Каб лягчэй было трываць гэты здзек, пачынаю думаць пра сваё...

Прыгорбленага дзеда з кульбакай я заўважыў толькі таму, што ён клыгаў прама на мяне. “Трэба даць старому дарогу,” – падумалася, калі канчаткова ўпэўніўся, што той нікуды не збіраецца збочваць, і саступіў з каналізацыйнага люка, на якім стаяў і на якім зімою, у лютыя маразы, звычайна грэюцца сабакі.

Ажно бачу: стары даварочвае на мяне. Не паспеў я яшчэ раз незаўважна пераступіць убок, як ён, амаль уткнуўшыся ў мой твар, зусім ціха, каб ніхто іншы не пачуў, нешта невыразна вымавіў.

– Што вы сказалі? – разгубіўся я ад нечаканасці.

– Ты думаеш, з яго будзе гаспадар? – гэтаксама ціха паўтарыў дзед.

Я недаўменна паціснуў плячыма, бо так нічога і не паспеў зразумець.

А ён, ставячы адразу ўсё на сваё месца, глыбакадумна працягваў:

– Гаспадар – каня будзе лепш трымаць, чым сабаку, – мой

суразмоўца злёгку нахіліў галаву ў бок маладой пары. Сказаў і адыйшоў у сярэдзіну натоўпу, ператварыўшыся ў звычайнага чакальніка аўтобуса.

## ТЫРЧОК

– А знаешь, как по–белорусски будет слово“перпендикуляр”? – ці то з падвохам, ці то з нейкім нават абурэннем звярнуўся да мяне  калега па працы. Ён быў з рабочых.

У галаве пачаліся ліхаманкавыя пошукі патрэбнага слова. Рабілася сорамна, што неабходнага адпаведніка, як на зло, упарта не знаходзілася. Паўза  зацягвалася, і мне нічога іншага ўжо не заставалася, як падняць рукі ўгору.

– Ну, і як жа? – спытаў зацікаўлена.

Па  міміцы майго суразмоўцы было зразумела, што ён гарэў неўтаймоўным жаданнем хутчэй вымавіць гэтае прызапашанае слова, каб, чаго добрага, не забыць яго і не страціць шанс адсвяткаваць перамогу.

– Тырчок, – выдыхнуў мой калега, ледзь стрымліваючы смех.

– Тырчок?.. Сапраўды. Як жа я не здагадаўся?! Такое трапнае, дакладнае слова і, самае галоўнае, наша...

– Ну, вы уж совсем одурели со своим белорусским “тырчком”, –  бесцырымонна перабіў мяне калега. – Ведь все уже давно привыкли к русскому“перпендикуляр”.

– Дык мо і“биссектриса” і “медиана” – “исконно русские”, як ты кажаш, словы? – пайшоў я ў наступ.

Ён адкрыў рот  і, анямелы, пачаў “прозревать”. І так павольна, пакутліва доўга прыходзіла да яго тое разуменне!.. Я злёгку дакрануўся да яго пляча, нема выказваючы спачуванне і адышоў, бо гаварыць больш не было пра што. Мы былі на пахаванні чарговага міфа.

## ХОДЗЬ  СЮДЫ!

Гандлюе полька на Берасцейскім рынку. Не, не на цяперашнім, а на тым, што некалі быў адкрыты ўладамі як атракцыён. Вы спытаеце, а як гэта?.. Ды вельмі проста. Рынак, на які можна было патрапіць толькі за плату, меў права без усялякай долі сумніву называцца атракцыёнам накшталт чортавага кола таму, што наведвальнікі кружыліся вакол грошай і тавараў,

паглядаючы зверху на раскладзенае ля ног багацце.

Дык вось, гандлюе на Берасцейскім рынку полька. Народ валам валіць, каб паглядзець на дзівосы, якіх ніколі ў нас не бачылі на паліцах магазінаў і нават на чорным рынку. Сумна было б ёй. Кішэні ў людзей пустыя. Ды і плацілі мы, часцей за ўсё, толькі за атракцыён. І яна, здагадлівая, прыхапіла з сабою маленькага сабачку. Цяпер, напэўна, зрабіць гэта не надта проста, на мяжы запатрабуюць розныя даведкі, радаводную, а тады клопату не было. А цюцька быў маленькі, можна сказаць, кішэннага памеру. Між тым, не зважаючы на сваю не шляхецкую пароду, ён, як і любы сабака, меў звычку адбегчы, падняць заднюю нагу і абазначаць сваю тэрыторыю на нашым рынку. Такая вольнасць наўрат ці магла спадабацца айчынным ваўкарэзам. І таму полька, як толькі сабачка трошкі адбяжыць па сваіх фізіялагічна–захопніцкіх патрэбах, адразу ж камандуе: “Ходзь сюды!”, і той адразу ж вяртаецца да гаспадыні.

“От ліха ж на яго, – пазайздросціў я, – нават панскі цюлік разумее родную мову. І ў школе ж не вучыўся.

## АДПОМСЦІЎ

Ёсць такая катэгорыя людзей, якія заўсёды трапляюць у камічныя сітуацыі. У дадатак, пра свае прыгоды яны могуць бясконца і красамоўна апавядаць.

– А вось яшчэ была хохма, – не перавёўшы духу ад папярэдняй гісторыі, адразу ж перайшоў да новай мой напарнік Валодзя. Нас абодвух накіравалі ў зборачны цэх, як кажуць, “на прарыў”, але ў чарговы раз па невядомай прычыне спыніўся канвеер.

Валодзя трошкі задумаўся. На ягоным твары з’явілася інтрыгуючая ўсмешка, а ў галаве, хутчэй за ўсё, пранесліся найдрабнейшыя падрабязнасці здарэння.

– Адпомсціў… што называецца”, – пачаў Валодзя ці то са своеасаблівага загалоўка, ці то адразу з рэзюме. І вось што я пачуў ад яго на гэты раз.

– Выйшаў я аднойчы з рэстарана. Была ў маладосці звычка па рэстаранах хадзіць. Яно і цяпер хацелася б, ды зарплата разгуляцца не дае. Дык, значыць, цягнуся сабе па тратуару, хоць яшчэ і не зусім як ланцуг, але з боку ў бок добра насіць. А

тут насустрач, бачу, дзеўка. Няспешна так ідзе. Прыпыніўся, прыгледзеўся – прыгожая, аднак, ліха яе бяры. Да таго ж – і фігурка прывабная ўгадваецца. Ну, вядома ж, я не змог прапусціць такую міма, адазваўся – і яна ў адказ. Як кажуць, зачапіліся языкамі. А там пятае, дзесятае – і я зразумеў, што яна разведзеная. А разведзеныя, па закону прыроды, вытрываць без мужыка доўга не могуць.

– Калі што – дык ну! Пайшлі да цябе, – прапанаваў я.

– Ты што, здурэў?! У мяне бацькі дома. Не, ні ў якім разе!

– А ў мяне – жонка, дзеці.

Яна прапанавала пайсці да каго–небудзь з маіх знаёмых, але варушыць мазгамі не хацелася:

– Глупства, адсунем тваіх бацькоў убок.

Як заўсёды ў падобных амурных справах, я быў настойлівы, і ўрэшце рэшт яна зразумела, што ад мяне, як ад той смалы, проста так не адкараскацца.

Яна жыла непадалёк ад рэстарана. Зайшлі ў пад'езд і падняліся, здаецца, на другі паверх. Я ўжо зараз дакладна і не ўспомню.

– Ты тут, на пляцоўцы, пабудзь, а я пагляджу, што ў доме робіцца, – неяк таемна прашаптала яна і лёгка шмыгнула за дзверы. Стаю – чакаю. Доўга стаю. Прысеў на скрыню, што стаяла тут жа, збоку, не замінаючы праходу. Але праз пэўны час пачынаю адчуваць сябе дурнем. І ўрэшце рэшт дайшло: гэта ж трэба так спрытна мяне аблапошыць!

– Ах ты, сучка! – вырвалася ў мяне. Падскочыў да дзвярэй і з усёй сілы націснуў кнопку званка. На тым баку пачуліся прыглушаныя гукі рэвалюцыйнага маршу (былі такія званкі ў свой час), а пасля – зноў цішыня. Бачу, што цывілізаванымі мерамі нічога тут не даб'ешся і пачынаю малаціць нагою ў дзверы.

Ажно чую, нават радасна стала: дзверы адмыкаюцца. І як толькі яны прачыніліся, я адразу ж уставіў у шчыліну нагу .“Вось што значыць вопыт!” – цешылася нутро. Але радасць была кароткай: дзверы аказаліся на ланцужку.

– Хітрая, каб на яе, – са шкадаваннем падумаў я, прымушаючы сябе супакоіцца. Але аддаваць завяваны такімі неверагодна вялікімі намаганнямі плацдарм не мела сэнсу. Трэба было нешта тэрмінова вырашаць.

– Ну, тады мо наліла б грам сто, – нечакана для самога сябе знайшоўся я.

На пэўны час яна знікла, і толькі скразняк вольна праходзіў

у прачыненыя дзверы. Яна вярнулася з пачатай паўлітроўкай і чаркай, якую асцярожна прасунула ў шчыліну.
– Ці ж ты не ведаеш, што цераз парог не п'юць? – паспрабаваў я схітрыць.
–Тады прыбяры нагу…
– У такім разе можна было наогул застацца перад зачыненымі дзвярыма з пустой чаркай у руцэ. Выбару не заставалася: давялося піць цераз парог. А колькі ўсяго чарак кульнуў, – зараз і не ўспомню…

Прачнуўся ад таго, што нехта цяжкі наваліўся на мяне зверху і цісне так моцна, што ажно дыханне займае. Адначасова гэты "нехта" як абцугамі сашчаміў кісць правай, анямелай, вывернутай за спіну рукі. Я паспрабаваў варухнуцца – марна… Расплюшчыў вочы. Было цемнавата. Паступова я зразумеў, што ляжу на лаўцы бульвара. Сабраўшыся з сіламі, я адпіхнуўся вольнай левай рукой ад лаўкі, і са спіны на зямлю зваліўся... мяшок. На правай руцэ быў намотаны кавалак ланцуга з замком на апошнім кольцы. Галава балела страшэнна. У роце – як куры пераначавалі. Памацаў што ў мяшку, – бульба.

Ну, усякае бывае ў жыцці, што тут зробіш, такі ўжо я чалавек. Але самае цікавае ў гэтай гісторыі было потым. Праз некалькі месяцаў, хто б мог падумаць, сустракаемся зноў на тым самым месцы. Яна загаварыла першай, як быццам бы толькі і чакала гэтай сустрэчы:
– Дык гэта ты скраў тады ў нашага суседа мяшок бульбы і ланцуг з замком?
– Хіба ты здурэла, ці ж я на такое здатны!..

У гэты час канвеер заскрыпеў і пасунуўся. Зноў закіпела праца. Дэталі, дасканала падагнаныя адна да другой, не тое што людзі, спраўна і лёгка мацаваліся на каркас, каб праз колькі хвілін стаць сучаснай газавай плітой.

Цікава, што ж раскажа Валодзя ў наступны раз?



## *Валянціна БАКУН – КУЛЬБЕДА*

* * *

Калі парою апануе сум,
Слязе праліцца я не дазваляю.
Узняць настрой – фантазію–красу
У госці зноў сардэчна запрашаю.

З маёй сяброўкай мудрай, шчыраю
Вандрую я па роднаму Палессі,
Плыву рачулкай – Ясельдаю мілаю,
Шукаю кветку папараці ў лесе.

Душу акрыліць утрапенне дум,
І заварожаць таямніцы лесу –
Нахлыне радасць, змые з сэрца тлум,
І ападзе з душы маёй завеса.

## ГАРЫЦЬ НАД ЯСЕЛЬДАЙ ЗАРАНАК...

Гарыць над Ясельдай заранак,
Павольна рэчанька цячэ.
Пры ўсходзе сонца ціхі ранак
Маіх кранаецца вачэй.

Луг зараселы ярка ззяе,
Кустоўе шчэбетам гучыць...
Тут рэчка возера вітае
І ў воды Прыпяці бяжыць.

А я вітаю ўсе лілеі,
Жывую плынь, святую гладзь
І – сэрцам зноўку маладзею,
Душы пачуццяў не стрымаць.

## АБРАЗОК

Матуля на вянчанні мне
Абраз цудоўны падарыла –
У дзень вясельны, па вясне,
Святыняй гэтай блаславіла.

Штодзень малітваю святой
Прашу: “Госпадзь Усемагутны,
Даруй грахі, пашлі спакой,
За радасць дзякуй і пакуты”.

Рэліквія сям’і маёй,
Як вечны скарб, перадаецца,
А саматканы ручнічок –
Святло матулінага сэрца.

## СВЯТОЕ МЕСЦА

Раскошна дрэвы цягнуцца увысь,
Калышуць голле ад павеву ветру
І ціха шэпчуць лісцем, што калісь –
Хадзіла Маці Божая па свету.

Спакон вякоў, як сведка, тут ляжыць
Свяшчэнны камень – вабіць ён прахожых:
Прачыстая прысела адпачыць
На купіну ў цяньку бяроз прыгожых.

І скамянела купка той зямлі,
Каб гэта дзіва–месца ўвекавечыць,
Каб праз стагоддзі людзі тут маглі
І пакланіцца, і любоў засведчыць.

Крыж з абразком стаіць каторы век,
Калісьці Дзева тут адпачывала.
Перахрысціся, добры чалавек,
Каб шлях жыццёвы й твой багаслаўляла.



# *Сяргей БЕЛАЯР*

## АПАЛОН–11

Фантастычнае апавяданне

Місія “Апалона–11” заканчвалася. Груvасткі касмічны карабель павольна наблізіўся да арбіты Месяца. Застыў, нібыта вагаючыся пераадолець нябачную рысу.

Ніл Армстронг, камандзір “Апалона –11”, выцер пот з ілба і зірнуў у круглае чэрава ілюмінатара. З арбіты Месяц здаваўся жахліва вялізным, ажно рэзаў вочы. Паверхня спадарожніка была пакрыта шматлікімі воспінамі–кратэрамі, што засталіся пасля падзення метэарытаў. Маленькія, а часам і шматкіламетровыя раны пакрывалі паверхню, нараджаючы міжвольныя асацыяцыі з наступствамі масіраванай бамбардзіроўкі.

– О’кей, мы на месцы! – Армстронг павярнуўся да таварышаў. – Паведаміце Х’юстану: палёт прайшоў паспяхова!

Колінз кіўнуў. Пстрыкнуў тумблерам. Праз імгненне сувязь выбухнула рэзкім скрыгатам. Пілот каманднага модуля прамармытаў у мікрафон словы камандзіра, а потым сказаў:

– Выдатная работа, сэр. Яны віншуюць нас. Можам пачынаць прылуненне.

Армстронг усміхнуўся. Пакуль усё ішло па плане. “Апалон–11” стартаваў 16 ліпеня 1969–га ў 13 гадзін 32 хвіліны. Дасягнуў арбіты Месяца пасля 76–ці гадзін нялёгкага палёту. Цяжка было паверыць, што амерыканцам удасца дабрацца да Месяца. Толькі рэдкія аптымісты, сярод якіх быў і капітан карабля, спадзяваліся на цуд. І ён адбыўся. Яны зрабілі гэта! Уцерлі нос рускім. Няхай і надалей выхваляюцца тым, што першымі выйшлі ў космас. Невялікая заслуга. А яны даляцелі. Яшчэ крыху – і сядуць на паверхню. Армстронга перапаўняла радасць. Падумаць толькі – ён стане першым чалавекам, які ступіць на паверхню спадарожніка

Зямлі...
– Увага! Пачынаем адстыкоўку месячнага модуля! – паведаміў Колінз.
Армстронг і Олдрын заняліся замкамі. Праверылі работу прыбораў. Ляглі ў супрацьперагрузачныя крэслы. Пстрыкнуўшы рамянямі бяспекі, Армстронг узняў вялікі палец.
– Пачынаю зваротны адлік! – крыкнуў Колінз. – Пяць! Чатыры! Тры!..
Кабіна здрыганулася. Пасля ўключыўся рухавік пасадачнай ступені, і модуль стаў набліжацца да паверхні спадарожніка. Аўтаматычная сістэма пасадкі нечакана пацягнула кабіну прама ў кратэр, набіты камянямі. Запаліўся аварыйны сігнал. Армстронг вылаяўся. Ліхаманкава перайшоў на ручное кіраванне, змяняючы цягу пасадачнага рухавіка па сігналах радыёвышынямера. Чырвоны агеньчык нерваваў, прымушаў пакрывацца халодным ліпкім потам. Прачнуліся першабытныя страхі. Армстронг недарэчна згадаў, што яшчэ да палёту ў борце “Апалона–11” была знойдзена цеча. Прабоіну ўдалося хутка залатаць, аднак прымхлівыя Колінз і Олдрын палічылі гэта дрэнным знакам. Тады камандзір карабля толькі пасмяяўся з падначаленых. Аднак зараз здарэнне ўжо не здавалася такім смешным.
– Х’юстан! Гэта Ігл. У нас тут “аварыйка” палае на ўсю моц. Што рабіць? – імкнучыся не выдаць свайго страху, спытаў Армстронг.
– Ігл, гэта Х’юстан. – Голас аператара прагучаў з секундным спазненнем. – Не звяртайце ўвагі. Працягвайце выкананне пілотнага задання.
– Зразумеў вас, Х’юстан! – капітан націснуў на рычагі ручнога кіравання, як мага далей адводзячы модуль ад напоўненага смерцю кратэра. Прылуніся ён на камяні – і абшыўка не вытрымае. Рэзкі ўдар дакладна сплюшчыць тонкую перагародку. Потым улятучыцца паветра. Нават, калі яны паспеюць нацягнуць скафандры, запасу кіслароду хопіць усяго на некалькі гадзін. Цалкам дастаткова для таго, каб “Калумбія” змагла выклікаць дапамогу. Але прэзідэнт Ніксан (без усялякага сумнення) не стане дарэмна пераводзіць грошы падаткаплацельшчыкаў. Навошта рызыкаваць другім караблём? Загінуўшых астранаўтаў проста спішуць як незваротныя страты, урачыста пахаваюць за дзяржаўны кошт. І пачнуць праграму спачатку...
Армстронг страсянуў галавой, адганяючы сумныя думкі. Выраўняў месячны модуль. Стаў плаўна набліжацца да паверхні спадарожніка.

– Шэсцьдзесят секунд! – нагадаў цэнтр кіравання палётам. Гэта азначала, што паліва ў тармазнога рухавіка заставалася роўна на адну хвіліну работы. Пасля гэтага неабходна альбо вяртацца, альбо садзіцца. Гранічны мінімум запасу – 20 секунд.
Модуль завіс. Армстронг чагосьці цягнуў, не спяшаўся прымаць рашэнне.
– Сэр? – устрывожана загаварыў Олдрын. – Дваццаць секунд! Сэр?
Прайшло некалькі імгненняў. Армстронг па–ранейшаму марудзіў, не рашаўся апусціцца на паверхню. Пальцы ўчапіліся ў рычагі кіравання, гатовыя раздушыць ні ў чым не вінаватую пластмасу. Пасля цяжкага, каштаваўшага немалых намаганняў уздыху, Армстронг сказаў:
– Спакойна, Эдвін! Зараз пракляты пыл развеецца, і мы зможам спакойна прычаліць!
Олдрын здзіўлена паглядзеў у ілюмінатар. Аказалася, струмені газаў, якія выходзілі з сопла працуючага рухавіка, паднялі вялікае воблака пылу і капітан проста не бачыў месца пасадкі.
Нарэшце кабіна апусцілася на паверхню. Да крытычнай рысы ў дзесяць секунд заставалася зусім мала.
– Х’юстан, гаворыць База спакою. Ігл сеў! – выдыхнуў Армстронг.
– Зразумеў вас, Спакой. Вы прылуніліся. Мы тут усе знерваваліся. Уздыхнулі з палёгкай. Вялікі дзякуй! – пачуліся нясмелыя апладысменты.
Яны знерваваліся – вось скажуць яшчэ! Капітан чмыхнуў. Яму давялося горш за ўсіх. Астранаўты ледзь не загінулі. Калі б чортаў пыл не супакоіўся, модуль магло разбіць аб камяні. Ані магілы, ані помніка, ані тужлівых сваякоў... У скронях стукала, сэрца было гатова выскачыць з грудзей. Але злосць на Чарльза Д’юка хутка выветрылася, саступіўшы месца рабочай засяроджанасці.
– Гэй, Эдвін! Пачынаем!
Армстронг выбраўся з супрацьперагрузачнага крэсла. Праверыў работу бартавых сістэм. Па плане варта было адпачыць, але ўзбуджэнне, якое перапаўняла амерыканцаў, патрабавала неадкладнага выхаду. Капітан “Апалона–11” звязаўся з цэнтрам кіравання, і медыцынскі кіраўнік даў дабро на змяненне першапачатковага плана. Нервовае напружанне ўсё роўна не дало б заснуць.
Астранаўты нацягнулі скафандры. Праверылі герметычнасць. Армстронг уключыў знешнюю бартавую камеру, узяўся за руч-

ку люка. Крутануў. Затым плаўна пацягнуў масіўную пласціну на сябе. Скінуў лесвіцу. Крыху памарудзіўшы, стаў спускацца. Упэўнена ступіў на паверхню. Падэшвы патанулі ў мяккім грунце.

– Што там, сэр? – пачулася ў дынаміку ўнутранай сувязі. Олдрын сунуў галаву ў адкрыты люк, назіраючы за тым, як капітан топчацца каля месячнага модуля.

– Усё нармальна, Эдвін! Проста пыл. Адчуванне такое, быццам ідзеш па траве... – Армстронг асцярожна зрабіў крок. І выпаліў:

– Гэта адзін маленькі крок для чалавека, але гіганцкі скачок для ўсяго чалавецтва.

З дапамогай спецыяльнай камеры Армстронг зрабіў некалькі панарамных здымкаў. Прайшоўся па паверхні, нязвыкла хістаючыся, з асцярогай убіваючы цяжкія чаравікі ў пыл. Той клубіўся, весела абвалокваў падэшвы.

– Сэр, я выходжу! – паведаміў пілот месячнага модуля. Праз імгненне ўзбуджаны Олдрын ужо стаяў на паверхні спадарожніка, са здзіўленнем і дзіцячым захапленнем гледзячы па баках. – Пустэльнае хараство!

Армстронг пацiснуў плячыма. Рабіць гэта ў скафандры аказалася нязручна. Камандзір “Апалона–11” скінуў накрыўку кантэйнера, замацаванага на адной з пасадачных апор. Паглядзеў на памятную шыльдачку з картай зямных паўшар’яў. Стаў чытаць у мікрафон, імкнучыся надаць свайму голасу дастатковую ўпэўненасць:

– Тут людзі з планеты Зямля ўпершыню ступілі на Месяц. Ліпень тысяча дзевяцьсот шэсцьдзесят дзевятага года ад нараджэння Хрыстова. Мы прыйшлі з мірам для дабра ўсяго чалавецтва... – словы гучалі да непрыстойнасці напышліва. Бо, калі задумацца, з мірам альбо мірай? Чаму ва ўсіх фільмах прыхадні заўсёды кажуць падобную лухту?

Месяц быў цудоўны. Адсутнасць атмасферы надавала спадарожніку дадатковую ўрачыстасць і своеасаблівую прыгажосць. Кантрастнасць была неверагоднай. Але куды больш велічнай здавалася Зямля. Бела–блакітны шарык планеты навісаў над амерыканцамі, прымушаючы астранаўтаў знерухомець ад захаплення. Людзі здаваліся мурашамі на фоне масіўнага цела Зямлі. Было адначасова дзіўна і ў той жа час цікава глядзець на калыску чалавецтва збоку, знаходзячыся сярод сярэбранага зіхацення зорак, якія пакрывалі чарнату велічнага космасу.

Армстронг усміхнуўся. Збылася колішняя мара рамантыкаў здабыць крылы. Тое, што здавалася адважнай фантазіяй, выдум-

кай пісьменнікаў–фантастаў, стала рэальнасцю. Яны на Месяцы! Капітан “Апалона–11” ледзь стрымліваўся ад таго, каб не пусціцца танчыць. Аднак рэпутацыя камандзіра касмічнага карабля не дазваляла астранаўту выказаць свае пачуцці. Разам з Олдрынам Армстронг паскакаў па паверхні, падабраў некалькі ўзораў месячнага грунта. Знаходкі больш за ўсё нагадвалі кавалак швейцарскага сыру.

Калі ўзбуджэнне ўляглося, астранаўты ўстанавілі тэлевізійную камеру. Забілі ў грунт нейлонавы сцяг ЗША. Надалі палотнішчу належны выгляд. Пасля гэтага правялі кароткі сеанс сувязі з Рычардам Ніксанам. Прэзідэнт шырока ўсміхаўся, пажадаў поспеху. Абавязак, гонар, патрыятызм, вялікая адказнасць, першы чалавек на Месяцы... Аднак у голасе Ніксана лёгка адгадваўся фальш. Высадка на Месяцы – гэта, вядома, гучыць горда, але куды больш важным было тое, што Янкі ўсё ж такі здолелі абысці Саветы, прылуніцца першымі. Гэта прыносіла пэўныя дывідэнды, а NASA смела магло разлічваць на дадатковыя, прычым немалыя, асігнаванні. Для Армстронга не было сакрэтам, што ўрад ЗША задумаў усю гэтую шуміху наконт Месяца з адзінай мэтай – атрымаць білет у космас, каб пад завязку набіць яго зброяй. “Халодная вайна” была ў самым разгары, і дзядзьку Сэму не хацелася аддаваць у рукі рускім стратэгічную ініцыятыву. Авалодаўшы космасам, амерыканцы маглі дыктаваць Саветам свае ўмовы... Зрэшты, яму што? Ён проста выконвае сваю работу, а на астатняе пляваць!

На памяць сфатаграфаваліся на фоне пустэльнага пейзажу, усім сваім выглядам адлюстроўваючы незвычайную радасць. Зрабілі некалькі здымкаў для “яйкагаловых” – няхай парадуюцца. Напрыканцы прабеглі па паверхні, адчуваючы паніжаную гравітацыю. Адлятаць не хацелася. Калі яшчэ давядзецца прылуніцца зноў?..

Армстронг у апошні раз паглядзеў на Мора Спакою. Затым павярнуўся і рашуча пакрочыў да месячнага модуля.

Раптоўна ўвагу астранаўта прыцягнула дзіўная рэч. Армстронг спыніўся. Прысеў. Стаў ачышчаць знаходку ад пылу. І акамянеў, не верачы сваім вачам.

На амерыканца, яхідна ўсміхаючыся, вылупіўся пустымі вачніцамі чэрап. Чалавечы чэрап...

22 ліпеня 2009 г.



# *Валадзей БОЛКА*

## ДЗВЕ ПАЎЛІТРЫ

Адной ноччу, калі Таццяна спакойна спала, прыткнуўшыся азадкам да азадка мужа, прыйшоў д’ябал. Д’яблы розныя бываюць – гэты быў жанчынаю, д’ябаліцаю. Гэта як у Караткевіча: “...сабака цяжарны, бо сука ён.”

Ён нахіліўся над Таццянаю і спытаў:

– Чаго ты мяне клікала?

Таццяна не прачнулася, і чаго ёй было прачынацца, калі гаварылі не з ёю, а з яе целам. Цела адказала, як магло, што больш як тры гады жывуць яны з Нікіценкам, а дзяцей няма.

– Дзеці – гэта дар, – сказаў д’ябал. – Дзеці проста так не даюцца. Іх заслужыць трэба.

Цела адказала нешта цьмянае пра сваю прыроду, прызначэнне , патрэбу і лёс, што можна перадаць адным словам “хочацца”.

– Добра. Дапамагу, – сказаў д’ябал і кіўнуў на Нікіценку. – Толькі прыйдзецца яго як ахвяру аддаць.

Цела Таццяны хутка ўявіла, якім брыдкім можа стаць цела Нікіценкі, калі стане ахвяраю, і выдала даволі доўгую сэнтэнцыю на гуманнасць і літасць, яно пыталася ў д’ябла, дзе яго душа, і ўпэўнівала як гэта не па–чалавечы прапаноўваць такія ўмовы, але нарэшце згадзілася: “Усё роўна хочацца.”

Раніцаю Таццяна прачнулася з думкаю, што трэба ісці ў гінекалогію. Доктар быў нейкі новы, ён толькі глянуў у картку захворванняў і сказаў: “У Сакі вам трэба ехаць, кіста ў вас.” І сказаў ён гэта так, бы медыцына тут бездапаможна, а адна надзея на цудоўныя Сакі. Што ж: дачакаліся адпачынкаў і паехалі.

На паўдарозе, пад Хмяльніцкім зблудзілі, не туды павярнулі і заехалі ў тупік на нейкі хутар. Машын там мо з дваццаць

стаяла. Аказваецца, гэта чарга да бабкі–знахаркі. “Сам чорт нас сюды занёс,” – бурчэў Нікіценка.

Пайшлі ў хату. Спачатку іх сустрэла дачка знахаркі, сама ўжо бабка, дай бог кожнаму столькі пражыць. Дзве бутэлькі спірту сказала ў яе купіць. А потым пайшлі да самой знахаркі, тая дык зусім старая, столькі жыць нельга, тут гады як праклён былі. Яна паклала ў спірт зёлак і сказала як піць, каб дзецi нарадзіліся.

Паехалі далей. У Саках месца ў санаторыях не знайшлі, але ў гразі два тыдні паваляліся. Назад ехалі ўжо з дачкою, з Кацяю.

І спачатку Таццяна меркавала, што гэта гразі сакаўскія дапамаглі, бо спірт не пілі, думалі, што ўжо як дадому прыедуць – тады. А потым задумвацца пачала, што хоць бутэлькі са спіртам прапалі, але ціха было. Каб свякруха выпіла, а выпіць магла, тады б Нікіценка хадзіў бы і бубніў: “Куды яны падзеліся?!” Забыцца не мог, не той гэта чалавек, значыцца ён і выпіў: першая бутэлька на Кацю пайшла, а другая – на Дзяніса.

Пра Дзяніса Таццяна даведалася ўжо, калі развяліся яны з Нікіценкам. Піў страшна. І рассталася яна з ім лёгка. Сама сябе Таццяна надта незвычайнай не лічыла, што ж там нос задзіраць, калі ты проста жанчына. Але калі ўспамінала свайго мужа, то ўяўляла сябе вялізнаю гарою, а такіх Нікіценак – нябачнымі пясчынкамі пад нагамі. І цела яе ажно калацілася, успамінаючы, якім быдлам стаў яе муж.

Д’яблу ж дзякуй трэба сказаць, што не горшым бокам ўсё павярнулася.

## АТРУТНЫ ГРЫБ

“Маё жыццё напісана леваю нагою,” – падумала Маша Карчомкіна. Можа быць, гэта яна пра тое, што нічога больш не прыносіла ёй спакою і задаволенасці, як збіранне грыбоў. Было ў ёй нешта такое з даўніх паганскіх вераванняў, калі існаваў культ грыбоў з мухаморам на чале пантэона. Дарэчы, ніхто ніколі мухаморамі не атручваўся, але табу, памяць пра забарону засталася на генным узроўні.

Маша бачыла грыбы не так, як усе людзі. Нават не зрокам, а нейкім шостым пачуццём прасвечвала зямлю і бачыла грыбніцу. А тое, што людзі называюць грыбамі, былі для Машы

толькі органамі размнажэння, напятымі эрэкцыраванымі чэлесамі. У лес Марыя Карчомкіна хадзіла з гэтакім жа задавальненнем, з якім некаторыя людзі глядзяць парнафільмы.

Кошык быў ужо поўны, а пацягацца па лесе іназбіраць яшчэ ў кофту хацелася. І Маша зрабіла тое, што заўсёды рабіла, хоць і не ведала для чаго, можа, каб яшчэ раз праверыць свае надзвычайныя здольнасці. Яна зрэзала першы, які трапіў пад руку, атрутны грыб, паднесла яго да рота і ціхенька хукнула. Масляная слізь на шапачцы ўсмакталася, карункавая аборка на ножцы знікла, а атамы ў сярэдзіне грыба сталі так, што грыб зрабіўся ў разоў пятнаццаць больш небяспечным, а выглядаў звычайным маладзенькім рыжыкам.

Маша паклала грыб у кошык, кошык пакінула на палянцы, а сама пайшла ў лес збіраць фалічныя сімвалы сваёй сэксуальнай незадаволенасці і закамплексаванасці.

Андрэй Пугач, Андрэй–без–дзяцей, апівоха і беспрацоўны, толькі–толькі зайшоў у лес, як убачыў поўны кошык грыбоў. Доўга думаць ён не стаў, а проста ўзяў тыя грыбы.

З Андрэем я пазнаёміўся неяк вясною на рынку, ён прадаваў венікі. “На жаль, бяроза пусціла лісце, — казаў ён. – Але нічога, у мяне яшчэ трохі навязана. А там смарчкі пойдуць, за імі ландышы, глядзіш і ягады з’явяцца, пазней трохі грыбы – і гэтак круглы год”. Ён не краў, не лазіў па сметніках, не сядзеў на шыі ў бацькоў, а сам зарабляў сабе на выпіўку. У нечым я яму зайздросціў. Можа, у тым, што я сумняваўся, а ён быў упэўнены, што яго жыццё ні чым не горшае за якое–небудзь іншае чужое жыццё.

Здарэнне з кошыкам не было крадзяжом, Андрэй проста ўзяў, гэта была цудоўная гісторыя, анекдот “Як збіраюць грыбы”: прыходзіш у лес, бярэш кошык з грыбамі і ідзі прадаваць.

Купіла грыбы Тамара Бурчыц, жанчына незадаволеная ўсім, і найперш сваім мужам. У гэты дзень у аўтобусе да яе прычапіўся дурань, адзін з трох, што круцяццца ў нашым горадзе. Убачыўшы непрыгожы твар далёка не маладой Тамаркі, ён запытаў: ”Дзяўчынка–прыгажунька, а ты помніш, што такое сэкс?” І, прытанцоўваючы, сам жа адказаў: “Гэта тое, чым займаюцца ноччу”. Яна не змагла як–небудзь зрэзаць прыдуркаватага Дон Жуана, а толькі пачырванела і хуценька вылецела з аўтобуса. Яна ўся аж кіпела, не ведала, куды ідзе – і тут убачыла ў кошыку Андрэя Пугача незвычайны грыб. У яе не

было такога дара, як у Машы Карчомкінай, але, мусіць, з жаночай салідарнасці ці з жаночай помслівасці, яна зразумела, што гэта за грыб.

Купіўшы грыбы, Тамара пайшла дахаты гатаваць мужыку вячэру. "А я яшчэ хацела яго прозвішча ўзяць," – пачулася выпівоху Андрэю, як Тамара гаварыла пра нешта сваё.

Лёнік Галаскок вяртаўся дадому насцярожаным: ад Тамаркі зараз чаго хочаш можна чакаць. Насцярожанасць яго павялічылася, калі ён убачыў, што яго чакае на стале бутэлька гарэлкі і патэльня з грыбкамі. Лёнік хуценька сеў за стол, кульнуў чарку, начапіў на відэлец грыбок і тут заўважыў Тамару. Яна стаяла зусім блізка з ручніком у руках, як афіцыянтка ў рэстаране, якая чакае заказу ці чаявых. Лёнік падумаў, што мокры ручнік улепіць яму па карку, і хутка праглынуў грыбок. Але жонка не спяшалася праводзіць расправу. Ён наліў сабе яшчэ, а Тамара прынесла яму хлеба. "Мне падмянілі жонку," – падумаў Лёнік.

Калі мужык лёг спаць, Тамара доўга хадзіла па хаце, прыслухоўвалася. Ёй раптам зрабілася страшна, што Лёнік можа памерці, а яна пра гэта не дазнаецца. Трэба ж будзе галасіць і да суседзяў бегчы. І каб ведаць, калі можна будзе – яна яшчэ сама не разумела, што – ці то святкаваць перамогу ў шматгадовай сямейнай вайне, ці то аплакваць сваё няшчасце і горкую долю, яна лягла да Лёніка.

"Шкада, — падумала Маша Карчомкіна. – Кошык быў амаль новы. Гэты Андрэй Пугач мог бы проста перасыпаць грыбы."
"Дзіўна, — прамармытаў Андрэй Пугач. – Такая жанчына, як Тамара, звычайна не купіла б, не патаргаваўшыся."
"Гарэлка, грыбы, жонка пад бокам – нічога не разумею?" – успамінаў Лёнік Галаскок, як усё змянілася за мінулы дзень.
"Што ж гэта за грыб такі? – не магла ўразумець Тамара. – Гэта Маруся Карчомкіна не такая ўжо здатная вядзьмарка."





# *Яўген БЯЛАСІН*

## ЗОРКА

### Монаверш

Калі стаю апоўначы пад цёмным небам – бачу зыркую гіпнатычна зьзяючую зорку. Зорка калючая і недасяжная. Таму што гэтая зорка – ты.

Ведаючы, што фізычна дасягнуць зоркі немагчыма, ведаю інтуітыўным веданьнем і другое – дасягнуўшы, раптам выяўлю, што збочыў, дасягнуў цікавай, але ня той. А тая – варта будзе апоўначы падняць галаву да зорнага неба. Там яна будзе зьзяць, калючая і недасяжная, мая–не–мая зорка, кавалачак зыркай плазмы, ясачка полымя, імя якому Эрас.

## ХАДЖУ І

Хаджу, прымаю роды ў зямлі –
то белага праўдзівіка–сынка,
то рыжую дачку–лісічку…

## ХАДЖУ ІІ

(Стома)
Хаджу па дню, зьбіраю стому,
нібы той раб на кош каменьне,
усю нясу яе дадому,
каб споўніць ночнае здарэньне,
калі нябачна ночы рукі,
што ці ня Богам скіраваны,
той стомы дзённае, прынукі
за каменем здымаюць камень.

# ЗДЫМАК

*Т.Р.*

Сьвіцязь цябе падняла на далоні
і паказала ўтрапёнаму сьвету
лініі вольнае гонкасьць і ўлоннасьць
і дасканаласьць суладнасьці гэтай.

Клічнік грудзей і станоўчасьць паставы
не апісаць аніяк паасобку.
Можа, знайду ім прыдатнае славы,
каб разгарнуць дасканаласьці кропку!

Водлет рукі і арфічныя пальцы —
гэта пялёсткі да зграбнага цела,
гэта Венеры штрыхі–пастаяльцы:
могуць падкрэсьліць, бароняць няўмела.

Лінія шыі і плеч закранае
ў сэрцы якісьці матыў абароны:
вось жа, прырода адно пачынае...
Дык не сьпяшайся грувасьціць карону !

Але антонімам па–над вадою
ногі ад костачак і да бясконца;
нават пад вопраткі хмарай–нудою –
ногі аспрэчваюць зыркае сонца !

Згінаў нюансамі надта свавольна,
ва ўсьведамленьні сваёй перамогі,
але й да бегу да лёткага здольна
сьцьвердзілі холду жаночага ногі.

Ды недарэчна гадзіньнік сьпяшаўся,
пэўна, спалоханы фотапагрозай,
ды з дасканаласьці Бог расьсьмяяўся,
дужа сваёй задаволены крозай:

Вось, маўляў, сьветлае возера Сьвіцязь,
Ну, а ці вы дасканаласьці верцы ?
А калі верцы, аднойчы вярніцеся
Па дасканалыя здымкі і сэрцы.

## МУЗЫКА

Музыка адэкватная поўніцы жыцьця праз рытм. Музыка "Бітлз" – гэта спектр перападаў ад заміраньня сэрца дзіцяці, якому млосна без маці альбо таты, да рушлівай хвалі сэрцабіцьця пры чаканай сустрэчы.

Папса – гэта аптымістычны стук сэрца паядальніка сьвініны.

## КАХАНЬНЕ

Каханьне з філалагічнага гледзішча – гэта слова зацемненага паходжаньня. Верагодна, яно паходзіць ад старажытнагабрэйскага каган, коган (кохан) – сьвятар; ягоная этымалогія можа выводзіцца і з другой мовы, прыналежнай да індаеўрапейскай групы моў, з нямецкай, – ад старажытнанямецкага konung, – па–сучаснаму König, кароль (параўнайце: кон, наканаваньне).

Прынамсі, абодва пра–словы кохан і konung абазначалі прыналежнасць да вузкай, выбранай групы асобаў з найвысокім сацыяльным статусам.

"Кахаць" значыць рытуальнічаць, багаміць, узводзіць аб'ект каханьня ў стан караля\каралевы, караляваць.

## БЕЛЫ ВЕРШ БЯЛАСІНА

Па асфальце кульгае–коціцца пустая пластыкавая пляшка з–пад спрайту. Кульгае, бо ўжо пераеханая машынай. Сьпяшаецца: здалёк ужо набягае чарговы аўтамабільны залп. Вецер ёй дапамагае, падпіхвае. Ды ўсё дарма: апынулася не ў тым месцы не ў той час, і быць ёй пляскатай, што блін.



# *Вера ВАКУЛА*

***

Як добра было ў дзяцінстве,
Які быў бялюткі снег,
Што коўдрай ляжаў на дзядзінцы,
Пухнатымі шапкамі стрэх.

І крыгі на топкім балоце,
Дзе бавілі час мы штодня,
І вельмі прыгожая лотаць –
Цяпер такой, пэўна, няма.

І поплава водар духмяны,
Устрывожаны клёкат буслоў,
І хлеб ў ручніку палатняным,
Сунічных палян хараство…

Мне колькі гадоў ужо сніцца,
Што татаў гармонік іграе,
Смакую ваду я з крыніцы,
Валошкі ў жыце збіраю.

Блукаю ў Купалле па лесе
І ногі я мыю на ганку…
Была я дзяўчынкай з Палесся,
А стала даўно гараджанкай.

## ДЫЯМЕНТЫ КАХАННЯ…

Я чакала твайго прызнання
Столькі дзён і бяссонных начэй.
Дзесці ў сэрцы хавала каханне –

Ад замоў і нядобрых вачэй.
І цяпер успамінаю з пяшчотай
Твайго позірку дзіўны блакіт,
Што так лашчыў мяне ўпотай
І прыцягваў нібыта магніт.
Ад дзявочае сціпласці, можа,
Ці няўпэўненасці ў сабе
Так хацелася быць прыгожай,
Каб хоць чымсці прывабіць цябе.
Але ўдзячна я лёсу бясконца –
Са спазненнем у трыццаць гадоў –
Ты сказаў мне, што я – тваё сонца…
І юнацтва я ўспомніла зноў.

***

Чароўнае лёсаў спляценне –
Жадаючы прагна цяпла,
К табе я ішла праз сумненні
І сэрца ў далонях нясла.
Хоць здрадзіў…Хоць сэрца параніў…
Не страціла я пачуцця.
І цяжка хварэю каханнем
Амаль на ўскрайку жыцця.

***

Наша шчасце с табой запарошана
Чыстым снегам, пялёсткамі руж.
Ты мой самы каханы, харошы мой,
Хоць ніхто мне – ні сябра, ні муж.
Ты мой самы апошні і першы мой –
Недасяжна далёкі, як Бог.
Я цябе зачарую вершамі,
Каб ты здрадзіць мне болей не змог…

***

Трэба доўга ісці праз гады,
Каб аднойчы назад азірнуцца,
Каб паклікала штосьці туды,
Дзе ўспаміны, як слёзы, ліюцца.

І сціскаецца сэрца ў журбе,
Апякае імгненнем кароткім –
Бачу вельмі маленькай сябе,
Маці з татам, братоў–аднагодкаў.

Кола лямпы дрыжыць на сцяне.
Помню, нават, малюнак шпалераў...
Мне ў дзяцінства вярнуцца б не ў сне…
Толькі ў цуды даўно я не веру.

Так імклівa праходзіць жыццё.
Маці з татам даўно на пагосце,
А ўсё цісне віны пачуццё,
Што была для іх рэдкаю госцяй.

Што не часта я бачу братоў –
Маўляў, шкодзяць хваробы і сталасць,
Дакараю сябе зноў і зноў,
Што заўчасна самотнай я стала.

Як шкада, што раскідаў нас лёс –
Разляцеліся, як птушаняты,
Чую я шапаценне бяроз,
Што раслі ля бацькоўскае хаты.





# *Святлана ВАРОНІК*

*Чытаючы “Марусю Чурай” Ліны Кастэнка ў перакладзе на беларускую мову Ніны Мацяш.*

***

Душа маўчала…
А крычала цела…
Яна, душа,
усё ў Жыцці
ўжо мела…

А вочы мамы…
Ўсё жыццё ссівела…
Мой белы свет,
няўжо ты больш
 не белы…

Бяжыць сцяжынка
да маёй душы…
Вяртаюся,
 душа…
А – ты ?..

***

Маўчала ўсё…
І дрэвы нат маўчалі…
Калі ўначы
ўсе ночы закрычалі…
А птушачка мая,
бы кацяня,
так усміхнулася…

Пырх–пырх…
Была…
І – не вярнулася…

***

Няўжо я стала птушкаю?..
І крылы!
Даруй мне, Божанька…
Анёл мой мілы…

***

Шляхі–шляхі…
Чаму вы сцежкай сталі…
Чаму, шляхі,
вы сцежкаю шукалі…
І мой прастор… Маю патолю…
І мой працяг…
І – маю долю…

***

А дрэва прарастае
да нябёс…
Там Божа ёсць…
А карані…
Абарані…
Нябёс зямля…
Там прарастаю
дрэвам я…

***

Травінка мне
расінкай усміхнулася…
Каса
ў жыццё сваё
вярнулася…

***

Так расцвітаюць касачы…
Так пахне неба…
Не сячы
мой промень ясны…
Пахне хлебам…
Табой і мной…
Зямлёю й небам…

***

Цаляльна так
стралялі мне
ў грудзі…
Не кулі…
Кулі – не…
А – людзі…

***

І раптам
нешта пахіснулася…
Мой зайчык…
Сонца ўсміхнулася…

## ЯНКА і БОЖАНЬКА

Сёння – Вялікдзень… Хрыстос – уваскрос… "Хрыстос – уваскрос! Слаўце Яго!" – гучала сёння ў храме. Янка ўсміхнуўся маме, прыхінуўся да таты. Гэтак радасна і ўрачыста было на душы ў малога… Упрыгожаная царква, святочна апранутыя людзі, асабліва дзеткі. Як тыя рознакаляровыя матылькі, за якімі так любіць назіраць Янка летнімі сонечнымі днямі. А гэтыя велічныя песнаспевы, на якія душа хлопчыка сама адгукаецца словамі "Сапраўды ўваскрос!" у суладнасці з галасамі вернікаў… А залатое яйка, якое трымае Янка ў руцэ!.. Толькі зусім нядаўна адкрылася яму таямніца залатых яек, калі паназіраў ён, як іх фарбуе мама… У цыбульніку!!! Дык вось чаму і яна, і бабуля заўжды збіраюць шалупінне ад цыбулі ў торбачку. Янка і сам упрыгожыў–размаляваў колькі яек: у

кветачкі і зорачкі, у кропачкі… Прыго–о–жа… Некаторыя яйкі аздобіў спецыяльнымі налепкамі, якія прынесла мама.

Падчас набажэнства ў царкве Янка ўсё болей здзіўляўся шматлікай колькасці адценняў фарбаваных яек, што ляжалі на сталах у кошычках, у адмыслова змайстраваных скрыначках, на сподках–сподачках… Ён нават пачаў уяўляць–гарэзаваць, як бабуля выбірае ў гародзе цыбулю сінюю, чырвоную, зялёную… Але найбольшую цікавасць і захапленне ў Янкі выклікалі фарбаванкі, якія з дзіцячай цікаўнасцю разглядалі дарослыя, і з такой жа – дзеці. Не мог Янка не здзівіцца выявам, здавалася, велізарных гарадоў і людзей у іх на звычайным яйку!

У двары дома Янка падсеў на лаўку да суседкі бабы Шуры і працягнуў ёй прыгожае залатое яйка:

– Хрыстос уваскрос, баба Шура!

– Сапраўды, уваскрос, – прамовіла баба Шура і, нахіліўшыся, шчасліва пацалавала малога. – Гэта табе, – заўсміхалася, і дастала з кішэні велікодны цуд – яйка. Ды якое! Якраз адно з тых, на якія Янка не мог надзівіцца ў храме. Дакладна Янка ведаў, што бабы Шуры ў царкве не было, у яе хворыя ногі і выходзіць яна толькі пасядзець на лаўцы. “Дык адкуль яно ў яе?”– падумаў ён. – Гэта пісанка, – патлумачыла бабуля. – На наступны Вялікдзень будзем распісваць разам, навучу.

Зачаравана–здзіўлена разглядаў пісанку Янка. Асцярожна пакруціў у далоньцы. З другога боку на шчаслівага малога глядзеў Божанька.





# *Анатоль ГАРАЙ*

## ИДУТ СО МНОЙ ПО ЖИЗНИ...

*Триптих памяти*

### 1. Стара място

“Кто не бывал в Варшае старой,
Тот и Варшавы не видал”, —
Так мне поляк, звеня гитарой,
Однажды весело сказал.

Мы с ним брели по Стара мясту,
Экзотикой времен дыша.
И нас сопровождала Пясты
Неукротимая душа.

Я восхищался Бельведером,
Внимал Мицкевича стихам.
Свои распахивали двери
Театры и музеи нам.

В Лазенках пел рояль Шопена,
И пан с паненкой танцевал,
И на Подвале в древних стенах
Народ“У Швейка” пировал.

Мне, белорусскому туристу,
Грел сердце польский колорит.
Над Бугом, Неманом и Вислой
Дух наших прадедов парит.

Славяне мы!.. Мы два народа!..

Не раз объединялись мы,
Чтоб под знаменами Свободы
Нам вместе выходить из тьмы.

С высокой“сталинки” столица
Вся в новостроечных огнях:
То небоскребом ввысь стремится,
То мчится вдаль на скоростях.

Под звуки дружеской гитары,
Как было тут мне не признать:
«Кто не бывал в Варшаве старой,
Тому и новой не понять”.

## 2. Перед иконой

*Незабвенному внуку Павлику*

С тех пор, как из Варшавы
Ты выехал домой,
Стою перед иконой
С зажженною свечой.

Я знаю, кто–то хмыкнет
И бросит взгляд косой.
О Боге, скажет, вспомнил,
Как встретился с бедой.

Прощу я злого друга,
А добрый сам поймет:
Измученное сердце
Смиренно чуда ждет.

Молясь, я верю, верю:
Во цвете юных лет
В той страшной катастрофе
Ты не погиб... Нет!.. Нет!..

Ты жив!.. Ты мчишься к деду,
Мой милый бакалавр!..
И над тобою ангел Победный держит лавр.

И сколько бы на свете
Не жить мне – со свечой
Тебя перед иконой
Я буду ждать домой.

## 3. *У памятника Адаму Мицкевичу*

*Он говорил о временах грядущих,*
*Когда народы, распри позабыв,*
*В великую семью соединятся.*
*А. Пушкин.*

Под небом старинной Варшавы
Мицкевич, такой величавый,
Не знавший как будто скитаний
И ссылок, увитый цветами,
В раздумье поник головою.
Его пастамента рукою
Я с трепетом тайным коснулся,
И, мраморный, он шевельнулся.
И мне показалось, что гений,
Пред кем я готов на колени
Упасть, как пред Господом Богом,
Вперил в меня взгляд свой с тревогой.
А я?.. Что ему мог ответить,
Поэту, Пророку столетий?
Достигли ль согласья народы,
Вдохнувшие воздух Свободы?
С поникшей пред ним головою
Стоял я, как он предо мною.

## *На 100–летие Миколы Засима*

Идут со мной по жизни
Прекрасные слова:
«Родимая землица
И неба синева,
Вы будете мне сниться,
Куда бы ни вела
Меня судьбы дорога

Из отчего села...”
Стихи читаю эти
Я внукам и друзьям.
И кажется порой мне –
Я их придумал сам!
А, между тем, у чудных
И милых сердцу слов
Есть автор – самородок!
Такой – что будь здоров!
Немодный, может, нынче –
У времени свой вкус, –
Зато всегда сердечный
И смелый белорус.
В громах седых столетий
Он прожил один миг,
А самовитый голос
Его не смолк, не стих.
Звучит он еще громче,
Чем некогда звучал.
Понятнее, роднее
Не одному мне стал.
А коль слова поэта
Тебе как бы свои,
То и душа согрета
Теплом его любви.

## ***Семнадцатое апреля***

*Михасю Рудковскому*

Весна музыкой акварели
Завораживает любя.
Я в семнадцатое апреля
Вспоминаю, Михась, тебя.

Он особый – твой День рожденья,
Чем богаче годами он,
Тем кристальнее откровенья
Твоей книги“Залатазвон”.

Как легко твоя пела лира –
Ей всю душу ты отдавал.

Беларусь, как голубку мира,
Чистым голосом прославлял.

И какие высокие ноты
Предлагала тебе брать жизнь!
Нынче тоже хватило б работы,
На земле ты чуть задержись.

Смог такое еще загнуть бы –
Никому бы не разогнуть.
Но, я знаю, поэтов судьбы –
Не святых чудотворцев путь.

Дорогою ценою, Миша,
Оплатил ты свой каждый шаг.
И потомки еще напишут –
Ты Полесья певец и маг.

И над Припятью, над Горынью
Твоя ярко горит звезда.
И на Буге пахнёт полынью
Молодые твои года.

Весна музыкой акварели
Завораживает любя.
Я в семнадцатое апреля
Вспоминаю, Михась, тебя.





# *Уладзімір ГЛАЗАЎ*

* * *

Я прикурил у Климука
и двинул по бульвару Космонавтов
не к звездам, нет,
но, вроде бы, к вокзалу.
Зачем – не помню. Видимо, вокзал –
то место, где ты что–то забываешь:
перчатки, зонтик, или друга,
любимую, с которой столько лет…
и непонятно вслед чему рукою машешь.

Когда ни адресов, ни телефонов,
ты временно прописан на бульваре
среди деревьев и листвы опавшей.

С такой пропиской вашу жизнь делить
никто не хочет, слава Богу.

Я был один. Был день какой–то. Свет

от тьмы еще не отделился.

Я согревал себя своим дыханьем,

и не было чего–то под рукою,

ни, что важнее, силы –

во что бы можно было жизнь вдохнуть.

## ЕЖЕДНЕВНИК

Я, Боже, как и Ты, не знаю
кому что говорю.
Чернеет книжка записная
от мая к сентябрю.

Июня только две недели,
а август весь размыт
грозой и молнией потери,
потоками обид.

Чернильные не сохнут лужи
на числах сентября.
И голос слышится снаружи –
то кличешь сам себя.

## ШУТКА

Кто – хокку, кто – танки
печет плесневелые.
Мы – русской болтанкой
с химерою белою,
топорною кашей
(добавим–ка перчика)
филолухам нашим,
таким гуттаперчевым,

забьем пасть. Так выпьем
священной эмульсии!
Зуб мудрости выбьем
в научной дискуссии.

## РОМАНС

Зачем кричать возвышенно карету,
зачем бежать по улице раздетым,
зайди в кабак, за той дубовой дверью
не Софья, так Надежда или Вера
недаром распахнут тебе объятья,
постель расстелют легче ихних платьев,
раздвинут мир, сужающийся к ночи,
забвенья час на невысокой ноте.

Зачем кричать возвышенно карету,
зачем держать за хвост ума комету,
бросая зерна вечного в избытке,
сор соберешь на тротуарной плитке.
Не делай то, что, вроде, делать должно.
Равно – служить, прислуживаться тошно.
На сих широтах повторяй без нужды:
«Спаси, Господь, от их любви и дружбы”.

* * *

евровой под пяткой
иди ужо куда–нибудь.
Молчи навскрик, дыши с украдкой
пред тем как за угол свернуть.

Земля – не пух, но путь от дома,
где все, что вынес и узнал,
еще живой, несешь в котомке,
смеясь, на лодочный причал.





# *Алесь ГІЗУН*

## Зь нізкі “ДНІ”

***

Я бачыў:
у тых жа ўсё вокнах
аблятаюць усё тыя ж дні.
Калі ж
на вякі яны змоўкнуць,
пра іх штосьці раскажуць
вагні…

***

Тут вецер заціх
да сьвітаньня
і пакінуў
у спакоі.

Ці мне табе казаць,
якой парою
сьпяваюць адвітальную
павукі?..

***

Адчуваю прыцягненьне
выпадковае травы...
Анёлы ў белым спэцадзеньні
на дровы ходаюць платы,
і сушаць крылы,
і жартуюць,
п’ючы запараныя травы,

па чымсьці сьцішана смуткуюць
даўно няголеныя твары...

Мы робім стаўкі на дзяцей
і пераварваем суглінак,
а на дарозе да зімы
ляжыць зламаная галіна.

***

Убогі дзень. І срэбная самота.
Зь гірлянды гораду злучво
ў скон штодзёншчыны саскочыць
і ўцялесьніцца ў нішто.
Так сонца ў сутонным сьвеце
з палёту кідаецца ў час;
так раптам заняможа вецер
і скіне маску дзеля нас.

***

Прыйдзе час – і ўпадзе лісьцё.
Прыйдзе час – і ўпадуць дрэвы...
калі дзён па сьпіралі віцьцё
распора залозы залевы.
У ганьбе рыхма шукае выйсьце...
І падаюць голыя дрэвы,
і падаем голыя мы,
і грудзі нам рэжа лісьце.

## Зь нізкі “ПРАКТЫКАВАНЬНІ”

***

Спрэс тысячы жыцьцяў
люстраняцца доньнямі,
у межах бяздонных
страціўшы звоньне…
У люстраным бязьлісьці
сьпіць лістапад –
люстранасьць вясны

***

Калі на беразе ра…
ці сагрэе Сусьвет
спалены верш
малюе кругі
на вадзе алешына
…кі заплакала йгруша

***

вось трысьнёг
ссаматнела–маўклівы
вось суплёты галінаў –
кратаў адбіткі ў вадзе
стыне голаў
занатоўваю рэчаіснасьць
пакуль
рэчаіснасьць занатоўвае
мяне

***

разьбіваюся
дадушы
за дастаньне
паразы
шукаю пытаньні
на чужыя адказы
мне стаміцца
не дазволіць
чужаніца
дае вады
напіцца





# *Яніна ГРЫГАРОВІЧ*

## МОВА

З харошым сябрам шчырая размова
Мне веды і надзеі надае.
Звініць, бы песня жаўрукова, мова,
І сэрца маё ў радасці пяе.

У нашай мовы столькі прыгажосці,
І дабрыні, і весняга святла!
Кажнюткім словам з самай маладосці
Яна, як песня, у мяне ўвайшла.

## ПАЭТ

Іскрацца вочы дабрынёй.
Наўсцяж адкрыта сэрца людзям.
Ён з Музай звязаны душой
І слугаваць заўжды ёй будзе.

Паэт – натхненне і любоў,
Ён боль і крыўду разумее.
І мудра выказаць умее
Жальбу травінкі, гнеў вятроў…

# *Ніна ДРЫК*

## ПРОСА ДЛЯ ЖОРАВА

*Пастарэла маміна тапеля,*
*Што расце ля нашага двара.*
*Эх ,і цяжкая дарога–доля*
*Пасівела на жыццёвых скразняках....*

Жыву на зямлі, хаджу пад сонцам, благаслаўлёная Богам і мамай. З удзячнасцю радуюся новаму дню, які доўжыць жыццёвае кола. Спасцігаю мудрасць маміных урокаў.

У мамы свой адметны погляд  на ўсё. Вучыць яна нас тактоўна,часцей уласным прыкладам.  Акуратная, імкнулася прывіць гэтую рысу нам:” Хату, дзеткі, у чысціні трымайце: і зранку, і ўвечары падмятайце, ноччу Божая маці ходзіць, няёмка ёй на пясок ступаць, а яна ідзе сям’ю благаславіць”. Уражаная пачутым, я трасла саматканыя ходнікі больш чым трэба, каб было ўтульна і чыста...

Светлая і добрая душа маці стварае хараство вакол сябе. Кветкі – яе стыхія, буяе агародчык квеценню — півоні і вяргіні, астры і маргарыткі, ружы і рамонкі. Побач лясныя ландышы стаіліся пад кустом арэшніка, вабіць пахам прымятая зуброўка і дзівасіл. Лекавыя травы мама сушыць і зімой частуе духмянай гарбатай:” Уваша гарадской толькі колер, а мая – лечыць нутро, казыча нос, супакойвае душу”. Вісіць мех разнатраўя: пахне мята, дурманіць водарам чабор, і не раз загляне туды ўся сямейка. Любіць мама ставіць букеты. Сціплыя, з палявых кветак, яны аздабляюць няхітры інтэр’ер вясковай хаты. Не шкадуе кветак вясковым дзецям, калі ідуць у школу: калі дорыш людзям, кветкі шчырэй цвітуць.

У няўмелага рукі не баляць. Доўгімі зімовымі вечарамі ткала посцілкі, ручнікі дачушкам на пасаг,вышывала, вязала. Мама кроіла і шыла нам зграбныя сукенкі. Калі заставаліся кавалачкі тканіны,казала:”Ну і хвайная лялька бала б у такім убранні.” Рэзалі і падразалі, шылі і паролі мы — сястрычкі, а ўвечары з гонарам паказвалі сяброўкам лялечныя строі. Прайшоў час, і старэйшая сястра ладныя ўборы з густам шые і маме, і сваім дзецям, і пляменнікам.

“Да выпечкі з любоўю прыступайце, пірагі цяпло рук лю-

бяць”, – зноў жа яе, матулі, парада. Адзіная ў вёсцы да гэтага часу   пячэ жытні хлеб, духмяны, наздраваты смак яго ведаюць усе: і на дажынках у вёсцы першы бохан, і на вяселлі, і штодзённы на стале. Цікавіцца муж:” А ты чаго не паспрабуеш?” Баюся, такі не атрымаецца: у мамінага нейкі адметны смак.

Маміна крэда жыцця, пуцяводная прыказка: не давай злу волі–каяцца не будзеш. Не раз пераконвалася ў яе слушнасці. Спрадвеку дабрыня ратуе і лечыць. Мама ўмее ў час пахваліць і заахвоціць. Клопатныя калгасныя будні: буракі, лён, бульба... Напрацаваная і стомленая вярталася мама дахаты, дзе чакалі хатнія справы. Каб парадаваць яе, мы стараліся нешта зрабіць самі, прыгатаваць. Піражкі з чарніцамі часам былі падгарэлыя дзе–нідзе, але мама хваліла і казала: ” І мяне пачаставалі, і сябе накармілі”.

Берагіня народных звычаяў і традыцый, яна ведае, захоўвае і перадае свой духоўны скарб. Шмат песень запісала ад мамы. Дачушка надрукавала, выкарыстоўвала ў час вучобы ва ўніверсітэце. Здзіўляе іх багаты рэпертуар: і рэкруцкія, і  жніўныя, а вясельны абрад “ Вяночкі” апрацавала і нават у школе з вучнямі ладзілі імправізаванае свята. Народныя звычаі ў сям’і захоўваюцца і перадаюцца. Беражлівасці і ашчаднасці маму вучыла жыццё, а яна — нас. На нядбайнасць казала: ”Неразумна, калі сёння густа, а заўтра пуста”. І цяпер у дачыненні да ўсіх любіць дадаць: ”Сёння ў вас грошы кап, заўтра – хап, а далей што?” Так спасцігаюць і ўнукі жыццёвую мудрасць, бо ў ёй столькі праўды...

З ласкаю, дабром увесь свет перавер†неш. Унукі любяць сваю бабулю і ў многім падпарадкоўваюцца ёй, бо ў яе свая мера пакарання і заахвочвання. Іх юнацкія “сакрэты” часам раскрываюцца толькі зараз за святочным сталом, калі ўнукі завялі ўласныя сем’і. З гумарам і смехам плывуць успаміны...
– Бачу, пайшлі мае хлопцы ў “партызаны”. Выкапалі зямлянку, зладкавалі ўсё і дымок уецца. Э–э, пападзе ад дзеда, ды, крый божа, пажару ў вёсцы наробяць. Бурылі і закопвалі хуценька разам з бабай, каб не папала ад дзеда. І смяюцца хлопцы–ўнукі: ” Баба многае ведае, ды ўмее маўчаць”. Свой падыход да дзяцей маці ладкуе з вялікай тактыкай і стратэгіяй.

Так было і з намі. Яна ўмела дзяліць пароўну працягласць працы і адпачынку. Малыя ішлі ў лес у ягады, кожнаму свая мерка збору: ” Ты старэйшы,сынок, 20 шкляначак, а вам, дзяўчаткі–гаспадынькі, менш, а далей у раток больш, чым

у збанок”. І, выканаўшы “план”, ведалі, што далей вольныя птахі: хто кветкі збіраў у букет, хто свістульку з лазы рабіў, а хто ласаваўся печанымі прысмакамі, якія мама даставала з хустачкі. Смак іх помніцца да гэтага часу...

Я люблю слухаць маміны дзіцячыя ўспаміны пра вайну. І яе першыя ўражанні, і страх, жаданне выжыць. Свой адбітак паклала вайна: страта старэйшага брата, той, апошні, трохкутнік беражэцца ў сям'і як горкі напамін і светлая памяць. І паўтараюць маміны вусны: ”Хай не знае вайны зямля”. Павагу да старэйшых, цеплыню ўзаемаадносінаў мы бачылі на свае вочы: усё жыццё пад адным дахам матуліны бацькі, а крыху пазней —бацькавы. Не ў наклад, а ў радасць быў наказ збегаць памыць падлогу бабулі Маласе і дзеду Васілю. Шчыравалі з мокрай анучаю па старых палавіцах, каб дагадзіць і бабе, і маме. “Вось і маёй работы дольку падабралі”, — казала матуля.

Сябар і дарадчык на ўсім шляху, мама заўсёды побач, калі каму цяжка. Ніколі не ўмешваецца ў нашы сямейныя справы, толькі выпадкова скажа мудрае слова, а ў ім —падказка і навука кожнаму з нас чацвярых: не крычы дарма–ладней справы пойдуць; любі дзетак мужа–сіроты не вінаватыя; дачушак гадуеш – да ўсяго гатова будзь; не заглядвай у чарку —лад хату не міне.

З татам былі свае ўзаемаадносіны...

Прыемна пахне сенажаць. Скошаны луг нагадвае белае прасціpáдла, па якім зялёнымі ніткамі, роўна, адзін да аднаго вышыты пракосы.

Бацька ў белай кашулі шугае касой, кладзе прывялую траву на пакой. Жых–чмах –, шэпчцца вецер у чаротах. Жых–чмах –, вызваньвае сталёвае лязо касы. Жых – для каровы, чмах – для цялятка, жых–чмах, жых–чмах… Жылі мы на хутары Бішчэ. Кожны ранак чулася кляпанне касы, а потым знаёмыя гукі на лузе. Мама налівала гліняны збан халоднага хлебнага квасу з крышаным агурочкам, і мы неслі бацьку. Плюхацела пад нагамі вада , а тата, стомлены, сядзеў пад лазовым кустом і чакаў нас. Мы ведалі, што бацька адкрые новую таямніцу прыроды.

– Вось у тым карчы качка з вывадкам, не пужайце, назірайце здаля, а ўвечары выйдзем паслухаем, як кліча качанят на начлег. І не маглі дачакацца вечаровага сутоння, каб пачуць знаёмае: кра–кра...

Прывялая трава казытала нос, пракосы ніжэлі і падсыхалі.

Бацька рабіў маленькія граблі, выразаў тонкія гваздочкі з ляшчыны, устаўляў. Радасці было шмат, мы з сястрой ведалі, што імі будзем ўпоруч з дарослымі грабці сена мы: тата клапаціўся, каб нам было зручна паспяваць за імі.

Нейк па–асабліваму, з пяшчотай ставіўся ён да ўсяго жывога. Ішло гэта ўсё шчыра, з душы і сэрца. То пакажа дупло удода, цецеручыны ток. Аднаго не мог дараваць – здзеку над прыродай, як маральны запавет былі яго словы: усё жывое–жыць хоча. І бярог як мог, словам і справай, прывучаючы да гэтага нас. Лес лічыў багаццем, не магла крануць яго піла стройнага дубка ці бярозку, якія западалі ў вока: пераносіў да хаты, веліканамі красуюцца цяпер на сядзібе, адорваючы восенню градам буйных жалудоў. Часам мама папракне: ” Лепш бы яблыньку пасадзіў.” І чулі ў адказ: ”Хопіць усім месца пад сонцам”.

Тата быў вядомым майстрам (на ўсю блізкую і далёкую ваколіцу) па вырабу конскай збруі. Доўгімі зімовымі вечарамі шыў сабе, людзям, у калгас хамуты, лейцы. Шытво яго было ладнае, шво роўнае. Я глядзела, як шыла прабівала дзірачку, клалася ланцужком скураная тонкая стужачка, а потым быў гатовы выраб. Збруя ў яго была як у сапраўднага гаспадара. Вазы, зробленыя яго рукамі, адпрацавалі спаўна на сялянскіх падворках. Улетку, ходзячы па лесе, выбіраў сагнутыя дрэвы на палазы, дугі для вупражы. Узімку стамескай і гэблікам рабіў сані, лёгкія і хуткія. Спраўна імчаліся яны па снежнай баразне, і так цікава было імчацца на іх у лес па дровы ціназапашаны стог сена. Маленькія санкі рабіў нам, каб праляцець з гары і толькі вецер адчуць у вушах ды асалоду снежнай гурбы на шчоках. З лазовых прутоў рабіў хабутні і вершы для лоўлі рыбы. (Цяпер яны ў музеі школы, дзе я працавала настаўніцай.) Ставіў з братам увечары, нам казаў : ”То справа не дзявочая”, а ўранку мы беглі глядзець , як вытрасалі адтуль шчупакоў. Маленькую рыбу бацька браў у рукі і пускаў на глыбокую ваду: ”Хай расце, марнаваць не трэба”.

Коні ў бацькавым жыцці ішлі нейкай лёсавызначальнай скразной лініяй. Ён іх ведаў і любіў. Многа маладых коней аб’ездзіў, якія нікому не даваліся ў рукі. Мама расказвала, што ў маладосці паспрачаўся з хлопцамі, што заедзе ў клуб на кані. Дзіву даліся, калі па камандзе конь стаў на калені, прыгнуў галаву і ўвайшоў. Да старасці трымаў на сваім падворку каня.

Жылі з працы рук, вялі гаспадарку. Аднойчы на былым

хутарскім падворку тата пасеяў загон проса. "На дзіва густое і каласістае", – казала мама, аглядаючы пасеў. Радаваліся мы, назіраючы за тым, як расце "прасяная каша". Але неяк чарговы агляд поля здзівіў: яно было вытаптана невялікімі кругамі, быццам нехта паціху малаціў уручную. За вячэрай тата прапанаваў рана паехаць з ім. Конь ішоў хутка, фыркаючы ад назойлівых сляпнёў. Тата пацягнуў лейцы, стрымаў каня, і раптам мы ўбачылі, як таямнічыя госці–жураўкі, выцягнуўшы шыі над просам, шчыравалі напоўніцу ў загоне. Хутка і ўмела працавалі дзюбамі, выбіваючы з каласкоў зярняткі проса. Тата ціха распрог каня: "Дзіўныя птушкі, такім і проса не шкада. Няхай ласуюцца, набіраюць сілы да адлёту, не спалохаў бы хто…" Тата быў знаўцам прыроды. Мае прабелы са школы ў веданні флоры і фаўны лёгка ўзнаўляў сваімі назіраннямі.

Хутка бяжыць час, белая таполя пасерабрыла скроні. Падкралася сівізна і да нас: кожнаму – па жменьцы . Згадваю, калі ж былі маладымі бацькі, і сама адказваю – заўсёды. Бруіцца іх маладосць, пульсуе ў дзецях, унуках, праўнуках. Гарыць у акне святло, рыпіць ставер, цвітуць вяргіні, чакае двор вялікую радню. Мы чэрпаем, як ваду з калодзежа, урокі мудрасці бацькоў – дзеці, зяці, нявестка, унукі, праўнукі.





# *Уладзімір ДАНІЛЮК*

## З АДВЕКУ

Хвіліны ў букетах, у скрусе вянкоў,
З палярнасцю дум і настрою
Бягуць паслядоўна ў прастору вякоў,
Як хвалі да месца прыбою.

Эпохі мяняюць манеру і фон.
Узносяць яны і няволяць.
Эпохі таксама бягуць марафон
З адвеку ў далёкую вечнасць.

Хвіліны, як хвалі, адна за адной
Бягуць... Іх праводзяць з тугою
Зрудзелыя горы, і сіні прыбой,
І чайкі над месцам прыбою.

І дрэвы, што з нетраў магутнасць бяруць,
Таксама шкадуюць без меры
Хвілін марафонных, якія бягуць,
Ствараючы новыя эры.

Шкада не таму, што ніхто не гатоў, –
Не зведаў, як час залагодзіць.
Шкада, што з жыцця па прыступках гадоў
Ад нас землякі адыходзяць.

## СЛЯДЫ

Зіма свой аркуш – мо найлепшы –
Паслала сёння да зары.
На досвітку друкуюць вершы
Драбнюткім почыркам звяры.

Бягуць у белізне ціхуткай
Наўпрост, зігзагіста, у бакі
Па чыстых галах, па закутках
Паэмы зімняе радкі.

А то ля ельніка хаваюцца,
Ды так, што цяжка адшукаць...
Хоць цяжкавата, ды чытаюцца,
Калі з увагаю чытаць...

***

Ля рэчанькі Рыта – райцэнтр Маларыта,
Дзе шчырыя людзі жывуць.
Штогод жнуць пшаніцу і жыта
І жніўныя песні пяюць.

Стагоддзі стаіць Маларыта,
А між беражкоў некрутых
Ціхенька плыве рака Рыта —
Крыніца натхненняў маіх.





# *Віктар ЗУБОВІЧ*

## ИГРА

Как статуя Роденова “Мыслитель”
Над полем шахматным застыв,
Ходов перебираешь нити,
Сосредоточен и красив.

Одна, малейшая ошибка
Решает партии исход,
И положенье зыбко–зыбко,
Но слон уже пошёл вперёд...

Король в испуге пошатнулся,
Сомкнули пешки редкий строй...
Потерян слон, конь споткнулся,
А враг теснит – неравен бой.

Осталось хода два до мата,
Коль не найдёшь иных путей...
И пешки гибнут, как солдаты,
Во славу белых королей.

***

*Г.М. Лебедеву*

Иногда поверить хочется,
Будто прожил я не зря.
И плевать мне на пророчества –
Были б верные друзья.
И пускай не всё достигнуто
В суматохе быстрых лет,
Жизнь безжалостной портнихою
Обрезала каждый след.

Зашивала ниткой белою
Чёрных будней лоскуты
И такие петли делала –
Посильней иной мечты.
Что пошила, то и носится –
Равнодушен к моде я.
На язык одно лишь просится:
Были б верные друзья.

***

Счастье подковой не брошено
На мой порог.
Держит в тисках своих прошлое –
То, что доделать не смог.
То, что никак не забудется,
Память изрежет в ночи,
То, что, пожалуй, не сбудется –
Хоть диким криком кричи.
Знаю, что время потеряно.
Знаю, и тягостно мне:
Жизнь, как усохшее дерево,
Не оживёт по весне.

***

Под осенний грохот листопада
Понесёт листву дождливая вода.
И на землю спустится прохлада,
И наступят вскоре холода.
И октябрь застынет, цепенея,
В ожиданьи снега и тревог.
Я всегда пред осенью робею,
Как прекрасен этот жизни срок, –
Это время подводить итоги,
Собирать созревшие плоды.
Это время – наш учитель строгий,
И оно не терпит ерунды...
Много грусти в осени и красок,
Пышных свадеб, гибельных разлук –
Вся полна она волшебных сказок,
О которых не расскажешь вдруг.

# *Алесь КАВАЛЬЧУК*

***

Калі людзям непатрэбны
словы паэта,
яны – абрабаваныя.
Калі людзям непатрэбен
спеў салаўя,
яны глухія.
У сляпых – ноч.
У сытых – смага.
У галодным целе – толькі душа.
А мы называем гэта дзяржавай?
Дзе ні слова – то крык,
І ўсмешка як здрада.
Прытупіўся наш слых.
Дзе хлусня? А дзе праўда?

***

Чаго ў белым покрыве болей?
Белага снегу
Ці чорнага болю?
Душа чалавека з праўды і крыўды
Што рэчка вясною,
Пакрытая крыгамі.
Але пройдуць крыгаходы,
У мора рэкі скінуць воды.
Брод застанецца бродам.
Род застанецца родам.
Людзі – людзьмі.
Хлусня – хлуснёю.
Чаго ў белым покрыве болей,
Белага снегу
Ці чорнага болю?

***

Даўно не пішу.
Думаў я,
Што душа назаўжды адбалела.
Адзвінелі крыніцы,
і цяжар крыжа, што нясу,
Прыгінае да роднай зямлі.
Плача вясна бярозавым сокам.
Мыюць жанчыны прыпухлыя вокны –
Хутка Нядзеля Велікодная.
Пайду ў царкву, куды раней не пускалі,
Перахрышчуся: “Злітуйся, Божа!”
І толькі званіцы мае словы памножаць.
Позна прыйшоў я да гэтай высновы:
Свой крыж для паэта – праўдзівае слова.

***

На грэшнай на нашай зямлі
Рыпім мы, як чорныя дрэвы сухія.
Мы нават да болю сталі
глухія,
Да свайго болю.
Чорная зямля.
Чорнае поле.
Кружыць чорным крылом
Над усімі Чарнобыль.
Чорныя хмары,
чорныя кроплі.
На белым свеце –
чорны попел.





# *Генадзь МІШЧУК*

***

Яшчэ наперадзе вясна
І першыя грамы ўдалечы,
І два сусветы – Ён, Яна –
Чакаюць сонечнай сустрэчы.

У белай квецені садоў
Заб'юцца сэрцы ў хваляванні,
Пад пошчак срэбных салаўёў
Успыхне першае каханне.

І будзе светлым пачуццё —
Хай апяюць яго паэты!
Яшчэ наперадзе жыццё,
Што паяднае два сусветы...

***

Апусцела хата – стала сірацінай,
Зацягнула вокны шэрай павуцінай.
Дагарэла шчасце, як у небе знічка,
Не чутно малітвы ля старой бажнічкі.

А калісьці ў хаце шчабяталі дзеці,
І было зацішна птушкам пад павеццю.
Пахла пірагамі, і не толькі ў святы
Частавалі госця чым былі багаты.

Паляцелі ў горад дзеці, пасталеўшы,
Па другую долю, па набытак лепшы.
А бацькі старыя не трывалі доўга –
Адляцелі душы па чарзе да Бога.

Апусцела хата – дагарэла знічка,
Не чутно малітвы ля старой бажнічкі.

## ПРА КАТА

Сцюдзёны ранак на двары,
Мароз “палапіў” вокны.
І з печы кот, як дзед стары,
На свет глядзіць маркотна.

Ён да марозу не прывык,
Карпее над пытаннем:
Калі ж то будзе сакавік,
Каб кінуцца ў каханне.

## ШЧАДРУХА

Колькі гоману і руху –
У сяло прыйшла Шчадруха!

Заблішчалі ў небе зоры –
Адчыняй, спадар, камору!

Пад акном дзятва шчабеча,
Бо такі сягоння вечар:
Кожны двор, любая хата
Пачастункамі багата.

“Як Шчадруха шчадравала,
Да акенца прыпадала,
Што ты, цётка, напякла,
Прынясі нам да акна:
Лыжачку кашкі з цурачкай каўбаскі.
І ты, дзеду, каўбасу,
Бо камору растрасу”.

Пад нагамі снег рыпіць,
Цяжка торбачку насіць,
Ды гукае зноў малеча:
“Шчодры вечар – добры вечар!”



# *Мікола ПАЦЯЮК*

## РОЗДУМ ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ

Нібы ўчора яшчэ над жытамі плыла
Лёгкім ветразем белым хусцінка –
Гэта маці пад вечар ішла да сяла
Напрасткі палявою сцяжынкай.
Я чакаў, калі схіліць яна да каша
За вайну пасівелыя скроні –
І скарынкай бязмежнага шчасця ляжаў
“Зайцаў” хлеб на дзіцячай далоні.
Час ішоў, пакідалі мы родны парог,
І з гарачай малітваю маці
Нам у Бога прасіла шчаслівых дарог,
У самотнай застаўшыся хаце.
Зноў успомніў я матчын тужлівы пагляд,
Калі ўбачыў на ўласныя вочы:
Аддала маладзіца сваіх птушанят
У казённы прытулак сірочы.
Як душой мне спасцігнуць учынак такі?
Вось амаль ужо тры пакаленні
І гарматы маўчаць, і жывыя бацькі,
А сірот не становіцца меней.
Белых крылаў над хатамі кружыцца цень…
Што ж ты гэткі падатлівы, бусел?
Не насі немаўлят да бяздушных людзей –
Колькі добрых яшчэ ў Беларусі!

## ЛЯСНАЯ ПЕСНЯ

Ой, якая ў лесе ягада ўрадзіла:
Смаката, што не данесці да стала.

Па маліны я надоечы  хадзіла,
Ды назад знайсці дарогу не змагла.
Лазняком ішла і сцежкаю ласінай,
Шапацела пад нагамі асака,
Ды, на шчасце, напаткала пад асінай
Нечакана маладога лесніка.
Тры гадзіны  падаліся мне хвілінай,
Калі разам пад разлапістым дубком
Мы сядзелі і салодкаю малінай
Частаваліся на пару з леснікам.
А калі ішлі ўжо вечарам дахаты,
Ён трымаў мяне пяшчотна за руку…
Не шкадую я ніколечкі, дзяўчаты,
Што скарміла ўсе маліны лесніку.

## БАБІНА  ЛЕТА

Пара дажджоў ужо прайшла,
То ў небе сінь, то просінь,
А ў садзе вішня зацвіла,
Хоць на дварэ і восень.
Такая ў свеце прыгажосць   –
Магла і памыліцца.
Ці ж вінавата маладосць,
Калі вам радасць сніцца?
Стаіць прыгожая яна,
Нявеста – глянуць люба.
А крыху воддаль ад акна
З агніста–рыжым чубам
У промнях сонца гожы клён
Спыніўся каля плота.
Мо для яе адзінай ён
Прыбраўся ў пазалоту?
Клін жураўліны, вышыня,
І сум, і боль расстання…
Усё на свеце мітусня,
Апроч  – кахання…

## АДГАЛОСКІ ДАЎНЯЙ ЗІМЫ

Ці то сніцца мне,
Ці то помніцца:
Бы даўно калісь
За ваколіцай
Санны след бяжыць –
Дзве палосачкі —
Ад майго сяла
Да той вёсачкі.
Санны ўецца след,
Коні сытыя,
Белым пухам снег
Пад капытамі.
Ой,вяселлейка!
Хлопцы з дзеўкамі
Сыплюць жартамі
Ды прыпеўкамі.
Весялун ды зух,
Твар бы сонейка,
Выціскае дух
У гармоніка.
– Ой, Лявоніха!
Бровы месяцам,
Як дзве зорачкі
Вочы свецяцца.
– Эх, Сямёнаўна!
Дзеўка гордая,
Сэрца мяккае,
Грудзі цвёрдыя.
Коні тройкамі,
Коні парамі,
Рэха звонкае
Над абшарамі.
А мяцеліца
Полем сцелецца.
Ці было яно,
Але не верыцца.
Што было – прайшло…
І не вернецца.



# *Юрый ПАТАЛКОЎ*

## ОАЗИС СВЕТЫ

...Многоэтажки. Микрорайон. Дворы с деревьями. Дорожки из импортной плитки. А многообразному обитающему здесь животному миру воды выпить негде. Людям – хорошо, у них с питьем проблем нет. А кошкам, птицам, собакам?..

Правда, одно спасение есть: кто–то вкопал в землю консервную банку и постоянно наполняет ее водой. Особого комфорта, конечно, нет: рядом – чудовища–автомашины. Скрипят, визжат, изрыгают вонь и гарь. И все–таки – вода! Куда же без нее?

Кошки. Мягколапая грация. Циркульно круглые мордочки, устрашающе философичная прищуренность надменного взгляда. Подбираются к баночке осторожно и по субординации: в кошачьем мире тоже есть свои генералы и рядовые. Пьют изящно и обстоятельно: баночка как будто для них создана. Лык, лык, лык... Потом – осмотреться: нет ли рядом какой–нибудь враждебности? Лык, лык, лык... Вот теперь и машины не страшны. Более того: монстры, оказывается, — удобные возвышения, когда тянет полежать на солнцегреве. На железной лысине автомобиля так приятно вздремнуть...

К баночке припрыгивает галка. Взгляд туда–сюда: что и кто вокруг? А теперь — вода. Для галки баночка – неисчерпаемая емкость. Набери капель в клюв, запрокинь головку, чтобы влага в горлышко попала... Глю, глю, глю... Глю, глю, глю... Красота! Коты особого интереса к галкам не проявляют, спят себе. Да и глуповаты: разве летающая аэродинамическая красавица позволит коварным обладателям острых когтей приблизиться на опасное расстояние?

И все–таки пить галке помешали: густо дыша, приближается самое нелепое и уродливое создание не земле – собака. Птица даже не отлетает: прыг–прыг в сторону – и стоит, ждет.

Смотрит на пса скептически, если не саркастически. До чего ж несуразен: ни тебе твердого клюва, ни гладкого оперения. А лапы? Толстые, мохнатые, да к тому же их слишком много – целых четыре. И будь у пса две лапы, может, он и летать бы научился... Вот склонилось страшилище над баночкой. Как пометить в маленькое колечко ободка хоть бы язык? А пить хочется... Пристроился, пьет: хлоп, хлоп, хлоп... Маловато в баночке воды, но все же легче стало. Только вот пить мешает нечто рядом: так и“стреляет” злобным глазом существо это тонконогое. Вместо благородной морды – препротивнейшая иголка. А на месте лап – две паутинки какие–то. Голые, без шерсти. Имела бы птица, нелепая обличьем, четыре лапы, вот тогда бы не прыгала, как пружинка, а бегала свободно и легко. Галка – с точки зрения собаки – существо, обделенное даже намеком на красоту и гармонию.

И все–таки – вода! Все напились. У всех – жизнь продолжа ется. И невдомек спасающимся, что из окна на них заботливо смотрит та, которая баночку под деревом поставила и водой ее постоянно наполняет. Добрая женщина Света. Человек. Ей жалко всех. Для бездомной живности она – спасительница. Света наливает воду и вовсе не думает о своем величии, создавая такой крохотный оазис.

А возле вашей многоэтажки баночка с водой стоит?

## ГОЛОСА ГОРОДА

“Следующая остановка...” Ну какую актерскую выразительность и какой гражданский пафос можно воплотить, читая эти деловые, рутинные строки? Оказывается, – можно. Нужен лишь талант, но не только чтеца, а прежде всего – глубинно сердечного вестника. Прислушаемся: известный нам автобусный, троллейбусный текст – великолепный пример правильной русской и белорусской речи; тембр голоса доверителен, интонация заботливая, внимательная; пассажир ощущает себя защищенным в каждой дорожной ситуации. Так кто же произносит привычные фразы в транспорте? Удивительно одаренный сердцем и голосом бывший диктор Брестского областного радио Александр Ковальчук или же сам Брест, воплотившийся в необходимых словах, обращенный к тем, кто в пути?

Несомненно, – сам Брест. Талантливый философ слова не

известными нам силами воспринял древнюю, святую, оберегающую душу Бреста. На гербе нашего города изображен натянутый лук, воплощающий высшее напряжение творческих сил, взлет мысли, предвестие исполнения мечты. Таков и Александр Ковальчук. Он полон творческой энергии. Как бы обогатились духом брестчане, сохранив в истории начитанные голосам Александра творения наших литераторов–земляков... Да разве только брестчане? И не только – произведения литераторов. Каждый из музеев нашего города был бы счастлив иметь аудио– и видеофильмы, сопровожденные неповторимым голосом этого мастера. Его, к слову, слышат болельщики на футбольных и хоккейных матчах.

Александр Ковальчук все свое свободное время проводит сейчас в деревне Замшаны на Малоритчине и появляется в Бресте только по личным, семейным поводам. И я очень радуюсь, случайно встретившись со своим бывшим студентом, генетически порядочным человеком, скромным аристократом духа. Я смотрю на Александра, перебрасываюсь с ним малозначащими, казалось бы, фразами, а сам не могу освободиться от памяти о том божественном взлете души, когда в День Победы на площади Церемониалов в крепости Ковальчук среди всего торжественного текста произносил особые слова, захватывающие душу и уносящие все в человеке в горние выси:“МИНУТА МОЛЧАНИЯ...”





# *Ніна ПАПОВА*

## ДАРОГА НА РАДЗІМУ

Дарога ўецца, гай смяецца,
А поле цешыцца ў сяўбе.
А я іду, і сэрца б’ецца –
Радзіма кліча да сябе.

І за дарогаю аблога,
І кожнай кветачкаю май
Завуць да роднага парога,
Абняць свой кут і мілы гай.

А як жа сэрцайку не біцца,
Калі сцяжынкі ўсе вядуць
Сваёй зямліцы пакланіцца,
Дзе мне і камяні пяюць.

## МАЯ АЙЧЫНА

О Беларусь, мая Айчына!
Лясы, азёры, рэчак плёс.
Глядзіш ты сінімі вачыма
На свой мінулы цяжкі лёс.

Цябе спрадвеку рабавалі:
Тапталі шведскія палкі.
Не раз русіны руйнавалі,
Агнём палілі крыжакі...

Жывеш ты вольнай амазонкай.
Цяпер хоць шчасцейка вазьмі,
Мая ты родная старонка,
Крывёй палітая, слязьмі.



# *Генадзь ПРАНЕВІЧ*

***

Мама! Ты мыла падлогу
І рукі, патрэсканыя ад марозу,
Снавалі туды і сюды…
Ты мыла падлогу –
Здавалася, мыла дарогу,
Каб дзеці па чыстай дарозе ішлі!

Я іду, мая мама,
Шмат дзён і начэй…
Толькі сонца
Паўсвета абыходзіць хутчэй!
Яно падае ноччу,
У знямозе, без сіл
За круты, быццам лоб,
Небасхіл.

І спяшаюся я
З ім зраўняцца да дня…
І пасецца ў начным
Думак вольных сям’я.

Ты са мной  у дарозе…
Хоць стаіш на парозе,
За які я пайшоў!
Развятрыліся пасмы сівых валасоў…
І глядзіш ты сляпымі вачыма ў прастору:
Дзе ў бязмежнасці гэткай
Знайшоў сын апору,
Дзе ён сілы знайшоў?

***

Лініі душы, розуму, сэрца
Прапісаны на далонях рук маіх,
Маршчынкамі на ілбе,
Цёкам крыві па ўсім целе…
О! Як бы хацеў я
Далонямі рук
Далоняў тваіх дакрануцца,
Ілбом гарачым
Да твайго чала нахіліцца,
Сэрцам сэрца тваё адчуць…
Усёй істотай
З тваёю істотай зліцца,
Як вада…
У далонях–прыгаршчах
З левай і правай рук…

***

Ільды растаюць,
пацяпленне ідзе ў Антарктыду,
кроў цяплее ў кітоў,
у мядзведзяў палярных
і нават у рыб…
Дык чаму ж чалавек
на прасторах зямных ледзянее,
абрастае карой раўнадушша
і сэрца хавае ўглыб?
Мне няма што сказаць…
Я на ўскрайку стаю акіяна,
Там, дзе рушацца льды, –
Воч не ў сілах ад іх адарваць!..
Кроў цяплее  ў рыб...
А твая –
Чалавек!!! –
замярзае...
І кавалачкам лёду
Апускаецца сэрца ўглыб…

***

Не люблю я пасаджаны лес,
На квадраты пабіты, бы камеры...
Дзе маркоцяцца  ў ціхай журбе
Дуб, бяроза, сасна...
Іх галіны – адна да адной –
Інжынернай хімерай павязаны.
І  шарэнгамі дрэвы ў скверах
Стаяць, як канвой…

Нешта страшнае ёсць
У пасадках, па плану пасаджаных,
Гэта – сад сатаны,
Што Бога нізрынуў з нябёс...
З–пад лапатак сапёрных
Вырастае адна падначаленасць.
У квадртных пасадках
Нешта магільнае ёсць!..

Не люблю акультураны лес,
У ім – парадак Дахау, Асвенцыма,
Крэматорыя пэўнасць,
Прамакутных палос пусцізна...
А мы ходзім, усё ходзім
Скверам 1 мая, бульварамі Леніна...
Не люблю я насаджаны лес,
У якога забрана душа!..

***

Сны, як смерчы,
ідуць напралом,
пранікаюць у закрытую зону…
Іх не хочаш упускаць,
а яны разбіваюць тваю абарону…

Нішчаць фільтры ўсе,
рушаць сцен невядомасць,
і абломкі
патанулых сто год караблёў
праз тваю
усплываюць свядомасць…

Неяк выжывеш ты,
супакоіцца грознае мора…
Але ты  ўжо – другі,
не такі, як учора!..

***

Жыць трэба з адчуваннем,
што ты –
энергетычная
                кропка свету,
лямпачка ў начы,
ад якой запальваецца сонца
і ружавеюць аблокі…

Што край зямлі –
толькі прамежкавая
                станцыя
у тваім падарожжы
к нязбытнаму!





# *Дзмітрый РЫБАК*

## ПРОВИНЦИАЛЬНОЕ

Поздний вечер в провинции. За окном –
никого либо могущий постучаться,
породив аритмию у домочадца,
прикорнувшего близ. Говоря о ком,

ты не сумма ценимых в тебе им черт.
Телевизор, несчастный канал ловящий,
столь же необязателен, сколь навязчив.
Ты, однако, посредственность, если“чернь”

режет ухо, и мошки к экрану льнут.
И сверчок удивляется опозданью
после стольких–то просьб, не беря минут,
одолженьем смотрящейся или данью

тишины, воцаряющейся внутри
не тобой возведённого при генсеке
класса“хата” строения, чьи отсеки
так легко населять и делить на три.

## БЛИЖЕ К ЗАКРЫТИЮ В БАРЕ “У ПЕРРОНА”

Всё шумно. Мудрено застыть в дверях
на шум придя и столик заприметив.
Нехватка света. Перебор нерях,
губительный для большинства предметов.

В разлитом пиве вечно весь рукав.
Официантка не оперативней
себя вчерашней. Можно, отыскав
скорейший выход из себя, найти в ней
ближайший вход. Приличия берут
своё, отождествляемы с охраной,
которой нет. И в беготне минут
значительность, граничащая с храмной,
сменяется угрозою прямой.
Знать, Время, напрямую с алкоголем
столкнувшееся, к нам спешит домой,
а не туда, куда мы его гоним.

* * *

Бутылка плохой вытесняла, кустарна,
бутылку хорошей.
Клиент, раскусив интерес ресторана
к себе, не возросший

к стыду неизвестно чьему, разогретый
не ритмами группки
на сцене, но выпитым, думал. И в этой
связи на уступки

большие приличию шёл. Завсегдатай,
он выглядел новым
звеном антуража, родного поддатой
сплошь публике... Словом,

увиливал слиться всё с теми же в лёгком
по меркам наружных
старушек, бубнивших себе о неловком
доходе на ...нуждах.

* * *

Весна застаёт за починкой варежек,
которые лучше уже не станут.
Весна начинается с вас, чтоб вами же
ей завершиться, и пояс стянут.
Весна! Этот чешущий кошку за ухом
скромный, но самодовольный лучик!

И вы имеете дело с запахом
нового, за неименьем лучших,
дёргая носом. И – судя по носу –
лишаетесь насморка... Ёлки–палки!
Знать бы, в какую вступаешь полосу,
но безответны деревья в парке...

* * *

Судья Фемиде был не выше плеч,
но это не мешало правосудью.
Неважен рост для вышедшего рангом –
не сокрушиться и не пристыдить.
Способность в приговор слова облечь
была его невытравленной сутью.
И – только подавай курки фалангам.
Их пыла до сих пор не остудить.

А подсудимый гнал без тормозов
к черте одной не видя где другая,
толпы куда как жальче и помятей –
те в лапы только шли, а это из.
Был дьявольский – их выкриками – зов.
Как верующий им пренебрегая,
он отводил глаза, но что до мантий –
и теми поощрялся атеизм.

Тот отзовись, который водку пил
с покойником! Как всякий убиенный,
он двинул в мир иной, чтоб по приезде
не лечь во всяком случае пластом.
Он не склонил, а просто подкупил
отказом малодушничать с геенной.

Раскрепостись, двуногие!! Возмездье
последует не чересчур потом.





## *Ілона СЦЯЦКО*

# ПРАЗРЫСТАЯ ПОСТАЦЬ

***

Празрыстая постаць,
Віднеюцца зоркі
Праз цела маё
На нябесным узгорку!

Крылатая зноўку,
Пяро, як у птаха,
Рукой дацягнуся
Да Млечнага Шляху.

Само існаванне,
Ці сон, ці трызненне...
Мінулае мне
Падарыла імгненне!

Звязала часы,
Перайначыла з’явы,
Дало мне магчымасць
Прачнуцца ад явы.

І гэта не вобраз,
І гэта па праўдзе!
За спінай ёсць крылы,
І неба ў гірляндзе!

І толькі энергіі
Мізерна мала!
Бо позна заснусла

І раненька ўстала...
Вярнуся дахаты
Накопліваць сілы,
Схаваю пакуль што
Пад вопраткай крылы.

І, можа, калі
Іх распраўлю, употай...
Вярну да жыцця
Адчуванне палёту.

* * *

П'ю шчасце з поўнага кубка,
З вышынь гляджу на зямлю,
Куды пасылаю галубку
Таму, каго так люблю.

Няхай прынясе мне вестку,
Што будзе ён хутка тут,
А я – упрыгожу кветкай
Наш самы таемны кут.

І тысячу пацалункаў
У чаканні яго спалю,
І шчасцем напоўню кубак
Таму, каго так люблю.

* * *

Калі ты мяне не кахаў,
Я Бога прасіла каханне закінуць на поўню,
Маліла пачуцці мае праз касмічны агонь зруй-
наваць.
Калі ты мяне пакахаў,
Бог жаданне даверліва споўніў,
І сэрца зрабілася птушкаю вольнай –
Яно перастала кахаць.

* * *

Зусім не дэманічнае стварэнне,

Я па зямлі ступаю не варожа.
Святло нясу, святло і разбурэнне,
І ведай жа – мая цяжкая ноша.

Я на мяжы падтрымліваю вехі,
Я на зямлі люляю раўнавагу,
Слязьмі мае змяжаюцца павекі,
Я з сэрца вынішчаю гэту прагу.

Крычыць душа, упаўшы на калені,
Крычаць праз боль  – адзіная раскоша...
Святло нясу, святло і разбурэнне,
І ведай жа – мая цяжкая ноша.





# *Наталля СЦЕПУСЬ*

## БРЕСТ

Город мой, я тебя не забуду.
И в каких ни была бы краях,
Мне тепло не бывает повсюду –
Только там, где родная земля.
Я люблю побродить по аллеям
И вдохнуть старых лип аромат,
Посмотреть, как бумажного змея
Ветер гонит под крики ребят.
Твои улицы, скверы, бульвары –
Все в тени вековых тополей,
И течёт старый Буг величаво
По земле неповторной моей.

## ОСЕНЬ

В пестром платке опадающих листьев,
В облаке полупрозрачных берез
Осень шагает по свету чуть слышно,
В нежных руках – виноградная гроздь.
С первым рассветом ушёл незаметно
Август–бродяга под старым зонтом.
Осень кружит под мелодию ветра,
Вьётся, колдует над тонким холстом.



# *Уладзімір ТУРАЎ*

***

Разлука расставит по полочкам
Слова,
        поцелуи,
                упреки…
Октябрь, приодевшись с иголочки,
Отмерит для каждого сроки.
Разлука –
                невинна и вежлива,
Любовь проверяет на прочность:
Фальшивую –
                гасит намеренно,
Большую –
                возводит в бессрочность...

## ХОЛОД НОЧИ

Нет блеска в маминых глазах,
лишь теплота сухих ладоней,
как избавление от боли,
как стон в измученных словах.

Любовью сердце разогреть
не удалось мне. Холод ночи
уж подступает. День короче...
...И за секунду догореть...

Губами прикоснуться. Пусть!
Пусть этот миг благословенья
от страха спрячет на мгновенье,

и нежность пусть укроет грусть...

Погасли мамины глаза...
В моих ладонях – часть ее тепла.

## И Я УСНУ…

Девятый день таскаю я тоску,
Опять звучит вдали сирена“скорой”.
Я знаю, ты не будешь вновь покорной,
И я усну, как ветер в штиль, усну.

Ладонью разделю свой взгляд. С тобой
Не превратить апрельский холод в лето,
Не отличить нам сумерки от света...
Так тают мысли молча под луной.

Пусть очарован день, разбуженный под утро
Чуть слышным шелестом нетронутой листвы...
Плыву я в лодке, справа от кормы,
На дне реки мой силуэт как будто.

Неразличим, невидим. Что со мной?
Остались лишь мгновения от клетки,
Когда развесят мне на пятки метки:
Ты прожил жизнь, останься под водой.

Я просыпаюсь в крике! ОН – в углу…
Сидит и смотрит. Где–то свечи
Уж догорели. Остывают печи
В крестьянских избах. Что ж, еще посплю...

## В ДЕРЕВНЕ

Окно. Икона в старой рамке.
Строй хризантем. Подгнивший пень.
Был дуб. Теперь одни останки.
Воспоминанья. Хмурый день.

Не холодно. Туман над речкой.

Осеребрённая трава.
В Котельне бабка ставит свечку
И плачет в горести вдова.

В лугах прибрежных стихли ивы.
Коттеджи с правой стороны
Чудесные закрыли виды…
И ощущение вины.

Все ближе крест святой к дороге.
Все реже сосны. В коме лес.
Озноб в душе. Сентябрь. Тревоги.
Нет настроенья у небес.

Свет за околицей. Под утро
Расстроит сон мой лай собак.
Ушли года...
                На сердце грустно.
Ушли…
            Рассчитывал не так.

***

Серое небо, серые лица,
Серые мысли, серые дни.
Признак тумана, призрак унынья,
Призрачность счастья, признанья в любви.

Кто–то в тревоге, где–то веселье,
Крики младенца, вопли вдовы.
В луже пропойца, в баре похмелье,
Грязные стены старой тюрьмы.

Смех во дворах, крепкий мат в переулках,
Взгляды свечами, вечерняя мгла.
Розами пахнут в ночи незабудки,
Письма, сожженные в печке дотла...

# *Анатоль ТРАФІМЧЫК*

## …НАВАТ НЕ ЗДАРОВАЮЦЦА!

Супрацоўнікі Сельскага дома культуры ў Вялікіх Круговічах за апошнія гады вельмі прыгожа ўпарадкавалі свой дворык і сквер. Клумбы абгарадзілі па–мастацку расфарбаванымі камянямі, стракатасць якіх прываблівае вока. Узвялі з круглякоў сімпатычную альтанку, якую ў народзе празвалі гасцініцай, бо ў летні сезон там ледзь не штодзённа нех-та адпачывае ад перадазіроўкі "чарнілам". Побач зрабілі дэкаратыўны тынок, на калкі якога насадзілі колькі збанкоў для падмацавання сельскага каларыту."Изюминкай" жа стала парачка манекенаў – старой бабы і не менш старога, каржакаватага дзеда. І апранулі іх як мае быць, і твары расфарбавалі, і дынамічнасць паставам надалі, быццам сядзяць яны на ўслончыку і гамоняць сабе.

Менавіта тыя дзве фігуры і прыцягнулі ўвагу Васі Алычы, які нападпітку пасля працы ішоў паўз клубную качагарку. Гісторыя першай сустрэчы вяскоўца з муляжамі абышла ўсю вёску, бо Вася сам неўзабаве і расказваў пра яе першым стрэчным.

– Старых, што прыселі ля альтанкі, я ўбачыў здалёк, яшчэ з вуліцы. Дзядзьку я пазнаў адразу – гэта стары Болік. А бабу і зблізку не разабраў, хто яна. Падышоў бліжай. Даю ім "дзень добры". Гукаю, гукаю… А яны, халера, маўчаць, нават не здароваюцца! Адно пасміхаюцца! У–у–у, нахабы!

## НЕ ТЫЯ ТРЭБА

Новы старшыня райвыканкама Столяр, асвоіўшыся спярша ў горадзе, сваё знаёмства з раёнам вырашыў пачаць з вёскі Ражджалавічы. Яна засела глыбока ў лясах і балотах. Дзякуючы сваёй адасобленасці, тая вёска вылучалася культурай і ментальнасцю. Таму жыхары іншых сёлаў вобразна казалі, што ў Ражджалавічах ніколі не было савецкай улады. Сапраўды, да прыезджых кансерватыўнае насельніцтва ставілася, як мінімум, насцярожана, а то й недружалюбна.

Дык вось, прыехаў старшыня ў калгас. Без папярэджання. Пакінуў машыну і пайшоў у машынна–трактарны парк. Ён

быў амаль пусты: тэхніка і людзі актыўнічалі на сезонных работах. Тым не менш высокі начальнік згледзеў, што пад адзінокім трактарам нехта корпаецца – рамантуе, значыць.
– Добры дзень! – прамовіў старшыня хутчэй з мэтай быць пачутым, чым для ветлівасці, бо характар меў ганарысты і, як той казаў, быў з простымі не вельмі.
Чалавек з–пад трактара не выглянуў, але нешта прамычэў накшталт "ыгы", што азначала, хутчэй, таксама не вітанне, а, маўляў, "чаго трэба?", не бачыш – заняты, ходзяць тут…
Якому ж начальніку такія адносіны спадабаюцца? Вось і старшыня рэзка і строга, каб падкрэсліць свой статус, спытаў:
– Гдзе ваш глаўны інжынер?!
На нетутэйшую дый яшчэ гарадскую гаворку трактарыст зрэагаваў больш канструктыўна, але галаў так і не паказаў:
– А нашто ён табе?
Такі адказ старшыню толькі раззлаваў, і ён схацеў прадэманстраваць сваю ўладу, вырашыўшы спачатку назваць сябе, каб гэты забіты калгаснік аднаго прозвішча спужаўся. Тым больш што новы раённы "мэр" паспеў сябе зарэкамендаваць сваімі, як ён лічыў, строгімі падыходамі ў кіраванні, што сфарміравала ў людзей нелюбоў і нават страх. Як там у песні пяецца? "Сабака бывае кусачай…" А калі да чалавека – як да сабакі ці яшчэ горш?.. Але, як часта бывае, высокае начальства, якое само далёка не дваранскага паходжання, мае ўяўленне пра сялянскую масу як пра безаблічнае быдла, што павінна трымцець, убачыўшы мясцовага "пана".
Вытрымаўшы мхатаўскую паўзу і набраўшы поўныя грудзі паветра, старшыня пафасна выдаў:
– Я – Столяр!
З–пад трактара пачуўся з'едлівы смяшок:
– А на х–х–халеру нам столяры?! Нам слесары ды токары трэба!

## *23 студзеня перастала біцца сэрца Уладзіміра Антонавіча Марука, паэта, рэдактара, перакладчыка*

Імя нашага земляка добра вядомае ва ўсёй беларускай краіне. Але найперш, канешне, землякам – ураджэнцам Ганцавіччыны. Любоў да сваёй маленькай радзімы скразной лініяй праходзіць праз усю творчасць Уладзіміра Антонавіча. І гэта не дзіўна. Бо маляўнічая прырода палескага краю стала жыццядайнай крыніцай натхнення адоранага паэтычным та-

лентам чалавека. Хаця яшчэ са школьнага ўзросту ён зведаў разлуку з роднымі мясцінамі.

Нарадзіўся Уладзімір Марук 6 студзеня 1954 года ў вёсцы Гута. Але атэстат сталасці атрымаў у Моўчадскай сярэдняй школе–інтэрнаце Баранавіцкага раёна. Як і ў многіх паэтаў, біяграфію нашага земляка нельга назваць гладкай. Так пасля школы, у 1970 годзе, Уладзімір Марук не ідзе, як большасць пачынаючых паэтаў тагачасся, на філалагічны факультэт якой–небудзь ВНУ, а паступае ў Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум. Падчас вучобы адбываецца дэбютнае выступленне ў друку з вершамі – іх у 1972 годзе публікуе“Магілёўская праўда”.

Паэт відавочна гарнуўся да роднае зямелькі. Таму пасля заканчэння тэхнікума прыязджае працаваць у родны кут. Першай старонкай яго працоўнай біяграфіі стала Шашкоўская сельская бібліятэка, з якой перайшоў у раённую дзіцячую. Затым была нават пасада загадчыка аўтаклуба.

Станаўленне на паэтычнае крыло Уладзіміра Марука знешне падаецца няўпэўненым. Але за гэтым хаваецца сціплая натура тонкага і спакойнага лірыка, які не штурмаваў вяршыняў, а шукаў гармоніі ў свеце – і людскім, і паэтычным.

Філфак усё ж для мастакоў слова пасляваеннага пакалення абмінуць было практычна немагчыма. Таму не стала дзівам і заканчэнне Уладзімірам Антонавічам такога ж факультэта ў вядучым універсітэце Беларусі – БДУ (1980).

Далей – праца настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе № 106 у Мінску. Але ненадоўга. Голас маладога паэта гучаў усё больш адметна і прыкметна на ніве беларусчыны. Яго заўважылі. З 28 красавіка 1981 года ён працуе ў газеце“Звязда” карэспандэнтам аддзела культуры і літаратуры, а праз колькі гадоў — і загадчыкам аддзела.

Неўзабаве выспеліўся і першы зборнік – “Зоркі ў кронах” (1982). Ціхую лірычную плынь вершаў Уладзіміра Марука можна параўнаць з паўнаводнаю ракою, якая, нягледзячы на маруднае цячэнне, тым не менш характарызуецца глыбінёй і шырынёй – у адрозненне ад рэчак бурапенных, але малаводных і неглыбокіх. У 1984 годзе паэта прымаюць у Саюз пісьменнікаў.

З 1986–га года Уладзімір Марук загадчык рэдакцыі выдавецтва“Юнацтва”, а ў 1998–м — галоўны рэдактар выдавецтва“Белфакс”. У 2003–м прыходзіць у вядучы літаратурна–мастацкі часопіс краіны “Полымя”, дзе

становіцца намеснікам галоўнага рэдактара.

Пасля дэбютнага зборніка быў яшчэ шэраг кніг і мноства публікацый у перыёдыцы, а таксама незлічоная колькасць выступленняў, у першую чаргу перад школьнікамі і студэнтамі. Уладзімір Марук сказаў важкае слова і ў дзіцячай літаратуры. Дасціпнае вершаванае апісанне прыгодаў жэўжыка Чыжа падчас падарожжаў птушачкі па розных кутках свету высвеціла аўтара перад дзіцячай аўдыторыяй у самым прывабным святле.

Нават бегла зірнуўшы на творчасць паэта, прыходзіш да меркавання, што ён не гнаўся за колькасцю вершаў ці прыгожай слоўнай эквілібрыстыкай. Галоўнай рысай яго лірыкі з'яўляецца душэўнасць і духоўнасць.

Да ўсяго паэт займаўся і перакладамі з розных моў. Аднак найперш яго голас інкрустуе (ад назвы зборніка "Інкрустацыя голасам") нашу паэтычную прастору сваім сінтэзам шчымліва–гуманістычнай любові і народнай філасафічнасці.

## САБРАЛАСЯ БЕДНА БАСОТА...

З народнай песні

П'ём нашу долю
з гноем і потам,
Доўга яшчэ баляваць.
"Сабралася бедна басота..." –
Нельга адрэдагаваць.

Песню не ўтоіш,
песню не ўтопіш,
Песню – не прап'еш...
Даўнія раны песняй акропіш,
Ды –
не перажывеш.

***

Нагорнуцца слёзы. То выйшла душа з берагоў.
Надоечы хмара над ёю раўла–бушавала.
Сышліся над ёю і здрада мая, і любоў –
Што знала яна і чаго анізгадкі не знала.
Адвеку было ёй – цярплівасцю зло асуджаць,

Давеку ёй стала слязамі цярпенне–маўчанне...
Не здрада з любоўю, а лёс прымушае крычаць,
Крычаць, покуль слёз – і мяне – ўжо не стане.

Што тут сказаць? Глыбокадумна. Глыбокасумна. І… прароча…
Жыццё кароткае, мастацтва вечнае, бо напісанае застаецца,
– паводле старажытных рымлян.
Чалавек сышоў. Паэт – жыве. У пакінутай людзям паэзіі.

Уладзімір Марук ніколі не забываў край, які даў яму пуцёўку ў жыццё, – Ганцаўшчыну. Землякі таксама будуць помніць сціплага і добрага чалавека родам з Гуты.





# *Алена* УСЦІЛОЎСКАЯ

***

Перагортваю старонкі жыцця.
Не чужога.
Уласнага.
Перагортваю старонкі жыцця
І ўсё больш пільна
Накіроўваю позірк да Неба…
Перагортваю старонкі жыцця
І прашу прабачэння ў Бога,
Што мала на іх
Спагады і шчырасці,
Дабрыні і пяшчоты,
Супакою і радасці.
Што мала тут Любові...

## НАД ВАДОЮ

Стомлены вандроўнік
Прыпадзе
Вуснамі сасмяглымі да неба.
Праўда нарадзілася –
А дзе?
Пашукаць
У сэрцы
Яе трэба.

Стомлены вандроўнік
Хоча піць
Ісціну
З далоні
Шматпакутнай...

Каменем у бездань
Ён ляціць –
Без душы.
Скалечаны.
Разбуты.

***

Слотнае ды сырое,
Шэрае ды нікчэмнае,
Маркотнае ды
Жудасна–адзінокае –
Чаканне
Вясны.

***

Ужо збіралася
На дождж
І халадком
Вітала Сена.
А мудрагелістая ноч
Праз сцены
Нотр–Дам
Глядзела.

І так хацеў
Начны Парыж,
Каб іншы пульс
Ва мне забіўся.
А я малілася
Увысь,
Каб дождж
Радзімы
Тут
Праліўся…





# *Віктар ХМАРУК*

***

Закрыв глаза, мы видим путь.
Открыв же их,
Мы видим те же стены.
И вновь – решение свернуть.
Или уснуть.
Боимся перемены.

***

Жизни закон заставляет жить.
Надо ли скептиков разных слушать?
Птицы, гнездо начиная вить,
Не думают, что его разрушат.

***

Ты – вечер.
Ты просто вечер,
Несущий вдохновение.
Я – ветер.
Я просто ветер…
Мы – соприкосновение.

***

Устав наслаждаться любовью и телом,
Устав быть счастливыми, плакать и петь,
Мы просто решаем вдруг… так, между делом,
Друг с другом мириться, друг друга терпеть.

***

Мы как поток, родившийся в горах,
Стремимся в путь,
Преграды преодолевая.
Но, встретив море, ощущаем страх.
С надеждой смотрим ввысь,
Свою ничтожность признавая…

***

Доброе утро, солнце осеннее!
Доброе–доброе! Ты стала смиреннее?
Как глаза твои засветились любовью
И желанием быть не закатом, а новью!

***

Несчастье и счастье –
Звенья цепи,
Меж ними бесстрастные,
Серые дни,
Меж ними дорога
В безвестную даль,
Меж ними тревога,
Тоска и печаль.
А что на исходе?
Путь долог, но слеп.
Мы в вечной природе
Непрочная цепь.



# НАШЫ ГОСЦІ



## *Вячаслаў БУРДЫКА*

### ЛЯТУЧКА

*Урывак з аповесці“Газета. Made in Belarus”*

...Ужо ў 8.00 прыбегла Таццяна, бялявая, праз год ужо пенсіянерка, сакратарка галоўнага рэдактара, і абвясціла аб маючай адбыцца а дзесятай гадзіне лятучцы. Так у журналісцкіх колах называюць штотыднёвыя аператыўныя нарады–планёркі. У рэдакцыі“Штодзённіка” яны звычайна праходзілі па аўторках, ды і то, калі шэф быў у добрым настроі. Апошнія некалькі гадоў, пасля юбілею газеты, настрой у Паўла Паўлавіча даволі часта псаваўся, і лятучкі здараліся адзін, рэдка – два разы на месяц, а пасяджэнні рэдкалегіі – і таго радзей. Сёння ж увогуле была серада, таму вестка аб тэрміновай нарадзе ў шэфа прагучала для супрацоўнікаў сакратарыята бы гром сярод яснага неба. Ды і выглядала Таццяна неяк таямніча: так выглядае кошка, якая злізала ў збанку з малаком вяршкі, а прызнавацца ў гэтым не хоча. Вось і сакратарка, адчувалася, нешта ведала, але маўчала, як партызанка на допыце. За гэта яе, дарэчы, і трымаў Шуркоўскі ўжо гадоў дваццаць, не мяняючы на сучасных маладых, даўганогіх.

– Што за тэрміновасць? – запытальна буркнуў Фядос Шэршань, адказны сакратар – маленькі, кругленькі, падобны на балабушку мужчына, заўсёды пануры і незадаволены жыц-

цём.

Таццяна ў адказ толькі загадкава ўсміхнулася і пабегла далей, у іншыя аддзелы рэдакцыі, па дарозе не прамінуўшы“падкалоць” Шэршаня:

– Павел Паўлавіч прасіў нагадаць, каб сакратарыят, як заўсёды (яна зрабіла моцны націск менавіта на гэтым слове – так, каб і дурню было ясна, што паняцці“сакратарыят” і“заўсёды” – несумяшчальныя!), быў на лятучцы ў поўным складзе, а то яны там распусціліся... Гэта не я, гэта шэф так сказаў!

– А дзе гэты, блін, Гугнюк блындаецца? – вызверыўся Шэршань, — вечна вы недзе лазіце, ніколі вас не дашукаешся, калі трэба...

Янка Плыткевіч і Васіль Гугнюк лічыліся намеснікамі Фядоса, а па сутнасці нічым не адрозніваліся ад іншых супрацоўнікаў сакратарыята – разам з дзяўчатамі–аператарамі Галяй і Нінай сядзелі за камп’ютарамі і вярсталі“свае” палосы газеты.

– Можа, які“ляп” ва ўчарашнім нумары ўляпалі? – не звяртаючы ўвагі на мінорны настрой начальніка (шэфам супрацоўнікі называлі толькі галоўнага рэдактара, начальнікам — адказнага сакратара), Плыткевіч паспрабаваў услых адгадаць прычыну нечаканага збору.

Шэршань міжволі злосна зірнуў на падшыўку“Штодзённіка” – нічога добрага ад пазачарговай лятучкі менавіта для сябе Фядос Фядосавіч не чакаў. У апошні час ніводная нарада не праходзіла без выпадаў у адрас сакратарыята. То лінейку не там паставілі, то загаловак не такім кеглем набралі, то матэрыял не ў тым месцы скарацілі... Асабліва даставалася, калі Плыткевіч ці Шэршань (першы – бо не ведаў усіх нюансаў унутрырэдакцыйных узаемаадносін, апошні – калі быў нецвярозы) крэмзалі чарговы твор шэфавай зазнобы Вольгі Блазнюковай. Тая пісала бяздарна, з процьмай граматычных і стылістычных памылак, але, карыстаючыся статусам“першай ледзі”, кіравала ўсімі працэсамі ў калектыве, у тым ліку і творчымі. Усе гэта ведалі і стараліся з ёй не звязвацца, бо выдатна ўсведамлялі, чым бунт на караблі можа скончыцца. Чала-

век шэсць былых супрацоўнікаў“Штодзённіка”, якія чымсьці не падабаліся Блазнюковай, ужо шукалі працу ў іншых месцах. А ў невялікім нават па мерках Беларусі абласным цэнтры – не ў сталіцы: тры газеты ды тэлерадыёкампанія, дзе штаты даўно запоўнены.

Апошнія“наезды” на сакратарыят (нават радавыя дзяжурныя па чарговых нумарах выказвалі крытычныя заўвагі!) сведчылі: Блазнюкова за нешта моцна ўз’елася на Шэршаня. Фядос гэта выдатна адчуваў і нават дакладна ведаў, у чым“правініўся” перад свавольнай і капрызнай Вольгай, але, будучы чалавекам па натуры замкнутым, блізкіх сяброў не меў і ні з кім сваімі праблемамі не дзяліўся.

“Все мы, бабы, – стервы...” — раптам свідранула па мазгах фразай з вядомага шлягера, якая данеслася з радыёпрыёмніка на сцяне.

– Сапраўды, сцервы! – Шэршань так задумаўся, што не заўважыў, як прамовіў апошнія словы ўголас.

– Хто сцервы? – пацікавіўся Плыткевіч.

– Ды гэта я так, аб сваім, душэўным, – адмахнуўся ад назойлівага намесніка Фядос.

– Ты б трахнуў гэту ведзьму Блазнюкову, а то ніякага жыцця не стала, – Шэршань аж уздрыгнуў ад нечаканасці: Янка нібы прачытаў яго думкі.

У рэдакцыі ні для каго не была сакрэтам сексуальная заклапочанасць Блазнюковай – яна кідалася на мужыкоў, бы сабака на каўбасу, і той з прадстаўнікоў моцнай паловы рэдакцыі, хто набіраўся мужнасці Вользе адмовіць, станавіўся яе асабістым ворагам. З нядаўняга часу хадзілі чуткі, што Блазнюкова“палажыла вока” на Шэршаня, а той у бок значна старэйшай за яго кабеты і не глядзіць. Мелі гэтыя чуткі пад сабой рэальныя падставы ці не, Плыткевіч дакладна не ведаў.

– Табе якая справа? – агрызнуўся Фядос.

– Калектыў перажывае.

– Не каркай! А выпруць – табе ж лепш, на маё месца адказным назначаць.

– Мяне не назначаць – я п’ю.
– Усе мы п’ём.
– Гугнюк не п’е.
– І не працуе...

У гэты момант у кабінет зайшоў запыханы Васіль, і размова на паўслове абарвалася. Але тое, што сказаў Шэршань, насцярожыла Плыткевіча. З Фядосам яму працавалася нармальна, адказны сакратар хоць і не ўставаў грудзьмі за сваіх людзей, але ж і не здаваў іх, каб перакласці адказнасць са сваіх плячэй на плечы падначаленых. На яго месца Плыткевіч тым больш не імкнуўся. І зарплата не намнога большая, і самастойнасці амаль ніякай. Так ужо склалася ў рэдакцыі“Штодзённіка”, што палітыку газеты вызначалі шэф з Блазнюковай, а па дробных тактычных пытаннях – намеснік галоўнага рэдактара пенсійнага, як і шэф, узросту Пётр Міхайлавіч Сасноўскі.“На плячах адказнага ляжыць толькі адказнасць”, — жартаваў мясцовы гумарыст Ванька Сакалоў, які першым сярод мужчынскай паловы калектыву адчуў на сабе гнеў Вольгі і, нягледзячы на свой журналісцкі талент, атрымаў“воўчы білет”. Ванька, вядома ж, не прапаў – яго тут жа падабраў канкурэнт“Штодзённіка”, галоўны рэдактар“Весніка” Уладзіслаў Шкалюк.

“Трэба напіцца!” — вырашыў Плыткевіч. Інтуіцыі Шэршаня ён давяраў. Той без падставы гаварыць аб пераменах у сакратарыяце не стаў бы. Значыць, нешта ведае.“А на хрэн нам такія замарочкі?”

А дзесятай гадзіне кабінет галоўнага рэдактара гудзеў, бы пчаліны вулей.

Калектыў рэдакцыі абласной газеты – параўнальна невялікі.“Усіх–усялякіх, разам з трымя прыбіральшчыцамі і двума вадзіцелямі”, – як любіў пажартаваць Павел Паўлавіч, – набіралася пры поўным штатным раскладзе 56 чалавек. Але, калі адкінуць так званых“тэхнічных” (аператараў камп’ютарнага набору і вёрсткі, карэктараў, супрацоўнікаў гаспадарчага і рэкламнага аддзелаў, бухгалтэрыі), непасрэдна

на падрыхтоўку матэрыялаў у газету працавалі 17 журналістаў (у адрозненне ад“тэхнічных” супрацоўнікаў іх у рэдакцыі называлі“творчымі”) – рэдактараў аддзелаў, аглядальнікаў, спецыяльных, уласных і фотакарэспандэнтаў...

Менавіта“творчыя” (за выключэннем чатырох“сабкораў” – уласных карэспандэнтаў, якія“сядзелі” непасрэдна ў аддаленых ад абласнога цэнтра раёнах) і збіраліся звычайна на лятучкі. Абавязаны былі прысутнічаць і адказны сакратар са сваімі двума намеснікамі, якія таксама адносіліся да“творчых”, хоць амаль нічога ніколі не пісалі. Ну, калі не лічыць падборкі інфармацый у калонку пад рубрыкай“Бліц–пстрык”, што рыхтавалі Плыткевіч і Гугнюк па чарзе на першую старонку ў кожны нумар газеты. Шэршань і гэтага не рабіў, бо заўсёды быў заняты нейкімі камерцыйнымі справамі – ён па сумяшчальніцтву ўзначальваў створаны пры рэдакцыі два гады таму выдавецкі кааператыў і з таго часу ў падрыхтоўцы“Бліц–пстрыкаў” не ўдзельнічаў. Інфармацыйную калонку“творчыя” Плыткевіч і Гугнюк“забівалі” ў апошні момант, літаральна за гадзіну–другую да здачы палос у друкарню. Гэта была перапрацоўка найбольш важных палітычных і сацыяльна–эканамічных навін, узятых са свежых нумароў рэспубліканскіх газет (у апошні час, калі сакратарыят камп’ютарызаваўся, не трэба было ўжо і на газеты траціцца, бо неабходную інфармацыю проста скачвалі з Інтэрнэта). Адным словам, плагіят, за які яшчэ і ганарар плацілі.

Плыткевіч, які прывык за дванаццаць папярэдніх гадоў да цяжкай працы ў“раёнцы”, дзе кожны ганарарны рубель даставаўся салёным потам і бяссоннымі начамі, спачатку, калі толькі перайшоў у рэдакцыю абласной газеты, не мог ўцяміць, на якой законнай падставе аплачвалася“перакопванне” чужой творчай нівы, і неяк па наіўнасці нават запытаў аб гэтым у Шэршаня. Той незадаволена буркнуў нешта накшталт:

– А што мы бясплатна павінны гарбаціцца?!

Пра тое, што“гарбаціўся” ён за значна вышэйшую ў параўнанні

з“раёншчыкамі” зарплату, Шэршань тактоўна прамаўчаў.

“Куфэрачак” жа вельмі проста адчыняўся. Першапалосную калонку навін аб падзеях у свеце і краіне («ну, не павінна абласная газета быць месточковай”!) адказны сакратар“Штодзённіка” Бурак (ён працаваў на гэтай пасадзе да Шэршаня) увёў пад сябе. Ён быў чалавекам прагавітым і, размячаючы ў адпаведнасці са сваімі службовымі абавязкамі ганарар паміж“творчымі”, люта зайздросціў кожнаму, хто распісваўся ў ганарарнай ведамасці хоць за рубель). Лішнімі, як вядома, грошы ніколі не бываюць, але і з неба, бы манна нябесная, яны таксама не падаюць. Каб прэтэндаваць на ганарар, трэба было нешта пісаць. Пісаць Бурак не любіў і не хацеў. А грошай хацеў, і нават вельмі. Вось тады ён і прыдумаў новую рубрыку і даказаў галоўнаму рэдактару неабходнасць і важнасць яе ўвядзення («нам належыць станавіцца салідным выданнем рэспубліканскага і, калі хочаце, міжнароднага маштабу!”). Павел Паўлавіч добра разумеў, дзеля чаго так шчыраваў Бурак, але, стомлены трыццацігадовай рэдактарскай барацьбой супраць хцівасці, несумленнасці і іншых негатыўных чалавечых якасцей у сваім калектыве больш, чым на старонках газеты, згадзіўся з довадамі адказнага сакратара і даў“дабро” на аплату“Бліц–пстрыкаў” з ганарарнага фонду.“Толькі ты там глядзі – не надта заграбай...”.

Вучыць Сідара Сідаравіча Бурака, як“заграбаць”, не трэба было. Хутка сямірадковыя замятулькі ў“Бліц–пстрыках” сталі аплачвацца па найвышэйшаму тарыфу – нароўні з нарысамі і фельетонамі. Адзіным аўтарам гэтых“твораў” быў сам Сідар Сідаравіч. Нават калі знаходзіўся ў адпачынку. Пасля таго, як сямідзесяцігадовага Бурака выперлі на пенсію, калектыў“творчых” на чарговай лятучцы ўзняў праблему плагіяту і, у прыватнасці, аплаты“Бліц–пстрыкаў”. Але тут раптам загаварыў маўклівы Шэршань, якога паспелі ўжо зацвердзіць на пасяджэнні рэдкалегіі адказным сакратаром. Ад дармавой капейчыны які ж дурань адмовіцца? А калі звычайную прагнасць адпаліраваць зверху ідэалагічнай фарбай,

дык атрымоўваецца такі“вінегрэт”, які прасцей цярпець, чым супраць яго змагацца. Павел Паўлавіч толькі рукой махнуў: рабіце, маўляў, што хочаце, толькі галаву не дурыце. Тады Шэршань быў яшчэ ў фаворы, і Блазнюкова зацікаўлена паглядвала ў бок маладога, хоць і не надта файнага новага кіраўніка сакратарыята («ростам крыху не выйшаў!”). Сам Шуркоўскі быў чалавекам не прагным і не надта практычным, нягледзячы на сваё сялянскае паходжанне, таму, сутыкаючыся са скнарамі, ніякавеў і ў душы сам саромеўся за такіх людзей.

Зразумеўшы, што шэф бунту“творчых” не падтрымлівае, тыя, паўздыхаўшы над сваёй нялёгкай рабскай доляй, змірыліся з непазбежным. Як кажуць, у такіх выпадках лепш за ўсё расслабіцца і атрымаць хоць якое задавальненне. Не змірыўся толькі Гугнюк. Праўда, дзейнічаць публічна, пры ўсіх не стаў, а пасля лятучкі пайшоў да галоўнага рэдактара і запатрабаваў сваёй“долі”, таксама падвёўшы ідэалагічную платформу: маўляў, трэба павышаць узровень важнейшай сацыяльна–палітычнай інфармацыі, а калі“Бліц–пстрыкі” рыхтуе адзін чалавек («няхай нават і такі таленавіты, як Шэршань!”), дык калонка атрымліваецца аднабокай. У прыватнасці, у ёй напрэч адсутнічаюць спартыўныя дасягненні Беларусі (Гугнюк быў заўзятым футбольным балельшчыкам).

– І што ты прапануеш? – пацікавіўся Павел Паўлавіч.

– Рыхтаваць“Бліц–пстрыкі” павінны два чалавекі па чарзе, праз нумар.

– Другім, вядома, будзеш ты?

– Ну, а хто яшчэ?! – шчыра здзівіўся Гугнюк.

Шэршаня шэф паставіў перад фактам, і таму крыць было нечым: фармальна Гугнюк меў рацыю.

– Ну, яшчэ адна піранния прысмакталася! – выразіў сваё абурэнне“зубр” мясцовай журналістыкі, рэдактар крымінальнага аддзела Пятро Тапалюк, убачыўшы ў чарговым нумары“Штодзённіка” подпіс Гугнюка пад“Бліц–пстрыкам”.

“Зубр” як у ваду глядзеў – ад таго, што да ганарарнай

кармушкі прыпала яшчэ адна“акула пяра” (гэты выраз такса-ма любіў Шуркоўскі), сума ганарару ў Шэршаня не зменшылася – ён проста павялічыў расцэнкі за адну падборку роўна ўдвая. Столькі ж, каб не пакрыўдзіць калегу–падначаленага, ён ставіў у ведамасці і Гугнюку. Як заўсёды, у пройгрышы засталіся астатнія“творчыя” – аўтары ўласных карэспандэнцый і рэпартажаў...

Думкі Плыткевіча перапыніў голас шэфа, які нечакана выкаціўся з бакавухі – бытавога пакойчыка, дзе галоўны рэдактар адпачываў у вольную хвілінку. Там стаялі чатыры мяккія крэслы, журнальны столік, халадзільнік, тэлевізар, кухонная шафа з чайным сервізам і іншым неабходным посудам. Побач з бакавухай размяшчаўся персанальны туалет. Адным словам,“усе ўдобствы” былі для адпаведнага выпадку (потым адзін са шматлікіх пераемнікаў Паўла Паўлавіча нават некалькі месяцаў жыў там, пакуль чакаў службовую кватэру).

– Ну што, пашахонцы, – распачаў лятучку Шуркоўскі, – даўно мы з вамі не бачыліся? Хто ў нас, Фядос Фядосавіч, аглядае апошнія нумары?

Шэршань разгублена залыпаў вачыма: ён яўна не падрыхтаваўся да такога развіцця падзей і нават графік дзяжурстваў з сабой не захапіў. Праўда, перад ім ляжаў тоўсты канцылярскі блакнот, у якім вёў пратаколы пасяджэнняў рэдкалегіі і лятучак («вёў пратаколы” — гэта моцна сказана, хутчэй – рабіў адвольныя паметкі сваім неразборлівым почыркам; што і калі там пісалася апошні раз, не змог бы, напэўна, разабраць нават штурмбанфюрэр Шцірліц), і Фядос, зрабіўшы“разумны” выгляд, пачаў перагортваць старонкі блакнота. Нарэшце выдаў:

– На папярэдняй лятучцы, якая адбылася 21 мая (на дварэ ўжо стаяў пачатак ліпеня!), аглядаў Васілюк...

– Няўжо так даўно не збіраліся? – здзівіўся Шуркоўскі. – Кепска, Фядос Фядосавіч! Чаму вы мне не напамінаеце аб неабходнасці правядзення лятучак? І графік дзе?

– На дошцы ў сакратарыяце...
– Ну, вось!  – успляснуў рукамі Павел Паўлавіч.  – Зноў сакратарыят недапрацоўвае... І аглядальніка няма. Чаго мы тады сабраліся? Давай сам аглядай, калі не можаш арганізаваць працэс. Слухаем.

У гэты момант Плыткевіч заўважыў, якім пераможным бляскам зіхацелі вочы Блазнюковай.“Значыць, сапраўды, гэта яе інтрыгі! – здагадаўся Янка. – Во, баба–сцерва, такая да сваёй мэты цераз трупы пераступіць...”.

Фядос, вядома ж, да агляду не рыхтаваўся. Але сакратарскую справу крыху ведаў ды і патэнцыял“творчых” больш–менш дакладна мог ацаніць, калі яго не“заносіла”.
– А дзе, дарэчы, падшыўка? – распаляўся шэф. – Колькі разоў казаць сакратарыяту, каб на кожную лятучку прыносілі падшыўку газеты!

Гугнюк хуценька збегаў у сакратарыят і праз дзве хвіліны прынёс падшыўку“Штодзённіка” за бягучы год. Шэршань адгарнуў некалькі нумароў і паморшчыўся, бы яму сківіцы звяло.
– Ды што тут чытаць?! –“завёўся” Фядос. – Акрамя“Бліц–пстрыкаў”, нічога цікавага. Самі паглядзіце: адны справаздачы па трыста радкоў кожная з нікому не патрэбных пасяджэнняў. Які дурань будзе гэта чытаць? А вось яшчэ... Блазнюкова выдала свой чарговы шэдэўр пра дзіцячы дом... Колькі можна спекуляваць на адной тэме? Плакаць ад такіх матэрыялаў хочацца!

Усе ў кабінеце быццам знямелі – было чутна, як недзе ў кутку назойліва загудзела муха. Плыткевічу стала ясна, што Шэршань пайшоў напралом. Такога адкрытага выступлення – ды яшчэ ў цвярозым стане! – ён сабе ніколі раней не дазваляў.

“Здурэў зусім Фядоска, – пашкадаваў начальніка Янка. – Ці, можа, знайшоў новую працу?”.

А Шэршань працягваў свой“апошні і рашучы”:
– Калі мы будзем так працаваць і далей, хутка апошнія чытачы разбягуцца. Гэта ж які сорам трэба мець, каб за бясплатны

кавалак мяса напісаць панегірык бяздарнаму кіраўніку адстаючага калгаса, як гэта зрабіў у нумары за мінулую суботу Тапалюк... А Ніна Пастухова што вычварае? Пакуль пра кожную ноту ў актаве не напіша з усімі падрабязнасцямі, не супакоіцца... Ну, каму цікава, як браў ніжняе“до” ў арыі Ленскага з оперы“Яўген Анегін” невядомы выканаўца раённага разліву Пупкін? Ці вазьміце аддзел эканомікі. Міша Бабіч ходзіць толькі выключна ў жаночыя вытворчыя калектывы, а ў мужчынскія – ні нагой. Прыклады? Калі ласка! У чэрвені ён быў на панчошнай фабрыцы, маслазаводзе і ў хлебапякарні... Праўда, карэспандэнцыю пакуль напісаў толькі з маслазавода. Прычым на літару г... Дзе астатнія публікацыі? Піша Міхал Піменавіч, піша... А чым парадаваў сваіх прыхільнікаў наш паважаны спадар Сасноўскі? Ён жа намеснік галоўнага рэдактара! Курыруе пытанні савецкага будаўніцтва, палітычных партый і грамадскіх арганізацый. Пра якія партыі, акрамя камуністычнай, ды і то ў трыццацірадковай інфармацыі–справаздачы з пленума, вы расказалі на старонках“Штодзённіка”, паважаны Пётр Міхайлавіч? Маўчыце? Ясна, сказаць нечага. Вы толькі і робіце, што з раніцы да вечара прастойваеце ў сакратарыяце за плячамі ў дзяўчат... За два мінулыя гады тыраж газеты ўпаў амаль удвая. Можа, і ў гэтым я вінаваты?

– І ты таксама, а як думаў?! – пайшоў чырвонымі плямамі па твары Шуркоўскі. – Бач, праўдалюб знайшоўся! Ні хрэна ў гэтым сакратарыяце не робяць, толькі п’юць ды памылкі ў кожным нумары дапускаюць... Не дазволю!

Пасля лятучкі Шуркоўскі папрасіў Сасноўскага застацца. Той яшчэ не адышоў ад слоў Шэршаня і хмурна зыркаў на Блазнюкову, без якой у апошні час ні адно афіцыйнае і неафіцыйнае мерапрыемства (з удзелам шэфа) не адбывалася – ці баялася страціць над Паўлам Паўлавічам сваю ўладу, ці, наадварот, дэманстравала яе, карыстаючыся любой магчымасцю.

Пятру Міхайлавічу гэта не падабалася – у глыбіні душы ён цярпець не мог Вольгу за грубасць, нахабныя манеры і поўную адсутнасць павагі да іншых людзей. Нават яго (намесніка

галоўнага рэдактара!) гэтая сцерва ў грош не ставіла, у прысутнасці супрацоўнікаў звярталася па–панібрацку на“ты”, называла (які жах!) зняважліва Пецюнчыкам.

Але Сасноўскі выдатна ведаў сваё сапраўднае месца, цвяроза ацэньваў уласныя творчыя здольнасці (хоць гадоў з дваццаць таму і лічыўся даволі моцным журналістам у“раёнцы”, падаваў пэўныя надзеі, за што Шуркоўскі і ўзяў яго ў абласную газету) і даўно засвоіў: пакуль ён душой і целам (было–было!) на баку Блазнюковай і шэфа, датуль будзе працаваць у“Штодзённіку”.

А каму патрэбен“вычарпаны да донца” журналіст пенсійнага ўзросту, які на адміністрацыйнай пасадзе ўвогуле адвык пісаць хоць што–небудзь?

Пётр Міхайлавіч выдатна помніў пачатак 90–х, калі ўзбунтаваліся Шкалюк і яго хаўруснікі (Кутузаў, Каралевіч, Лазюка і іншыя). Галоўнай прычынай іх выступлення была менавіта Блазнюкова, бунтаўшчыкі паставілі ультыматум Шуркоўскаму: яны ці Вольга! Павел Паўлавіч выбраў Вольгу, і Шкалюк з камандай аднадумцаў і прымкнуўшых да іх Казадоева, Быкоўскага і бухгалтара Спадніковіча дэманстрацыйна пакінулі сцены рэдакцыі і стварылі альтэрнатыўную газету –“Веснік”. Сасноўскага з сабой не паклікалі. А яму ж вельмі хацелася таксама“бразнуць дзвярыма”! Старая ліса, спакушаны ў службовых інтрыгах чалавек, ён нутром адчуваў, што ў Шкалюка ёсць шанц і перспектыва.

Сёння Пётр Міхайлавіч і сам сабе баяўся прызнацца ў тых сваіх здрадніцкіх думках, але ж гэта было і Сасноўскі нават праз дзесяць гадоў пасля зыходу каманды Шкалюка з“Штодзённіка” адчуваў крыўду на Уладзіслава Сямёнавіча, хоць і адзіны ў цяперашнім калектыве кантактаваў з рэдактарам“Весніка”, калі ўзнікала патрэба ўзгадніць пазіцыі па рэкламнай палітыцы абодвух выданняў.

Шуркоўскі ведаў аб гэтых нефармальных кантактах свайго намесніка, але нічога Пятру Міхайлавічу не казаў – як чалавек разумны, ён усведамляў іх карысць ды і сам недзе

глыбока–глыбока ў душы перажываў разрыў са Шкалюком і іншымі былымі супрацоўнікамі (па праўдзе кажучы – не самымі горшымі ў творчым плане), якія зышлі ў“Веснік”. Уладзіслава – таленавітага, яркага журналіста і здольнага арганізатара – Павел Паўлавіч выглядзеў у адной з“раёнак”, дзе той працаваў рэдактарам, і запрасіў у“Штодзённік” адразу на пасаду свайго намесніка (якраз была вакансія – былы намеснік і добры сябра Міхалюк пайшоў на павышэнне, у вядучую рэспубліканскую газету, тэрмінова патрабавалася раўнацэнная замена), хоць Шуркоўскага кампетэнтныя людзі і папярэджвалі аб беспрынцыповасці гэтага чалавека. Добра ведаў ён і гісторыю яго імклівай кар’еры ў той“раёнцы” (ды хто яе ў вобласці не ведаў!). Шкалюк падпаіў у час абедзеннага перапынку свайго рэдактара Дымара (ён быў слабаваты на выпіўку) і, калі той заснуў у службовым кабінеце за рабочым сталом, пазваніў першаму сакратару райкама партыі. Расправа была кароткай: Дымару аб’явілі“страгача з занясеннем” і адправілі дапрацоўваць да пенсіі (яшчэ два гады заставалася – столькі чакаць Шкалюк не хацеў!) у школу выкладчыкам пачатковай ваеннай падрыхтоўкі. Не паглядзелі ні на былыя партызанскія заслугі, ні на просьбы знакамітых хадакоў. Шкалюк біў трапна: таму і званіў менавіта першаму, бо той у пытаннях п’янкі на працы быў прынцыповым і катэгарычным. А вызваленае рэдактарскае крэсла тут жа заняў Уладзіслаў Сямёнавіч. Шуркоўскаму і самому не раз здраджвалі, здавалася б, лепшыя сябры, але ён настойліва – зноў і зноў! – наступаў на адны і тыя ж граблі. Ну, шчасце ў яго такое было – давяраць нягоднікам, якія ўмела маскіраваліся ў“авечую шкуру”. Павел Паўлавіч пасля чарговай здрады перажываў, начамі не спаў, аналізуючы свае жыццёвыя прынцыпы, заракаўся збліжацца з людзьмі, некалькі месяцаў стрымліваў дадзенае самому сабе слова, а потым, як і ўсе гарачыя натуры, адыходзіў, пакрытае ледзяной коркай сэрца адтайвала, і ён знаходзіў чарговага“талента” (а ў яго быў сапраўды выдатны нюх на таленавітых, творчых людзей) і аддаваў новаму

любімчыку ўсю шчырасць і дабрыню свайго шырокага сэрца...
– Што думаеш пра дэмарш Шэршаня? – перабіў невясёлыя думкі Сасноўскага Шуркоўскі.
– Не ведаю, якая муха яго ўкусіла, – асцярожна пачаў Пётр Міхайлавіч. – Перапіў, пэўна, напярэдадні...
– Ды гаўно яно і ёсць гаўно! – уставіла свае“пяць капеек” Блазнюкова (а як жа без яе!). – Я табе, Пецюнчык, даўно казала – ненадзейны Фядос чалавек, а ты яго абараняў.
Нікога і ніколі Сасноўскі не абараняў, не было ў яго такой звычкі, ён любіў толькі сябе любімага, але пярэчыць Вользе не асмеліўся.
– Гнаць гаўнюка з рэдакцыі паганай мятлой! Дакуль гэта будзе працягвацца, Павел Паўлавіч? – шэфа Блазнюкова заўсёды называла на“вы”, нават калі яны заставаліся сам–насам.
– Цішэй крышачку, Вольга, – папрасіў Шуркоўскі. – Людзі пачуюць...
– Няхай чуюць! –“першая ледзі” яшчэ больш узмоцніла голас. – Каго нам баяцца?
– Ну, ладна, ладна... Выгнаць не праблема. Але ж на месца адказнага сакратара абы каго не паставіш – вельмі ж спецыфічная пасада, – разважаў Павел Паўлавіч. – Хіба што Плыткевіча... Як, Вольга, думаеш, пацягне?
“Як, Вольга, думаеш?” – злосна–пакрыўджана перадразніў Сасноўскі словы шэфа (праўда, не ў голас).“Мяне ўжо і за чалавека не лічаць, хоць бы дзеля формы...”.
– А чаму б і не? Чалавек ён здольны, працавіты, камп’ютар вунь асвоіў хутчэй за ўсіх у сакратарыяце, лепш за Алега–інжынера ведае, — Блазнюкова гаварыла нібы сама з сабой, але Шуркоўскі ўважліва яе слухаў. – Гэта выдатная ідэя, Павел Паўлавіч!
– Выпівае ён, так бы мовіць, – усё гэтак жа асцярожна заўважыў Сасноўскі.
– Чыя б карова мычала! – засмяялася Вольга. – Затое ён сямнаццаць раманаў напісаў. А ты колькі?

– І калі паспеў? – шчыра здзівіўся Пётр Міхайлавіч і чамусьці пачырванеў. – Я не ведаў...
– Вось так заўсёды  – нічога ты не ведаеш!.. А што п’е – дык няхай сабе п’е, – падтрымаў Блазнюкову Шуркоўскі. – Калі работа перашкаджае п’янцы, дык ну яе, гэту работу. Гэта я жартую, не зважайце. Памятаю, неяк у абкаме партыі загадчык аддзела агітацыі і прапаганды Цыганкоў у мяне пытаецца, навошта я трымаю ў рэдакцыі адных п’яніц ды бабнікаў. У іншых ідэалагічных установах, маўляў, працуюць людзі  як людзі, усе ў касцюмах, белых кашулях і пры гальштуках, а ў абласной газеце – адны абарванцы няголеныя. Ведаеш, Пятро, што я адказаў?
– Што, Павел Паўлавіч? – ліслiва пацікавіўся Сасноўскі, хоць ужо разоў трыццаць чуў гэту гісторыю з вуснаў самога Шуркоўскага.
– А вось паслухай. Паспрабаваў я аднойчы набраць такіх, пры гальштуках. Выдатныя хлопцы! І не пілі, і не курылі, і на кабет не звярталі ўвагі... Адзін толькі недахоп мелі.“Які?” – пацікавіўся Цыганкоў.“Пісаць не ўмелі!” – сказаў я. Пасля той размовы ад мяне і адсталі. А Плыткевіча мы з табой, Пётр Міхайлавіч, – цяпер ужо шэф павярнуўся тварам да Сасноўскага,  – удвох павыхоўваем, каб хоць на рабоце не піў.
– ык ён ужо месяц як не п’е! – заўважыла Блазнюкова.
– Адкуль ведаеш? – Шуркоўскі падазрона–раўніва зірнуў на Вольгу.
–  Гугнюк казаў, што Янка закадзіраваўся.
– Ну, дык гэта ж зусім іншая справа! – узрадаваўся Сасноўскі.
– Тады і выхоўваць не трэба... А Шэршню сказаць, каб заяву пісаў?
– Ён ужо напісаў, – Павел Паўлавіч паляпаў рукой па нейкай паперчыне на стале. – А я падпісаў. Ідзі, Пётр Міхайлавіч, пакліч Плыткевіча. Чаго цягнуць, калі мы дамовіліся?..





# *Надзея ПАРЧУК*

## ВЕЧНАСЦЬ

Калі ў нябеснае прасторы
Парою цёмнаю, начной
Пазвоньваюць трымкліва зоры
Над нашай сутнасцю зямной –
Усведамляю: гэта – Вечнасць
З нядрэмнай пільнасцю глядзіць
На наш прытулак чалавечы
Праз залатое дно вачніц.

* * *

Хто сэрцам шчыруе ў нябёсах,
Той цвёрда стаіць на зямлі,
І як бы ў жыцці ні прыйшлося –
Узнімецца мужна над лёсам,
Любоўю жыццё асвятліць.

* * *

Абвейвае вецер мой сад,
Здзімаючы квецень са слівы,
І кружыцца з ёю, шчаслівы,
І сыплецца ёй неўпапад.
І светлае дрэўца – ужо

Паволі, пакрышку цямнее,
А дол ад пялёсткаў бялее,
Бы воблачкам снежань сышоў...

* * *

Снег то растане, а то зноў
З дажджом закружыцца ў абдымку;
І я між мараў і між сноў
Ніяк не ўпісваюся ў зімку.

Цвіце ў душы маёй вясна,
І май спявае салаўямі,
А я пад спеў той дапазна
Сяджу над Вашымі лістамі.

Чытаю ўдумліва наноў
Які ўжо раз за доўгі вечар...
Снег то растане, а то зноў
Прысядзе вішаньцы на плечы.



# ПАД НЕБАМ АДЗІНЫМ

## *Анна БАГРАНА*

***

Нітачка залатая
вандруючы
да твайго сэрца
просіцца
пра сваё таямнічае прадзіва
акрамя цябе
не маю каму распавесці

### ВАРАЖБА

Абрываеш макавыя пялёсткі
маёй спадніцы
пытаеш:
 – любіш?
а іх – усё менш і менш
 – ... чы не любіш?
 – ... а калі любіш, то каго?
на маках – кажу – не варожаць
 – быва–а–а–й!
Даганяю паветраную павуцінку
калі злаўлю – пашыю з яе бялізну
буду чакаць
пакуль зацвітуць новыя макі
бо...
ужо сумую
па тваёй варажбе
ліст не ад цябе
не чытаючы
знішчу

## ТВАІМІ ВАЧЫМА

Тваімі вачыма
на мяне зірне
іншы
Калі гукі майго няўклюднага імя
матылямі спалоханымі
выляцяць з тваіх вуснаў і
палунаўшы
на Ягоныя вусны прымастаколяцца
тады Ён наўмысна пакоціць зорку па небе
долу скідаць яе будзе
жаданне адзінае загадае:
стаці
Табою

*Пераклад з украінскай  Аляксея Філатава*

# ***Васыль ГЭЙ***

з кнігі "Вихор у стиглому житі"

## ЛІСТ ДЗЕДУ

*Нацыя памірае тады, калі не нараджае тых,*
*Хто за яе можа, жадае, лічыць сэнсам свайго*
*жыцця памерці…*
*Ларыса Кірычэнка, дачка Украіны.*
*(Прабачце, Васіль Сцяпанавіч, за мой эпіграф)*

***

*"Автобиография. Я, Гей Прокоп Максимович, родился в 1879 году в Волынской области, Головнянском районе, селе Заболотье. Отец мой был середняк, я жил всё время при отце. Образование – три класса сельской школы. Работал в сельском хозяйстве, потом женился – в 1905 году, имел два сына.*

*Жена моя померла в 1915 году, и детей своих я воспитывал сам. Сейчас живу около снохи Анастасии Карповны и жил до 1947 года. 47 года нас эвакуировали в Кемеровскую область, город Прокопьевск, кир. Завод, 1, где я сейчас живу и работаю в водокачке".*

Дарагі дзеду Пракопе Максімавічу! Ціхаю, лагоднаю восеньскай раніцай у паўжывой Вашай сядзібе, праз пяцьдзесят пяць гадоў пасля таго, як забралі адсюль Вас і стрыечных сясцёр маіх сталінскія людаловы, пішу гэты ліст, адрасую і шлю яго Вашай памяці, Вашаму духу разам з залацістымі лістамі валынскіх бароў і гаёў.

…Што маю сказаць Вам, дзеду Пракопе, гэтай гарнай парою, завяршаючы аповяд пра нашу супольную долю–нядолю? Падараванае мне шчасце жыць у"маім" часе не вызваляе мяне сказаць пра той час"маю", але далёка не асабістую праўду. Бо з няпраўдаю жыцця можна змагацца толькі праўдаю, праўдаю думкі, слова, і дзеі.

Баліць душа свінцоваю парою,
За свет ліхі я перапоўнены журбою.
Баліць душа за тых, у каго здаўна
У душы няма ні кропелькі дабра.

Чалавечая душа павінна быць не толькі добраю, але і вольнаю. Толькі тады яна зможа выканаць сваё прызначэнне на зямлі. Яшчэ Цыцэрон сцвярджаў:"няволя – найцяжэйшае з усіх няшчасцяў". Хіба можа быць вольнаю чалавечая душа, калі сам чалавек закратаваны? Так гавораць тыя, што прайшлі скрозь сталінскае лагернае пекла. І сапраўды: чалавек можа заставацца ў палоне страху і рабства і ў час дазволенай свабоды. Абвяшчэнне дэмакратыі яшчэ не азначае вызваленне чалавека і ягонай душы. Хіба не страх народжаны ў душы і свядомасці людской таталітарызмам, не грамадска–нацыянальная няспеласць супольнасці, калі выбіралі мы дзяржаўных верхаводаў,

сталі перашкодаю на шляху ўкраінскага народа да сапраўднае, а не ганебнае, ілюзорнае свабоды? Кажу цяпер і Вам, Пракопе Максімавіч, і ўнукам Вашым, не, не проста кажу, а пытаю сябе і ўсіх нас, жывых, звяртаюся ў пакаянні да тых, у чыіх целе і душы заўчасна згасла энергія жыцця: каму мы аддалі волю сваю, шчасце сваё, што зышло на нас раскошаю першага году апошняга дзесяцігоддзя дваццатага стагоддзя? Хто за нас ці без нас“разбудуе” Украіну? Ваўкалакі–перавертні, базыкі–крамары? Яны так яе“разбудоўваюць”, папусціўшы папругі, што і закон ім не закон, і ўказ не ўказ. А люд, прыручаны, звыклы да няпраўды, то малітву шэпча скрозь слёзы, то агідаю і знявагай да іх сябе ратуе: сабака брэша, дождж чэша, а вецер далей нясе…

Зразумейце мяне! Як удовінага сына і ўнука рэпрэсаванага за любоў да роднай зямлі адмысловага гаспадара. Сённяшнія верхаводы, нашыя парламентарыі і ўрадоўцы, служкі Адміністрацыі і Прэзідэнта – агулам“добрыя хлопцы”, не паганыя мялі–аратары. Ды большасць з іх – прыхаваныя ці адкрытыя маларосы, якія не ў стане ўцяміць глыбокі змест адчайных покліча ў нацыянал–камуністаў“Гэць ад Масквы!” Дубовым тынам ад Расеі, вядома, не адгарадзіцца, але ж не пра тое рэч, а пра годнасць нацыі, права і ўменне гаспадарыць на сваёй зямлі. Яны нібы глядзелі ў будучыню і бачылі, як дзе якія спікеры нашы ды прэзідэнты без жадання і згоды народа ліслі ва і подла падстаўляюць шыю народную пад маскоўскі  хамут. Адвага і горды дух казацтва, што запалілі зару ўкраінскай волі, на жаль, не нарадзілі годных вярхоўных асобаў. Барацьбіты за ідэю, за Украіну, страшныя і ненавісныя Маскве, станавіліся ахвярамі, а трон займалі людзі, параненыя спадчыннай хваробаю ўкраінскага кіраўніцтва — комплекснай меншавартасці і свядомай прывязаннасцю да расейскага сядла. Страшна нават падумаць, колькі на аднаго патрыёта, нацыяналіста прыпадае рэнегатаў–манкуртаў, лісліўцаў–лізуноў, бессумленна–прадажных пісарчукоў, злых, люмпэнізаваных саўкоў, якія ў настальгіі па эпосе Брэжнева

лаюць не новых кіраўнікоў, а незалежную Украіну, і проста знямоглых, разачараваных ва ўсім людзей…

Апошніх можна зразумець. Толькі за адно дзесяцігоддзе спрафанавана дэмакратычная форма дзяржаўнага праўлення. Фактычна легалізавана дзейнасць антыукраінскіх сілаў. Мацнее поступ антымаральнасці. Генацыд украінцаў пасля галадамораў, ды сібіраў паспяхова працягвае п'янства. Нас ужо не пяцьдзесят два мільёны, а толькі сорак восем. Што, ад сытага жыцця знікла каля чатырох мільёнаў украінцаў? Гэта двойчы больш, чым вывезена ў Сібір у саракавых гадах мінулага стагоддзя жыхароў Заходняй Украіны.

Дык“За што ж мы змагаліся з ляхамі, за што мы рэзаліся з ордамі, за што скародзілі спісамі маскоўскія рэбры?” І ў рэшце–рэшт прыспалі“хірэнну волю” маларосы.

Наляцелі нядаўна на Суполку пісьменнікаў у Кіеве рабаўнікі. Не качэўнікі, не полаўцы і татары, а свае, украінскія ардынцы. Без жадных падстаў арыштавалі, забралі ў міліцэйскую машыну кіраўнікоў, пасадзілі на іх месца суполкавага“гэкачэпіста”, які і падушку, і коўдру з сабою прыхапіў, абы без праблем адседзець і адляжаць ноч паперад ранішнім уварваннем у памяшканні закалотнікаў. Не выйшла. Камандзе літаратараў і дэпутатаў на чале з Уладзімірам Яварыўскім пашчасціла адбіць нападзенне, вызваліць Суполку ад ардынцаў, насланых наказам вярхоўных“будаўнікоў” Украіны.

Вось такая“воля” новага часу. Жорсткім, але, здаецца, не такім цынічным былі ардынцы паваеннага часу. І як не ўсклікнуць за Цыцэронам:“O tempora, o mores!” О часы, о звычаі! Больш за месяц сычэлі, брахалі нашы прыручаныя СМІ на Суполку, на тых, хто нічога ліхога не робіць – адно гаворыць праўду.

Сычаць змяюкаю, перасмыкаюцца палітычныя гандляры, калі блісне паперад іх востры прамень нацыянальнае філасофскае думкі. Вось такі, напрыклад:“Украіна для ўкраінцаў”! А як жа, маўляў, расейцы, габрэі, татары ды іншыя нацыі, закаранелыя ў нашу зямлю? Дык няхай сабе жывуць і хлеб жуюць, шануюць свае мову і культуру, але маюць сумленне і павагу

да карэннае нацыі. Ва ўкраінскай хаце, які лад належыць трымаць? Чужацкі, іншамоўны, ці ўкраінскі? А што маем пасля распродажу набытку ды парабавання нашай інфармацыйнай прасторы? Прэса, кнігі – пераважна іншамоўныя. Дык для каго Украіна? Не для ўкраінцаў? Для неўкраінцаў?

Абсурд, але ён рэальнасць майго, дзеду Пракопе, часу. Вы толькі ўявіце сабе: начальнік украінскай дзяржаўнай канцылярыі агітуе за наданне рускай мове другой афіцыйнай і тым самым бессаромна, перад усім народам і памяццю ахвяр – змагароў за роднае слова ў роднай краіне — дэманструе сваю антыукраінскую, антынародную сутнасць…

На адным з каналаў, так бы мовіць, украінскага тэлебачання (якое ж яно ўкраінскае, калі змешвае ў суржанку дзве мовы – сваю, часта густа скалечаную неадукаванасцю і чужую?) амаль штовечара і шторання брэшуць нібыта на“апазіцыю”, а сапраўды – на ўкраінцаў удвух: адзін –“…скі”, другі –“…ов”. Такая сабе“салодкая парачка”, прыдбаная для засмечвання розуму даверлівага насельніцтва, якое адрываюць, адвучваюць ад украінскай кнігі (яе дарагоўляю) і гадуюць, нібы худобу, сечкаю, мешанкаю праўды ды брахні,“аздобленай” маскоўска–адэскім неўкраінскім гумарам.

Туман за туманам, падман за падманам насоўваюцца на родны наш край, на люд украінскі, на мой так цяжка адроджваемы ад прыгону час. Часам сапраўды“за туманам нічога не відна”. Ды ранак свабоды ўжо нарадзіўся, праменне ягонага прыветнага сонца, што б там ні стала, праб'ецца праз хмары, адгоніць туман як мага далей ад людскіх паселішч, ад украінскага поля, ад нашай долі.

…Дапісваю ліст ужо ў Луцку, пахмурым лістападаўскім днём. Тады, у родным сяле, на мае думкі і словы, на засмяглую зямлю пайшоў доўгачаканы дождж. Ачышчальны, абнадзейваючы. На хлебны засеў і грыбны ўраджай.

На белым лапіку ўзлобка, на срэбным люстры стаўка Верасень запісваў дажджом таямніцу свайго кароткага жыцця. Прагна піло вільгаць высахлае за лета дно майго, значыць вы-

капанага мною ў 60–х гадах, калодзежа. Ён побач з Вашым, дзед Пракоп. Ды мой перасыхае, а Ваш – не. Бо жывуць у Вашым крыніцы. Пра нешта гамоняць між сабою Вашым сцішаным, але непамерлым голасам. Вашай памяццю. І моваю роднай Зямлі.

*Пераклад з украінскай Аляксея Філатава*

## *Ніна ГОРЫК*

### ТАЯМНІЦА

Зберагаю яе, бы ў гняздзе птушаня.
Я спакойнае ночы не маю, ні дня.
Берагу ад савы, ад сарокі й сініцы –
Ад усякага вока – сваю таямніцу.

Яна ў сэрцы маім незалежна жыве й
Так пранікліва цёхкае, бы салавей.
І не чуе парой засцярогі маёй:
– Ціха, людзі пачуюць, што ты ў мяне ёсць!

А як ліха пасмее яе разгайдаць,
І яна раптам выпадзе з сэрца–гнязда,
Таямніца мая, золатка–птушаня,
А навокала – рух і натоўп, мітусня...

На яе хто спаткнецца, а хто абмане,
Хтось гразюкаю кіне, хтось проста брахне.
Уратуйце мяне ад пакут непамысных –
Хоць нагою не ўдарце яе вы наўмысна.

***

Сутонні ўжо збіраліся ў адно.
Душы было няўтульна гэтак, гола,
Як... быццам пташка стукнула ў акно... –
Твой голас...
Божа! Скуль жа ён, твой голас?

Зара на ясным гле нябёсных цел
Трымцела і тулілася да шыбы...
Ён, як матылік на святло, ляцеў
І крыльцамі знадворку
Цішу выбіў
І адляцеў. І ціха стала зноў.
І сцены да маўчання йшчэ не звыклі.
Ці то
маіх астаткі мрояў–сноў
Ад сэрца аддзяліліся і зніклі?

***

Разводзяць дзіва–фарбы
Нябёсаў мастакі,
Вясну малююць, вечар,
Смарагды ў краі наскім...
Паўсюль шчабеча птаства,
Гамоняць раўчукі.
Пагаварыць з кім маю,
А памаўчаць няма з кім.

## КАСТРЫЧНІК

Вятры пранесліся шалёна
Па–над зямлёю,
ноччу той.
З верацяна старога клёна
Знялі шмат пражы залатой.

Ткаў ранак шэры павалоку
І з павуціння, і з травы.
Пахаладнела ненарокам...
Мы быццам перайшлі на “Вы”.

***

Калі б не ноч – душа прапала б з болю,
Калі б не сон, то не перамагла б...
І толькі ноч сваёю варажбою
Суніме боль і напрарочыць лад,
І райскі сад прасветлага кахання,

І незямныя барвы й гукі слоў...
Якое шчасце ў ночы калыханні!
І як яно знікае стрымгалоў!
Ды ноч – то праца, мука, – то і свет.
Баліць душа – што значыць: дзень пачаўся.
То свет пачаўся з новым днём.
Прывет!

*Пераклад з украінскай Васіля Жуковіча*

# ***Іван КОРСАК***

## ДА СЫНА

Крычалі досвіткам нявыспаныя цягнікі. Крычалі хрыпла і пагрозліва, лякалі світальную смугу, вывозілі з прыгарадных селішчаў змардаваны, набрынялы, бы світальнай вільгаццю, яшчэ ўчарашняю ўтомаю люд, што цураўся аголеных, асірацелых, безабаронных ў цяперашняй сваёй адзіноце, змярцвелых асенніх палёў, цураўся ды ірваўся нястрымна ў блізкі горад.

Люд гэты злосна штурхаўся, нахрапам ціснуўся ў паўцьмяныя вагоны, што прапахлі потам, нясвежай рабочай вопраткай ды непрыбранымі туалетамі, гэтым непераможным тхлом прыгарадных цягнікоў.

Дзябёлы бамбіза ў вагоне заляцаўся да дзвюх дзевак, сілячыся да іх падсесці – тыя віскаталі ды манерна паводзілі падмалёванымі вачыма. Хлопец штурхаў дзяўчат плячыма, яны соўгалі па выслізганай азадкамі лаўцы і тузалі бабулю ў выгарэлай, пацёртай плюшаўцы. Дзеўкі пішчэлі, па–дурному смяяліся, а бабуля нарэшце выдыхнула:

– Не тузай мяне, падол памнеш, – і туліла пад крысо плюшаўкі невялікі клунак.

Бліжэйшая дзеўка з пагардай і насмешкаю зірнула на старую.

– Пэўна, нешта надта дарагое, нават не датыркніся?

Жанчына не пакрыўдзілася, толькі вінавата, пакорліва апусціла галаву.

– Касцюм гэта сыну на смерць.

Дзеўкі сцішыліся, а бамбіза міргнуў прыдуркавата павекамі:

– А што, сын у трупарні?

Неадчутае нікім, безвыходнае пачуццё гняло бабулю і горбіла, клалася на сэрца цяжкім каменем, і яна яшчэ ніжэй апускала галаву; вагон акурат хітнула. І белая пасма валасоў выслізнула з–пад злінялае куцаватае хусткі, затуліла ад спадарожнікаў выцвілыя, змярцвелыя вочы.

– Каб жа ў трупарні... Ведала б, што так Бог наканаваў, такое ўсіх чакае.

Яна паправіла хустку худымі пальцамі, парэпанымі, патрэсканымі ад зямлі, у якой выбірала ўчора бульбу, поўзаючы на каленях, бо не здужала ўжо капаць стоячы.

– Прысудзілі яго да вышэйшай кары... Гэтай ноччу, казалі, расстраляюць.

Вагон зноў пахітнуўся, і старую бы вет¬рам павяло да вакна, яна нахілілася напачатку ў адзін бок, потым у другі, і нарэшце паволі, як старое скрыпучае дрэва, выпрасталася.

– І гэта ж я вінавата, што звера ў свет бе¬лы пусціла.

Дзяўчаты моўчкі раптам паціхеньку адсунуліся ад старой.

– А ці дазволяць яшчэ пабачыць яго? Каб жа далі, дык касцюм памераў бы, – лёгенька туліла пакунак да плюшаўкі. – Гэта столькі гадоў я хацела купіць яму, вось такенькага, сіняга.

– Добрага сына выпеставала, – скасіла вока, буркнула маладая суседка і яшчэ да¬лей адсунулася ад бабулі.

– Добры, добры змалку быў... Ды, падрастаючы, таксама сэрцам не чарсцвеў. Можа, таму і заступіўся за таварыша пад час п’янай бойкі ў клубе... Яшчэ без калатэчы ў нас не было нядзелі, азвярэлі людзі. :

Яна на хвілінку змоўкла, быццам перад нейкаю перашкодаю, ды нядоўга вытрымала тая завада, толькі імгненне.

– Пацягнуў тады лязом адзін хлопец другога, праўда, не надта

каб. Ды пахапалі іх, дваіх бацькі адкупілі, а майму ў судзе тры гады ад шчырага сэрца далі.

Старая неспадзявана разгаварылася, ёй было ўсё роўна, слухае яе хто ці не, яна гаварыла сабе, свайму мінуламу, сыну ў камеры, не такой ужо і далёкай, і словы яе зрываліся з засмяглых губ, нібы пашорхлая асенняя лістота пад час жорсткага і калючага сіверу.

– Прыйшоў ён з турмы худы, нейкі ваўкаваты, днямі, было, і слова не выцягнеш, ды быццам перапалоханы, хоць кліч шаптуху, каб пераляк адліла. Злому ворагу, толькі сказаў, не жадаю такога...

Баяўся турмы ён, ох, баяўся, ды не засцярогся. Аддала яму пенсію, сорак адзін рубель, акурат паштавічка прынесла, ды гавару: купі сабе адзежу.

Паехаў у раён за абноваю, так і не прыехаў. Бракавала тых грошай, пэўна, яму, дык ён з нейкаю жанчынаю сышоўся. Скончылася тым, што рэцыдывіста яму прышпілілі і яшчэ на два гады ўпяклі.

Старой забіла дыханне, і яна сапанула ўсохлымі грудзьмі, хапанула паветра, нібы рыбіна на водмелі.

– Вярнуўся ён з турмы... Не давядзі Божа. Я адразу па вачах пазнала, вочы яму падмянілі. І нешта ў ім вярэдзіла... Ціхае такое, пагаслае.

Бабулі зноў не хапіла паветра, яна закашлялася, суха і хрыпла – мо ад сырой прадсвітальнай імжы, а можа, выкашлівала яшчэ ўчарашнюю горкую пылюку з кволай грудзіны сваёй.

– А за трэцім разам вярнуўся з турмы ўжо цяперашнім ваўкалакам. Напіўся ў першы ж вечар, люта напіўся, у дым. Абрубкам касы паласнуў сябе па венах і крычыць на мяне, ачмурэлы, скрываўлены: “Зарэжу, што на свет спарадзіла!”

Апошні раз вярнуўся ён з жанчынай і чужым дзіцём. Кабета тая таксама недзе там была. Не ўзлюбіў дзіця яе з першае хвілі, завязваў у мяшок і біў.

– Уцякай, прасіла, свет не толькі ў ваконцы. “Няма чаго гонку гнаць, – неяк дзіўна адказвала сужыцелька, смеючыся. –

Яшчэ не такім я галстукі вязала!”

Таго дня забраў ён дзіця і пайшоў у лес. Біў яго там, здзекваўся, а малы прасіўся:
– Татка, я больш не вытрымаю, я спаці хачу. Забіў хлопчыка і засыпаў у лісці. Потым сустрэў яе з цягніка. У яе аж вочы на лоб ад такога дзіва.
– Хадзем па грыбы, – гаворыць сын. Дзівуе яшчэ больш нявестка.
– Пайшлі.
Па дарозе пытае яе:
– Будзеш чакаць мяне пятнаццаць гадоў?
Спатыкнулася жанчынка.
– Зноў, хаўка, у справу ўлез?
– Сына твайго парашыў. А ты не пікні, на¬валач, бо і табе гальштук павешу. Марш у сяло па мае дакументы, а я – да “зялёнага пракурора”, – хітнуў на лес.

Нявестка дапнулася да тэлефона, прыехалі дзве машыны. Рвалі павадкі аўчаркі, сцяліліся па зямлі, ідучы па следу. Сцягнулі яго пад вечар з дрэва – мроіў схавацца там.
Больш падмаляваныя дзяўчаты не слухалі старую, яны толькі пішчэлі, калі церабіў іх бамбіза.
– І зноў мне коле, зноўку пячэ, – хітаўся вагон і хіталася старая, быццам стомленае, скрыпучае дрэва. – І я ж вінавата, што звера ў свет пусціла.
На імгненне старая прыкрыла павекамі вочы, у вачах пякло, нібы нехта сыпануў у іх пякучага прысаку, а можа, пякло ад бяссонных, бяздонных, бязмежных невыказна цяжкіх начэй, а мо і ад пяску, якога надзьмула на бульбяным палетку.
– Суседзі раілі: не ідзі, не саромся... Яму і зямлі на той свет шкада. А я б яму столькі аддала б, столькі назапасіла б, каб хоць на тым свеце сябе адмаліў.

І яна разводзіла рукамі, натомленымі, цяжкімі, з цвёрдымі, бы жалеза, мазалямі, з патрэсканымі, пакручанымі пальцамі, з пазбітымі пазногцямі, пад якія ўелася на векі вечныя зямля, старая разводзіла і паказвала рукамі, колькі б яна яму

назапасіла.
– Ці дадуць яшчэ пабачыць?.. Вось бы далі касцюма прымерыць... Вось тут, на плячы, напэўна, будзе муляць, вось тут, дзе радзімка, я яе з маленства памятаю, з немаўлятка, яшчэ калі ў балеі цябе мыла.

Мармытала, даводзіла вось так сабе ба¬буля ўсю дарогу, нудзіла сваё, клала цяжкае слова да цяжкага слова, нязграбныя і сырыя, як цагліна–сырэц, і нават калі развіднела і цягнік спыніўся на вакзале, нават і на пероне хапала суседак сваіх за полы, у вочы з надзеяй зазірала.
– Як, дзеткі мае, думаеце. Удзень ці ноччу яго расстраляюць? Вось бы дазволілі мне яго пахаваць... Я б прыцемкам на магілку да яго прыходзіла б...

Пад перон і платформы, прарэзваючы імжу, падыходзілі адзін за адным прытомленыя цягнікі, віталіся, басавіта перагукваліся. Будзілі дасвецце нявыспаныя цягнікі.

*Пераклад з украінскай  Аляксея Філатава*

# *Пятро МАХ*

***

Не бачу жалю я ані ў каго –
І ні ў багоў, ані ў людзей.
Цяпер жыццё згубіць нядоўга,
Бо столькі бед на нас ідзе!
Свет жорсткі ў безагляднай плыні
Без спачування і дабра.
А мне баліць, што Украіне
Бракуе чыстага Дняпра.
Тут радыяцыі раздольна.
Не ў тундры мёртвай. А вось тут.
Збірайся, хочаш, дабравольна
Ў баладны край – у Варкуту.
Прынамсі, зберажэш унукаў,
Як нас, напэўна, бераглі

Дзяды, што пад сякерны грукат
У мерзлату навек ляглі.
О не, са страхам у хаўрусе
Ты не ўцячэш: цябе і ў сне
Па сэрцы ганьба паласне.
Бацькоўскі твой парог у скрусе
Застаўся ў роднай старане.
Не, не пакінеш гора поўных
Людзей з чарнобыльскім таўром.
Бо амываў тваю духоўнасць
Сваёю праўдаю Дняпро!

*Пераклад з украінскай  Васіля Жуковіча*

## *Алена  ПАШУК*

***

За маім вакном
Варасла дрэва
З дрэва голуб
З голуба неба
З неба дождж
З дажджу смутак
А са смутку паэт

***

Расла нібы яблынька
На родным падворку
Птушкі ў косы
Белыя вершы ўпляталі
Каб як заручына была
Не адчула не заўважыла
Як перасадзілі
Бацькам за спіны
Пусціла карэнне
На тры метры ў неба
Ды валынскія птушкі
Усё адно пазналі
Па звялых кветках на хустцы
Бо я даўно ўжо не заручана

А прывучана
На новае імя адзывацца
Спасу яблыкі да ног класці

***

Раздзеючыся нанач
перакідаю цераз крэсла
зношаны цень
ці варта прыбіраць тое
што пад покрывам ночы
намагаецца ў мае транты ўлезці?
Сплю соладка
Нават не чую
Як праз шчылінку пад дзвярыма
Цень маё цела выносіць

*Пераклад з украінскай Івана Лагвіновіча*

## *Мікола ПШАНІЧНЫ*

***

Не жыў ніколі на каленях.
І нават д’ябла не баюсь,
Бо ёсць на свеце Украіна,
Бо ёсць на свеце Беларусь...

Агонь душы
Гартуецца ў агні.
А Беларусь адродзяць
Толькі беларусы.

Чакайце! Можа дапаможа
Усемагутны Спас.
Тады агромністаю грамадою, людзі,
Абдымуць людзі вас.

*Пераклад з украінскай Аляксея Філатава*

## *Войцех ПЕСТКА*

### КАШУЛЯ ВЕТРУ

Кашуля дзіравага ветру на мне
Калі стаю прад табою
Ночы кашуля
Калі хаваюся ў ёй
Кашуля холаду
Калі паўсюдна шукаю цябе і не знаходжу
Кашуля цішыні
Калі тэлефон маўчыць
Ліхаманкі кашуля
Калі страх адступае пяе тэлефон
Кашуля страху
Калі застаюся сам
Уласнавышытая "сарочка"
Дзеля сустрэчы ў Кіеве
І светлая фата
Кашуля кахання
Калі мы разам

***

Чуў я пра дзяўчыну
Лягчэй за пену марскую
Што бяжыць
Па хвалях
Насустрач прыліву
Толькі ўсміхалася
Калі пазнаў цябе
Глядзеў у твае вочы
Зялёныя ад вершаў
Дурманіў бэз які тады паспеў
Зацвісці двойчы
Па вясне і восені
А недзе ў імгле быў Кіеў
Лабірынт карыдораў гатэль "Украіна"
І дзень
Што прачынаўся

На гук
Твайго імя

## АДКУЛЬ ПАЎСТАЎ СВЕТ

было
першае зерне пяску
з яго вырасла гара
першая сляза
з якой пачалося мора
і спеўныя гукі
Ты
я
сплеценыя ў адзіна, бы нашыя далоні
слова
Мы
якое было пачаткам усяго

*Пераклад з польскай Аляксея Філатава*



# ДЛЯ ДЗЕТАК–МАЛАЛЕТАК



## *Святлана БАРЫСІК*

## КОТЛОВАН

Всю неделю я вела себя хорошо: делала только то, что мне разрешалось. Помогала бабушке, долго не смотрела мультики, мыла перед едой руки с мылом, кушала суп и даже сама складывала после себя игрушки.

Несколько раз ко мне приходила играть Ксюша, мы даже ходили с ней гулять на улицу, но с Витькой мне было строго–настрого запрещено общаться. А ведь у него столько всего интересного. Вот и сейчас мы с Ксюшей сидели у меня во дворе, ели клубнику, которую нам собрала бабушка Таня, и болтали. Ксюша сказала:

– Ты знаешь, в конце нашей улицы вырыли огромную яму. Приезжали большие машины – грузовики, чтоб песок из ямы вывозить, и даже один экскаватор был.

– А ты что, сама туда ходила?

– Я была один раз с Витькой, но недолго, а он вчера целый день у ямы пробыл: всё там рассматривал. Сказал, что завтра опять пойдёт. Там никого не будет.

– Как же, можно. А сторож разве разрешит? – удивилась я.

– Так Витька сказал, что там никого нет по утрам: только к обеду приходят.

Я задумалась. Везёт Витьке: где хочет, там и гуляет – каж-

дый день  новое приключение. А мне только во дворе можно. И самое интересное, что я нашла на этой неделе, были капустные гусеницы. Я их собрала в банку, закрыла крышкой и долго ждала, когда из них появятся бабочки. Они сначала ползали по своему новому домику, а потом замерли и лежали тихо. Бабушка сказала, что гусеницы погибли, и мне пришлось их выбросить. Так скоро и лето закончится, а мне рассказать в школе нечего будет.

– Машунь,  – сказала Ксюша,  – а может, нам тоже можно будет завтра с Витькой сходить хоть одним глазком посмотреть на эту огромную яму? Как ты думаешь, нам разрешат?

– Конечно, разрешат. Мы же там ничего трогать не будем, просто посмотрим немножко и пойдём во дворе играть, – бойко ответила я, хотя сама очень в этом сомневалась.

С вечера я начала ныть и просить у бабушки пойти гулять с самого утра. Я говорила, что утром самое красивое время, поют птицы, а нам по предмету“Человек и мир” задали вести дневник наблюдений за  летней природой, а как я могу его заполнять, если я сплю до обеда. Бабушка долго сопротивлялась, дедушке это надоело, и он сказал, что разбудит меня в семь утра. Но за это вечером я должна буду показать дедушке Сергею, как я заполнила свой природный дневник, то есть, как он сказал, любопытно будет посмотреть, что за чепуху я туда напишу. Но я всё равно обрадовалась и даже спать пошла пораньше, чтоб успеть выспаться до утра.

Утром меня действительно разбудили рано. Так рано, что мне ещё очень хотелось спать, и только вспомнив про яму, я заставила себя встать с постели. Разбудил меня дедушка, поэтому собираться пришлось самой. Когда я, наконец–то нашла свой второй носок, чай уже был готов. К чаю мне дедушка вместо обычных конфет дал бутерброд с  маслом и колбасой, вручил мой природный дневник и отпустил слушать пение птиц до обеда.

Я забежала за дом и спрятала свою тетрадь в кустах, иначе могла легко её потерять. Потом весело поскакала к яме. Ког-

на яе Уладзімір Андрэевіч Калеснік  не пабаяўся назваць трыццацігадовага зменнага майстра завода газавай апаратуры “сталым, адмысловым майстрам слова і арыгінальным мастаком, які валодае творчым мысленнем” [1]. Сваю думку Уладзімір Андрэевіч яшчэ раз пацвердзіў пасля з’яўлення на свет у 1978 годзе другога зборніка вершаў паэта “Асенні ранак”, зазначыўшы, што яго творчасць  вылучаецца “асаблівай мяккасцю і лагоднасцю” і  што “Арабейка не паўтарыў нікога са сваіх папярэднікаў” [2]. Былі, аднак, і недобразычліўцы, якія засяродзіліся адно толькі на недахопах, прадузята папракалі аўтара першай кніжкі за адсутнасць у яго творах жыцця, за схематычную зададзенасць пры стварэнні вобразаў [3].

Невядома, як аднёсся б да гэтага выпаду малады паэт, каб не катэгарычнае рэзюмэ прафесара Калесніка: “Кніга сталая па думцы і майстэрству… Яна дае многа глыбокіх перажыванняў, наводзіць на сур’ёзны роздум пра жыццё, яна вытрымлівае самы строгі крытычны падыход [1]”.

У вершах Івана Арабейкі на першае месца выступае асацыятыўная вобразнасць зрокавага тыпу. Творчая канкрэтызацыя дасягаецца ім у першую чаргу праз актыўнае выкарыстанне сродкаў славеснай вобразнасці, найперш мастацкага параўнання і метафары ва ўсіх яе разнавіднасцях.

Спяшаліся мы. Сонейка сядала,
Барвовае, як сонечны бурак.
Ты сноп важкі на бабку надзявала,
Як вышыты калоссем андарак.
(“Маці”)

У свой час паэту ставілі ў віну архаічную лексіку – андарак, шпулі, бёрды, хамут… Але ж усё гэта нашы, да болю знаёмыя нават людзям сярэдняга веку словы, да ўсяго іх ужыванне адзінкавае і, як у прыведзеным прыкладзе з андаракам, цалкам матываванае.

Нярэдка параўнанне ў Івана Арабейкі адсвечвае “ласкавым гумарком” (Л.Філатаў): “Нібы ходзіць качар хмельны, // Так гайдае сітнягі” (“Верасень”). Дарэчы, Хмелева, хмель, хмельны – абагаўлёныя паэтам словы ( як кажуць, месца нараджэння абавязвае ): “Здаўся мне  пялёстак хмелю // Крыльцам соннае пчалы” (“Хмель цвіце”).

Параўнанне можа быць разгорнутым, уключаць у сябе іншыя

сродкі мастацкай выразнасці, у прыватнасці, увасабленне.

Усё часцей, часцей са слівы
Лісце сыплецца ў гарод.
Гэта верасень маўклівы
Пералазіць цераз плот.
( “Верасень”)

Яно вельмі часта спалучаецца з метафарай, утвараючы цэласны вобраз, зноў жа падлагоджаны аўтарскай усмешкай. “Сухі скразняк, як кот–свавольнік, // Салому драпае ў страсе” ( “Тут мне не спіцца: шум таполі…”), або: ” Ну і бульбіны ў раллі! – // Быццам тыя парасяткі // Слепа рыюцца ў зямлі” (“Верасень”).

Асаблівую вобразную выразнасць параўнанне ў Івана Арабейкі набывае тады, калі спалучаецца з гукапісам. Вось як піша паэт пра такі мужчынскі абрад, як паклон куфалю піва пасля цяжкай змены ў гарачым цэху:

І кожны глыток – як апошні.
У смагі такія глыткі.
Нібы перасохлыя поршні,
Пампуюць пітво кадыкі.
(“У заводскай сталоўцы”)

Гукапіс у творчасці паэта наогул займае важнае месца сярод іншых сродкаў стварэння вобразнай выразнасці.

Цяпер тут свята на зямлі.
Пад снег схавалася работа.
На ферму штатніцы пайшлі,
Пайшлі, пакопсаўшы сумёты.
(“Якая раніца ў сяле!”)

Агучаны малюнак становіцца яшчэ больш выразным. Ці вось яшчэ, усяго адзін радок: “Ранкам промень росы абтрасае”. Калі ўслухацца ў яго гучанне, можна пачуць, як дрыжаць, скідваючы расу, мокрыя лісты дрэў.

Цалкам на прыёме гукапісу пабудаваны адзін з новых вершаў, які я назваў бы “вершам–жуком”:

Жывуць жукі, жуюць жукі
Ў Пажэжыне у Жоры.

Жуюць, аж жах, як жабракі,
Інжыр, жамерыны, ражкі,
Жывіцу з жэрдзя, піражкі,
Зляжалы жвір і жарсцвякі.
Жэньшэнь жаруць абжоры.
(“ Жывуць жукі...”)

Верш–жарт доўга “не адпускае” ад сябе, абжоры–жукі трывала замацоўваюцца ў памяці.

Паэтычны радок Івана Арабейкі, як ужо гаварылася, надзвычай метафарычны, але нават самыя складаныя метафары не патрабуюць пакутлівай расшыфроўкі, бо вызначаюцца дакладнасцю, адточанасцю, як у вершы пра набліжэнне ліўня: “…У клубкі аблокаў матае неба прыпар дня”.

У асобных выпадках разгорнутая метафара цалкам вызначае характар мастацкага твора. Прыкладам можа служыць пранікліва–лірычны верш “Адлёт буслоў”. Чарада божых птушак, што апускаецца на луг – “чорна–белыя клавішы ў рад”. Тут жа выбіраецца дырыжор – “статкавы бацька”, і…

Луг прыціхне, і ён узмахне,
Музыкальна развёўшы крыламі,
За ім клавішы ўскінуцца самі,
І элегія ў сінь паплыве.

На разгорнутым метафарычным параўнанні пабудаваны таксама верш “Хлеб узыходзіць”, які з поўным правам можна залічыць да хрэстаматыйных. Нараджэнне хлеба – як узыход сонца. У руках маці – цяпло роднага дома. Ажываюць у гэты час нават абразы: “з людскім прыжмурам” са сцяны глядзяць на хлеб “ціхія святыя”.

Адметнасцю творчай манеры Івана Арабейкі можна назваць і тую акалічнасць, што сродкі вобразнай выразнасці ў яго не“трашчаць”, не “адрываюцца” ад грэшнай зямлі.Так верш пра снежную і марозную раніцу ў сяле заканчваецца запамінальнымі радкамі:

…І кот, як выгнаны прымак,
Пад прызбай грэецца з варонамі.

Асаблівую даверлівасць, “мяккасці і лагоднасць” (У. Калеснік) надае вершам Івана Арабейкі такі прыём дасягнення паэтычнай

дакладнасці”, як увасабленне, адухаўленню нежывога: рака, як прыходзіць вясновая паводка, “адступаючы ад плоту, шукае берагі”, “лівень цераз дарогу за парог зганяе яблыкі”… З шэрагу новых твораў вылучаецца верш пра Жабінку, які пачынаецца так:

Дзень добры, мілая спадарыня:
Я, мабыць, некага здзіўлю,
Калі скажу без каментарыяў,
Без лішніх слоў: “Я вас люблю”.

Кожная новая страфа гэтага даволі аб’ёмнага твора – шчырае сыноўняе прызнанне ў любові да роднай зямлі.
Выразны малюнак аўтар умее стварыць і пры дапамозе, калі можна так сказаць, “звычайных” слоў і выразаў, прымушаючы іх несці вобразную нагрузку.

Прамёрзлі лужы ўночы досуха,
І пад падэшвай лёд пяе.
Дадому кот прыходзіць досвіткам
Ды ўсё расол халодны п’е.

(“Сакавік”)

Кожны радок здзіўляе дакладнасцю, ёмістасцю словаўжывання. Варты павагі кот прыходзіць, а не прабіраецца, тулячыся да сцяны, расол – халодны, бо смага не абы–якая. Гуляка прагна п’е, а не хлебча: так больш “па–чалавечы”. Вобраз “выстрэльвае” ў канцы і выдатна давяршае малюнак сакавіка, бо што гэта за сакавік без марцовага ката!
Хочацца звярнуць увагу і на тое, што вершам Івана Арабейкі характэрна гранічная эканомія моўных сродкаў. У яго нельга сустрэць неабавязковых часціц, грувасткіх азначэнняў і ўстаўных канструкцый.

Ціхая споведзь прыроды.
Поле, валошкі, трава.
Гэта, відаць, назаўсёды –
Жыць з аднаго хараства.

(“Ціхая споведзь прыроды...”)

Ці наступнае:

І нічога няма.
Толькі даль гарызонта.

Толькі хаты зіма
Крые белаю гонтай.
(“І нічога няма...”)

Вядома, было б перабольшаннем лічыць, што абсалютна ўсе метафарычныя выразы з’яўляюцца адзіным і неабходным звяном у цэласнай сістэме таго ці іншага твора. Надзвычай артыстычна выказаўся пра гэта Уладзімір Калеснік, зазначыўшы, што іншым разам у творах Івана Арабейкі “намаганне ювеліра перашкаджае архітэктару”. Але, на нашу думку, гэты грэх першых кніжак апраўданы ўжо тым, што пераважная большасць Арабейкавых “філігранна адточаных і ювелірна пабудаваных” метафар, “чаканных мікравобразаў” (У. Калеснік) самадастатковыя, часам выразна афарыстычная і здольныя жыць па–за кантэкстам.

Іх дастаткова многа, як для двух невялікіх зборнікаў, і асобныя былі ўжо працытаваны вышэй. Можна і дадаць:

Аловак на белай паперы
Пакінуў абвуглены след.

Ці гэтае:

І камень, што за пазухай насіў,
Прасіў, каб там на грудзі палажылі.

Або яшчэ:

У паднябессі шнур гусіны
Цягне думкі за сабой…

Сустракаюцца ў творчасці ранняга Івана Арабейкі і вершы пра тое, што раней называлі “працоўныя будні рэспублікі”, “гераічная” тэма, “рабочая тэматыка”. Эксплуатуецца ў разумнай меры прафесійная, тэрміналагічная лексіка, нават непазбежнае на той час “НТР”. Але няма камуністычнай рыторыкі з яе штотам, якая звяла вершы многіх таленавітых паэтаў да сумнавядомай формулы:

Да здравствует наука!
Да здравствует прогресс
И мудрая политика
ЦК КПСС.

Радзіма ў першым зборніку – толькі з маленькай літары, толькі зямля бацькоў, і нават у другой кнізе, якая рыхтава-

лася да друку ў час святкавання 60–годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі, няма хвалы “Саюзу непарушнаму…” Затое з якім болем напісаны верш, прысвечаны роднай зямлі.

Ты ўся у ранах, Брэстчына мая.
О, колькі тут снарадаў пахавана!
Даўно б дала тут трэшчыну зямля,
Каб не была крывёй сцэментавана.

“Нечаканая вобразнасць” – паэтычнае крэда маладога (думаю, што ў пэўнай ступені і цяперашняга) Івана Арабейкі. Менавіта яна робіць яго радок лёгкім па гучанні і запамінальным. Апошняя кніга вершаў Івана Арабейкі выйшла 32 гады таму. Новыя творы пакуль што не сабраны разам. Асобныя з іх пабачылі свет у першым і другім выпуску альманаха “Жырандоля”, да трэцяга выпуску прапанавана чарговая падборка. У вершах усё тая ж душэўная даверлівасць, любоў да роднага краю, пры гэтым адчуваецца паглыблены падтэкст, сталы роздум пра рэаліі сённяшняга дня.

Як запавет на ўсё жыццё:
Не напускай у хату холаду.

Гэты рэфрэн з верша “Запавет” стаў эпіграфам да падборкі ў першым нумары альманаха абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. (Дарэчы, у часопісе валынскіх літаратараў “Свіцязь” ён надрукаваны ў выдатным перакладзе Васыля Гэя). Тужліва, расхрыстанай хацінаю стаіць родны край, і трэба прычыняць дзверы, каб тут не знайшла прыстанішча розная набрыдзь. Трывога за малую радзіму не суцішылася за столькі гадоў. Як і раней, паэт ўзіраецца ў неба, назірае за “птушынымі абозамі”, якія натхнялі на першыя вершаваныя радкі. “Бежанцы нябесныя мае”, “мая нябесная радня” – звяртаецца да іх пасталелы аўтар.

Можа, вам было тут нелюдзіма
І са мной вы долі аднае.
Можа, вы галёкалі Радзіме,
А яна ваш крык не пазнае.

Нават у здавалася б лёгкім лірычным вершы паэта – глыбокая жыццёвая філасофія. Мудрая перасцярога адрасавана

гарэзе–сінічцы, якая мае намер паласавацца пчоламі, што зімуюць у вуллі.

Сінічка, кінь: там – рай, сям'я.
Канчай, дурнічка, партызаніць!

Сярод новых твораў Івана Арабейкі балады, рэквіем… Магчыма, гэта прыкмета таго, што мы ў хуткім часе зможам пазнаёміцца з яго прозай.
"Не, я не ўмер, я ў глыб сябе зашыўся", – адказвае аўтар тым, хто паспяшаўся забыць яго імя. Ён не згубіўся і цяпер вяртаецца да актыўнай творчасці.

Я тут / у вёсцы / жыву сваім Ванкуверам,
Я тут запоем зноў пішу.

А гэта значыць, што будуць новыя творы, з'явяцца новыя кнігі. Івану Арабейку ёсць пра што расказаць свайму чытачу.

Літаратура

*1.Калеснік, У., Гармонія, праверaная алгебрай / У. Калеснік // "Заря". – 21 кастрычніка 1972 г.*
*2.Калеснік У., Раней і напярэдадні" / У. Калеснік // Літаратура і мастацтва. – 26 мая 1978 г.*
*3.Гіль М., Услед за сонцам, але – па зямлі / М. Гіль // Маладосць. – 1973.*



# УСМІХНЕМСЯ!

## *Ян МУРАЎСКІ*

### *ПАРНАСКІЯ КАЛДОБІНЫ*

### СМЕЛО ШАГНЁМ...

*Смело шагнём под знамёна абсурда,*
*Все тут удобства и вся тут обслуга...*
*( стих.“Версия”, Сергей Столярчук )*

Пустая бренькает невесело посуда,
А в голове сплошной туман и муть.
И жаждешь под знамёнами абсурда
Без робости в грядущее шагнуть.

Там будут и удобства, и услуга.
Черпай, хватай, ликуя — благодать!
И коль не съедешь, ошалевши, с круга –
Мир хаоса сумеешь увидать!

### ВСЁ ВЕРНУ

*Я верну тебе тот самый долгий*
*На морозном ветру поцелуй.*
*(стих“18 лет спустя”, Владимир Глазов )*

Я всё верну – ты можешь мне поверить,
Когда верну, я вскоре уточню.
Верну защёлку, что сломалась, к двери
И там ещё какую–то фигню.

Я всё верну, – гони метлой сомненья:
И мат, что мне метнула невзначай,
И сигареты, и все три печенья,
И никуда негодный мутный чай.

И поцелуй верну, тот на ступеньках
В мороз на злющем, словно пёс, ветру.
А ты верни, смотри, не ерепенься,
Всю, что в кафешке слопала, икру!

## АЛЕ КАБ…

*Да баб не аслаб, але каб…*
*( зборнік“Пад зоркай Мілавіцай”, Алесь Корнеў)*

Магутны я, нібыта баабаб.
Працую, што той вавілонскі раб
У дзве, а часам нават болей змены.
Ну і да баб пакуль што не аслаб,
Баюся толькі каб
Не выйшаў ляп,
Бо ёсць сярод спакусніц і гіены,
Што падкідаюць нам праблемы гігіены.
Вось не нарвацца на такіх хаця б!

## БЯЗВАЖКАСЦЬ

*Мы латаем дзіркі*
*Лёгкае бязважкасці сваёй.*
*( верш “Бязважкасць”, Ярына Дашына)*

Гавару я ўпэўнена, шчыра:
Мы бязважкія, нібы сеткі з дзірак.
Не бачым адзін аднаго –
Муж не бачыць мяне, я – яго.
Вершы складаю не я – мой дух.
І вершы без важкасці – бурбалкі, пух.

Думкі пад “фанеру”,
Словы пад капірку.
На меншую памерам
Накладваем большую дзірку.
Вось і мушу гайсаць
Удоўж і ўшыркі.
І латаць, латаць, латаць
Бяжважкасці дзіркі.

## ГОРКІ ШЛЯХ

*Вецер скразнякамі злосна стукаў,*
*Вар’яцеў ад переразвону шкла.*
*Па прыступках цемры і пакутаў*
*На сустрэчу да цябе ішла.*
*( з верша Ніны Дрык )*

Несусветны морак Брэст ахутаў.
Ноч, бы кава чорная, плыла.
Па прыступках горычы, пакутаў
На сустрэчу да яго ішла.

Вецер зверам на мяне кідаўся,
Рваў падол, нахабна ўсюды лез.
Ён жа падыйсці не здагадаўся,
Нат не чмокнуў. Сеў у мерседес...



# НАШЫ АЎТАРЫ

АЛЯХНОВІЧ МІКОЛА (14.01. 1953, в. Валішча Пінскага раёна). Кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С.Пушкіна. Першая паэтычная публікацыя – часопіс “Маладосць” (1976). Вершы друкаваліся на старонках рэспубліканскіх перыядычных выданняў, у тэматычных зборніках, школьных хрэстаматыях, кнізе паэзіі “Дзядзінец”, альманаху “Жырандоля”. Выдаў зборнік паэзіі “Жыццёвае веры прадзіва” (2006).

АЛЯКСАНДРАЎ МІКАЛАЙ (1954, с. Мегра Белазёрскага р–на Валагоцкай вобласці). У 1971–73г.г. вучыўся на факультэце журналістыкі Дальнеўсходняга дзяржаўнага ўніверсітэта ўва Ўладзівастоку. Там жа ўваходзіў у літаб’яднанне паэта Юрыя Кашука. У 1978 годзе атрымаў дыплом у маскоўскім Літаратурным інстытуце са спецыялізацыяй “літаратурны работнік”. У Брэсце – з 1980 года. Дзевяць гадоў працаваў загадчыкам аддзела культуры абласной газеты “Заря”. З 1990 года – галоўны рэдактар першага ў рэгіёне недзяржаўнага выдання – “Брестский курьер”. Аўтар кнігі “Кварта” (2002), публікацый у альманахах і часопісах.

АМЯЛЬЧУК СЯРГЕЙ ( 6.03.1957, в. Рэчыца Бярозаўскага р–на). Скончыў Маскоўскі авіяцыйны тэхналагічны інстытут (1980), інжынер–металург. Працуе інжынерам на СП ААТ “Брэстгазаапарат”. Паэт, празаік, краязнавец. Выдаў кнігу вершаў “Дарога і амфара”, падрыхтаваў другі зборнік. Жыве ў Берасці.

АНЦІКЯН АЛЯКСАНДР (16.08.1953, г. Ленінград). Празаік. Скончыў Брэсцкі дзяржаўны педінстытут імя А.С. Пушкіна

і Усесаюзны юрыдычны завочны інстытут. Служыў у органах унутраных спраў, працаваў у камсамольскіх органах, рэспубліканскіх і абласных СМІ. Аўтар дэтэктываў “Закон джунглей”, “Пропавшие в паутине”. Пераможца конкурсу “Залатое пяро” ( альманах “Гоман” ) у намінацыі “Драматургія” за гістарычную драму “Артаксата”. Сябра СБП. Жыве ў Берасці.

АРАБЕЙКА ІВАН ( 26.03.1942, в. Хмелева Жабінкаўскага р–на). Паэт. Аўтар кніг “Услед за сонцам”, “Асенні ранак”. Сябра СБП. Жыве ў Брэсце.

БАГРАНА АННА (нарадзілася ў 1981г.). Украінская паэтэса, аўтар 4–х паэтычных кніжак, драматычных твораў ды рамана “За Габісю, ці Насуперак забабонам”. Сакратар Рады нацыянальнай суполкі пісьменнікаў Украіны па працы з маладымі аўтарамі, галоўны рэдактар літаратурнага часопіса “Гранословіе”.

БАКУН–КУЛЬБЕДА ВАЛЯНЦІНА (2.05. 1959, в. Моталь Іванаўскага раёна). У 1976 годзе закончыла Мотальскую СШ № 1, а ў 1977 – курсы прадаўцоў пры Іванаўскім райпатрэбсаюзе, пасля якіх працавала ў роднай вёсцы прадаўцом у фірменным магазіне, а затым узначаліла targовы калектыў. У апошні час займала пасаду старшага дыспетчара па збыту гатовой прадукцыі Іванаўскага ККП.

Друкавалася ў раённых газетах“Чырвоная звязда”,“Навіны Камянеччыны”, у абласных – “Заре” ды“Народнай трыбуне”, у рэспубліканскіх – “Преображение”,“Вместе!”, у часопісе“Акно”, у альманаху“Гоман”, у калектыўных зборніках – “Подыхам адзіным”,“Убачыць сэрцамі”,“За всё тебя благодарю”. Выпусціла зборнік паэзіі“Гарыць над Ясельдай заранак…”. Піша на рускай і беларускай мовах. Жыве ў Моталі.

БАРЫСІК СВЯТЛАНА (3.01 1979, г. Брэст). У 1996 годзе

скончыла брэсцкую СШ№2. Выпускніца сталічнай Акадэміі кіравання ( 2001 ) і Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта ( 2006 ). Працуе ў ААТ ТК "Брэст – Інтурыст". Друкавалася ў абласной газеце "Заря". Жыве ў Брэсце.

БЕЛЫ АЛЯКСЕЙ (2.01.1953, в. Міхнавічы Івацэвіцкага р–на). Паэт, журналіст. Скончыў суднамеханічнае аддзяленне Гомельскага палітэхнікума, філфак Гродзенскага дзяржуніверсітэта і аддзяленне журналістыкі Кіеўскага інстытута паліталогіі. Намеснік дырэктара, намеснік галоўнага рэдактара ТАА "Выдавецкі дом "Інтэкс–прэс". Вершы друкаваліся ў часопісах "Крыніца", "Дыялог", "Абажур", калектыўных зборніках "Берасцейскія карані", "Верш на свабоду", "Агледзіны", "Святліца". Аўтар 4 кніг паэзіі: "Трыццаць другое жніўня", "Нявольніцкія песні", "Каляровыя сны", "Боскі вецер правінцыі", а таксама эсэ, прысвечаных Дануце Бічэль і Міколу Купрэеву. Сябар СБП. Жыве ў Баранавічах.

БЕЛАЯР СЯРГЕЙ (Мартынюк Сяргей Сцяпанавіч) ( 19.04.1978 , г. Брэст). У 2003–м годзе з адзнакай скончыў гістарычны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна. Жыве ў Брэсце.

БОЛКА ВАЛАДЗЕЙ (Уладзімір Уладзіміравіч ) ( 25.01.1978, г. Баранавічы). Скончыў Баранавіцкі дзяржаўны вышэйшы педкаледж па спецыяльнасці "англійская мова". Друкаваўся ў "Нашай Ніве", "Першацвеце", "Крыніцы", альманаху "Святліца". Жыве ў Баранавічах.

БУРДЫКА ВЯЧАСЛАЎ (19.10. 1955, на Мядзельшчыне). У 1979 годзе скончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, у 1992–м – Кіеўскі інстытут паліталогіі і сацыяльнага кіравання. Працаваў на розных пасадах у раённых газетах Мінскай і Брэсцкай абласцей, у рэдакцыі брэсцкай абласной газеты"Заря". З 2006 года – адказны сакратар

брэсцкай абласной газеты“Народная трыбуна”. Член Беларускага саюза журналістаў і Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар дэтэктыўнага рамана“Яхта смерці”, аповесцей і апавяданняў, якія публікаваліся ў абласным і рэспубліканскім перыядычным друку.

БЯЛАСІН ЯЎГЕН ( 9.06.1954, в. Грынявічы Свіслацкага р–на). Пайшоў па слядах бацькі, выпускніка Віленскай беларускай гімназіі, настаўніка нямецкай мовы. Вучыўся ў мінскім інстытуце замежных моў. Працаваў у Мсціславе, Карэлічах выкладчыкам нямецкай, англійскай моў ды фізкультуры. З 1979 г. жыве ў Брэсце. З 1980 па 2001 г. выкладў нямецкую і англійскую мовы ў Брэсцкім педінстытуце ( з 1995 г. — універсітэт ). Аўтар апублікаваных перакладаў Фрэйда, Шылера, Гейнэ, Канта. З сучасных аўтараў перакладаў Ф. Дзюрэнмата, Еву Штрытматэр, В. Борхерта, П. Хандкэ.

ВАБІШЧЭВІЧ ВІКТАР ( 9.07.1960, в. Рубель Столінскага р–на). Паэт. Аўтар зборнікаў паэзіі “Чорны боль”, “Кахаю і люблю”. Сябра СБП. Жыве і працуе настаўнікам у Давыд–Гарадку.

ВАКУЛА ВЕРА (1953, в.Тонеж, Тураўскі раён). У 1979 годзе закончыла Малькавіцкую сярэднюю школу, што ў Ганцавіцкім раёне Брэсцкай вобласці, і паступіла на тэхнічнае аддяленне бібліятэчнага факультэта Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута ім. А.М. Горкага. З 1974 года жыве ў Брэсце. Працуе вядучым бібліёграфам ў тэхнічным універсітэце. Вершы піша на беларускай і рускай мовах. Друкавалася ў рэспубліканскім часопісе “Бібліятэчны свет”, газеце “Народная трыбуна”, ва ўніверсітэтскай газеце “Наша газета” і штогадовых зборніках вершаў “И физики, и лирики…”.

ВАЛАСЮК ЛЯВОН (13.12. 1955, в. Песцянькі Кобрынскага р–на). Працаваў слесарам на заводзе, служыў у Савецкай

Арміі ў Будапешце (Венгрыя, ПГВ). У 1981 годзе скончыў архітэктурны факультэт Брэсцкага інжынерна–будаўнічага інстытута (цяпер БрДТУ). Мастак–дызайнер.Член ГА "Беларускі саюз мастакоў".

Друкаваўся ў часопісах "Полымя", "Маладосць", "Вожык"; у калектыўных зборніках "Дзень паэзіі–2005", "Ягамосць"(вершы–прысвячэнні Анатолю Сысу. 2009); у тыднёвіку "Літаратура і мастацтва". Аўтар паэтычных зборнікаў "Блики дня","Краски души","Под знаком Стрельца", "Леаніды", "Чырвоная вежа", "Познія сны", "Знакі на валуне"; кніжкі прозы "Сцежкі да сядзібы" (абразкі маленства).

Лаўрэат Берасцейскай мядовай літаратурнай прэміі за 2008 год ( за кнігу прозы "Сцежкі да сядзібы" (абразкі маленства).

Першы намеснік старшыні Берасцейскай абласной філіі СБП. З 1963 года жыве ў Берасці.

ВАРОНІК СВЯТЛАНА (12.06.1969, в. Кастровічы Слонімскага р–на Гродзенскай вобласці). Паэтка. Актыўна друкуецца ў абласной і рэспубліканскай перыёдыцы. Жыве ў Брэсце, працуе на філфаку БрДУ імя А.С. Пушкіна ў Адукацыйна–асветным цэнтры імя Ул.А. Калесніка.

ГАРАЙ АНАТОЛЬ (18.08.1936 г., г. Гомель). Паэт, эсэіст. Скончыў філфак Брэсцкага педінстытута. Настаўнічаў, працаваў карэспандэнтам абласной газеты"Заря", намеснікам старшыні Брэсцкай студыі тэлебачання. Вершы друкаваліся ў абласной і рэспубліканскай перыёдыцы. Аўтар кнігі вершаў"Уходя в будущее...". Жыве ў Брэсце.

ГЛАЗАЎ УЛАДЗІМІР (22.04.1974, г. Брэст). У 1991 скончыў школу і паступіў у Брэсцкі дзяржпедінстытут на філалагічны факультэт, які праз год кінуў, усвядоміўшы, што "паэзія і філалогія несумяшчальныя". Перыядычна публікуецца з 1992 г. разам з С.Прылуцкім і Д.Гронскім з'яўляецца заснавальнікам літаратурнага інтэрнетчасопіса "ЛИТРАЖ". Жыве ў Брэсце.

ГІЗУН АЛЕСЬ (1983, Баранавічы). Скончыў беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ. Творы друкаваліся ў факультэцкім літаратурным альманаху“Скрыпторый”, а таксама ў часопісе“Дзеяслоў”. Жыве ў Баранавічах.

ГОРЫК НІНА (7.9.1957, с. Забужжа Любомльскага р–на на Валыні, Украіна). Скончыла філалагічны факультэт Луцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Лесі Ўкраінкі. Заслужаны настаўнік Украіны. З 2006 года – Старшыня Валынскай арганізацыі Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Украіны. Аўтар паэтычных зборнікаў “Волинь моя, воле… ”,“Територія слова”,“Повернення Мавки”, шматлікіх кніжак для дзяцей. Лаўрэат літаратурнай прэміі “Благовіст”. Жыве ў Луцку (Украіна).

ГРЫГАРОВІЧ ЯНІНА (в. Відамля Камянецкага раёна). Скончыла Мінскі кааператыўны тэхнікум Белкаапсаюза (1959). Працавала ў Будтрэсце №8 г.Брэста з 1960 па 1990 гг. галоўным бухгалтарам. Аўтар паэтычных зборнікаў “Глазами доброты” і “Желаю счастья!..”.

ГРЫШКЕВІЧ СЯРГЕЙ (5.02. 1980, г. Брэст). З адзнакай скончыў філалагічны факультэт БрДУ імя А.С.Пушкіна. Уласны карэспандэнт “Настаўніцкай газеты” па Брэсцкай вобласці. У друку выступае як літаратурны крытык.

ДАНІЛЮК УЛАДЗІМІР (19.05.1948, в. Чарняны Маларыцкага р–на). Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў у родным калгасе. Друкаваўся ў газеце “Піянер Беларусі”, раённай газеце “Сельскае жыццё” ( зараз “Голас часу” ), газеце “Заря”, часопісе “Вожык”. У 1966 годзе Маларыцкая раённая бібліятэка саматужным спосабам выдала яго паэтычную кнігу “Сярод людзей”, якая адкрыла серыю “Маларыта паэтычная”.

ДЗЕМІДОВІЧ ТАЦЦЯНА (1979, г. Брэст). Працавала ўласным карэспандэнтам інфармацыйнага агенцтва “Інтэрфакс”, карэспандэнтам “Брэсцкай газеты”. Друкавалася ў часопісах “Першацвет”, “Заходняя Дзвіна”, “Маладосць”, “Гаспадыня”, “Вожык”, альманахах “Свая Стыхія”, “Гоман”, “Остров Андерс” ( Галандыя), рэспубліканскіх і гарадскіх газетах, беларускіх, украінскіх і рускіх выданнях для дзяцей. У 2009 г. — прызёр рэспубліканскага літаратурнага конкурсу “Слова.doc”, удзельніца Круглага стала маладых літаратараў Беларусі з удзелам расійскіх пісьменнікаў у Сілічах.

ДРЫК НІНА (в. Балоты Кобрынскага р–на). Працуе наменснікам загадчыцы вучэбна–метадычнага кабінета Маскоўскага раёна г. Брэста, настаўніцай роднай мовы і літаратуры музычнай гімназіі №4. Друкавалася ў газетах “Заря”, “Чырвоная змена”, “Народная трыбуна”, “Кобрынскі веснік”, “Настаўніцкая газета”, у часопісах “Маладосць”, “Першацвет”, “Гоман”.

ЖМІНЬКО КАСТУСЬ (17.02.1941, в. Пугачова – з 1979г. умежах Брэста). Скончыў СШ№4 абласнога цэнтра. Працаваў электрамантажнікам, служыў на ваенна–марскім флоце электрыкам–падводнікам. Пасля дэмабілізацыі – мастак гарадскіх кінатэатраў, мытнік, адначасова студэнт філфака Брэсцкага педінстытута. У 1967 годзе накіраваны на працу ў праваахоўныя органы. У званні палкоўніка з пасады начальніка аддзела абласнога Упраўлення ўнутраных спраў у лістападзе 1994 года выйшаў на пенсію. Мае дзяржаўныя ўзнагароды, яго імя занесена ў “Кнігу Гонару” МУС БССР. Аўтар паэтычных зборнікаў “Між вамі”, “Наканаваны неспакой”, кнігі афарыстычных выслоўяў “Кастусь казаў...”. Паасобныя творы перакладзены на польскую, рускую і ўкраінскую мовы. Апошнім часам спрабуе свае сілы ў напісанні празаічных твораў малога жанру, а таксама ў перакладах з польскай мовы. Сябра СБП. Жыве ў Брэсце.

ЖУКОВІЧ ВАСІЛЬ ( 21.09.1939, хут. Забалацце Камянецкага р–на). Паэт, перакладчык. Пасля школы працаваў у Берасці ў будаўнічым трэсце №8. Скончыў Брэсцкі педінстытут. Працаваў у выдавецтвах "Мастацкая літаратура" і "Юнацтва", у Рэспубліканскім цэнтры эстэтычнага выхавання дзяцей, у часопісе "Полымя". Выдаў каля трыццаці кніжак паэзіі, прозы, перакладаў, песняў для дарослых і для школьнікаў. Сябар СБП. Жыве ў Мінску.

ЖЫЛКО ВАДЗІМ (1967, г. Лунінец Брэсцкай вобласці). Скончыў гістарычны факультэт БДУ. Працаваў у Лунінецкім раённым музеі, цяпер — журналіст. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў (2007). Аўтар зборнікаў паэзіі і прозы "Ассорти" (1995), "Оборванная нить" (2006), "Права на пошук" (2002), брашуры "Размова з прысутнымі. Уладзіслаў Нядзведскі: старонкі жыцця і творчасці" (2001). Сааўтар кніг і брашур краязнаўчага накірунку "Памяць. Лунінецкі раён" (1995), "Лунинетчина — край наш полесский" (2004), "Родная моя Лунинетчина" (2005), "Локомотивное депо Лунинец: 120 лет" (2005), школьнага спецкурсу "Лунінеччыназнаўства". Укладальнік серыі альманахаў "Лунінецкі сшытак", анталогіі вершаў лунінецкіх паэтаў "Азбука поэзии" (1998).

ЗАСІМ МІКОЛА (19.11.1908, в. Шані Пружанскага р–на). Паэт. Працаваў па найму на Пружанскім лесапільгым заводзе. Як падпольшчык–камсамолец, затым чалец КПЗБ, неаднаразова арыштоўваўся, сядзеў у Пружанскай турме. У час Другой сусветнай вайны партызаніў, быў інструктарам Брэсцкага абласнога антыфашысцкага камітэту. Працаваў загадчыкам аддзела Пружанскага райвыканкама, у абласной газеце "Заря", раённай газеце "Заря над Бугом". Кіраваў абласным літаб'яднаннем. Сябра СП СССР з 1945 года. Аўтар зборнікаў паэзіі "Ад шчырага сэрца", "Вершы", "Выбранае", "А за намі Белавежа". Памёр 19.07.1957 года. Пахаваны на Трышынскіх могілках у Берасці.

ЗУБОВІЧ ВІКТАР (17.08.1955, г. Брэст). Скончыў філфак Брэсцкага педінстытута. Вершы друкаваліся ў абласным і рэспубліканскім друку. Аўтар зборніка вершаў. Жыве і працуе ў Брэсце.

ІЛЬЮЧЫК МІКОЛА (1966, в. Багданаўка Лунінецкага раёна). Закончыў Горацкую сельгасакадэмію. Працуе начальнікам пажарна–выратавальнага паста. Аўтар зборнікаў вершаў “Дзе жыве душа” (Лунінец, 2004), “Шматкроп’е кропель” (духоўная лірыка, Мінск, 2006), зборніка прозы “Роспач і надзея” (Лунінец, 2007). Яго творы друкаваліся ў перыядычных выданнях, у калектыўных зборніках “Прамень надзеі” (Портленд, ЗША, 2005), “Ход времени” (Полоцк, 2010) і інш. У 2004 годзе выдаў песенны альбом “Мелодыі душы”, у 2008–м — “Ад зямлі да неба”. Сябар СБП.

КАВАЛЬЧУК АЛЕСЬ (7.11.1939, в. Пескі Брэсцкага р–на). Закончыў філалагічны факультэт Брэсцкага педагагічнага інстытута, Вышэйшую школу ваенных карэспандэнтаў Паўночнага флоту, на якім служыў тэрміновую службу. Працаваў у Брэсцкай раённай газеце “Заря над Бугом”, настаўнічаў. 31 год жыцця аддаў тэлевізійнай журналістыцы на пасадзе рэдактара Брэсцкай студыі тэлебачання, а потым – уласнага карэспандэнта Рэспубліканскага тэлебачання. За цыкл перадач пра моладзь Берасцейшчыны і фільмы пра касманаўта Пятра Клімука ўзнагароджаны прэміяй камсамола вобласці. Пісаць вершы, эпіграмы, гумарэскі, нарысы пачаў са школьнае парты. Друкаваўся ў абласных і рэспубліканскіх перыядычных выданнях. За 70 гадоў шчасна разжыўся дзецьмі і ўнукамі. Апошнім часам цешыць душу працай на бацькоўскай зямельцы і за пісьмовым сталом.

КАЛЕСНІК УЛАДЗІМІР (17.09.1922, в. Сіняўская Слабада Карэліцкага раёна Гродненскай вобласці). Удзельнік ВАВ. Скончыў філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага

інстытута імя М. Горкага ( 1949 ), аспірантуру пры гэтым інстытуце ( 1952 ). З 1952 – загадчык кафедры беларускай літаратуры Бабруйскага настаўніцкага інстытута, з 1956 – загадчык кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута, узначальваў Брэсцкае абласное літаратурнае аб'яднанне ( 1956 – 1970 ), быў сакратаром аддзялення СП БССР ( 1981 – 1983 ). Член СП СССР з 1960 года. У друку з літаратурна–крытычнымі, літаратуразнаўчымі і дакументальнымі творамі выступаў з 1953 года. Выдаў кнігі "Паэзія змагання: Максім Танк і заходнебеларуская літаратура" (1959), "Час і песні" (1962), "Зорны спеў" (1975), "Ветразі Адысея: Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі" (1977), "Максім Танк: Нарыс жыцця і творчасці" (1981), "Лёсам пазнанае: Выбраныя літаратурныя партрэты" (1982), "Тварэнне легенды" (1987), "Янка Брыль: Нарыс жыцця і творчасці" (1990). Адзін з аўтараў "Гісторыі беларускай літаратуры" (1964),"Истории советской многонациональной литературы" (1971),"Истории белорусской советской литературы (1977). Напісаў дакументальныя творы "Аповесць пра Таўлая" ( часопіс "Полымя", 1964 – 1965 ), "Пасланец Праметэя" (1984), сумесна з А. Адамовічам і Я. Брылём — кнігу "Я з вогненнай вёскі..." (1975). Склаў зборнік паэзіі Заходняй Беларусі "Сцягі і паходні" (1965) і "Ростані волі" (1990). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа ( 1980 ) за ўдзел у напісанні двухтомнай "Истории белорусской советской литературы". Жыў у Берасці. Памёр у 1994 годзе. У 2005 годзе выйшла аўтабіяграфічная кніга У. Калесніка "Доўг памяці".

КАПАЦКЕВІЧ АЛЯКСЕЙ (7.04.1942 – 1.07.2010, в. Сычы Брэсцкага раёна). Пісаць пачаў у юнацтве. Першы верш "Мая зямля" быў надрукаваны на пачатку 80–х гадоў у "раёнцы" "Заря над Бугом". Творы аўтара часта змяшчаліся ў рэспубліканскім друку, гучалі ў эфіры абласнога і рэспубліканскага радыё. У 17–гадовым узросце Аляксей пас-

ля цяжкай траўмы страціў зрок. Кніга “Водар сонца” стала ўвасабленнем яго галоўнай мары ў жыцці. Доўгія гады жыў у Вельямовічах.

КАСКО АЛЕСЬ ( 10.12.1951, в. Чудзін Ганцавіцкага р–на ). Скончыў філфак Брэсцкага педінстытута. Паэт, перакладчык, эсэіст. Выдаў 5 кніг паэзіі: “Скразная лінія”, “Набліжэнне”, “Час прысутнасці”, “45”, “Трохкроп’е”; кнігі для дзяцей “Чыстага ўсё нячыстае баіцца”, “Два сонцы”. Рыхтуе анталогію перакладаў з македонскай паэзіі. Сябар СБП. Лаўрэат прэмій – літаратурнай імя А. Куляшова, міжнароднай імя Ганны Краснапёркі, Мядовай, “Берасцейская зорка”. Жыве ў Жабінцы.

КОРНЕЎ АЛЕСЬ (30.11.1935, г. Магілёў). З 1940 г. жыў у Клецкім, а з 1944 г. у Баранавіцкім раёне. Пасля заканчэння Мінскага дзяржаўнага медінстытута працаваў урачом у г. Мазыры і ў г. Баранавічы, дзе і зараз жыве. ыдаў некалькі паэтычных зборнікаў. Сябар СБП.

КУКСА ВАЛЯНЦІНА (3.01.1951, в. Гнеўчыцы Іванаўскага р–на). Скончыла Брэсцкі педінстытут, працавала выхавацелькай у дзіцячым садку. Празаік. Аўтар кніг “Колеры вясёлкі”, “Створым прастору любові”. Адзначана Мядовай прэміяй, “Берасцейская зорка”. Сябар СБП. Жыве ў Берасці.

ЛАГВІНОВІЧ ІВАН (16. 01.1940, хутар Запрапасць Ганцавічскага раёна). Семнаццацігадовым юнаком паехаў у Данбас. Скончыў прамысловае вучылішча, працаваў на вугальных шахтах. У 1990 годзе выйшаў на пенсію, а ў наступным вярнуўся на радзіму. Жыве ў Баранавічах. Выдаў чатыры паэтычныя зборнікі. Сябар СБП.

ЛЕБЕДЗЕЎ УЛАДЗІМІР (1938, в. Зарой Клімавіцкага р–на). Працаваў у Боркаўскай СШ Бярозаўскага раёна, у Брэсцкім

дзяржаўным універсітэце імя А.С. Пушкіна. Дацэнт, кандыдат філалагічных навук. Выдаў зборнікі вершаў “Восеньская ралля” (2004), “Верасовы разлог” (2005), “Нязводныя прысады” (2008). Жыве ў Брэсце. Сябар СБП.

МЕЛЬНІЧУК ІВАН (15.09.1939, в. Носава каля Белай Падляскі, Польшча). Паэт і празаік, піша па–руску. Выдаў кнігі для дзяцей “Кто разбудил солнце”,“Сами диво сотворим”,“Добрый лучик”,“Как муравьишка Ишка себя наказал”,“Сказки – добрые подсказки”. Сябра СБП. Старшыня Брэсцкай абласной філіі СБП. Жыве ў Брэсце.

МІШЧАНЧУК МІКОЛА (1939, прыіск Майск Мазанаўскага раёна Амурскай вобласці). Малая радзіма бацькоў – былы Старадарожскі раён на Міншчыне ( цяпер Асіповіцкі р–н Магілёўскай вобл. ), вёскі Жыцін, Крамок, Заняцеч. Літаратуразнавец, літаратурны крытык, паэт, перакладчык. Член СБП з 1995 года. Аўтар і сааўтар шматлікіх манаграфій, кніг, артыкулаў, падручнікаў для вучняў сярэдняй школы, студэнтаў–філолагаў, настаўнікаў беларускай і рускай літаратуры. Скончыў МДПІ імя М. Горкага ( цяпер БДПУ імя М. Танка ) у 1962 годзе, тамсама – аспірантуру. Доктар філалагічных навук, прафесар, член–карэспандэнт БелАА. З 1996 года працуе ў БрДУ імя А.С. Пушкіна.

Выдаў зборнік паэзіі “Вернасць” ( 1979 ), “Трывожуся за белы свет” ( 1984 ), “Струна надзеі” ( 2009 ). Сябар СБП.

МІШЧУК ГЕНАДЗЬ (25.01 1970, в. Вотчына Маларыцкага раёна). У 1987 годзе закончыў Ляхавецкую сярэднюю школу. Тэрміновую службу праходзіў у войсках Ваенна–Паветраных Сіл. Пасля звальнення ў запас, у маі 1990 года, паступіў на курсы мастакоў–афарміцеляў. Затым працаваў у мясцовым калгасе “Новы шлях”. З 1995 года нясе службу на пажарна–аварыйным пасту в. Макраны.

Творы друкаваліся на старонках газет “Звязда”, “Голас часу”,

“Народная трыбуна”.

ОСІПАВА ВАЛЯНЦІНА (22.10 1959, в. Абакумы Лоеўскага р–на). Паэтка, піша па–руску. Аўтар зборнікаў паэзіі “Навстречу разлукам”, “Разноголосица”,“Блики”. Сябар СБП. Жыве і працуе ў Бярозе.

ПАПЕКА МІКОЛА (28.12.1961, в. Турная Івацэвіцкага р–на). Паэт, перакладчык, краязнавец. Друкаваўся ў рэспубліканскай і рэгіянальнай перыёдыцы, выдаў кнігу паэзіі ”Чарнавікі”. Лаўрэат прэміі “Гліняны Вялес” ( 2000 ). Сябар СБП. Жыве ў в. Лінава на Пружаншчыне, пчаляр.

ПАПОВА НІНА (1939, в. Лісочыцы Камянецкага раёна).
У 1956 годзе паехала на Поўнач у шахцёрскі горад Інту (Комі АССР), дзе працавала на шахце і працягвала вучыцца.
У 1972 годзе завочна скончыла Данецкі горны тэхнікум па спецыяльнасці “планаванне народнай гаспадаркі”. У тым жа годзе вярнулася на радзіму і працавала ў Брэсце.
Вершы Ніны Рыгораўны друкаваліся ў газетах “Заря”, “Народная трыбуна”, “Брэсцкая газета”, “Навіны Камянеччыны”.

ПАТАЛКОЎ ЮРЫЙ (11.12. 1941, г. Масква). Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Аўтар манаграфій, вучэбных дапаможнікаў. Жыве ў Брэсце.

ПАРЧУК НАДЗЕЯ (27.09. 1951, в Ладараж Пінскага р–на). Скончыла Пінскі ўлікова–крэдытны тэхнікум. Друкавацца пачала з 2001 года. Выдала чатыры паэтычныя
зборнікі.

ПАЦЯЮК МІКОЛА (Родам з Ляхавец, Маларытчына). Бацька не вярнуўся з вайны. Гадаваў таленавітага хлопца дзед – разумны, паважаны ў сяле чалавек. Мае за плячыма дзесяцігодку, музычнае вучылішча, педагагічны інстытут,

тры гады бадзяння па марах і акіянах тэрміновай службы і паўвеку слугавання школе, дзецям, роднаму краю, Беларусі.

ПЕСТКА ВОЙЦЕХ (1951). Польскі паэт, празаік, перакладчык. Скончыў факультэт матэматыкі Люблінскага ўніверсітэта. Вандраваў Польшчаю, шукаў свайго месца. Напрыканцы 70–х грунтоўна асеў у сяле. Рыхтуе да друку кніжку "Да пабачэння ў пекле" – падборку рэпартажаў пра долю жыхароў крэсаў – Украіны ды Беларусі. Аўтар шматлікіх публікацый у часопісах, неаднаразовы лаўрэат літаратурных прэмій.

ПРАКАПОВІЧ ВЕРА (в.Малыя Мурыны Камянецкага р–на). Друкавалася ў часопісах "Маладосць", "Гоман", "Гаспадыня", "Алеся". Аўтар кнігі прозы "Дорога домой" і зборніка паэзіі. Сябар СБП.

ПРАНЕВІЧ ГЕНАДЗЬ (03.10.1950 г., в. Жарабковічы Ляхавіцкага р–на Брэсцкай вобл). Кандыдат філалагічных навук, дацэнт Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С. Пушкіна. Закончыў дактарантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я.Купалы НАН РБ (2000). Стажыраваўся пры Інстытуце Польскай Філалогіі Ягелонскага універсітэта ў Кракаве (1999, 2002 гг.). Аўтар 200 навуковых публікацый па праблемах станаўлення і развіцця беларускай літаратуры, культуры і гісторыі Беларусі. Даследуе працэсы гісторыка–культурнага ўзаемадзеяння і развіцця рамантызму ў славянскіх літаратурах.

Выступае як літаратурны крытык, паэт і публіцыст. Аўтар кніг і брашур "Славянскі рамантызм эпохі нацыянальна–вызваленчых рухаў і вобраз беларускага нацыянальнага адраджэння ў паэзіі Янкі Купалы" (1993), "Зямля, прырода, людзі ў духоўнай культуры Беларусі" (1999), "Леў Сапега: Жыццё дзеля Айчыны" (2003), калектыўных кніг "Да дэмакратыі праз грамадзянскую супольнасць" (1999), "Радаводнае дрэва

Прыпяці” (2002), “Белавежская пушча ў духоўнай і культурнай спадчыне беларусаў” (2003 г.), “Пасланец Праметэя. Кніга пра Уладзіміра Калесніка” (2007 г.) і інш.  Вершы друкаваліся ў абласной перыёдыцы, штотыднёвіку “Літаратура і мастацтва”, “Народнай волі”, гадавіку “Скарыніч”, калектыўных зборніках “Дзядзінец. Паэзія Берасцейшчыны (1999 г.)”, “З прыродай зліўшыся душой...” (2001 г.), а таксама  ў перакладзе на рускую мову (калектыўны зборнік “Белой Вежи свет”, 2005).

ПШАНІЧНЫ МІКОЛА  ( 1954, м. Дубна, Ровеншчына, Украіна). З юных гадоў пачаў вандраваць па неабсяжным свеце. Няўрымслівы юнак, штоколерам у “спелае жніво”, наведаў шмат краін, аднак найбольш ён пакланяецца нашай Беларусі. Гісторык, краязнаўца, гумарыст і публіцыст, паэт і перакладчык, Мікола Пшанічны пераклаў больш за сотню беларусаў.

РЫБАК ДЗМІТРЫЙ (22.12.1985, г.Брэст). Скончыў юрыдычны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С. Пушкіна. Вучыўчя ў магістратуры. Друкаваўся ў часопісе “Нёман”, газеце “Брестский курьер”. Жыве і працуеў Брэсце.

СУХАРУКАЎ ВІКТАР (11.11. 1928, г. Мікалаеў, Украіна). У 1970 годзе скончыў Маскоўскі Ўсесаюзны інстытут кінематаграфіі. З 1965 года рэдактар Брэсцкай студыі тэлебачання. Празаік. Друкаваўся ва ўсесаюзнай, рэспубліканскай і абласной перыёдыцы. Памёр 7 верасня 1982 года.

СЦЕПУСЬ НАТАЛЛЯ  (1976, г. Брэст). У 1999 годзе скончыла БрДУ імя А.С. Пушкіна. Друкавалася ў газетах “Народная трыбуна”, “Заря над Бугом”, “Брестская газета”, “Заря”, “Брестский курьер”;  у часопісах “Вожык” і “Вясёлка”.

СЦЯЦКО ІЛОНА. Вершы пачала пісаць пад час вучобы ў школе ў Ваўкавыску. Друкавалася ў мясцовай газеце.  Пасля

пераехала ў Мінск, а потым у Баранавічы, дзе жыве і працуе. Друкавалася ў часопісах “Першацвет”, “Маладосць”, “Полымя”, “Вясёлка”, у газетах “Лім”, “Чырвоная змена”, “Пераходны узрост”. Першы паэтычны зборнік“Галінка язміну” быў змешчаны на старонках часопіса“Першацвет”. У 2006 годзе выйшла кніга вершаў “Нябесныя карункі”.

СЯНКЕВІЧ МІКОЛА (20.02. 1957, в. Асіпавічы Драгічынскага р–на). Празаік. Скончыў Брэсцкі педінстытут, працаваў настаўнікам пачатковых класаў у школах абласнога цэнтра. З 1995 года – асістэнт, старшы выкладчык БрДУ імя А.С. Пушкіна. Аўтар кніжак прозы “Усё як было”, “Хутар Паянтрый”, зборніка вершаў “Мае пракосы”. Сябар СБП. Лаўрэат прэміі “Берасцейская зорка”. Жыве ў Брэсце.

ТУРАЎ УЛАДЗІМІР (1960, г. Бяроза Брэсцкай вобласці). Скончыў Брэсцкі педагагічны інстытут імя А.С. Пушкіна і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Вершы друкаваліся ў абласной перыёдыцы і часопісе “Нёман”. Вядучы літаратурнай старонкі ў Брэсцкай абласной газеце “Заря”. Жыве ў Брэсце.

ТРАФІМЧЫК АНАТОЛЬ ( 14.02.1976, в. Вялікія Круговічы Ганцавіцкага р–на). У 1998 годзе скончыў Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт па спецыяльнасці “настаўнік беларускай мовы і літаратуры, рускай мовы і літаратуры”. Выдаў 3 паэтычныя зборнікі.

ТЭЛЫЧКА МЫКОЛА (Мікалай Рыгоравіч, 20.02.1923, хут. Олэксіўшчына на Чарнігаўшчыне). З красавіка 1943 года пачалася яго афіцэрская франтавая біяграфія. Вайну закончыў у дваццаць два гады ў званні капітана. У мірны час завочна скончыў Брэсцкі і Маскоўскі педінстытуты. Прафесіі філолаг і дэфектолаг. Шмат гадоў настаўнічаў. Паэт, піша па–руску і па–ўкраінску. Аўтар 11 паэтычных зборнікаў, у тым ліку “Добрый ливень”,“Дерево в бору”,“Вещий свет”,“Соль на

касках”,“Следы времени”,“Рубеж сорок первого”,“Стихи из полевой сумки”, і 3 украінскамоўных зборнікаў. Сябар СБП.

УСЦІЛОЎСКАЯ АЛЕНА (21.09. 1985, г. Ветка Гомельскай вобласці). У 1992 годзе разам з бацькамі пераехала ў горад Бярозу Брэсцкай вобласці. Пераможца рэспубліканскіх алімпіяд па беларускай мове ў 2002 і 2003 навучальных гадах. Скончыла славянскае аддзяленне (польская і беларуская мова і літаратура) філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (2008г.), магістратуру па спецыяльнасці літаратура народаў краін замежжа (польская літаратура) (2009г.). Працуе настаўніцай беларускай і рускай моў і літаратур, выкладчыкам платных курсаў па польскай мове. Упершыню вершы з’явіліся на старонках бярозаўскай раённай газеты “Маяк”. Друкавалася ў “Полымі”, “ЛіМе”, “Чырвонай змене”, “Бярозцы”, “Зары”. У 2002 годзе мінскі кампазітар Валянціна Бурмістрава напісала музыку да паэтычных тэкстаў “Вуліцы Мінска” і “Краіна маленства”. У 2007 годзе ў сааўтарстве з кампазітарам Аленай Говін (г. Бяроза) была напісана песня “Бярозаўскі вальс”. Жыве ў Бярозе.

ФЕДАРУК МІХАСЬ (1938 – 2010, пад Дывінам на Кобрыншчыне). Скончыў школу, Пінскае вучылішча механізацыі, атрымаў спецыяльнасць экскаватаршчыка. Распачаў працоўны шлях меліяратарам Палесся. З вучнёўскіх часоў вабілі няўрымслівага юнака аловак і папера. Пісаў вершы і зацемкі, нарысы, дасылаў у газеты і часопісы. Неўпрыкмет і сам стаў журналістам. У 1964 годзе паступіў у Брэсцкі педінстытут. “З лейкай і блакнотам” абышоў Берасцейшчыну, Міншчыну, працаваў у шматлікіх “раёнках”, на абласным радыё, друкаваўся ў “Маладосці”, “Вожыку”, “ЛіМе”, “Звяздзе”. Падрыхтаваў зборнік лірыкі.

ФІЛАТАЎ АЛЯКСЕЙ ( 13.05.1939, в.Бабінічы Віцебскага р–на). Празаік. Аўтар 8 кніг, у тым ліку “Ляхавецкая торба”,

“Чый бэз”, “Дарога”, “Жывая зямля”, “Адарваць ад сэрца”, “Асколкі болю”, “Страла жыцця”. Лаўрэат прэміі імя У.А. Калесніка Берасцейскай філіі СБП ( 2007 ). Сябар СБП. Жыве ў пас. Мухавец.

ХМАРУК ВІКТАР (27.05. 1965, Нясвіжскі раён на Міншчыне). З 1988г. жыве ў Брэсце. Закончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі і аспірантуру пры Брэсцкім дзяржаўным тэхнічным універсітэце. Аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў.

ЦЫПЛЮК СЯРГЕЙ (25.01.1937, в. Воўкаставец Камянецкага р–на). Пасля заканчэння школы служыў на марскім флоце. Закончыў МДУ імя Ламаносава. Выкладаў гісторыю і філасофію ў школах і Брэсцкім інжынерна–будаўнічым інстытуце. Быў будаўніком, прадпрымальнікам. Вялікі жыццёвы і працоўны шлях занатаваў у вобразах і дзеях у шматлікіх апавяданнях і аповесцях. Рэальна адлюстраваў жыццё не толькі беларусаў. Выдаў каля тузіна кніжак прозы. Друкаваўся ў рэспубліканскіх альманахах “Дыханнем адзіным” і “Акно”. Сябар СБП. Жыве ў Брэсце.

ЯКІМУК МАРЫЯ ( нарадзілася ў в. Ліпінкі Брэсцкага р–на). Скончыла Брэсцкі педагагічны інстытут, працавала настаўніцай пачатковых класаў у Брэсцкім раёне. Выдала 3 паэтычныя зборнікі. Жыве ў в. Кавярдзякі Брэсцкага раёна.

# ЗМЕСТ

## ПАМЯЦЬ

ЯШЧЭ НЕ ВЫПЛАКАНЫ СЛЁЗЫ

НАШЫ ЮБІЛЯРЫ



МЫ

## З НАМІ

НАШЫ ГОСЦІ



ПАД НЕБАМ АДЗІНЫМ

## ДЛЯ ДЗЕТАК–МАЛАЛЕТАК

КРЫТЫКА. КРАЯЗНАЎСТВА



УСМІХНЕМСЯ!



НАШЫ АЎТАРЫ

Жырандоля – 3: літаратурны альманах Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Перад вамі – трэці выпуск альманаха Брэсцкага абласнога аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў", прысвечаны трыццацігоддзю Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, 65–годдзю Вялікай Перамогі.

